ШТОМЕСЯЧНЫ НАВУКОВЫ І МЕТАДЫЧНЫ ЧАСОПІС

# Роднае слова

2011/8
(284)
жнівень

ЗАСНАВАЛЬНІК:
МІНІСТЭРСТВА
АДУКАЦЫІ
РЭСПУБЛІКІ
БЕЛАРУСЬ

УСТАНОВА
«РЭДАКЦЫЯ ЧАСОПІСА
“РОДНАЕ СЛОВА”»

Часопіс выходзіць
з 1988 года
(у 1988 – 1991,
№№ 1 – 48,
выдаваўся пад назвай
**“Беларуская мова
і літаратура ў школе”**)

**Рэдакцыйная калегія**

доктар філалагічных навук А. Бельскі (намеснік)
доктар філалагічных навук М. Прыгодзіч (намеснік)
доктар педагагічных навук М. Яленскі (намеснік)
доктар мастацтвазнаўства Т. Габрусь
доктар філалагічных навук У. Гніламёдаў
доктар мастацтвазнаўства В. Дадзіёмава
доктар філалагічных навук В. Іўчанкаў
доктар гістарычных навук,
доктар архітэктуры А. Лакотка
доктар філалагічных навук А. Ліс
доктар філалагічных навук А. Лукашанец
доктар філалагічных навук В. Максімовіч
доктар мастацтвазнаўства У. Мартынаў
доктар філалагічных навук І. Казакова
доктар філалагічных навук А. Ненадавец
доктар філалагічных навук В. Новак
доктар педагагічных навук І. Паўлоўскі
доктар мастацтвазнаўства В. Пракапцова
доктар філалагічных навук В. Рагойша
доктар філалагічных навук І. Роўда
доктар філалагічных навук І. Саверчанка
доктар філалагічных навук В. Старычонак
кандыдат філалагічных навук М. Трус
доктар філалагічных навук М. Тычына
доктар філалагічных навук І. Чарота
доктар філалагічных навук Т. Шамякіна

**Навуковыя кансультанты**

Г. Адамовіч, Р. Аладава, М. Аляхновіч, Г. Арцямёнак, А. Багданава, З. Бадзевіч, А. Белая, Д. Дзятко, Т. Казакова, В. Карамазаў, У. Каяла, В. Лемцюгова, І. Лепешаў, Е. Лявонава, В. Ляшук, В. Ляшчынская, А. Макарэвіч, У. Мархель, З. Мельнікава, П. Міхайлаў, М. Мішчанчук, М. Мушынскі, М. Новік, В. Рагаўцоў, В. Русілка, У. Рынкевіч, У. Сенькавец, А. Солахаў, А. Станкевіч, П. Сцяцко, Т. Тамашэвіч, Н. Усава, І. Штэйнер

**Рэдакцыйная рада**

Р. Бабашка, М. Бубешка, В. Буланда, І. Булаўкіна, В. Давідовіч, М. Жуковіч, Р. Ільіна, З. Камароўская, В. Кажура, Л. Лазарчык, А. Марціновіч, Г. Марчук, М. Пазнякоў, А. Панфіленка, Т. Прадзед, А. Тарайковіч, І. Таяноўская

Галоўны рэдактар

**Зоя
ПАДЛІПСКАЯ**

Над нумарам працавалі
рэдактары:

**Вольга Крукоўская** (*Мовы рысы непаўторныя:* Крытыка і бібліяграфія; *Методыка і вопыт:* Прапануем план-канспект, З вопыту работы, У дапамогу настаўніку, Літаратурны дыктант, Вопыты літаратурнай творчасці, Актуальная тэма, Рыхтуемся да алімпіяды; *Калі закончыўся ўрок:* Беларусь – мая Радзіма, З вопыту работы, Да Дня беларускага пісьменства),

**Крысціна Пучынская** (*Літаратура і час:* Віншуем з юбілеем!, Драматургія і час; *Нацыянальная і сусветная культура:* З архіваў часу; Каляндар памятных датаў і юбілейных дзён; Крыжаванка),

**Ларыса Сагановіч** (*Мовы рысы непаўторныя:* Віншуем!, Мова мастацкіх твораў, Актуальная тэма, Унармаванне тэрміналогіі, Праблемы перакладу),

**Мікола Трус** (*Літаратура і час:* Віншуем!, Новае прачытанне, Літаратура ў віртуальнай прасторы, Літаратурнае пабрацімства славян),

**Наталля Шапран** (*Нацыянальная і сусветная культура:* Вяртанне да вытокаў, З гісторыі беларускай школы, Новыя выданні),

намеснік галоўнага рэдактара **Марыя Кныш,**
адказны сакратар **Аляксандр Кананович,**
дзяжурны рэдактар **Вольга Крукоўская,**
літаратурныя рэдактары **Ніна Ваніцкая, Вера Кулінок,**
вядучы рэдактар літаратурны **Алена Салахітдзінава,**
тэхнічны рэдактар **Канстанцін Лісецкі,**
галоўны бухгалтар **Валянціна Ракіцкая,**
загадчык прыёмнай **Вольга Барздова.**

WWW.RS.UNIBEL.BY

# Змест




Часопіс уключаны ў Пералік навуковых выданняў ВАК Рэспублікі Беларусь для друкавання вынікаў дысертацыйных даследаванняў па філалагічных навуках, мастацтвазнаўстве, культуралогіі, педагагічных навуках (тэорыя і методыка навучання беларускай мове і літаратуры).



У адпаведнасці з Законам аб друку аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць прыведзеных у артыкуле фактаў і звестак.
Рэдакцыя пакідае за сабой права друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.
Пры перадруку спасылка на "Роднае слова" абавязковая.
Патрабаванні да афармлення матэрыялаў і ўмовы для прыняцця матэрыялаў для аспірантаў гл. на сайце часопіса www.rs.unibel.by.

# ЛІТАРАТУРА І ЧАС

*Віншуем з юбілеем!*



Генадзь Мікалаевіч Бураўкін [нар. 28 жніўня 1936, в. Шуляціна (цяпер в. Тродавічы) Расонскага раёна] – паэт, дзяржаўны дзеяч. Нарадзіўся ў сям'і служачага. Другую сусветную вайну перажыў на акупаванай тэрыторыі. Скончыў аддзяленне журналістыкі філфака БДУ (1959). Працаваў у часопісе "Камуніст Беларусі", у газеце "Літаратура і мастацтва", быў карэспандэнтам "Правды" па Беларусі, галоўным рэдактарам часопіса "Маладосць" (1972 – 1978). З 1978-га Г. Бураўкін – старшыня Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні. У 1990 – 1994 гг. быў пастаянным прадстаўніком Беларусі пры ААН. Мае ранг пастаяннага і паўнамоцнага пасла. Пасля вяртання, у 1994 – 1995-м, быў намеснікам міністра культуры і друку. У 1995 – 2001 гг. працаваў у часопісе "Вожык".

75

Першыя вершы Генадзь Бураўкін надрукаваў у полацкай абласной газеце ў 1952 г. Выйшлі кнігі "Майская просінь" (1960), "З любоўю і нянавісцю зямною" (1963), "Дыханне" (1966), "Жніво" (1971), "Выток" (1974), "Варта вернасці" (1978), "Гняздо для птушкі радасці" (1986), "Узмах крыла" (1995), "Паміж зоркай і свечкай" (2000), "Выбранае" (1998). Вершы канца XX ст. склалі зборнік паэта "Жураўліная пара" (2004). Надзвычай багатая і разнастайная інтымная лірыка паэта, яна ўключалася ва ўсе зборнікі, але асобна сабраная ў кнігах "Пяшчота" (1985) і "Чытаю тайнапіс вачэй" (2001). На вершы Г. Бураўкіна напісана шмат папулярных песень ("Белы снег", "Зачараваная", "Матылі", "Малітва" і інш.), яны ўвайшлі ў зборнік "Табе, Беларусь" (1984). Ён аўтар кніг паэзіі для дзяцей "Тры казкі пра Зая" (1974) і "Сінія арэлі" (1987), дакументальных аповесцей "Тры старонкі з легенды" (1971). Выступае ў друку з нарысамі, публіцыстычнымі і крытычнымі артыкуламі. Аўтар сцэнарыяў некалькіх дакументальных фільмаў, двухсерыйнага мастацкага фільма "Полымя" (1974, сумесна з У. Халіпам і Ф. Коневым). Перакладаў на беларускую мову вершы рускіх, украінскіх, малдаўскіх, балгарскіх паэтаў.

Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1972), Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы за кнігу "Варта вернасці" (1980).

## *"НЕ ЗА СЯБЕ ДУША МАЯ БАЛІЦЬ…"*

### ШТРЫХІ ДА ПАРТРЭТА ГЕНАДЗЯ БУРАЎКІНА

Вынесены ў загаловак радок з аднайменнага верша, пэўна, у найбольшай ступені выяўляе сённяшні настрой паэта. У зборніках "Паміж зоркай і свечкай" (2000), "Жураўліная пара" (2004), "Лісты да запатрабавання" (2010) Генадзя Бураўкіна дамінуюць матывы падвядзення вынікаў пражытага, развітання з няспраўджанымі спадзяваннямі і марамі маладосці, з сябрамі і настаўнікамі, што адыходзяць назаўжды. Карціны восені ў прыродзе, настроі асенняй пары ў чалавечай душы вызначаюць танальнасць многіх вершаў: *"Курлычуць журавы над голай нівай. / Да сонца павуцінка паплыла. / І сам я – / Частка восені журлівай, / Хмурынка ля буслінага крыла"* [6, с. 55]. Душа паэта адгукаецца на *"забытую песню"* баяна ў вёсцы, на *"самотны пад ветрам"* уздых рабіны, на *"вечнасці пах"* расквечанай мядовай белай грэчкі, а таксама на падзеі ў грамадскім жыцці роднай краіны і ўсяго свету, шукаючы і тут вартага, вечнага, разумнага, сумленнага, справядлівага… Змест апошніх па часе паэтычных твораў вядомага майстра слова,

аўтара многіх зборнікаў вершаў і паэм, публіцыстычных артыкулаў раскрывае змешчаная ў "Жураўлінай пары" анатацыя: "Вершы… народжаны і напоўнены элегічным настроем восені. У іх – і памяць пра летняе буйства фарбаў і пачуццяў, і спакойная разважлівасць клопатнага жніва, і прадчуванне блізкага ўжо зазімку. Паэт засяроджана ўзіраецца ў трывожныя раздарожжы жыццёвых шляхоў, прыдзірліва разглядае свой час і сваё месца ў ім, пакутліва думае над заўтрашнім днём дзяцей і ўнукаў".

Вызначальныя рысы паэзіі Г. Бураўкіна – "бескампраміснасць, ярка выяўленае непрыняцце маральнай пачварнасці, этычнай і эстэтычнай недасканаласці, высокая патрабавальнасць да чалавека (дададзім, і да самога сябе. – ***Т. Г.***) без скідак на абставіны, адсутнасць усялякай паблажлівасці ў гэтым плане" [9, с. 710] – не змяніліся і на апошнім этапе творчасці. Рэзка і бескампрамісна паэт асуджае падман і хлусню на ўсіх узроўнях, прыстасавальніцтва, беспрынцыпнасць, нацыянальны нігілізм, гістарычнае бяспамяцце.

Разам з тым у творах 1990 – 2000-х гг. выразна заявілі пра сябе філасофская засяроджанасць і спакойная сузіральнасць; здаецца, *"вечнай трывозе"*, *"вечнаму болю"*, *"вечнай пакуце"* адшукалася процівага: *"вечны Млечны Шлях у сіняве"*, *"вечная калоссяў гамана"*, *"вечнае каханне"* (верш "Вечны клопат…"). Ва ўсёй сваёй прастаце і адначасова загадкавасці адкрылася паэту *"спрадвечная тайна"*: сувязь паміж зоркай і свечкай, што, сімвалізуючы пачатак і канец, суправаджаюць чалавека на ўсіх яго зямных пуцявінах: *"У начы безгалосай / Шлях падкажуць і мне / Зорка ў цёмных нябёсах, / Свечка ў дальнім акне"* [7, с. 5]. Чалавечае жыццё ўяўляецца аўтару запаленай ад зоркі *"ніткай святла"*, якое з часам пераваўсабляецца ў іншае, зямное – свечку, што *"кожнай кропляй гарачай / Лье святло…"* (верш "Паміж зоркай і свечкай"). Ён з мудрым спакоем прымае наканаваную ўсім і кожнаму самотную пару, *"калі зорка згасае, / А свечка гарыць"* [7, с. 5]. Новая эстэтычная якасць паэзіі Г. Бураўкіна народжана не стомленасцю ад пройдзеных шляхоў, не "гузакамі", бо *"на жыццёвых бальшаках падбіўся"*, і не разгубленасцю перад *"сусветным вар'яцтвам"*, аб чым штодзённа нагадваюць тэленавіны. Яна як канстатацыя выразна вызначаных маральных арыенціраў, здабытых і выверaных "простых" духоўных ісцін, сярод якіх не апошняя – *"быць у матчынай хаце, / Паміж родных людзей"* [7, с. 51].

Любоў да роднай зямлі пранізвае ўсю творчасць паэта, ад самых ранніх вершаў, што склалі першы зборнік "Майская просінь" (1960), і да апошніх, напісаных ужо ў новым стагоддзі. З часам гэтае пачуццё станавілася больш змястоўным і складаным. Раней лірычнага героя перапаўняў гонар за Беларусь – Беларусь-змагарку, Беларусь-працаўніцу, за яе шчаслівае сёння і ясную будучыню. *"У нябыт / і нядоля і ворагі рынулі… / І цяпер / прыгажэй, даражэй удвая, / Ты стаіш, Беларусь, / завадская, зубрыная… / Я – пясчынка твая. / Я – крывінка твая"* [2, с. 27]. Пражытыя разам з краінай дзесяцігоддзі, асабліва напоўнены паваротнымі ў жыцці народа падзеямі канец XX ст. прымусілі па-іншаму паглядзець на гістарычны лёс Радзімы, убачыць у ім не толькі набыткі. Як і многія іншыя творцы яго пакалення, Г. Бураўкін вымушаны канстатаваць, што да гэтага часу не спраўдзіліся спадзяванні нацыянальных прарокаў Янкі Купалы і Максіма Багдановіча, што Беларусь у XX ст. так і не дачакалася "залацістага, яснага дня" (М. Багдановіч). Горкі папрок народу за яго абыякавасць да ўласнага лёсу гучыць у вершах "Нехта кажа…", "Народ", "Так многа намі страчана…" і інш. Разам з тым паэт не адасабляе сябе ад суайчыннікаў, ён дзеліць з імі бяду і радасць, адказнасць за лёс роднага краю. У наш няпросты час яго не пакідае вера ў тое, што

*Пакутліва*
*Мы самі*
*Адбядуем*
*Увесь свой лёс –*
*Аж да шчаслівых дзён.*
*І дом свой сіратлівы адбудуем.*
*І песню сваю гучную складзём…* [5, с. 53].

Бацькаўшчына, малая і вялікая радзіма, лёс якой хоць і абуджае ў сэрцы паэта часта скруху, смутак, боль, нават гнеў, застаецца тым "вечным", дзеля чаго *"варта жыць і трэба жыць"*, несці наканаваны *"крыж свой без папроку"*, верыць у будучыню. З вышыні пражытых гадоў, пройдзеных шляхоў і дарог, зведаных чужых краін і кантынентаў Г. Бураўкін можа спакойна і ўпэўнена заявіць:

*Я ведаю адно:*
*Няма на свеце*
*Зямлі,*
*Дзе я хацеў бы вечна жыць,*
*Акрамя той,*
*Дзе сінія дасвецці*
*І чорныя пахілыя крыжы* [5, с. 40].

Толькі гэтай зямлі, якая *"моўчкі прыняла свой горкі лёс"*, паэт будзе да скону *"прыслужваць і маліцца"*.

Патрыятычнае пачуццё Г. Бураўкіна знаходзіць увасабленне ў цудоўных прыродаапісальных вершах, настраёвых, вобразных, задушэўных: "Трон восені яшчэ пусты…", "Канец верасня",

“Красавіцкі дождж”, “Прагульваецца ў небе летні гром…”, “Так бела за акном…”, “Люблю зіму за сонца і марозы…” і многія-многія інш. Яны здзіўляюць “нечаканасцю дакладных дэталей, свежай метафарычнасцю, шчырасцю пачуцця. Восень, зіма, вясна, лета – усе поры года ўражліва ажываюць у творах паэта…” [9, с. 724]. Г. Бураўкін неаднойчы падкрэсліваў, што яго родны кут не мае нічога незвычайнага, экзатычнага. Але і *“ў замарскай далечы”* святло крыклівых рэклам, высотныя гмахі не змаглі засланіць ці ахінуць цемрай яго вобраз. Наадварот, *“рэкламны рай”* дапамог лірычнаму герою зразумець, наколькі дарагі яму родны край – *“бедны, / Сціплы, / Запылены / На крутым скрыжаванні дарог, / Дзе ўзнімаецца за магіламі / Ці то храм, ці то змрочны астрог”* [7, с. 127]. Варта адзначыць, што такі вобраз Беларусі рэдкі ў Г. Бураўкіна. Паэт не стамляецца гаварыць пра няяркую, някідкую і адначасна сапраўдную, непрыдуманую прыгажосць беларускай зямлі: *“…Быў просты / Ва ўсе вякі твой родны ўзор: / Гаёў бялюткая бяроста, / Густы блакіт лясных азёр, / І лён, зусім, як неба, сіні, / І ўсе ў рамонках берагі…”* [2, с. 78]. У вершы “Я не думаў, што так прывязаны…” звычайнасць, нават несамавітасць, унутраны драматызм створанага вобраза раскрываюць глыбіню пачуцця лірычнага героя: так дзеці любяць маці. Для гэтай любові зусім неістотна, прыгожая яна ці брыдкая, багатая ці бедная.

Генадзя Бураўкіна, паэта з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй, рана пачалі хваляваць пытанні пра сваё “месца ў страі”, пра ўласную далучанасць да таго, што адбываецца ў сусвеце. *“…Трывожыць сэрца мне любая дробязь, / Нібы адказнасць я за ўсё бяру, / Што ў цэлым свеце думаюць і робяць”* [2, с. 65] – радкі з другога па ліку зборніка “З любоўю і нянавісцю зямною” (1963). “Асенняя пара”, як назваў Г. Бураўкін сучасны перыяд свайго жыцця, гэтыя і падобныя да іх пытанні ставіць неадступна. Настойліва нагадвае пра сябе натуральнае для чалавека “юбілейнага ўзросту” (А. Куляшоў) жаданне азірнуцца, асэнсаваць пражытае, а побач з ім – вярнуцца да бацькоўскага парога, дзе *“пачатак і канец дарогі”*, радасна адчуць, *“што ты яшчэ жывеш / І што твая душа яшчэ жывая”* [5, с. 11].

Асабістае ў лёсе і творчасці Г. Бураўкіна цесна звязана з біяграфіяй яго пакалення: абпаленае вайной дзяцінства і абумоўленая ваенным ліхалеццем ранняя сталасць, вучоба ва ўніверсітэце побач з такімі ж, як і сам, апантанымі літаратурай (Р. Барадулін, В. Зуёнак, М. Стральцоў…), маладое палкае жаданне змяніць свет да лепшага, тым больш што грамадская атмасфера канца 1950 – пачатку 1960-х гг. давала надзею на гэта. Новае пісьменніцкае пакаленне, якое ўваходзіла ў літаратуру на хвалі “хрушчоўскай адлігі”, не сумнявалася ў дэмакратычнай перабудове жыцця, у павароце грамадства да чалавека. *“Адышлі ў нябыт панегірыкі / Сціплым вінцікам, / спешнай сяўбе. / Людзям хочацца шчырай лірыкі / Не пра вінцікаў, / пра сябе”* [2, с. 39] – пачатак шырокавядомага ў той час верша Г. Бураўкіна (“Адышлі ў нябыт панегірыкі…”).

“Шасцідзясятнікі” напісаны ў іншай грамадскай сітуацыі, калі падзеі сярэдзіны XX ст. сталі ўжо амаль далёкай гісторыяй, а тыя, хто працаваў на новае, гуманнае і справядлівае грамадства, на новую, сумленную і праўдзівую літаратуру, могуць падвесці рахунак. Як вынікае са зместу трэцяй страфы верша, рахунак даволі сціплы: *“Не ўсё мы паспелі, / Не ўсё завяршылі. / Не збудзілі ад сну / Наш знямелы, збалелы народ. / Прайдзісветы / Залезлі на нашы вышыні. / Ілгуны-недавучкі / Нам заціснулі рот”* [7, с. 84]. Аўтар жорстка судзіць сябе і сваё пакаленне: *“Перад небам і вечнасцю / Мы вінаваты”*. Аднак згаданыя перад гэтым варункі жыцця “шасцідзясятнікаў”, іх адносіны да справы, да роднай зямлі, да бацькоў высвечваюць катэгарызм і несправядлівасць такой высновы, ісцінная, праўдзівая іншая. *“…Мы на зямлі / Недарэмна жылі”*, – заяўляе паэт, бо змаглі зберагчы і пакінуць нашчадкам *“жывымі / Песні, / Дрэвы / І хаты”*, дзяцей і ўнукаў, маці-зямлю. У вершы “Мы – розныя…” (зборнік “Лісты да запатрабавання”) Г. Бураўкін зноў гаворыць пра сваё пакаленне. Тут ён называе *“спазнаныя душою спакваля”* святыні, што яднаюць іх, розных, непадобных паміж сабой людзей. Гэта –

*Крынічная,*
*Сунічная,*
*Лясная*
*Пясчаная бацькоўская зямля,*
*Радзінны край,*
*Цярплівы і збалелы,*
*Гасцінны,*
*Як расцелены абрус,*
*У тысячах навалаў ацалелы,*
*З благаславенным імем –*
*Беларусь* [6, с. 94].

У іншым месцы паэт цалкам слушна зазначыць: *“Наш родны край для нас не быў чужым”* [7, с. 81].

Так, пакаленне Г. Бураўкіна, сярод прадстаўнікоў якога з нейкага часу *“усё меней сяброў жывых. / Усё болей сяброў памёрлых”* [4, с. 22], сваім лёсам і творчасцю даказала сыноўнюю любоў і адданасць Радзіме. Яно шчыра дбала пра яе славу і веліч, годна прадстаўляла Беларусь у яе стасунках з іншымі краінамі, працягвала і развівала традыцыі, сумленна спаўняючы наказ настаўнікаў і папярэднікаў “з цэлым народам гу-

тарку весці" (Янка Купала). Разам з тым сёння відавочна і іншае: спадзяванні маладосці ў поўнай меры не спраўдзіліся. Г. Бураўкін не хаваецца ад сумнай праўды, мужна канстатуе: *"Не ўсё мы так зрабілі, / Як маглі. / Ішлі, / Кульгаючы на кожным кроку"* [7, с. 81]. І ўсё ж ад імя пакалення ён мае права сказаць: *"Але і нашых думак вугалі / Здалёк свяціліся ў халодным змроку"* [7, с. 81].

З роздуму паэта над лёсам роднай мовы нарадзіліся вершы "Наша песня", "Слова наша роднае…", "Чорнай навалаю коціцца зверху…", "І ў задуменні вечаровым…", а таксама паэмы, прысвечаныя "апосталам Бацькаўшчыны" Францішку Багушэвічу і Якубу Коласу. Варта адзначыць жанравую адметнасць ліра-эпасу Г. Бураўкіна, на што ў свой час звярнуў увагу Н. Гілевіч: "Паэмы Г. Бураўкіна, як і большасць сучасных паэм, не маюць класічнай жанравай структуры. Іх мастацкая форма свабодная. Як правіла, гэта – счэпленыя задумай і настроем у адно цэлае паасобныя, адносна самастойныя кавалкі – карціны, сцэны, лірычныя роздумы і г. д. Збудаванне трымаецца, такім чынам, не на стрыжні апавядальнага сюжэта, а на аснове ўдалага мантажу" [8, с. 161]. Розныя па тэматыцы, па мастацкім увасабленні ўзнятых праблем творы – "Чужая споведзь" (1966), "Хатынскі снег" і "Паэма расстання" (абедзве 1971), "Ленін думае пра Беларусь" (1977) і ўрэшце апошнія "Узнясенне" і "Развітанне" (2010) – збліжаюцца невялікім памерам, жывой аўтарскай зацікаўленасцю аб'ектам гаворкі, суперажытасцю падзей і лёсаў герояў.

Так, асабістая далучанасць да самай страшнай трагедыі XX ст. (зімой 1943 г. родная вёска паэта цудам не раздзяліла лёс Хатыні) абумовіла нараджэнне ўражлівых, напоўненых пякучым болем і скрухай радкоў паэмы "Хатынскі снег". У творы Г. Бураўкіна працуе кожнае слова. Асаблівую змястоўнасць яно набывае ў другой частцы, дзе малюецца страшная карціна знішчэння людзей:

*Ужо не іскры,*
*а снапы пякельнага полымя*
*На галовы абрынуліся са страхі.*
*І людзі ад іх адбіваліся рукамі голымі,*
*І засквірчэлі на плячах кажухі.*
*Ад немага крыку*
*абвалілася пуня.*
*Грымнулі водзем дзверы…* [2, с. 140].

У "Хатынскім снезе" Г. Бураўкін "засяроджвае ўвагу на агульных перажываннях людзей гэтай сусветна вядомай вёскі, не выдзяляючы з чалавечага натоўпу асобных імён, падкрэсліваючы роўнасць усіх гаротнікаў перад тварам смерці" [9, с. 715], – слушна адзначае З. Драздова. Аднак дададзім, што ў творы дзейнічае не сумарнае "мы", а канкрэтныя, хоць і сапраўды безыменныя, людзі. З чалавечага натоўпу выхаплены *"бабуля сляпая"*, маці, якія *"спалоханымі рукамі / Да сябе прыціскалі галовы дзяцей"*, мужчыны з *"ускінутымі ў бяссіллі кулакамі"*.

Трагізм падзей падсвечваецца гукавымі і каляровымі асацыяцыямі. Мірныя гукі вясковай раніцы – рыпенне жураўля над студняй, груканне бярэмя дроў каля печы, дзынканне аб даёнку тугога струменя малака – на кароткі момант змяняе спалоханая цішыня, што ўзрываецца галашэннем жанчын, немым крыкам, стогнам і енкам. Спыняюць усё гэта кулямётныя чэргі, і над мёртвай вёскай вісне *"мёртвая цішыня"*. Аўтар манаграфічнага даследавання творчасці Г. Бураўкіна М. Барсток снег параўноўвае [1, с. 67] з экранам, на якім узнаўляецца трагедыя 22 сакавіка 1943 г. У першай частцы снег белы, але ён *"стогне, галосіць пад нагамі"* тых, каго прыкладамі і кулакамі карнікі зганяюць у пуню. Чырвоны ад чалавечай крыві і языкоў полымя снег у другой частцы. У трэцяй – чорны снег падае *"з чорнага начнога неба"*. Чорны колер, колер смерці, увогуле шырока прысутнічае ў заключнай частцы паэмы. Аўтарам ён называецца рэдка, у гэтым няма неабходнасці, бо чорны колер маюць *"абгарэлыя кульці каміноў"*, сажа, якой асыпаліся *"хаты, шпакоўні, сады"*, галавешкі на месцы будынкаў, спалены вулей, што *"мядзведзем пад ліпай асунуўся"*. "Хатынскі снег" да гэтага часу лічыцца найлепшым сярод твораў нацыянальнага ліра-эпасу, дзе ўзноўлена трагедыя знішчаных фашыстамі разам з людзьмі беларускіх вёсак.

Паэмы (за выключэннем "Хатынскага снегу") збліжае таксама цікавасць аўтара да праблемы *асобы* і *гісторыі*. З таго, як яе вырашае Г. Бураўкін, становіцца зразумелым непрыманне жыццёвай пазіцыі героя "Чужой споведзі", за што пісьменніка ў свой час справядліва папракала крытыка. След у гісторыі (хто – чалавецтва, хто – найперш свайго народа) пакінулі Юрый Гагарын, Уладзімір Ленін, Францыск Скарына, Кастусь Каліноўскі, Францішак Багушэвіч, Якуб Колас, Янка Купала. Ім дае слова ў творах Г. Бураўкін, бо гэтыя рэальныя гістарычныя асобы не маюць нічога агульнага з *"ціхімі-ціхенькімі"*, *"бядой… перацёрлымі на муку"*, якія заўсёды *"ў эпохі збоку"*. Такім паўстае на старонках першай паэмы невядомы аўтар знойдзеных пры зносе хаты лістоў.

За паэму "Ленін думае пра Беларусь" Г. Бураўкіна спачатку дружна хвалілі, а потым, у змененай грамадскай сітуацыі, неаднойчы папракалі. Аднак услед за аўтарам [3, с. 17] уступнага артыкула да кнігі "Выбраных твораў" (серыя "Беларускі кнігазбор") хочацца запытаць: хіба паэма

пра Леніна, а не пра Беларусь? Яе сапраўднымі героямі паўстаюць Ф. Скарына і К. Каліноўскі, якіх з поўным правам, як Ф. Багушэвіча і Я. Коласа, можна назваць "апосталамі Бацькаўшчыны".

Рэаліямі жыцця нацыі на мяжы стагоддзяў, думаецца, абумоўлены зварот у паэмах "Узнясенне" і "Развітанне" да апошніх хвілін і дзён існавання пачынальнікаў беларускай літаратуры. *"Паміраў адвакат Багушэвіч Францішак. / Адыходзіў у вечнасць Мацей Бурачок"* [6, с. 55], – паведамляецца на пачатку першага твора. У асобе героя паэмы Г. Бураўкін вылучае дзве існасці – чалавечую і творчую. Узнаўляючы ў згасалай памяці падзеі свайго жыцця, грамадзянін Ф. Багушэвіч згадвае ўдзел у паўстанні 1863 – 1864 гг. І на смяротным ложы, аднак, яго не пакідаюць сумненні: *"Ці не быў той даўні бунт дарэмны? / І ці варта воля той крыві?"* Разам з тым ён разумее, што *"сама сабою / Не зайграе / Над шляхамі / Вольнасці зара…"* [6, с. 59]. Затое "абазнанай" у прыгожым пісьменстве "разгневанай пані", ад якой калісьці атрымаў поўны павучанняў і шкадавання ліст, Францішак Багушэвіч можа з годнасцю адказаць:

*Вы, здаецца, жадалі мне велічнай славы…*
*Што ж, я маю*
*…Паэта тутэйшага велічны чын.*
*Мае вершы друкуе праслаўлены Кракаў…*
*Мне было што сказаць шматгалосаму свету.*
*І хапіла для гэтага матчыных слоў* [6, с. 66 – 67].

Паэт Мацей Бурачок у апошнія імгненні жыцця бярэ на сябе права суддзі свайго *"цярплівага і зацятага, / Дбалага / І затурканага"* народа, каб *"выказаць нарэшце праўду ўсю"*. Праўду горкую і сумную. Аднак споведзь яго заканчваецца словамі, у якіх гучыць надзея на адраджэнне: *"Я гару перад табою свечкай / У самоце, / Гневе / І журбе. / І ўсё ж веру: / Жыць ты будзеш вечна, / Калі не загубіш сам сябе"* [6, с. 69].

Велічны сэнс здзейсненага Багушэвічам – Мацеем Бурачком – на ніве нацыянальнага адраджэння раскрываецца ў VII частцы паэмы. *"З высокіх нябёс"* паэт чуе сваю дудку, суладна ёй гучыць жалейка, ціха плача скрыпка… Той "музычны аркестр" (з'яўленне шматлікіх беларускіх твораў, самастойнай беларускай літаратуры), пра што марыў і на што ў самых неспрыяльных умовах працаваў Мацей Бурачок, наладжаны. *"Беларусь адгукалася, – / Значыць, не ўмёрла! / Беларусь не знямела, / І значыць – жыве!"* [6, с. 71].

У паэме "Развітанне" Г. Бураўкін акцэнтуе ўвагу на апошнім грамадзянскім учынку Якуба Коласа – напісанні ліста ў абарону роднай мовы. Клопат, *"каб толькі песня наша не сканала, / Каб наш народ бязмоўным не памёр"*, надае сілы цяжкахвораму паэту:

*За край стала*
*Рукою млявай*
*Схапіўся сутаргава:*
*"Жыць,*
*Каб шлях зямны*
*Галоўнай справай,*
*Лістом апошнім завяршыць!"* [6, с. 173].

Ён лічыць гэта святым абавязкам перад сябрам і паплечнікам Янкам Купалам, перад родным братам Міхасём, які вымушаны быў пакінуць Беларусь і падацца на чужыну. Гэтыя двое *"з халоднай далечы гадоў"* з'яўляліся да Я. Коласа ў самыя цяжкія і адказныя моманты жыцця.

Карпатліва і разважліва шукаючы адпаведныя словы для ліста, паэт разумеў, што яго за гэты клопат не пахваляць, што ён ідзе ўразрэз з ідэалагічнымі догмамі і агульнапрынятымі ўяўленнямі. І тым больш ён імкнуўся зрабіць апошняе, што мог у жыцці: выказаць трывогу за становішча *"матчынай, святой нашай мовы / І роднай, спрадвечнай зямлі"* [6, с. 174]. Вобраз народнага песняра, зробленае ім дзеля свайго народа ўзвышаецца, хоць адначасова і драматызуецца, праз ацэнку гэтага факта біяграфіі, які набыў вядомасць адносна нядаўна. У канцы паэмы аўтар змясціў даведку, сухі змест якой высвечвае значнасць і мужнасць асобы Я. Коласа: *"13 жніўня 1956 года, вярнуўшыся з ЦК КПБ, куды адносіў свой ліст у абарону беларускай мовы, Якуб Колас памёр"* [6, с. 183].

Створаныя ў паэмах "Узнясенне" і "Развітанне" вобразы нацыянальных творцаў бачацца надзвычай актуальным у сённяшнім свеце прыкладам патрабавальнай і адказнай любові да сваёй зямлі і народа. Такая ж любоў уласціва і аўтару твораў, Генадзю Бураўкіну.

**Спіс літаратуры**

1. **Барсток, М.** Руплівы поўдзень : нарыс творчасці Генадзя Бураўкіна / М. Барсток. – Мінск : Маст. літ., 1984. – 173 с.
2. **Бураўкін, Г.** Вершы пяці кніг : выбранае / Г. Бураўкін. – Мінск : Маст. літ., 1976. – 272 с.
3. **Бураўкін, Г.** Выбраныя творы / Г. Бураўкін. – Мінск : Кнігазбор, 2009. – 533 с.
4. **Бураўкін, Г.** Гняздо для птушкі радасці : вершы / Г. Бураўкін. – Мінск : Маст. літ., 1986. – 78 с.
5. **Бураўкін, Г.** Жураўліная пара : Вершы канца стагоддзя / Г. Бураўкін. – Мінск : Беларус. кнігазбор, 2004. – 156 с.
6. **Бураўкін, Г.** Лісты да запатрабавання : вершы і паэмы / Г. Бураўкін. – Мінск : Беларус. кнігазбор, 2010. – 335 с.
7. **Бураўкін, Г.** Паміж зоркай і свечкай : вершы / Г. Бураўкін. – Мінск : Бацькаўшчына, 1976. – 160 с.
8. **Гілевіч, Н.** Удзячнасць і абавязак / Н. Гілевіч. – Мінск : Маст. літ., 1982. – 178 с.
9. **Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя** : у 4 т. – Мінск : Беларус. навука, 2002. – Т. 4, кн. 1 : 1966 – 1985. – 928 с.

**Таіса ГРАМАДЧАНКА,**
кандыдат філалагічных навук.

*Аўтар ахвяруе ганарар на развіццё часопіса.*

*Віншуем!*

# ВЫСАКАРОДНЫ І НЯСТОМНЫ СЕЙБІТ НА НІВЕ СЛАВІСТЫКІ

## ДА ЮБІЛЕЮ ТАЦЦЯНЫ КАБРЖЫЦКАЙ



Сёлета навуковая і творчая грамадскасць краіны адзначае юбілей Таццяны Вячаславаўны Кабржыцкай, кандыдата філалагічных навук, дацэнта кафедры славянскіх літаратур Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Паважаны юбіляр – вядомы літаратуразнаўца і крытык, таленавіты перакладчык, аўтар шматлікіх даследаванняў па беларусістыцы, украіністыцы і русістыцы, настаўнік цэлай кагорты вучоных, педагогаў рэспублікі. Таццяна Вячаславаўна карыстаецца бясспрэчным аўтарытэтам сярод студэнтаў, аспірантаў і выкладчыкаў alma mater. У яе асобе годна і гарманічна спалучаюцца глыбокая эрудыцыя, працалюбства, сардэчнасць, шчырасць, добразычлівасць і душэўная адкрытасць, якімі яна шчодра дзеліцца з калегамі, роднымі і блізкімі людзьмі.

Таццяна Кабржыцкая прайшла цікавую жыццёвую дарогу самаадданай працы, навуковага сталення і здабыткаў. Студэнтка філалагічнага факультэта Львоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Настаўнік і намеснік дырэктара вясковай школы ў адным з раёнаў Заходняй Украіны. Аспірантура. Абарона кандыдацкай дысертацыі. Супрацоўнік Беларускага навукова-даследчага інстытута педагогікі. Дацэнт кафедраў рускай літаратуры, славянскіх літаратур БДУ… Усе свае чалавечыя і прафесійныя крокі Таццяна Вячаславаўна рабіла насустрач высокаму прызванню Філолага, укладвала Душу і Любоў у Думку і Слова. Рабіла творча і высакародна, захоўваючы эмпірычныя сляды кожнага этапу ў асобасным і прафесійным станаўленні.

Сёлетні юбіляр плённа працягвае традыцыі знакамітых славістаў: аўтар больш чым 500 навуковых прац, апублікаваных у Беларусі і краінах Еўропы, ініцыятар, аўтар і суаўтар шматлікіх літаратуразнаўчых і перакладных выданняў. Уражвае абсяг творчых і навуковых зацікаўленняў Т. Кабржыцкай: нацыянальна-мастацкі вопыт і культурныя асаблівасці ўзаемадзеяння славянскіх сістэм, сутнасць, генетычна-тыпалагічныя праявы і паралелі пагранічча, у якіх канкрэтызуюцца і раскрываюцца гістарычныя шляхі станаўлення і развіцця блізкароднасных літаратур ад старажытных часоў да XXI ст., іх змястоўная напоўненасць як з'явы нацыянальных культур і літаратурна-грамадскага руху. Такі грунтоўны навуковы набытак Таццяны Вячаславаўны – паспяховая рэалізацыя яе адметнага творчага і навукова-даследчага мыслення, душэўна-духоўнага патэнцыялу, дадзенага Богам і нараджэннем на поліфанічнай прасторы памежжа.

Падзеяй у культурным жыцці краіны стаў выхад такіх кніг Т. Кабржыцкай (напісаных у суаўтарстве з В. Рагойшам), як **"Карані дружбы: Беларуска-ўкраінскія літаратурныя ўзаемасувязі канца XIX – пачатку XX стст."** (1976), **"Лісты ў будучыню"** (пра асобу і творчасць С. Палуяна, 1986), **"Слядамі знічкі: пра Сяргея Палуяна"** (1990).

Сёння цяжка ўявіць агульнаадукацыйную школу без напрацовак Таццяны Вячаславаўны: па падручніках для агульнаадукацыйных школ (яна аўтар многіх раздзелаў) навучаюцца старшакласнікі, яе кнігамі і публікацыямі карыстаюцца ў сваёй практычнай і метадычнай дзейнасці педагогі рэспублікі.

Пачынаючы з 1980 г. і да сёння Таццяна Вячаславаўна працуе на філалагічным факультэце БДУ. Яна доўгі час на самым высокім узроўні выкладала гісторыю рускай літаратуры. З характэрнай для яе настойлівасцю актыўна дабівалася адкрыцця аддзялення ўкраінскай філалогіі, дзе распачала чытаць беларускім студэнтам (зразумела, па-ўкраінску) фундаментальны курс гісторыі літаратуры Украіны. Кузняй па падрыхтоўцы высокапрафесійных філолагаў стаў яе спецсемінар "Тэорыя і практыка літаратурных узаемасувязей". Сярод удзячных выпускнікоў шмат цікавых і вядомых людзей. Гэта і руплўцы на ніве беларушчыны С. Кавалёў, М. Хаўстовіч, Я. Янушкевіч, і колішні галоўны рэдактар штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" паэт Алесь Пісьмянкоў, і цяперашнія калегі па працы

на факультэце А. Бельскі, М. Трус, і настаўнікі многіх школ рэспублікі, сярод якіх выкладчыца Браслаўскай гімназіі А. Бізня-Крупко, і многія іншыя. Памятаюць свайго лектара і навуковага кіраўніка, неабыякавага да лёсу выхаванцаў, студэнты з колішняй ГДР, Польшчы, Карэі, Арменіі, Грузіі…

Пра высокае прызванне творчай дзейнасці Т. Кабржыцкай на літаратурнай ніве сведчаць шматлікія пераклады. Данесці да беларускага чытача багацце і традыцыі ўкраінскай літаратуры, а да ўкраінскага – дыханне беларускай, духоўныя скарбы зямлі Беларусі – вось пачэсная місія, якую з незвычайнай далікатнасцю і прафесійным падыходам здзяйсняе ў сваёй перакладчыцкай дзейнасці шаноўны юбіляр.

Як перакладчык Т. Кабржыцкая ўдзельнічала ў стварэнні кнігі ўкраінскіх і беларускіх легенд, паданняў і казак **“З крыніц адвечнай прыгажосці”** (1997). У яе міжкультурным наробку літаратурна-крытычная і публіцыстычная спадчына М. Багдановіча, эсэ У. Караткевіча. Пры яе непасрэдным удзеле убачыў свет украінскі зборнік П. Броўкі. В. Быкаў даверыў Тацццяне Вячаславаўне ўзнавіць па-ўкраінску яго творы з непасрэдна аўтарскіх рукапісных тэкстаў. Ва Украіне выдадзены такія аповесці народнага пісьменніка Беларусі, як “Аблава”, “Туман”, “Мёртвым не баліць”. Серыя “Школьная бібліятэка” ажыццявіла беларускамоўнае выданне твораў класікаў украінскай літаратуры Лесі Украінкі і Міхайлы Кацюбінскага (1996). Тацццяна Вячаславаўна выступала як складальнік, аўтар прадмовы, перакладчык асобных мастацкіх твораў.

Тацццяна Кабржыцкая – руплівы грамадскі і культурны дзеяч. Як старшыня Беларускай асацыяцыі ўкраіністаў супрацоўнічае з Таварыствам дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі, бярэ ўдзел у мерапрыемствах пасольства Украіны, падтрымлівае сувязі з Львоўскім нацыянальным універсітэтам, Інстытутам літаратуры імя Тараса Шаўчэнкі НАН Украіны, украінскімі грамадска-культурнымі суполкамі. З яе непасрэдным удзелам ва Украіне ўбачыла свет салідная выданне **“Стратим-лебідь”** (2002) М. Багдановіча – амаль поўны збор твораў беларускага класіка ў перакладзе на ўкраінскую мову; энцыклапедычнага размаху кніга **“Шевченкова дорога в Білорусь”** (2004). Ініцыятарам, душою гэтых львоўскіх выданняў з’яўляецца сябар студэнцкіх гадоў Тацццяны Вячаславаўны заслужаны перад Беларуссю вядомы грамадскі дзеяч, падзвіжнік славянскай культурнай узаемнасці ўкраінскі паэт Раман Лубкіўскі.

Па ініцыятыве Т. Кабржыцкай і В. Рагойшы да 150-годдзя Івана Франко ў Беларусі выдадзены том выбраных твораў Каменяра (2006), прадмова да якога напісана Т. Кабржыцкай, а пераклады, большасць з якіх выкананы спецыяльна для гэтага выдання, належаць пяру В. Рагойшы. Нельга не прыгадаць з перакладной скарбонкі юбіляра анталогію твораў з літаратур блізкага замежжа, названую паводле слоў Якуба Коласа “Мае браты, мае суседзі” (2008), у якой прадстаўлены ў найлепшых беларускіх перакладах украінскія пісьменнікі Тарас Шаўчэнка, Іван Катляроўскі, Іван Франко, Міхайла Кацюбінскі, Леся Украінка, Васіль Стафанік, Паўло Тычына, Максім Рыльскі, а таксама найлепшыя прадстаўнікі літаратуры іншых нашых суседзяў: Адам Міцкевіч, Юльюш Славацкі, Юзаф Крашэўскі, Эліза Ажэшка, Ян Райніс, Крысціёнас Данелайціс… Укладанне выдання, уступныя артыкулы да твораў вядомых пісьменнікаў выкананы Т. Кабржыцкай і В. Рагойшам.

Тацццяна Кабржыцкая – член Нацыянальнай суполкі пісьменнікаў Украіны, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Дарэчы, рэкамендацыі пры паступленні ў СБП яна атрымала ад вельмі патрабавальных і аўтарытэтных людзей – У. Гніламёдава, А. Мальдзіса і А. Жука.

За значныя дасягненні ў галіне ўкраіністыкі Т. Кабржыцкай і В. Рагойшу ў 2000 г. прысуджана Міжнародная літаратурная прэмія імя Івана Франко. У 2008 г. прэзідэнт Украіны адзначыў нястомную працу Т. Кабржыцкай у галіне папулярызацыі і даследавання ўкраінскай літаратуры высокай дзяржаўнай узнагародай – ордэнам Княгіні Вольгі.

Тацццяна Вячаславаўна – нястомны краязнавец, захавальнік культурнага і асветніцкага скарбу нашага краю. Дзякуючы намаганням В. Рагойшы і Т. Кабржыцкай у Ракаве на базе сярэдняй школы для вучняў старэйшых класаў і мясцовай інтэлігенцыі рэгулярна праводзіліся міжнародныя навуковыя чытанні з удзелам вядомых айчынных вучоных і замежных гасцей.

У бацькоўскім родавым гняздзе на сапраўдным прафесійным узроўні яны стварылі ўнікальны прыватны музей поліэтнічнай культуры заходнебеларускага мястэчка. Сярод яго першых наведвальнікаў былі народныя мастакі Беларусі М. Данцыг і У. Стальмашонак, браты Фелікс і Язэп Янушкевічы, прафесар з Варшавы Б. Белаказовіч, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі М. Мушынскі, перакладчык “Новай зямлі” Якуба Коласа на польскую мову Ч. Сенюх, англійская паэтэса В. Рыч, знакамітыя ўкраінскія пісьменнікі Д. Паўлычка, Р. Лубкіўскі, эліта журфака БДУ Б. Стральцоў, В. Іўчанкаў, В. Вараб’ёў, У. Дарашчонак, А. Свораб, Т. Дасаева. Для насельніцтва ўсяго ракаўскага краю сямейным падрадам Т. Кабржыцкая і В. Рагойша на працягу амаль дзесяці гадоў выпускалі культурна-асветніцкае ілюстраванае выданне “Ракаўскі шлях”. “Настаўніцкая газета”, адгукнуўшыся на яго першыя нумары вялікім артыкулам А. Карлюкевіча, мела ўсе падставы рэкамендаваць гэтае выданне для школы як

вельмі карысны дапаможнік пры вывучэнні гісторыі і культуры Беларусі, мясцовага краязнаўства.

Зусім нядаўна чытачы атрымалі салiднае выданне выбраных твораў Т. Кабржыцкай. Назва кнігі **"Дзве Радзімы – Україна і Беларусь – пад міратворчымі крыламі буслоў: нацыянальныя гісторыка-культурныя міфы, ідэйна-эстэтычныя пошукі ўкраінскай і беларускай літаратур"** указвае на творчы партрэт аўтара, раскрывае сутнасць змешчаных у выданні навуковых публікацый. Упэўнены, што гэтая праца будзе настольнай кнігай нашых выкладчыкаў як сярэдняй школы, так і ВНУ Беларусі.

На працоўным стале Т. Кабржыцкай новы вучэбны дапаможнік для ВНУ Беларусі **"Украінская літаратура, украінска-беларуска-польскія літаратурныя дыялогі. Фенаменалогія культурнага сумежжа Беларусі, Украіны, Польшчы: тыпалогія, сувязі"**. Сёння ўжо ў агульнаеўрапейскім маштабе становіцца відавочнай неабходнасць пашыранага вывучэння культурнай сферы тых народаў, якія ў выніку пэўных гістарычных акалічнасцей знаходзіліся ў стане цеснага ўзаемадзеяння. Да такога шырокага даследавання славянскіх сувязей Т. Кабржыцкая далучае і сваіх маладзейшых калег па кафедры. У названай манаграфіі ўпершыню ў нашай краіне здзяйсняецца комплексны міждысцыплінарны разгляд велізарнага гісторыка-геаграфічнага рэгіёна, прадстаўленага трыма народамі – беларусамі, украінцамі, палякамі, што праз стагоддзі не толькі жывуць на сумежных тэрыторыях, але і доўгі час уваходзілі ў склад аднаго дзяржаўнага ўтварэння. Аналіз асаблівасцей этнічна блізкай кантактнай зоны трох народаў – беларускага, украінскага, польскага – ахоплівае працяглы перыяд: ад сітуацый узаемадачыненняў паміж протадзяржаўным насельніцтвам да сучаснага стану функцыянавання нацыянальных літаратур.

У далейшых планах Т. Кабржыцкай, як і раней, цікавае і арыгінальнае даследаванне мастацкіх твораў, праца на ніве літаратуразнаўчай славістыкі, перакладчыцкі плён, удзел у аўтарскіх калектывах па напісанні падручнікаў. Нас чакаюць яшчэ шмат адкрыццяў Слова і радаснасветлых хвілін ад творчых і навуковых здзяйсненняў Таццяны Вячаславаўны Кабржыцкай. Жадаем Вам, глыбокапаважаны Настаўнік, Калега, моцнага здароўя, натхнення, плёну і творчасці як у галіне літаратуразнаўства і крытыкі, так і на ніве народнай асветы!

**Мікола ХМЯЛЬНІЦКІ,**
кандыдат філалагічных навук,
дацэнт кафедры славянскіх літаратур БДУ.

*Новае прачытанне*

Таццяна КАБРЖЫЦКАЯ

# З ВЕРАЙ У АПТЫМІСТЫЧНАСЦЬ "СТРАЦІМА-ЛЕБЕДЗЯ" МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

"Страцім-лебедзь", адзін з шэдэўраў М. Багдановіча, напісаны ў 1916 г. З таго часу да асэнсавання мастацкіх сродкаў, якімі карыстаўся паэт пры рэалізацыі сваіх думак, звязаных з птушкай Страцім-лебедзь, звярталася нямала даследчыкаў. Аднак трэба прызнаць, што гэты твор так і застаўся асэнсаваны недастаткова поўна.

Літаратуразнаўцы, характарызуючы твор, бачаць у ім найперш сюжэт апокрыфа пра Ноеў каўчэг і патоп. Апокрыфы прыходзілі да людзей не ў пісьмовай форме, а пераважна ў вуснай. У выніку ўзаемадзеяння з жанрамі вуснай народнай творчасці сюжэты апокрыфаў "абрасталі" новымі матывамі, на іх аснове фарміраваліся вусныя апаведы, пераказы, ствараліся легенды, балады, цікавыя дадатковымі сэнсавымі акцэнтамі. Як справядліва адзначыў украінскі даследчык і актыўны папулярызатар творчасці аўтара "Вянка" Іван Дэнысюк, М. Багдановіч быў *інтэлектуальным паэтам*: "…разумовая праца над формай, спосабамі, матэрыялам, мэтай, на думку беларускага паэта, не перашкаджае натхненню, а знаходзіцца з ім у сутворчасці!" У М. Багдановіча сімвал выступае магутнай сувяззю ідэй. Увесь комплекс праблем, якія мог укласці аўтар менавіта ў вобраз Страціма-лебедзя, па сутнасці, яшчэ не раскрыты.

Даследчыкі па-рознаму характарызуюць жанр твора. Так, Р. Бярозкін лічыў "Страціма-лебедзя" *паэмай*, М. Грынчык – *гераічнай паэмай*. У ранняй манаграфіі "Максім Багдановіч" А. Лойкі, напісанай яшчэ ў 1966 г., сустракаем вызначэнне твора проста як *верш*: «Верш "Страцім-лебедзь" – паэтызацыя апакрыфічнай легенды пра лебедзя». На яго думку, сама легенда "была нескладанай". З цягам часу, у 1992 г., А. Лойка пачынае разумець твор ужо як аўтарскую баладу. Баладай лічаць "Страціма-лебедзя" І. Багдановіч і В. Рагойша. І. Навуменка называе твор проста вершам. Чамусьці няма адзінай думкі адносна даты напісання твора. У Зборах твораў М. Багдановіча не-

аднойчы паўтараецца: "Страцім-лебедзь" напісаны ў кастрычніку ці ў снежні 1916 г. І. Навуменка ў даследаванні "Максім Багдановіч" сцвярджае: "Няма дакладных фактаў аб часе напісання верша". І далей з невядомых прычын менавіта 1917 г. вызначае як час напісання твора. У выпадку з "днём нараджэння" "Страціма-лебедзя" наўрад ці выяўляецца адрознасць літаратуразнаўчых пазіцый. Тут, мяркуем, можа мець месца пэўны недагляд з боку рэдактара першага тома акадэмічнага выдання "Гісторыі беларускай літаратуры XX ст.", дзе і пазначана ў раздзеле, напісаным І. Навуменкам, памылковая дата – 1917 год.

Вызначэнне жанравай прыроды твора ў пэўнай ступені залежала ад грамадска-палітычнай кан'юнктуры таго часу, калі працавалі знакамітыя даследчыкі-багдановічазнаўцы. Так, эпоха савецкай рэчаіснасці патрабавала ад Р. Бярозкіна, М. Грынчыка, іншых вучоных інтэрпрэтаваць і жыццё, і мастацкія творы ў духу гераічных рэвалюцыйных пераўтварэнняў.

Рыгор Бярозкін і ў рускамоўнай працы пра Багдановіча "Человек на заре", і ў беларускім выданні "Чалавек напрадвесні" палічыў патрэбным падкрэсліць, што «фальклорная, алегарычная ладам, паэма Багдановіча многімі сваімі ўласцівасцямі і нават агульным напрамкам думкі "ўпісваецца" ў атмасферу ідэйных пошукаў рускай перадрэвалюцыйнай паэзіі». «Над апошняй паэмай Багдановіча, як ні над адным іншым яго творам, лунае дух горкаўскага рамантызму, горкаўскай прагі подзвігу, да таго ж выяўленых у роднасна-блізкіх формах гераічнай алегорыі, сімвала, песні "безумству храбрых"».

Алег Лойка адзначаў, што "алегарычна-сімвалічны вобраз Страціма станавіўся на парозе рэвалюцыйна-гераічнага эпасу". Такім чынам, ідэйны змест "Страціма-лебедзя" прачытваўся ў святле героікі подзвігу, учынак лебедзя літаратуразнаўцамі тыпізаваўся, апісаныя Багдановічам падзеі прачытваліся шырока – як ліра-эпічнае палатно, паэма.

Паказальна, што нават М. Грынчык, які пры напісанні манаграфіі "Максім Багдановіч і народная паэзія" павінен быў выступаць у параўнанні з іншымі даследчыкамі творчасці Багдановіча найперш як фальклагыст, не ўлічыў тое, што твор увабраў у сябе шматлікія фальклорныя імпульсы. "Страцім-лебедзь" і сваім ідэйным зместам, і жанравымі прыкметамі вырастаў з шырокай фальклорнай асновы. М. Грынчык звязаў тэкст, як і належала, з фальклорнымі запісамі Е. Раманава, бо пісалася, што Максім Багдановіч стварыў свайго "Страціма-лебедзя" на падставе сюжэта "касмаганічнай казкі", запісанай у "Беларускім зборніку" Е. Раманава. Гэтым фактам, зрэшты, абмяжоўваюцца ўсе даследчыкі, спасылкі на зборнік Раманава фігуруюць ва ўсіх працах, прысвечаных М. Багдановічу.

Звернем увагу на тое, як І. Навуменка ўспрымаў Страціма-лебедзя: у «"народным сказе" "Страцім-птушка" аповед вядзецца пра "*неазначаную* птушку"» (вылучана намі. – ***Т. К.***). Багдановіч жа замяніў яе лебедзем, "вобраз прыгожага лебедзя мастацкі ўзмацніў паэтычную задуму". Характэрна, што слова *страцім* і навукоўцы, і шараговыя чытачы разумеюць як неалагізм ад лексемы *страта*, не адчуваючы яго фальклорна-міфалагічнага падтэксту. Спрацоўвае алюзія: сэнсавае напаўненне твора, тое, што птушка загінула, яе "страта", нібыта падказвае разуменне сутнасці назвы птушкі. Аднак такая думка ў корані памылковая! Міфапаэтыка твора М. Багдановіча больш глыбокая. Паспрабуем яе высветліць.

Слова *страцім* прыйшло ў славянскі ўжытак пры перакладзе богаслужбовай літаратуры, пад уплывам перакладных тэкстаў Святога Пісання, у якіх слова *грыф* – невядомая славянам рэалія – было перададзена як *птушка-нага.* Корань слова прачытваецца і як *ног* – *ногаць*, і як *нага* (птушка на вялікай назе). У далейшым гэтая назва трансфарміравалася ў слова *нагуй, нагай.* Пра гэта піша А. Афанасьеў у сваёй знакамітай працы "Поэтические воззрения славян на природу": назва *ног-птушка* з перакладных біблейскіх кніг перайшла ў мову славян, затым у славянскіх казках з'явілася птушка *нагай.* Медыявіст В. Мачульскі ў даследаванні «Историко-литературный анализ стиха "Голубиной книги"», якое ўбачыла свет якраз напрыканцы XIX ст. і магло быць вядома М. Багдановічу, адзначаў, што ў асобных рэдакцыях старажытных усходнеславянскіх духоўных вершаў, у прыватнасці ў "Галубінай кнізе", прадстаўлены і *нагай-птушкі*, і *страцімы*, і іх разнавіднасці: *страхіль*, *страфіль*, *страпіюн*, *струт* і інш. Заўважана, што ў славянскіх паданнях пра Саламона назва птушкі *нага* чаргуецца з назвамі *страфіл*, *птушка астрафільская*, *страцім.* Вобразы міфічнай птушкі *страцім* і тыпалагічна блізкіх ёй, але пад іншымі назвамі, з'яўляюцца вытворнымі ад грэчаскага слова "στροδύος", якім пазначалася птушка *страус.* Цікавасць выклікаюць наступныя факты: назва *нагуй* тлумачыцца славянскім словам *ной*, варыянты гэтага слова ёсць у чэшскай мове *noh*, славацкай *knochta.* У сербаў жа *ной* – гэта *страус.*

Такім чынам, прысутнасць *страціма* ў культуры славянскіх народаў абумоўлена ўплывам шматлікіх сюжэтаў сусветнай культуры, візантыйскіх, індыйскіх, іранскіх паданняў, Талмуда. Блізкай *страціму* можна лічыць і еўразійскага міфічнага паходжання птушку *сімург* – вешчую птушку, здольную вызначаць лёс. Зрэшты, як заўважыў А. Афанасьеў, у старажытных тэкстах пачала сцвярджацца думка пра тое, што *"Страцім-птушка – усім птушкам маці".* Акрамя таго, *Страцімы* – Нага, Нагуй, Ногаць-птушка – з'яўляюцца

незнішчальнымі! Яны валодаюць сілай, вынаходлівыя і трывушчыя. Звязваючы розныя ўзроўні касмаганічнай зоны, верх і ніз Сусветнага дрэва, птушка ў міфах выступае сімвалам жыцця.

Варта нагадаць, што ўвогуле ў міфалогіі *птушка* выступае як "першацар". Яе функцыі – функцыі пасланца Бога. У міфах некаторых народаў другасным дэміургам выступае *арол*. Заўважым, выява арла – у дзяржаўным гербе Расіі, выява *сімурга* выкарыстоўваецца як эмблема Ірана. У гэтых выпадках птушкі сімвалізуюць моц дзяржаўнай улады. Што датычыць Багдановічавага тэксту, то тут апора на іншы сімвалічны сэнс. Лебедзь – увасабленне творчага пачатку. М. Багдановіч ведаў, як выкарыстоўвалі вобраз лебедзя паэты – яго папярэднікі. У прыватнасці, павінен быў быць яму вядомы санет (любімая вершаваная форма Багдановіча!) "Лебедзь" французскага сімваліста Стэфана Малармэ. Птушка лебедзь была запатрабавана ў пісьменніцкай практыцы, каб выконваць функцыі сімвалічнага сцвярджэння верхавенства духоўнага пачатку над іншымі праявамі быцця. Страцім-лебедзь, як у іншых творцаў арол, мог быць выпісаны М. Багдановічам таксама як вобраз другаснага дэміурга. Пры гэтым важна тое, што паэта цікавіў у філасофскім аспекце не сімвал улады як такой. Герой Багдановіча – дэміург-майстар, мастак, ён стваральнік духоўнасці.

У міфах існуе падзел птушак на "добрых" і "дрэнных". У якасці татэмаў выступаюць "добрыя", Божыя птушкі, да якіх залічваюць голуба, лебедзя, бусла. Такім чынам, герой Багдановіча лебедзь можа ўспрымацца як *добры татэм.* Аднак ён мае яшчэ і тую перавагу над іншымі птушкамі, што ён – *белая* птушка. Магчыма, для Багдановіча і гэта было вельмі важным, нараджалася дадатковая метафара, дадатковы сімвалічны сэнс. Беларусь, белы – чысты, святы, цнатлівы.

Вобразы птушак мелі з найдаўнейшых часоў сакральны характар. Можна лічыць, што Страцім-лебедзь у М. Багдановіча спалучае ў сабе функцыі дзвюх птушак, з'яўляецца міфапаэтычным класіфікатарам розных птушкавых кодавых версій. Страцім-птушка ўпісваецца ў адзін тыпалагічны рад з жар-птушкай, фальклорная традыцыя замацоўвае за імі фантастычна выдатныя магчымасці. Прыгадаем, у фальклоры вельмі пашыраны як архетыпавы наступны варыянт сюжэта. Як узнагароду за добры ўчынак – выратаванне дзяцей-птушанят – птушка арол ці ногаць-птушка выносілі героя з падземнага царства на зямлю. Ратуе героя ўзятая ў падземным царстве жывая вада. Вадаплаўныя птушкі – менавіта такая ўзятая ў тэкст Максімам Багдановічам – надзелены асаблівымі здольнасцямі: яны ныраюць, прыносяць з дна ў дзюбе зямлю, з якой нараджаецца тэрыторыя, дзе паўстае новае жыццё. Птушка ў такім разе выступае родапачынальнікам акрэсленай ці закадзіраванай культурнай традыцыі. Украінскі даследчык М. Багдановіча і першы перакладчык яго "Вянка" на ўкраінскую мову М. Драй-Хмара ў артыкуле пра беларускага песняра, напісаным у адраджэнскія 1920-я гг., звяртаў увагу: "Багдановічу ўласцівая была нейкая арганічная вера ў Беларусь як у выказніцу пэўнай культуры".

У фальклорных сюжэтах можна сустрэць і іншыя цікавыя, паказальныя матывы пра птушак, якія ўмеюць плаваць. Яны здатныя "расбурхаць" акіян, прыскорыць ход вады ў рэках. Пад уплывам замежнай міфалогіі ў славян грыф-нагуй надзелены незвычайнай сілай, бо ён мае плоць і звярыную, і птушыную. Ён падымае скарб з глыбіні мора; узняўшыся высока ў паветра, ён выратоўвае героя (казка пра Акіра Прамудрага). У "Галубінай кнізе" нагуй-страцім таксама суаднесены з "морам-акіянам": "Живет стратим птица на океане-море и детей производит на океане-море". На дне мора птушка і есць, і п'е, і плодзіцца. Адсюль вынікае і наша выснова: твор Багдановіча патрабуе аптымістычнага прачытання яго ідэі. Атрыманыя веды з міфалогіі і фальклору дазваляюць разлічваць на выратаванне паэтавага Страціма-лебедзя!!!

Міфапаэтычныя сувязі ў мастацкім творы могуць быць завуаліраванымі, часам падтэкст увогуле свядома скіраваны аўтарамі ў сферу іншых асацыяцый. Што датычыць вобраза лебедзя, то ён заўсёды вызначаецца станоўчымі якасцямі. Страус жа ў далёкіх народаў, напрыклад арабаў, можа быць звязаны з духам хаосу. Аднак ва ўсходнеславянскім уяўленні, як сцвярджаецца ў энцыклапедычным выданні "Мифы и легенды народов мира", пераважае асацыяцыя страуса менавіта з "маці ўсіх птушак" (у казках). Даследчыкі ўпэўнены, што ў хрысціянскай традыцыі страус – "символ тех, кто полагает свою веру в Боге".

У артыкуле пра Рабіндраната Тагора М. Багдановіч выказаў сваё разуменне выкарыстання сімвала ў творчым працэсе пісьменніка. Змест мастацкага прыёму заўсёды павінен быць сімвалічны. Разгадванне, расшыфроўку сімвалаў неабходна скіроўваць на паглыбленне зместу, тэматыкі твораў. Такім чынам, для Максіма Багдановіча сімвал не проста сцвярджэнне дактрыны сімвалізму. Сімвал у беларускага паэта выступае магутнай сувяззю ідэй. Звярнуўшыся да архаічнага міфапаэтычнага матэрыялу – а такім матэрыялам, як вядома, беларускі пясняр цікавіўся асабліва актыўна! – мы можам адкрыць увесь комплекс праблем, якія ўклаў аўтар менавіта ў вобраз Страціма-лебедзя.

Сваім словам пра "Страціма-лебедзя" я заклікаю ўсіх да працягу новага прачытання гэтага выдатнага шматпланавага твора.

*Літаратура ў віртуальнай прасторы*

Уладзімір КОШЧАНКА

# МАКСІМ БАГДАНОВІЧ У ІНТЭРНЭЦЕ

Постаць Максіма Багдановіча заўсёды выклікае пільную ўвагу з боку як літаратуразнаўцаў, так і простых чытачоў. Творчасць паэта шырока прадстаўлена ў школьнай праграме, у навуковай літаратуры, на старонках газет і часопісаў, але зусім не даследаваным застаецца адзін надзвычай важны сёння сегмент чалавечай дзейнасці – інтэрнэт (або сеціва). Інтэрнэт – гэта сучасна, інтэрнэт – гэта адлюстраванне стану таго ці іншага грамадства, інтэрнэт дазваляе вызначыць ступень актуальнасці той ці іншай праблематыкі. У нашым выпадку мы паспрабуем праз прызму інтэрнэту высветліць, наколькі цікавая творчасць М. Багдановіча і яго асоба для сучаснага беларускага грамадства.

Інтэрнэт – магутная крыніца інфармацыі, якую цяжка параўнаць з нечым іншым. Можна нават сказаць, што гэта цэлы віртуальны свет, у якім прадстаўлена ўсё, што мы маем у рэальным: культура, навука, гандаль, каханне, злачынствы… Адметнасць інтэрнэту палягае ў тым, што ён з'яўляецца вольнай прасторай для выказвання і ажыццяўлення ідэй markрознага кшталту і хуткай перадачы інфармацыі ўсім зацікаўленым. Што важна, інтэрнэт не мае геаграфічных межаў і *любы* чалавек мае магчымасць атрымаць *любую* інфармацыю і на *любой* мове. Людзі, выкладаючы інфармацыю ў сеціва, не скаваныя ўмоўнасцямі і абмежаваннямі (калі толькі гэта не крайнасці, што падпадаюць пад крымінальную адказнасць), якія маюць месца, напрыклад, пры напісанні навуковага артыкула ці падручніка для школ.

Сучасны чалавек, каб атрымаць пэўныя звесткі ці прачытаць кніжку, хутчэй пойдзе не ў бібліятэку, а ў сеціва, дзе, апрача атрымання неафіцыйнай інфармацыі, можна скарыстацца паслугамі электронных бібліятэк і архіваў, якія сёння ў беларускім сегменце інтэрнэту хоць і не так моцна развітыя, як, напрыклад, у еўрапейскім ці амерыканскім, але стала развіваюцца. Беларускаму карыстальніку варта зазірнуць на старонку Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі (http://www.nlb.by), беларускай электроннай бібліятэкі "Беларуская палічка" (http://knihi.com), беларускай інтэрнэт-бібліятэкі "Камунікат" (http://www.kamunikat.org), партала беларускіх слоўнікаў і энцыклапедый "Слоўнік" (http://slounik.org) і інш.

Ужо самы першы, павярхоўны, агляд прысутнасці ў сусветнай павуціне асобы М. Багдановіча і яго творчасці прымушае выйсці за рамкі ўласна творчасці паэта і ўзняць значна шырэйшае кола праблем і выклікаў, якія стаяць перад беларускай мовай і культурай у XXI ст. Шмат якія з гэтых праблем не страцілі актуальнасці з часоў жыцця паэта. Такім чынам М. Багдановіч застаецца сучасным не толькі ў плане творчасці, але і ў сацыяльным плане. У гэтым і ёсць сутнасць класіка: адпавядаць любому часу.

Трэба адзначыць, што прадстаўленасць беларускай мовы і літаратуры ў інтэрнэце з'яўляецца важным чыннікам іх выжывання і папулярызацыі. Чаму? Ды вельмі проста: уявіце сабе, які быў бы лёс беларускай мовы, калі б яе не было ў газетах і на тэлебачанні ў XX ст. Парадаксальна, але ў XXI ст., менавіта за час існавання незалежнай Беларусі, беларуская мова амаль знікла са згаданых сродкаў масавай інфармацыі. Каб захавацца сярод жывых моў, яна *мусіць* прысутнічаць у інфармацыйнай прасторы.

Не спрыяе развіццю мовы і стан кнігадрукавання, паколькі ў Рэспубліцы Беларусь на беларускай мове выходзіць нязначны адсотак друкаванай прадукцыі. Так, паводле Міністэрства інфармацыі, у 2010 г. "на беларускай мове выдадзена 951 найменне кніг і брашур накладам 4,0 млн асоб., што ў параўнанні з папярэднім годам менш па назвах на 12,3%, па накладзе – на 24%. Літаратура на беларускай мове займае 8,6% у агульнай колькасці выдадзенай у рэспубліцы выдавецкай прадукцыі і 9,3% у яе агульным накладзе. <…> На рускай мове выдадзена 9461 найменне накладам 37,3 млн асоб., што складае ад агульнай лічбы і накладу 85,7 і 86,5% адпаведна. На іншых мовах – англійскай, нямецкай, французскай, іспанскай, італьянскай, кітайскай, польскай, літоўскай і іншых – выдадзена 682 найменні накладам 1,82 млн асоб., альбо 5,7 і 4,2% ад агульнага аб'ёму выпуску" (http://www.mininform.gov.by/activity/book_trade/publisher/).

Больш падрабязную статыстыку па кнігадрукаванні можна атрымаць на старонцы Нацыянальнага цэнтра статыстыкі друку Беларусі (http://natbook.org.by/by/statdruk.php). Прывядзем толькі агульную статыстыку за апошнія 10 гадоў:

**Выданні на беларускай мове.**

| Год выдання | Колькасць кніг | Наклад (тыс.) |
|---|---|---|
| 2010 | 951 | 4017,5 |
| 2009 | 1084 | 5262,7 |
| 2008 | 879 | 3054,3 |
| 2007 | 952 | 3773,3 |
| 2006 | 827 | 4562 |



***Уладзімір Аляксандравіч Кошчанка*** *– мовазнаўца. Закончыў Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт (1998) і аспірантуру Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (2002). Малодшы навуковы супрацоўнік аддзела лексікалогіі і лексікаграфіі Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі.*

| | | |
|---|---|---|
| 2005 | 992 | 2924,2 |
| 2004 | 920 | 3632,2 |
| 2003 | 857 | 3414 |
| 2002 | 752 | 4236,8 |
| 2001 | 822 | 6565,9 |

**Выданні на рускай мове.**

| Год выдання | Колькасць кніг | Наклад (тыс.) |
|---|---|---|
| 2010 | 9461 | 37 303,2 |
| 2009 | 11 010 | 45 180,3 |
| 2008 | 11 548 | 49 871,8 |
| 2007 | 10 891 | 43 942,5 |
| 2006 | 9966 | 45 045,5 |
| 2005 | 9094 | 35 474,7 |
| 2004 | 6826 | 26 671,9 |
| 2003 | 7804 | 43 425,6 |
| 2002 | 6551 | 38 052,9 |
| 2001 | 6694 | 46 328,7 |

Лічбы яскрава ілюструюць катастрафічную сітуацыю з нацыянальнай мовай, асабліва калі ўлічваць тое, што колькасць выданняў (як па найменнях, так і па накладах) на англійскай і іншых замежных мовах набліжаюцца да беларускамоўных выданняў.

У такой неспрыяльнай сітуацыі інтэрнэт – гэта выратаванне для мовы, паколькі сеціва ёсць адзін з найважнейшых інфармацыйных рэсурсаў нашага часу. Зважаючы на даволі складаную сацыялінгвістычную сітуацыю з беларускай мовай, тым больш цікава прасачыць, наколькі запатрабаванай з’яўляецца адна з ключавых фігур беларускай культурнай прасторы, Максім Багдановіч, у інтэрнэце.

Сеціва цяжка паддаецца вымярэнню і структураванню, таму ўзнікае галоўнае пытанне інтэрнэту: дзе і як шукаць патрэбную інфармацыю? Мы ведаем, як знайсці інфармацыю пра таго ж Максіма Багдановіча ў бібліятэцы: у каталозе. А якім чынам эфектыўна знайсці звесткі ў інтэрнэце?

У першую чаргу – гэта пошукавыя сістэмы і каталогі. Найбольш пашыранымі сярод беларусаў пошукавымі сістэмамі, паводле ўладальніка каталог-рэсурсу ***“Акавіта”*** (http://www.akavita.by) Фёдара Караленкі, з’яўляюцца: амерыканскі пошукавік ***“Google”*** – 34% (http://www.google.by), расійскі пошукавік ***“Яндекс”*** – 32% (http://www.yandex.by), беларускі партал ***“TUT.BY”*** – 23% (http://tut.by). Астатнія рэсурсы маюць агулам 11%*.

Пачынаючы пошук інфармацыі, трэба належным чынам аформіць пошукавы запыт з тым, каб атрымаць найбольш рэлевантную выбарку. У выпадку з М. Багдановічам больш мэтазгодна ўводзіць імя і прозвішча. Пошук варта аформіць наступным чынам: “*Максім Багдановіч*” (двукоссі патрэбныя, каб імя і прозвішча шукаліся разам, а не паасобку).

Калі мы шукаем інфармацыю пра паэта на беларускай або рускай мовах, то не сустракаем вялікіх праблем з перадачай імені і прозвішча сродкамі кірылічнай графікі (*Максім Багдановіч* / *Максим Богданович*), паколькі маем сталую традыцыю напісання імя і прозвішча паэта ў абедзвюх мовах. Сітуацыя ўскладняецца, калі мы паспрабуем знайсці звесткі на іншых мовах, якія карыстаюцца некірылічнымі алфавітамі.

Звычайна ў краінах, што маюць дзяржаўныя мовы з нелацінкавым алфавітам, існуе афіцыйна прыняты варыянт лацінкавай графікі для транслітарацыі не толькі ўласных назваў і імёнаў (у пашпартах, пры складанні геаграфічных картаў і г. д.), але мовы ў цэлым. У Беларусі ж сітуацыя незразумелая: маючы даўнюю традыцыю нацыянальнай лацінкі, сродкі масавай інфармацыі і афіцыйныя органы (за невялікім выключэннем) карыстаюцца незлічонай колькасцю варыянтаў пры перадачы назваў геаграфічных аб’ектаў, імёнаў і прозвішчаў сродкамі лацінскай графікі.

З іншага боку, пэўныя зрухі ёсць: напрыклад, прынята пастанова Дзяржаўнага камітэта па зямельных рэсурсах, геадэзіі і картаграфіі Рэспублікі Беларусь “Аб зацвярджэнні інструкцыі па транслітарацыі геаграфічных назваў Рэспублікі Беларусь літарамі лацінскага алфавіту” (сфера дзейнасці агульнаабавязковая) ад 11.06.2007 г. Засталося толькі, каб гэтая пастанова рэалізоўвалася практычна, хоць бы адносна геаграфічных назваў, з перспектывай распаўсюджання беларускай лацінкі на ўсе сферы**. Дарэчы, у беларускай блогасферы ўсё большую папулярнасць набывае ініцыятыва

* Дадзеныя лічбы былі названы ў прэзентацыі-дакладзе “Ни больше ни меньше. Измеряем Байнет” Фёдара Караленкі на канферэнцыі “Продвижение сайтов в белорусском интернете. Революция”, якая адбылася 17 – 19 лістапада 2010 г. у Мінску. Саму прэзентацыю можна паглядзець па адрасе: http://www.optimization.by/3146/.

** Больш падрабязна з беларускай лацінкай можна азнаёміцца на наступных рэсурсах: http://be-x-old.wikipedia.org/wiki/Лацінка, http://arche.by/by/20/10/1273/Што-ты-ёсць-беларуская-лацінка.htm, http://nicolaev.livejournal.com/76969.html.

"Тыдзень беларускай лацінкі". Акцыя праводзіцца 21 – 27 студзеня. Ініцыятары прапануюць у гэты тыдзень пісаць свае тэксты ў блогах лацінкай.

Але пакуль маем, што маем. Былі знойдзены наступныя варыянты для пошуку: *Максім Багдановіч, Максим Богданович, Maksim Bagdanovich, Maksim Bahdanovič, Maksim Bogdanovich, Maksim Bahdanovich, Maxim Bogdanovich, Maxim Bahdanovič, Maxim Bagdanovich, Maxim Bahdanovich, Maksim Bagdanovič.* Трэба адзначыць, што мы не ўлічвалі варыянты перадачы імені і прозвішча на нямецкую, іспанскую, фінскую і іншыя мовы, што выкарыстоўваюць лацінскую графіку (*Maksim Bahdanovitš, Maksim Bahdanowitsch*…), бо варыянтнасць павышаецца ў разы*. Гэта яскравы прыклад таго, што ўніфікацыя перадачы беларускай мовы сродкамі лацінскай графікі з'яўляецца надзвычай неабходнай, калі мы хочам, каб нашы імёны і назвы пісаліся аднастайна.

Пошук вышэйпрыведзеных варыянтаў дае наступныя вынікі (першая лічба – вынікі пошуку Google, другая – Яндекс; вынікі пошуку на TUT.BY мы не падаём, паколькі TUT.BY карыстаецца пошукавікам "Яндекс"):

*Максім Багдановіч – 57 200 / 15 000*
*Maksim Bagdanovich – 54 300 / 82*
*Максим Богданович – 34 000 / 12 000*
*Maksim Bahdanovič – 8580 / 692*
*Maksim Bogdanovich – 8150 / 537*
*Maksim Bahdanovich – 3200 / 427*
*Maxim Bogdanovich – 1610 / 449*
*Maxim Bahdanovič – 1290 / 21*
*Maxim Bagdanovich – 1240 / 116*
*Maxim Bahdanovich – 881 / 120*
*Maksim Bagdanovič – 286 / 4*

З атрыманай выбаркі відавочна, што Google працуе больш эфектыўна. Высокі адсотак карыстальнікаў Яндекса можна патлумачыць стэрэатыпамі паводзін: з прычыны шырокай распаўсюджанасці рускай мовы, расійскіх СМІ ў Беларусі, слабога ведання замежных моў беларускія карыстальнікі стандартна звяртаюцца да расійскіх рэсурсаў і ў інтэрнэце, хоць вельмі часта гэта не самы эфектыўны спосаб атрымаць поўную інфармацыю. З іншага боку, многія сусветныя рэсурсы маюць інтэрфэйсы не толькі на рускай, але і на беларускай мове, што спрашчае працу карыстальнікаў з Беларусі.

Пры пошуку любой інфармацыі праз Google часта наверсе выбаркі аказваецца ***Вікіпедыя*** – шматмоўная, свабодная інтэрнэт-энцыклапедыя, якая ствараецца ў супрацоўніцтве ахвотнікаў і каардынуецца некамерцыйнай арганізацыяй ***"Фондам Вікімедыя"*** (Санкт-Пецярбург, Фларыда**). Паколькі Вікіпедыя робіцца сіламі добраахвотнікаў, то да інфармацыі, што знаходзіцца на гэтым рэсурсе, варта ставіцца асцярожна і пры патрэбе пераправяраць у іншых крыніцах.

Агульная сітуацыя з беларускай мовай не абышла і гэты папулярны рэсурс, і сёння мы маем дзве беларускія Вікіпедыі: на аснове афіцыйнага правапісу (http://be.wikipedia.org), якая мае 30 263 артыкулаў***, і на тарашкевіцы (http://be-x-old.wikipedia.org) – 34 409 артыкулаў.

Артыкул пра М. Багдановіча найбольш поўна распрацаваны ў Вікіпедыі на тарашкевіцы (http://be-x-old.wikipedia.org/wiki/Максім_Багдановіч). Матэрыял змяшчае наступныя раздзелы: 1. *Біяграфія* (падаецца перыядызацыя); 2. *Сьмерць паэта*; 3. *Зьнешнасьць Максіма Багдановіча* (вытрымкі з розных крыніц); 4. *Творчая спадчына*; 5. *Перакладчыцкая дзейнасьць Максіма Багдановіча*; 6. *Багдановіч і сучаснасьць* (інфармацыя пра вуліцы, музеі, спектаклі, помнікі і г. д.); 7. *Бібліяграфія* (крыніцы тэкстаў, архіўныя дакументы, літаратурная крытыка); 8. *Крыніцы і заўвагі*; 9. *Літаратура*; 10. *Вонкавыя спасылкі* (спасылкі на іншыя інтэрнэт-рэсурсы, на якіх можна атрымаць інфармацыю пра Максіма Багдановіча). Артыкул аздоблены ўрыўкамі з вершаў і фотаздымкамі.

Вікіпедыя таксама змяшчае інфармацыю пра М. Багдановіча на эсперанта, англійскай, башкірскай, іспанскай, лацінскай, нямецкай, польскай, украінскай, фінскай, французскай мовах. Найбольш распрацаваны артыкул на рускай мове. Таксама варта адзначыць, што імя і прозвішча паэта ў артыкулах на англійскай, іспанскай падаюцца беларускай лацінкай, у іншых робіцца транслітарацыя з беларускага варыянта імя і прозвішча (за выключэннем башкірскай, рускай і ўкраінскай).

Дадатковы карысны рэсурс Вікіпедыі – ***"ВікіКрыніцы"***. З артыкула пра Максіма Багдановіча ў Вікіпедыі на ВікіКрыніцы вядуць дзве спасылкі: http://wikisource.org/wiki/Category:Максім_Багдановіч – творы Багдановіча на беларускай мове і пераклады з французскай на беларускую мову і http://ru.wikisource.org/wiki/Максим_Адамович_Богданович – творы на рускай мове і пераклады на рускую мову.

Арыгінал адзінага прыжыццёвага зборніка "Вянок" можна знайсці па адрасе http://asvieta.net/vianok.html.

---

* Таксама параўнайце варыянтнасць у перадачы імёнаў і прозвішчаў некаторых іншых нашых класікаў:

*Янка Купала (Janka Kupala, Janka Kupała, Yanka Kupala);*

*Якуб Колас (Jakub Kolas, Jakub Kołas, Yakub Kolas);*

*Уладзімір Караткевіч (Владимир Короткевич, Uladzimir Karatkievič, Uladzimir Karatkevich, Uladzimir Karatkievich, Uladzimir Karatkevič, Vladimir Korotkevich);*

*Васіль Быкаў (Василь Быков, Vasil Bykaŭ, Vasil Bykau, Vasil Bykov).*

** http://be.wikipedia.org/wiki/Вікіпедыя.

*** Стан на 25.06.2011 г.

Найбольш распрацаваным рэсурсам з'яўляецца сайт, прысвечаны творчасці М. Багдановіча, які можна знайсці па адрасе http://maksimbogdanovich.ru.

Рэсурс выглядае даволі арыгінальна хоць бы з той прычыны, што ён не мае выразнага падзелу на беларускамоўную і рускамоўную часткі: тэкст на абедзвюх мовах можна сустрэць на адной старонцы. Сайт падзелены на лагічныя раздзелы, на якіх варта спыніцца падрабязней:

*Главная*. Раздзел змяшчае спіс твораў пісьменніка, разнесеных па падраздзелах (напрыклад, *Вянок*, *З чарнавых накідаў*, *Стихи, что приписывают М. Богдановичу* і г. д.);

*Биография*. Змешчана даволі падрабязная біяграфія з пазнакай у канцы, што пры падрыхтоўцы тэксту выкарыстоўваліся матэрыялы з сайта Дзяржаўнай архіўнай службы Рэспублікі Беларусь http://archives.gov.by*. На гэтым сайце можна знайсці інфармацыю і пра іншых выбітных асоб Беларусі: http://archives.gov.by/index.php?id=258789;

*Об авторе*. Утрымлівае шэраг артыкулаў розных аўтараў пра творчасць і асобу Максіма Багдановіча, але, на жаль, не прыводзяцца крыніцы, у якіх нататкі ці артыкулы былі апублікаваны;

*Портреты*. Змяшчае фотаздымкі і партрэты М. Багдановіча, яго сям'і і дома, дзе ён нарадзіўся;

*Музеи*. Інфармацыя пра музеі Багдановіча;

*Библиография*. Апісанне выданняў твораў Багдановіча;

*Памятники*. Інфармацыя пра помнікі ў Ялце, Яраслаўлі, Мінску і мемарыяльную дошку ў Ніжнім Ноўгарадзе, а таксама пра помнік бацьку М. Багдановіча.

Цікавым і карысным элементам сайта з'яўляюцца дадатковыя спасылкі (далучаныя да кожнага артыкула) на сайты іншых пісьменнікаў і проста літаратурныя сайты. Сайт, безумоўна, варты ўвагі, нягледзячы на некаторую хаатычнасць у падачы інфармацыі.

Інфармацыю пра Максіма Багдановіча таксама можна знайсці на партале беларускіх слоўнікаў і энцыклапедый ***"Слоўнік"*** (http://slounik.org/search?dict=&search= багдановіч&x=0&y=0). На сайце беларускай электроннай бібліятэкі ***"Беларуская палічка"*** (http://knihi.com/Maksim_Bahdanovic/) размешчаны творы пісьменніка, пераклады на літоўскую, нямецкую і рускую мовы і іншыя матэрыялы. Варта звярнуцца і да беларускай інтэрнэт-бібліятэкі ***"Камунікат"*** (http://www.kamunikat.org/poszuk_kataloh.html?SearchWhat=максім+багдановіч&Search.x=6&Search.y=15). Вялікі падбор твораў размешчаны на сайце ***"Родныя вобразы"*** (http://rv-blr.com/vershu/vershu_poeta/27?col=172).

На сайце ***"Belarus Miscellany"*** ёсць старонка на англійскай мове, прысвечаная М. Багдановічу (http://www.belarus-misc.org/writer/mbogdan.htm), дзе апрача кароткіх звестак пра пісьменніка ёсць пераклады яго твораў на англійскую мову.

Не абышоў увагай М. Багдановіча і папулярны відэа-рэсурс ***"YouTube"***. На старонках гэтага сэрвісу можна знайсці відэа з песнямі на словы Багдановіча і іншыя матэрыялы (http://www.youtube.com/results?search_query="максім+багдановіч"&aq=f ).

З усіх музеяў М. Багдановіча толькі музей у Гродне мае сваю старонку ў сеціве: http://bogdanovich.grodno.by. Адразу бянтэжыць транслітарацыя з рускай мовы ў адрасе сайта: чаму не з беларускай, якой творца прысвяціў сваё жыццё? Змест сайта таксама расчароўвае, паколькі мае мінімум інфармацыі, збольшага гэта пералік лекцый і экскурсій, а таксама прэйскурант, некаторыя старонкі пустыя, хоць сайт створаны ў 2007 г.

Такім чынам, у гэтым артыкуле мы ахапілі ключавыя рэсурсы, прысвечаныя нашаму таленавітаму земляку. Для атрымання больш поўнай карціны раім звяртацца да пошукавага сэрвісу "Google".

Разгледзеўшы рэсурсы, прысвечаныя пісьменніку, лагічна задацца пытаннем, якое мы ставілі на пачатку артыкула: наколькі цікавая творчасць паэта і яго асоба для сучаснага беларускага грамадства?

Колькасць спасылак і цытаванняў дазваляе сцвярджаць, што феномен М. Багдановіча выклікае цікавасць і сёння, але прасочваецца адна заканамернасць: цікавасць да творцы выказваецца збольшага на сайтах асобных людзей, грамадскіх рухаў і арганізацый (ці на рэсурсах, створаных энтузіястамі), пры гэтым на сайтах дзяржаўных устаноў (нават звязаных з культурай і адукацыяй) імя пісьменніка згадваецца збольшага ў сувязі з нейкімі афіцыйнымі мерапрыемствамі. Такую інфармацыю ў асноўным знойдзем на сайце Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь (http://www.kultura.by). На сайце Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь (http://www.minedu.unibel.by) на запыт "*Максім Багдановіч*" атрымліваем 9 вынікаў, якія адсылаюць да метадычных рэкамендацый, планаў. Але, з іншага боку, мы можам смела казаць, што Максім Багдановіч – народны пісьменнік, якога паважаюць, цэняць і любяць менавіта за творчасць.

* На жаль, сайт не мае беларускамоўнай версіі пры наяўнасці англамоўнай – гэта вельмі частая практыка пры стварэнні сайтаў дзяржаўных устаноў.

*Драматургія і час*

# НОВАЯ БЕЛАРУСКАЯ П’ЕСА

## АСАБЛІВАСЦІ СВЕТААДЧУВАННЯ ГЕРОЯЎ

Тэрмін *новая драма* ўпершыню з’явіўся на мяжы XIX – XX стст. і быў звязаны з творчасцю Г. Ібсена, А. Чэхава, А. Стрындберга, Г. Гаўптмана. Драматургія А. Вампілава, А. Валодзіна, А. Арбузава, М. Рошчына – гэта ўзлёт савецкага тэатра ў 1950 – 1970-я гг., саміх жа аўтараў назвалі *новымі драматургамі*. Наступнае пакаленне – Л. Петрушэўская, С. Злотнікаў, А. Галін, У. Арро – увайшло ў гісторыю пад назвай *новая хваля*.

Заснавальнікамі англійскай новай драмы 1990-х гг. справядліва лічацца М. Равенхіл і С. Кэйн. Іх творы шакіруюць безвыходнасцю сітуацый, жорсткасцю і дэпрэсіўнасцю герояў, сканцэнтраванымі і павялічанымі ў разы, каб уздзейнічаць на публіку, бо яе цяжка чым-небудзь уразіць. Лонданскі тэатр “Роял Корт” пры дапамозе пастаянных лабараторый і семінараў сфарміраваў тэхналогію *new writing* (з англ. ‘новае пісанне’). У драматургіі з’явіўся кірунак *verbatim*, што абазначае дакументальнае адлюстраванне рэчаіснасці. Узнік таксама *in-your-face-theatre* (з англ. ‘тэатр вам у твар’), у якім рэзка крытыкавалася еўрапейскае грамадства татальнага спажывання.

Расійская драматургічная рэвалюцыя канца XX ст. вылілася ў тэндэнцыю пад назвай *новая драма*. М. Угараў, М. Курачкін, В. Сігараў, К. Драгунская – няпоўны спіс аўтараў, якія адкрыта загаварылі на табуяваныя тэмы расійскай рэальнасці. На сцэну выйшлі маргінальныя героі з нецэнзурнай лексікай, што адлюстравала болевыя моманты злому дзвюх эпох. У тэатральнай прасторы з’явіліся Тэатр.doc, Цэнтр драматургіі і рэжысуры пад кіраўніцтвам М. Рошчына, тэатр “Практыка”, фестывальны рух “Новая драма”.

Стан польскай драмы рэзка змяніўся пасля 1989 г.: новая палітычная сітуацыя дала магчымасць пісаць пра тое, пра што раней не дазвалялася. Сярод новых драматургаў К. Бізё, П. Юрэк, Я. Клата, М. Медзялеўскі, М. Валчак, П. Дэмірскі, М. Прухнеўскі і інш. Асаблівую ролю ў развіцці найноўшай п’есы іграе варшаўская “Лабараторыя драмы” пад кіраўніцтвам Т. Слабадзянэка. Тут, як і ў расійскіх калег, праходзяць чыткі п’ес, майстар-класы, разгорнутыя дыскусіі пра сучасную драму з удзелам вядомых крытыкаў, а ў рэпертуары тэатра – творы маладых аўтараў.

Беларускі тэатр пасля перыяду папулярнасці гістарычнай п’есы (1990-я гг.) паступова ўваходзіць у фазу хуткага рэагавання на сучаснасць: пачынае размаўляць з гледачом на актуальныя тэмы, ставіць вострыя пытанні, закранаць праблемы, што ўзніклі на ўзмежжы XX і XXI стст. Цэнтр беларускай драматургіі і рэжысуры, створаны ў 2007 г. у Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі, супрацоўнічае з маладымі аўтарамі. Пастаноўка п’ес сучаснай беларускай драмы, правядзенне чытак, онлайн праектаў, майстар-класаў замежных драматургаў і крытыкаў садзейнічаюць прыцягванню аўдыторыі да тэатральнага мастацтва. Актывізаваліся грамадскія абмеркаванні. Размова і праца з гледачом – тое, чаго, на жаль, бракуе сёння айчыннаму тэатру.

У беларускай драматургіі XXI ст. аўтары новай генерацыі імкнуцца асэнсаваць новыя рэаліі жыццёвай прасторы, зразумець хаатычнасць і плюралізм каштоўнасцей, вызначыць месца і значэнне чалавечай асобы ў гэтым свеце. Маладое пакаленне не выстаўляе рахункі мінуламу, а імкнецца адлюстраваць жыццё ва ўмовах зменлівай рэчаіснасці, дзе свет падобны да гіпермаркета, а жыццё людзей у постіндустрыяльным грамадстве ў вялікай ступені вызначаецца іх узаемаадносінамі. Ва ўмовах глабалізацыі чалавек мацней адчуў страчанае яшчэ ў XX ст. цэнтральнае становішча ў свеце, апынуўся ў віры хаосу каштоўнасцей і меркаванняў. Герой беларускай драмы новага пакалення – паняцце неадназначнае, яно не мае канкрэтных межаў і выразных вызначэнняў. Плюралістычны характар постмадэрнісцкага мастацтва нараджае мноства герояў і іх мастацкае раўнапраўе. Аб’ядноўвае іх, тым не менш, адчуванне крызісу чалавечага існавання. Такім чынам, у цэнтры ўвагі найноўшай беларускай драматургіі становіцца герой крызіснага светаадчування.

*Новай хвалі* беларускай драмы паспрыяла перамога драматургаў на Міжнародным конкурсе “Еўразія”. А. Курэйчык у 2004 г. атрымаў трэцяе месца за п’есу “Тры Жызэлі”, разам з ім спецпрыз журы атрымаў і П. Пражко за п’есу “Серпанцін”. Ужо ў 2006 г. колькасць пераможцаў значна павялічылася: М. Рудкоўскі (“Ана і ананас”, “Уварванне”), К. Сцешык (“Сцэны з жыцця”), П. Пражко (“Кэмпінг”), П. Расолька (“Пачваркі”), А. Курэйчык (“Светлы дом”), С. Гіргель (“Масква радыяльная”) увайшлі ў лонг-ліст гэтага конкурсу. У 2007 г. пераможцай стала Д. Балыка з п’есамі “Жыццё ўбогае” і “Гарачая кропка”.

У новай драматургіі выразна акрэсліваюцца два кірункі: *неарэалізм і постдрама*. У новым рэалізме прасочваецца структура арыстоцелеўскай драмы; аўтары імкнуцца апісаць рэчаіснасць пры дапамозе прыёмаў рэалістычнай драматургіі, але пазбягаюць умоўнасцей і метафар, выкарыстоўваючы хутчэй рэальныя факты. Аўтары свабодна карыстаюцца слэнгам і ненарматыўнай лексікай, сумяшчаюць гратэск з трагедыйнасцю, а камічныя сцэны могуць перамяжоўвацца са сцэнамі жорсткасці. Героі – людзі з вострым адчуваннем свету, яны знаходзяцца ў крызісным стане (паміж жыццём і смерцю, на мяжы істэрыкі і суіцыду), балюча перажываюць крызіс каштоўнасцей і ўзаемаадносін у грамадстве XXI ст. Кірунак постдрамы мае дыскрэтную структуру, у якой можа не быць развіцця дзеяння, вострага канфлікту, нават выразна акрэсленых персанажаў. Для яе таксама характэрны нявызначанасць героя, мастацкае раўнапраўе персанажаў, фрагментарнасць слаба звязаных паміж сабой сцэн, нехраналагічная прэзентацыя падзей і ўчынкаў героя, гратэск, пародыя, сімультанная прастора (у адным месцы наяўнасць многіх іншых), іронія, сінхроннасць часу (учора і сёння аднačасова), адсутнасць сістэмы "завязка – кульмінацыя – развязка". Своеасаблівая плынь свядомасці аўтара можа замацоўвацца адзінствам эмацыйнага тону альбо рытмам.

Тэматыкай найноўшай драматургіі становіцца татальная камунікацыйная раз'яднанасць, пачуццё адчужанасці, "зачыненасць" асобы, нестабільнасць эмацыйнага стану, дэпрэсія, спажывальніцтва, крызіс сям'і, гвалт, няздольнасць да самаідэнтыфікацыі.

П'еса **"Жыццё ўдалося"** ***П. Пражко*** пастаўлена М. Угаравым у Тэатры.doc (спектакль атрымаў "Залатую Маску" ў 2009 г.) і Э. Баяковым у тэатры "Практыка" (Расія) аднačасова. Героі твора не сярэднестатыстычныя, а хутчэй усярэдненыя падлеткі. Поп-культура і інтэрнэт-прастора сказілі іх свядомасць, што адлюстравана ў мове герояў. Яны размаўляюць звышкароткімі фразамі, называюць прадмет, але не пранікаюць у ягоную сутнасць. Кліпавая свядомасць стварае аднаскладовую мову, падобную хутчэй да рэкламных слоганаў, чым да прадукту рэфлексійнага мыслення. Некультурнае маўленне перадае тупасць матэрыялізаванай і замбіраванай свядомасці. Гісторыя чатырох маладых людзей: братоў – настаўнікаў фізкультуры і дзяўчат-школьніц – уяўляе з сябе зрэз жыцця. У персанажаў няма ні думак, ні жаданняў, толькі рэфлексы, якія яны спрабуюць задаволіць, мяркуючы, што менавіта гэта патрэбна для шчасця. Яны шчыра лічаць, што іх жыццё "ўдалося"… але шчасця няма, і кахання няма, і фізіялогія радасці не прыносіць. Героі крочаць па жыцці, пакутуюць ад немагчымасці ўсвядоміць саміх сябе і хоць бы неяк выразіць. П. Пражко паказвае жыццё "насякомых", што не маюць волі і рэфлексіі. Рэмарка (з п'есы таго ж аўтара "Зачыненые дзверы") *"і ні аб чым не думае"* падыходзіць ім больш за ўсё. Праз тры месяцы маладыя разыходзяцца, але *"працягваюць разам тусавацца"* – з персанажамі не адбываецца ніякіх змен і пераўтварэнняў характару, як мусіла б быць у класічнай драме. Менавіта ў гэтым трагізм іх сітуацыі.

Спектакль у тэатры "Практыка" – спроба стварыць на сцэне паўнавартасныя вобразы-персанажы. Тэатр.doc пайшоў іншым шляхам – чытка акцёраў па ролях, іх адхіленасць ад тэксту. Калі Э. Баякоў эксплуатуе старую мадэль новай драмы (у аўтарскай рэмарцы герой Вадзім – *"дэбіл"*, і акцёр П. Арцемьеў паказвае менавіта "дэбіла"), то М. Угараў ідзе далей, даказваючы гледачам, што магчымасці сучаснай драмы невычарпальныя. У Тэатры.doc на сцэне расстаўлены крэслы, акцёры сядзяць тварам да гледачоў, без грыму, дэкарацый, з паперкамі ў руках, як на рэпетыцыі. Бо п'еса не пра тое, што вымаўляецца на сцэне, а пра тое, што засталося за дужкамі. Расійскі крытык М. Заёнц піша: «Праблема падобнасці да жыцця М. Угарава ані не хвалявала. І ў гэтым, па-мойму, вялікі прагрэс для "новай драмы". Іх у гэтай п'есе цікавілі не словы (уключаючы нецэнзурныя), а тое, што ўзнікае на іх стыку. Тое, што ў "старой" драме назвалі б падтэкстам, а ў "новай" яшчэ не ведаюць, як назваць. Яны адмовіліся ад дакументальнасці, прыдумаўшы пачаць спектакль з чыткі па ролях, паступова ў яе заглыбляючыся. І гэтае адхіленне ператтварыла ўяўны, усяго толькі дыктафонна дакладны тэкст у факт мастацтва» [1, с. 4].

Вопыт пастановак постдраматычнага тэксту "Жыццё ўдалося" з рознымі стылістычнымі падыходамі і поспех адной і няпоспех другой сведчаць, што такі твор мае ўласную закадаванасць і патрабуе рэжысёрскага ўсведамлення. Тое, як паставіў Э. Баякоў п'есу ў "Практыцы", пацвярджае, што метады псіхалагічнага тэатра аказваюцца недарэчнымі альбо недастатковымі для сцэнічнага ўвасаблення постдрамы.

Рэмарка *"і ні аб чым не думае"* з п'есы **"Зачыненыя дзверы"** працягвае тэму "замбіраванага планктону". Прымяняючы яе практычна да ўсіх герояў не адзін раз, П. Пражко настойвае на няўменні герояў мысліць і рэфлексаваць. Персанажы імітуюць жыццё, не знаходзячы матывацыі для яго паўнавартаснага пражывання. Герой Валера імітуе наяўнасць прыватнага жыцця перад бацькамі: абсалютна чужая дзяўчына іграе роль яго каханай, сам жа ён, як паведамляе рэмарка, *"нічым не зацікаўлены"*. Знаходзячыся

ў кінатэатры падчас прагляду фільма, героі *"разумеюць, бачаць, што смешна, але іх пачуцці не падключаны, фільм не вымушае іх смяяцца"*. Калі ў класічнай драме героі пакутавалі ад непадзеленых пачуццяў, імкнуліся вырашыць канфлікты, змяніць жыццё, то персанажы "Зачыненых дзвярэй" аддаюць перавагу пустэчы. Такі стан дакладна ахарактарызаваў расійскі крытык П. Руднеў, гаворачы пра творчасць П. Пражко і п'есу "Зачыненыя дзверы": "Чалавек у эпоху масавых камунікацый і віртуальнай рэальнасці страціў волю да жыцця і самаўзнаўлення, волю да самарэалізацыі. Ён рэалізуе толькі сваё права і непазбыўнае жаданне заставацца ананімам, нікім, цэлафанам, поўным нулём. Чалавекам, якога немагчыма злавіць ні ў адной сацыяльнай сетцы… Пражко фіксуе ператварэнне мовы ў тэхнічны сродак перадачы безаблічнай, пазбаўленай уяўлення і метафары інфармацыі. Гэта нейкі важны паварот у гісторыі тэатра, які сёння ўсё менш і менш залежыць ад вербальнага, ад логікі прамовы, ад слоў як такіх" [2]. Тэма чалавека, які адвярнуўся ад знешняга свету і не жадае ўдзельнічаць у сацыяльным жыцці, скразная ў драматургіі "нулявых гадоў".

Акрамя П. Пражко за межамі краіны вядомае і імя ***М. Рудкоўскага***. Аўтар іранічна і дакладна перадае інтанацыю зменлівага часу, канстатуе праблемы сучасных рэалій. *"Ана з адной н"* – так называла сябе гераіня п'есы **"Ана і ананас"**, якая не жадала быць адной з соцень тысяч дзяўчат з аднолькавым іменем і ўлівацца ў выразна арганізаваную грамадскую сістэму [3]. Канфлікт чалавека з соцыумам склаў і аснову **"Уварвання"**, дзе існаванне індывіда ў штодзённасці носіць характар вайны. Персанажы п'ес М. Рудкоўскага адчуваюць трагічнасць часу і "невыносную лёгкасць быцця". Яны смешныя, жорсткія і кранальныя адначасова. Героі камедыі **"Усё як вы хацелі"** – закладнікі сучаснай цывілізацыі [3]. Забяспечаныя людзі сярэдняга ўзросту, якія адчуваюць дэфіцыт пачуццяў і недахоп часу на каго-небудзь акрамя сябе. Аўтар, тым не менш, не пакідае іх без надзеі на "выздараўленне": трапляючы на лона прыроды, муж і жонка адчуваюць адраджэнне кахання і спачування адно да аднаго. Прыватная гісторыя робіцца ўніверсальным абагульненнем.

Камедыя **"Дажыць да прэм'еры"** [4] – разумная іронія з шырока распаўсюджаных памятных дат, з карцінкі цывілізацыі, якая змянілася і ў якой немагчыма аднавіць сувязь часоў. Сучасны чалавек не хоча і не можа цягнуць на сабе груз ваеннага мінулага продкаў. Актрыса Вера рыхтуецца да "ваеннай" прэм'еры ў тэатры і прагне ў поўнай меры адчуць і пражыць выпрабаванні гераіні-партызанкі. Яна аддае дарагія касцюмы мужа-бізнесмена за два акрайцы хлеба, якія і падае яму на вячэру. "Баявую" сяброўку яна прымушае адмовіцца ад салярыя і салонаў прыгажосці. Парадаксальная сітуацыя даведзеная да абсурду. Феерычная іронія драматурга здымае налёт сур'ёзнасці, але не адмяняе глыбіні праблем: вайна насамрэч не скончылася, яна проста існуе ў іншых формах. Аўтар стварае вобраз свету ў перакручаным стане, хоць п'еса пры гэтым не характарызуецца пачуццём безвыходнасці.

Новыя творы маладых аўтараў не маюць пазітыўнага "паслання", у іх няма веры, што зло мусіць быць пераможана дабром, няма маралі, традыцыйных каштоўнасцей. Сям'я не выглядае больш апорай: альбо яе ўвогуле няма, альбо яна з'яўляецца крыніцай болю і фрустрацыі. Адзінокія людзі ствараюць рознага кшталту ўзаемаадносіны, хвілінныя і без сапраўдных пачуццяў. Аўтары паказваюць героя, што пазбавіўся ілюзій наконт уласнай натуры, магчымасці змянення жыцця. "Праблемай сучаснай драмы робіцца асоба са складанай псіхікай, якая адчувае сябе загубленай у гэтым свеце", эстэтычная пазіцыя "неўладкаванасці з'яўляецца заканамернай для п'ес маладых драматургаў" [5, с. 158]. П'есы пра маленькага, звычайнага чалавека, на якім закончылася новая драматургія XX ст. (А. Чэхаў і М. Горкі), – менавіта з гэтай кропкі пачынаецца найноўшая драма XXI ст. Адбываецца вяртанне да праблемы асобы, што пакутуе ад камунікацыйнай раз'яднанасці, гвалту, татальнай адзіноты, дэпрэсіўнасці, суіцыдальных схільнасцей.

Беларуская драма, нанова адкрываючы чалавека, стварае вобраз героя XXI ст. – прадыктаваны болевымі кропкамі часу, акрэслены знакам крызісу. Свет распаўся на кавалкі, перастаў быць адзінай структурай выразных каштоўнасцей, менавіта таму крызіснае светаадчуванне герояў драмы адлюстроўваецца ў фрагментарнай структуры. Фрагменты ствараюць карціну чалавечай экзістэнцыі, пачуццяў і траўматычных перажыванняў. Галоўная праблема – у крызісе сістэмы маральных каштоўнасцей, нявер'і ў тое, што яна працуе. *"Мы ўсе няправільна жывём. Хрысціянскія ўстаноўкі нічога не вартыя"*, – гаворыць герой п'есы "Саша" П. Пражко. Гэта прыводзіць да пошуку новай мадэлі светабачання. Крызіс каштоўнасцей нязменна сведчыць пра крызіс адносін. Зразумець іншага перашкаджае мноства абставін: знешнасць, сацыяльнае становішча, веравызнанне, настрой. Адзінота, прычыны якой шукаюць героі, – знакавая тэма драматургіі новай генерацыі. Эгацэнтрызм, спажывецкае стаўленне да іншага, а часам і простае нежаданне затрачваць уласную энергію на кагосьці іншага – прычын насамрэч шмат. *"Самацэнтрычны і эгаістычны, самазадаволены і*

*самасябезабяспечаны”* – так характарызуе сучасніка Д. Балыка ў п’есе “Пупавіна”. Няздольнасць сучаснага чалавека да спачування – гэтую ж тэму ўздымае фінскі драматург П. Сайсія ў п’есе “Бяздушнасць”, дзе сын і бацька не могуць пачуць і пашкадаваць адзін аднаго і ўрэшце калечаць адзін аднаму жыццё.

У творах ***К. Сцешыка*** значнае месца займае тэма ўнутранай адзіноты і пустэчы, нежаданне сучаснага чалавека ўзаемадзейнічаць з навакольным светам, страх перад рэальным жыццём. Яго герой бяздзейны. «Назіраецца разбурэнне стэрэатыпаў героя, што былі сфарміраваны традыцыяй XIX і XX стст.; на змену яму прыходзіць эрыстычны герой, які характарызуецца адсутнасцю сэнсавай вызначанасці “дрэнны – добры”. Такі персанаж ускладніў свой “малюнак”, як псіхалагічны, так і жанравы. Яго псіхалогію адлюстроўвае рэфлексія пачуццяў, ён больш гаворыць і разважае, чым дзейнічае» [6, с. 7]. Тэма непаразумення і адчужанасці робіцца рухавіком сюжэта – пошук, неабходнасць і немагчымасць шчасця пры катастрафічнай раз’яднанасці персанажаў. П’еса **“Мужчына, жанчына, пісталет”** удзельнічала ў шматлікіх чытках як у Беларусі, так і за мяжой, атрымоўвала розныя сцэнічныя інтэрпрэтацыі і стала ўжо знакавай для ўсёй найноўшай беларускай драматургіі. Два яе персанажы – Ён і Яна – сустракаюцца пасля чатырохгадовага расставання. Ён, як аказваецца, ні слова не гаворачы, пакінуў Яе адну ў парку і знік на чатыры гады. Прычынай такога ўчынку стаў унутраны канфлікт героя з самім сабой. *“Мне пуста, усюды пуста”*, – спрабуе растлумачыць свой стан герой. Калі ж гераіня прапануе яму сумеснае жыццё, Ён гаворыць: *“...разам немагчыма! Усё роўна паасобку атрымаецца. Людзі не могуць быць разам, разумееш? Гэта татальная адзінота, абсалютная! Назаўсёды!”* Расчараваны герой не верыць у магчымасць чалавечага яднання і шчасця, бо ў кожнага ўласная сістэма каардынат. Не знаходзячы выйсця з унутранага лабірынта, Ён заканчвае жыццё самагубствам, як і гераіня знакавай англійскай п’есы “Псіхоз 4.40” С. Кейн, якая таксама пакутавала ад унутранай пустаты.

Драматургі, не адкідваючы сацыяльна-палітычных абставін, імкнуцца зазірнуць у псіхіку герояў, у калектыўнае бессвядомае. Адбываецца татальная дэгераізацыя чалавека і пераасэнсаванне тыпа “маленькага чалавека”. Аўтары імкнуцца да глабальнай пераацэнкі чалавека, але пакуль што больш канстатуюць крызісны стан ягонага мыслення. “Маленькі чалавек” у п’есах П. Пражко і П. Расолькі займае асаблівае месца. Востра-сацыяльная тэма набывае маргінальны характар. “Маленькі чалавек” ***П. Расолькі*** азлабляецца, бо адчувае ўласную нікчэмнасць. Грузчык з п’есы **“Справа прынцыпу”** даказвае іншым уласную значнасць шляхам гвалту. У п’есе ёсць два кантрасныя характары: грузчык і мужчына з замашкамі інтэлігента. Другі аказваецца, аднак, не менш жорсткім. Абсалютная абыякавасць да ўласнай жонкі мяжуе з вялікім жаданнем набыць піяніна. Музычны інструмент патрэбны для адчування ўласнай значнасці і індывідуальнасці. Героі пакутуюць ад духоўнай спустошанасці і ўбогасці. Відавочна, што пад тонкім культурным покрывам чалавек аказваецца жывёлай з жывёльнымі інстынктамі і абыякавасцю да іншых, якая нязменна нараджае і агрэсію. Большасць герояў далёка не бяскрыўдныя, а жудасныя ў сваёй жорсткасці ў стаўленні да тых, хто побач.

Абыякавасць, крызіс чалавечых адносін, праблема раз’яднанасці людзей, татальная адзінота, пустэча ў душы, эгаізм прыводзяць да таго, што чалавек, “апускаецца” ў сябе, “закрываецца” ад навакольнага свету, варожага і страшнага. Гэта выяўляецца ў мове драмы шляхам аб’яднання мастацкіх крайнасцей: у п’есах П. Пражко і П. Расолькі нецэнзурная лексіка перамешваецца з філасофска-паэтычнымі выказваннямі.

Гаворачы пра мастацкія вартасці драмы, нельга абмінуць імёны персанажаў. Замест імёнаў драматургі часта даюць героям парадкавыя нумары (“Балівуд” П. Пражко) альбо абстрактныя характарыстыкі – Боль, Страх, Апатыя (“Вечар” П. Расолькі). Чалавек, не маючы ўласнага імя, страчвае індывідуальнасць, нівелюецца сярод масы.

Разарваная, фрагментарная структура новай драмы арыентуецца хутчэй на здарэнне, невялікі выпадак з жыцця, чым на драму ў традыцыйным сэнсе слова. Змест і форма – сведчанне негатыўнага дыягназу сучаснага грамадства, якое чэрпае веды пра свет не з кантакту з іншым чалавекам, а з экрана тэлевізара, з інтэрнэту, прэсы. Калі класікі спрабавалі апісаць рэчаіснасць, то перад сучаснымі аўтарамі ўстае пытанне: “Што ёсць рэальнасць у свеце, дзе існуе гіперрэальнасць?” Гіперрэальнасць нараджае іронію як спосаб дэканструкцыі класічных п’ес.

Іронія ў дачыненні да мінулага дазваляе драматургам канструяваць новую рэальнасць на базе ўжо існага тэксту. Мінулае не адмаўляецца, а перайначваецца для ўвасаблення аўтарскіх ідэй. У п’есе **“Вішнёвы сала”** ***А. Карамышава*** (па матывах “Вішнёвага саду” А. Чэхава) ёсць спроба перанесці знаёмых герояў непасрэдна ў XXI ст. У драматурга няма патрэбы ў пераасэнсаванні класікі, ён гуляе з яе формай. Ранеўская-Уокер становіцца грамадзянкай ЗША, Лапахін –

новым рускім, Епіходаў – міліцыянтам, Гаеў – студэнтам-алкаголікам, а Трафімаў дык і зусім бамжом. Знакавая фігура створанай драматургам рэальнасці Гаеў, які есць сала з вішнёвым варэннем.

Дэканструкцыя класічнага твора, аднак, не стварае новых сэнсавых значэнняў, яна канстатуе факт адсутнасці новых ідэй, хоць разам з тым служыць пазбаўленню ад стэрэатыпаў успрымання класічнага твора.

Найноўшая драматургія адлюстроўвае крызісны стан чалавечай свядомасці і ўзаемаадносін, стварае вобраз свету, у якім плюралістычная ісціна прыводзіць герояў да светаўспрымальніцкага тупіка, канстатуе крызіс гуманнасці ў грамадстве XXI ст. Нельга сказаць, што аналізаваныя п'есы сталі цалкам новым і адметным словам у драматургічным мастацтве, але яны, безумоўна, садзейнічаюць яго моўнаму і тэматычнаму абнаўленню.


**Спіс літаратуры**

1. **Зайонц, М.** Улица корчится безъязыкая / М. Зайонц // Итоги. – 2009. – № 4.
2. **Руднев, П.** Новая драма № 10 : Павел Пряжко. Закрытая дверь / П. Руднев // Литературно-философский журнал "Топос" [Электронный ресурс]. – 2010. – Режим доступа : http://www.topos.ru/article/7237. – Дата доступа : 22.06.2010.
3. **Современная драматургия.** – 2006. – № 4.
4. **Современная драматургия.** – 2010. – № 1.
5. **Русскоязычная литература Беларуси конца XX – начала XXI века** : сборник научных статей / редкол. С. Я. Гончарова-Грабовская, И. С. Скоропанова, У. Ю. Верина; БГУ, филфак. – Минск : Респ. институт высшей школы, 2010.
6. **Хрестоматия по современной русской драматургии** (конец XX – начало XXI века) : учеб. пособие / авт.-сост. С. Я. Гончарова-Грабовская. – Минск : БГУ, 2002.



**Крысціна СМОЛЬСКАЯ,**
аспірантка Беларускай дзяржаўнай
акадэміі мастацтваў.


*Артыкул рэкамендаваны да друку доктарам філалагічных навук С. Лаўшуком.*

*Літаратурнае пабрацімства славян*

# ПАЭТЫЧНАЯ МІНІЯЦЮРА Ў СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ І СЛАВАЦКАЙ ЛІТАРАТУРАХ

Апошнім часам беларускія літаратуразнаўцы і крытыкі звяртаюць увагу на тое, што сучасная айчынная проза адыходзіць ад буйных эпічных форм і аддае перавагу малым жанрам. Інтэнсіўна распрацоўваецца апавяданне, эсэ, казка, прыпавесць. Сучасны раман паступова відазмяняецца і ўсё часцей нагадвае расцягнутую аповесць. Стварадь шырокае эпічнае палатно намагаюцца толькі адзінкавыя пісьменнікі, што яшчэ больш кантрастуе з агульнай тэндэнцыяй да лаканічнага мастацкага выяўлення.

Тэндэнцыя, якая абазначылася ў сучаснай прозе, прасочваецца таксама ў паэзіі. Вядома, што паэзія ў фармальных адносінах больш гнуткая і з цяжкасцю паддаецца жанравай дыферэнцыяцыі. Выключэнне складаюць мастацкія творы, якія змяшчаюць пэўную жанравую зададзенасць: напрыклад, паэт непасрэдна перад стварэннем санета (трыялета, рандэлі, актавы, секстыны, рандо, глосы, туюга, рубаі, айрэна, хоку, танку) усведамляе кананічныя патрабаванні *жанру*. Часта аўтар сам указвае на жанравую прыналежнасць свайго твора і такім чынам рыхтуе рэцыпіента да ўспрымання адпаведнага канона. Але пры аналізе паэтычнай спадчыны часцей гавораць пра *віды* верша (наяўнасць рознай рыфмоўкі і рыфмы, рознай колькасці радкоў, рознага рытму, метра і г. д.). Від не прадугледжвае кампазіцыйнай дакладнасці ці строгіх суадносін паміж рыфмаставральнымі кампанентамі. Жанр з'яўляецца больш жорсткай структурай, якая ў тым ліку рэгулюе і аб'ём твора. Від вызначае пэўныя фармальныя патрабаванні, якія зрэдку ўплываюць на аб'ём.

Чаму ў апошнія дваццаць гадоў назіраецца тэндэнцыя да больш сціслага мастацкага выказвання? Змены ў сацыяльна-палітычным і культурным жыцці краін былога сацлагера прама ці ўскосна паўплывалі на ўзмацненне асабовага пачатку ў мастацтве, якое ў постсавецкую эпоху паступова пакідае народную трыбуну і становіцца прыватнай справай. Зрэшты, ідэі постмадэрнізму, якія не толькі адмаўляюць індывідуалізм, але і сам факт аўтарства (знакамітае бартаўскае "смерць аўтара"), не сталі ключавымі ў сучасных беларускай і славацкай літаратурах. Навідавоку суб'ектывізм і распрацоўка індывідуальных мастацкіх практык. Нездарма авангард у 1990-я гг. карыстаўся надзвычайнай папулярнасцю сярод літаратараў. Суб'ектывізм апошніх дзесяцігоддзяў – гэта ў першую чаргу лагічная рэакцыя на сацрэалістычнае "мы". Адмаўленне набыткаў сацрэалізму ў пэўны момант мела большае значэнне, чым сцверджанне постмадэрнісцкай эстэтыкі. Таму ўзмацненне асабовага пачатку ў нацыянальных літаратурах

памежжа XX – XXI стст. варта звязваць менавіта з імкненнем аспрэчыць пазіцыю сацрэалізму ў дачыненні да мадэрнізму і авангарду, якія ім асуджаліся і не прымаліся. Індывідуалізм як неад'емны складнік вышэйпазначаных мастацка-эстэтычных сістэм таксама быў пазбаўлены статусу легітымнасці.

Адыход ад эпічнай панарамнасці, сэнсавая насычанасць, увядзенне розных культурных кодаў спрыяюць больш сцісламу мастацкаму выказванню. З іншага боку, мініяцюрныя паэтычныя формы інтэнсіўна пачалі распрацоўвацца ў межах авангарду першай паловы XX ст. Калі ўлічыць той факт, што авангардысцкая эстэтыка ў 1990-я гг. была запатрабавана, то, вядома, была актуалізавана і яго папярэдняя практыка.

Не менш істотным з'яўляецца працэс пашырэння інфармацыйных тэхналогій. Рускі паэт А. Вярніцкі і крытык Р. Цыплакоў у артыкуле "Шэсць складоў пра галоўнае" наступным чынам тлумачаць сувязь жанру *танкеткі* (адносна новы жанр рускай паэзіі, тэарэтычна і практычна распрацоўваецца А. Вярніцкім) з сучасным інфармацыйным полем: "Танкеткі выяўляюць уражлівае падабенства з рэкламнымі слоганамі і нават – з абрыўкамі побытавых размоў, з SMS, з паведамленнямі на пэйджар. Можна выказаць здагадку, што ўсё гэта выклікае ў сучаснага чалавека цягу да лаканічных, чаканых, хутка вымаўляемых твораў славеснага мастацтва" [5, с. 157].

Інфарматызацыя грамадства з выкарыстаннем радыё, тэлебачання, інтэрнэту, традыцыйных і электронных СМІ за апошнія некалькі гадоў пераўзышла ўсе магчымыя чаканні. Добра гэта ці дрэнна, але сёння мы вымушаны лічыцца з якасна новым вектарам развіцця нашай цывілізацыі. Літаратура рэагуе на такую сітуацыю шляхам сэнсавага "сціскання", "сканцэнтраванасці" ў параўнальна невялікім аб'ёме: няма больш часу і месца для разгорнутага тлумачэння, для панарамнага і апісальнага, для прадмовы і пасляслоўя; паэт павінен пачаць з самага галоўнага і скончыць самым галоўным без магчымасці нават расставіць знакі прыпынку.

Тэндэнцыя да лаканічнасці, якая ўсё больш яскрава акрэсліваецца ў сучаснай літаратуры, наўрад ці можа быць патлумачана адназначна. Назіраецца ўзаемаперапляценне фактараў як унутрылітаратурных, так і агульнакультурных, і нават агульнацывілізацыйных. Сярод іх найбольш істотнымі нам падаюцца наступныя: узмацненне суб'ектыўнага пачатку, актуалізацыя авангардысцкай паэтыкі, пашырэнне інфармацыйных тэхналогій.

Для сучаснай айчыннай паэзіі было сімптаматычным з'яўленне кнігі **"Круглы год"** (1996). Гэты зборнік танку і хоку, створаных беларускімі паэтамі (М. Танкам, У. Арловым, У. Сцяпанам, У. Сіўчыкам, А. Глобусам, М. Клімковічам, В. Шніпам, А. Антонавым, М. Шайбаком), выклікаў неадназначныя водгукі. Напрыклад, Н. Гілевіч вельмі скептычна паставіўся да яго. А. Бязлепкіна зазначае, што "калі наш паэт піша хоку – ён перасаджвае ўсходнюю кветку на непадрыхтаваную глебу" [4, с. 86]. Зрэшты, нас цікавіць сам факт звароту да малых вершаваных жанраў. Ён быў невыпадковым. У 1990-я гг. назіраецца тэндэнцыя да эксперыментатарства, а засваенне нацыянальнай літаратурай экзатычнага жанру – гэта і ёсць спроба абнавіць яе на фармальным узроўні. Адначасова з'яўляюцца аўтарскія паэтычныя мініяцюры: "жарынкі" А. Мінкіна, "ілюмінацыі" Ю. Барысевіча, "марскія шпількі" Г. Ціханавай, "антырымы" А. Хадановіча, "адзор'і" К. Камейшы, новыя пункціры і квантэмы А. Разанава.

Адзін з апошніх зборнікаў "Воплескі даланёю адною" А. Разанава складаецца з пункціраў, тэматычна сугучных прыроднаму кругазвароту: вытрымліваецца цыклічнасць вясна – лета – восень – зіма. Творы скіраваны на сузіральна-філасофскае ўспрыманне рэчаіснасці, шырока выкарыстаны гукапіс (*"Лес весялее: / вясна / вясткуе аб наваселлі"*) [7, с. 6], адухаўленні (*"Поле ўзарана: / ідзе з сяўнёю / снегу зіма"*) [7, с. 70], метафарычныя супастаўленні жывой і нежывой прыроды (*"Агністая – / да камля / лістота памкнулася: / ах, вавёрка!.."*) [7, с. 44] ці прыроды і чалавечай матэрыяльнай культуры (*"Спёка: / у сонца / павелічальнае шкло"*) [7, с. 25]. Пункціры і квантэмы А. Разанава сталі першымі прадвеснікамі тэндэнцыі да лаканізму мастацкага выяўлення. Невыпадкова ў апошнюю трэць мінулага стагоддзя з'явілася шмат даследаванняў, прысвечаных творчасці гэтага паэта. І, бадай, да сённяшняга часу А. Разанаў успрымаецца як заканадаўца "моды" на паэтычную мініяцюру.

Віктар Шніп у зборніку **"Проза і паэзія агню"** (2010) змяшчае некалькі вершаваных цыклаў, якія складаюцца з твораў малога фармату: "Божыя кароўкі", "Час", "Вяртанне". Па структуры і сэнсавых акцэнтах яны вельмі блізкія. Па-першае, цэнтральны вобраз, абазначаны ў назве (божая кароўка, час, вяртанне), з'яўляецца пунктам адліку для кожнага міні-верша. Ён разгортваецца ў самых розных праекцыях: рэлігійнай (*"Божыя кароўкі – гэта кроплі крыві / З-пад цярновага вянка / Што на галаве ў Хрыста"*) [9, с. 265], філасофскай (*"Пыл вяртаецца на траву / І дарога за тваёй спіной / Як трэшчына ў часе / Па якой не ўсе / Вяртаюцца"*) [9, с. 308 – 309], сузіральнай (*"Па шыбе паўзе / Божая кароўка / Як па возеры застылым / Восеньскі ліст плыве"*) [9, с. 265]. Фрагментарнасць цыклаў пераадольваецца за кошт увядзення вобраза, які аб'ядноўвае асобныя часткі. Па-другое, аўтар пазбягае знакаў

прыпынку, члeніць радок на найменшыя сінтаксічныя адрэзкі, карыстаецца паўторамі.

Серж Мінскевіч рэпрэзентуе ў сучаснай беларускай літаратуры авангардысцкую і постмадэрнісцкую плыні. Яго эксперымент з формай, гукавым і семантычным патэнцыялам слова дае падставу для абазначэння яго твораў як "вершамовы". Сапраўды, С. Мінскевіч у першую чаргу працуе з самой мовай, якая з'яўляецца для яго крыніцай новых вобразаў. Побач з камбінаторнай паэзіяй аўтара, якая звычайна невялікага аб'ёму, прысутнічаюць таксама лаканічныя і сэнсава насычаныя творы. Парадаксальнасць, нечаканасць створаных ім вобразаў падводзіць да сцісласці выказвання, бо вядзецца падвойная работа: з аднаго боку, разбураецца традыцыйна прынятая асацыятыўнасць, з іншага боку, прапануецца на першы погляд немагчымае сумяшчэнне пэўных вобразаў у адным радку. С. Мінскевіч стварае "цяжкія" паэтычныя творы, прызначаныя для "глыбокага" прачытання: *"Хачу крывой шабляй хрыбта / Ўспароць бруха лядашчай ночыцы / І зорнаю кроўю напіцца..."* [6, с. 28]; *"Ноч – зіма дня / Ты спрабуеш змахнуць / срэбнымі далонямі / сьнег паўночнага сьвятла / Але веі твае / таксама яго промні"* [6, с. 31]. У трохрадковіку "Сялянка" эпіграфы складаюць палову аб'ёму самога твора і з'яўляюцца ключом да яго "правільнага" прачытання.

Не менш эксперыментатарскім з'яўляецца праект Людкі Сільновай, увасоблены ў зборніку **"Рысасловы"**, дзе паяднаны графіка і слова.

Выяўленне сэнсава нагружаных прадметаў рэчаіснасці – каласоў, кола, валошкі, яблыка, дрэва – скіравана на актывізацыю асацыятыўных здольнасцей рэцыпіента. Каласы жыта, кола як сімвал неўміручасці, валошка як сімвал прыгажосці – усё гэта дапамагае стварыць цэласны вобраз жыцця. У другім "рысаслове" абыгрываецца біблейскі матыў выгнання Адама і Евы з Раю. Сцісласць твораў выяўляецца ў выкарыстанні мінімальнай колькасці выяўленчых (кола, колас, валошка, яблык, дрэва) ці слоўных (літарных) [жыццё, яблык, *М* (мама – жаночы пачатак, Ева), *Т* (тата – мужчынскі пачатак, Адам)] кампанентаў.

Прадстаўнікі маладога пакалення Віктар Жыбуль і Вера Бурлак у зборніку **"Забі ў сабе Сакрата!"** (адзначым, кніга малога фармату) змяшчаюць іранічныя міні-вершы, манавершы і нават пародыі на асобныя цвёрдыя формы: "Туюг экалягічны", "Туюг багемны", "Туюг застольны", "Трыялет-брахікалян", "Трыялет". Камічны эфект, пабудаваны на кантрастах, набліжае творы да анекдота, хоць адсутнічае фабульная аснова: «*На правадох электрык павіс. / Тырчыць адвёртка з ілба. / І думаеш, бачачы гэты эскіз: / "Наша жыццё – барацьба"*» [3, с. 6].

Асаблівай увагі патрабуе феномен маўчання ў сучаснай айчыннай паэзіі. Фармальнае яго выражэнне выяўляецца ў выкарыстанні шматкроп'я ці паступовым "змаўканні" лірычнага выказвання. Паказальнай, напрыклад, з'яўляецца "Паэма" Рыгора Барадуліна (*"Мне цябе не стае / Тае..."*) [2, с. 94], дзе апошні радок нагадвае рэха папярэдняга. Падобнае знаходзім у творчасці беларускай паэткі з Беласточчыны Надзеі Артымовіч. Слоўную тканіну разрываюць шматкроп'і і запаўняюць яе пустэчамі: *"з вуліц / з зямлі / з неба / з ... / з пекла / ... і прадчуванняў / ... / ... / ... / мой верш"* [1, с. 18]. Маўчанне становіцца больш красамоўным, чым слова. Ужыванне няпоўнай сінтаксічнай канструкцыі, адсутнасць якой-небудзь метафорыкі, знакаў прыпынку кампенсуюцца абсалютнай цішынёй. І. Штэйнер, аналізуючы творчасць А. Разанава, слушна заўважае: "Паэзія нешта прынцыпова іншае, чым размова; яе карані ў цішыні. Слова, народжанае маўчаннем і розумам, сапраўднае, у адрозненне ад слова, народжанага словам..." [10, с. 38].

Жанр хоку распрацоўваецца таксама ў межах сучаснай славацкай паэзіі (Д. Гэвіер, Я. Замбар, Т. Кочык, П. Рэпка, Я. Штрасар, К. Хмел), што, вядома, нельга разглядаць толькі як выпадковасць. З аднаго боку, гэта тлумачыцца імкненнем да фармальнага абнаўлення, напрыклад праз засваенне іншанацыянальнага літаратурнага вопыту. З іншага боку, хоку як узор мастацкага лаканізму адпавядае агульнай тэндэнцыі да сцісласці выказвання.

Верлібр з'яўляецца асноўным відам верша сучаснай славацкай паэзіі, увядзенне і замацаванне якога звязваюць з фармальнымі эксперыментамі славацкага авангарду (надрэалізму) першай паловы ХХ ст. Рыфмаваныя, метрычна і страфічна арганізаваныя творы сустракаюцца даволі рэдка (М. Руфус, З. Солівайсава, Я. Бузашы), слаба прадстаўлена таксама жанравая сістэма. Верлібру не ўласцівы строгі фармальны рэгламент, у тым ліку адсутнічаюць абмежаванні ў аб'ёме. Таму паэтычныя мініяцюры сучаснай славацкай літаратуры – гэта невялікія верлібры, дзе сцісласць кампенсуецца сэнсавай насычанасцю. Прыкметна таксама тое, што яе прадстаўнікі не імкнуцца да стварэння аўтарскіх жанраў міні-паэзіі (як, да прыкладу, гэта назіраецца ў беларускай літаратуры). Асобныя паэтычныя мініяцюры ўключаны ў агульную канцэпцыю зборніка ці цыкла, дзе не фармальны прынцып з'яўляецца аб'яднаўчым, але ідэйна-мастацкі. Як ужо вышэй адзначалася, менавіта пашырэнне верлібра паспрыяла таму, што ў сучаснай славацкай паэзіі амаль адсутнічае жанравая дыферэнцыяцыя, і з гэтай жа прычыны, верагодна, адсутнічаюць аўтарскія жанры.

Паэтка Катарына Куцбелава ў зборніку **"Парны лік"** скарыстоўвае прыём "люстра", калі наступны радок ці страфа сэнсава і фармальна "адбіваецца" ад папярэдняга. Паўтараюцца вобразы, словы, сінтаксічныя канструкцыі, але ў іншым ракурсе (змяняецца склонавая форма, парадак слоў, пераўтвараюцца часціны мовы і г. д.), што дае магчымасць ускрыць іншы сэнсавы пласт. І калі ў большых творах гэты прыём дапаўняецца аксюмаранам, антытэзай, разгорнутай метафарай, параўнаннямі, то ў міні-вершах ужываецца толькі ён адзін: *"выявіцца пры дапамозе: / быць пры дапамозе: / вызначыцца пры дапамозе: / :дапамогай сябе выявіць / :дапамогай быць / :дапамогай сябе вызначыць"* [11, с. 99]. Такім чынам, паэтычныя мініяцюры ў сціслым выглядзе дэманструюць аўтарскую мастацкую канцэпцыю, яе квінтэсэнцыю.

Карал Хмел, які распрацоўваў жанр хоку на славацкім матэрыяле, у пазнейшых зборніках аддае перавагу выкарыстанню менавіта невялікіх форм. Верш "Лі Чхен" са зборніка **"Спрэй, сіні менталітэт"** (1998) цесна звязаны з паэтыкай хоку: *"беласнежны часнок / залатая цыбуля / пасля ночы прыйшоў дзень"* [11, с. 75]. У верлібрах "З дзённіка III", "Гадзіны, гады", "Анёлы, гады", "Калаж, гады", "Amnesty international", "Інфільтрацыя ў карты", "Ноч", "Застаецца", "Скепсіс" вытрымліваецца прапорцыя, калі ў адносна невялікі аб'ём укладаецца сэнсавы максімум. Напластаванне вобразаў, нарастанне эмацыянальнай напружанасці, а таксама скіраванасць на філасафічнасць і самарэфлексію надаюць драматычную афарбоўку яго творам.

Вера Прокешава ўвайшла ў сучасную славацкую літаратуру як стваральніца чыстых і простых вобразаў, яе паэзія вырастае з занатавання пэўнага моманту ці дробнай дэталі рэчаіснасці. Празрыстасць паэтычнай тканіны, адсутнасць складанай метафорыкі, вобразная ашчаднасць вымагае адпаведнага фармальнага выяўлення. Аўтар скарыстала найбольш адэкватную форму мастацкага выказвання: восем – дзесяць радкоў. З аднаго боку, яна пазбягае "экстрымальнага" лаканізму, які ўласцівы, напрыклад, хоку, рубаі, манавершу. З іншага боку, паэтцы рэдка патрабуецца больш за дзесяць радкоў. У зборніках **"Скура"** і **"Ланцужок"** В. Прокешава дэманструе ўдалае спалучэнне лапідарнасці і лірычнай сугестыўнасці.

Міла Гаўгава звяртаецца як да вялікіх вершаваных форм, так і да малых; выкарыстоўвае цыклізацыю ("Прасвятло", "Вузел, матузок", "Маскі мёртвых", "Дзённікі расліннага свету" і інш.). Лаканізм асобных твораў кантрастуе з разгорнутасцю іншых. Але менавіта ў сціслым паэтычным выказванні паэткай дасягаецца максімальны эстэтычны эфект: асноўная мастацкая думка якраз канцэнтруецца ў мінімалістычнай форме. Напрыклад, у вершы "Чыстыя дні" выкладзена, па сутнасці, мастацкая канцэпцыя аднайменнага зборніка: *"Мароз працякае краінай. / Зоркі неаднолькава свецяць. / Жанчына перакрочыць мёртвага мужчыну / і ідзе за каханнем"* [12, с. 57]. Гэта споведзь аўтара, дзе асабістая трагедыя пражываецца ў лірычнай плоскасці.

Малыя страфічныя канструкцыі на сучасным этапе развіцця славацкай паэзіі найбольш паслядоўна прадстаўлены таксама ў творчасці А. Пасцера (зб. "Плот"), М. Групача (зб. "Цудоўная ноч у Парыжы"), Л. Бендзака (зб. "Занатоўкі з чужога дома"), Я. Бенявай (зб. "Баяцца святла"), М. Гаталы (зб. "Біяграфія штодзённасці"), Ст. Хробакавай-Рэпар (зб. "Пасля агульнай зімы"), Р. Юралека і некаторых іншых паэтаў.

Паступовае замацаванне пазіцый лаканічнага спосабу мастацкага выяўлення ў сучаснай беларускай і славацкай паэзіі сігналізуе аб жанрава-стылёвай яе пераарыентацыі і скіраванасці на пошук альтэрнатыўных форм мастацкага выказвання. Паэтычная мініяцюра як прыклад такой тэндэнцыі на сённяшнім этапе развіцця абедзвюх нацыянальных літаратур застаецца адной з самых запатрабаваных форм рэалізацыі аўтарскай задумы.

**Спіс літаратуры**


1. **Артымовіч, Н.** Адплывае спакойнае неба / Н. Артымовіч. – Мінск; Беласток : Праграм. рада тыднёвіка "Ніва", 1999. – 68 с.

2. **Барадулін, Р.** Босая зорка / Р. Барадулін. – Мінск : Беларус. тав-ва "Кніга", 2001. – 176 с.

3. **Бурлак, В.** Забі ў сабе Сакрата! / В. Бурлак, В. Жыбуль. – Мінск : Галіяфы, 2008. – 95 с.

4. **Бязлепкіна, А. П.** Разам і паасобку: Таварыства "Тутэйшыя" / А. П. Бязлепкіна. – Мінск : Беларус. кнігазбор, 2003. – 163 с.

5. **Верницкий, А.** Шесть слогов о главном / А. Верницкий, Г. Циплаков // Новый мир. – 2005. – № 2. – С. 153 – 158.

6. **Мінскевіч, С.** Я з "Бум-Бам-Літа" / С. Мінскевіч. – Мінск : Выд. І. П. Лонгвінаў, 2008. – 294 с.

7. **Разанаў, А.** Воплескі даланёю адною / А. Разанаў. – Мінск : Логвінаў, 2010. – 143 с.

8. **Сільнова, Л.** Рысасловы / Л. Сільнова. – Полацк : Полац. ляда, 1994. – 35 с.

9. **Шніп, В.** Проза і паэзія агню / В. Шніп. – Мінск : Маст. літ., 2010. – 318 с.

10. **Штейнер, И. Ф.** Кому без человека нужно слово / И. Ф. Штейнер. – Минск : Книгосбор, 2008. – 59 с.

11. **Antológia súčasnej slovenskej poézie** / zost. P. Milčák. – Warszawa, 2006. – 203 s.

12. **Haugová, M.** Čisté dni / M. Haugová. – Bratislava : Smena, 1990. – 72 s.



**Ганна АЛЕКСЯЕВІЧ,**
аспірантка кафедры славянскіх літаратур БДУ.



*Артыкул рэкамендаваны да друку доктарам філалагічных навук прафесарам І. Чаротам.*

# МОВЫ РЫСЫ НЕПАЎТОРНЫЯ

*Віншуем!*

## ЧАЛАВЕК – ВЫСОКАЯ ПАСАДА

### СЛОВА ДА ЮБІЛЕЮ НАСТАЎНІЦЫ



**Ніна Васільеўна Гаўрош.** Мудры, далікатны педагог. Дасведчаны, высокакваліфікаваны навуковец. Малады душой, сучасны чалавек. Шчырая, клапатлівая жонка, маці, бабуля. Кніжніца. Руплівіца. Навек заручаная з працай.

Гартаем старонкі яе жыццёвай кнігі…

На карэліцкай зямлі ў жнівеньскую спёку нарадзілася Ніна. Сям'я ўзорная: дзяды, бабулі, бацька, маці – людзі сумленныя, справядлівыя. Галоўны арыенцір – праца. Яна ніколі не здрадзіць, яна і радасць памножыць, і бяду дапаможа адолець. Так вучыла сваю дачушку мама Вольга Лукінічна, слынная льнаводка, мужная жанчына, ардэнаноска, Герой Сацыялістычнай Працы.

Час і падзеі не заўсёды былі ласкавыя да Ніны Васільеўны. Дзяцінства і юнацтва яе прыпалі на ліхія ваенныя і няпростыя пасляваенныя гады. Перажыванні, стрэсы адбіліся на здароўі дзяўчыны. Кволенькая, невысокага росту, худзенькая, яна мела, аднак, тое, што робіць чалавека Чалавекам, – моцную душу.

Цяга да ведаў, імкненне спасцігнуць таямніцы жыцця, светлы розум прывялі Ніну Гаўрош у Навагрудскае педагагічнае вучылішча. Пазней была яшчэ вучоба (і педінстытут, і аспірантура), але, па словах Ніны Васільеўны, менавіта ў педвучылішчы яе падрыхтавалі да самастойнага жыцця. Вучоба ў Мінскім педагагічным інстытуце запомнілася найперш дзякуючы яркім выкладчыкам, шчырым сябрам (дарэчы, многія аднакурснікі Ніны Васільеўны звязалі свой лёс з навукай). Ужо ў студэнцкія гады праявіліся ў дзяўчыны здольнасці даследчыка. Аналітычны розум, уменне бачыць перспектыву, любоў да роднай мовы, грамадзянская сталасць вылучалі яе сярод іншых. Таму – зусім заканамерна – была вучоба ў аспірантуры, была паспяховая абарона кандыдацкай дысертацыі “Намінатыўныя сказы ў сучаснай беларускай літаратурнай мове” (навуковы кіраўнік М. Жыдовіч).

І пачалася выкладчыцкая праца. Адказная, няпростая, але такая мілая сэрцу Ніны Васільеўны. 40 гадоў яна працавала на кафедры беларускага мовазнаўства МДПІ імя А. М. Горкага (цяпер БДПУ імя Максіма Танка). Гэта былі плённыя, выніковыя, насычаныя падзеямі і набыткамі гады: шматлікія навуковыя семінары, канферэнцыі, пасяджэнні метадычных аб'яднанняў, алімпіяды; зборнікі навуковых артыкулаў, падручнікі, дапаможнікі, слоўнікі; плённая праца са студэнтамі… Тады кафедра беларускага мовазнаўства была цэнтрам беларускай лінгвістычнай навукі. Тут пад кіраўніцтвам знакамітага прафесара Янкоўскага працавалі аднадумцы, сумленнікі. Ідэі Фёдара Міхайлавіча рэалізоўваліся, нараджаліся новыя, думалася пра будучыню, светлую, някрыўдную, планавалася многае.

Многае і спраўдзілася. 15 гадоў Ніна Гаўрош кіравала выкананнем навуковай тэмы “Слова, фразеалагізм, словазлучэнне ў кантэксце”, якая ўваходзіла ў план найважнейшых навукова-даследчых работ у галіне прыродазнаўчых, тэхнічных і грамадскіх навук НАН Беларусі. Вынікам працы стала выданне трох кніг, шэрагу зборнікаў навуковых артыкулаў.

Ніна Васільеўна ўмее настроіць людзей на працу. Шматлікія яе ідэі рэалізаваліся падчас

стварэння вучэбнай літаратуры. Яна была членам і кіраўніком аўтарскіх калектываў 18 прац самага рознага кшталту: дапаможнікаў, падручнікаў, манаграфій… У спісе навуковых прац прафесара (гэтае званне Ніна Васільеўна атрымала ў 2001 г.) – 150 пазіцый. У выдавецтве і рэдакцыях чакаюць свайго часу яе новыя напрацоўкі. А планаў! Чалавек спяшаецца сказаць тое, што за яго не скажуць іншыя, зрабіць тое, што не пад сілу іншым. Апошнім часам прафесар займаецца вывучэннем беларускай афарыстыкі. Многае зроблена, многае наперадзе.

Сярод прац Ніны Васільеўны асаблівае месца займае "Слоўнік эпітэтаў беларускай мовы" (1998). У ім – душа, памкненні, крэда Вучонага і Чалавека. 18 тысяч вобразных азначэнняў сабраны пад адной вокладкай упершыню ў беларускай лінгвістыцы. Уражваюць скрупулёзнасць, праніклівасць даследчыцкай думкі прафесара Гаўрош, якія вельмі выразна праяўляюцца ў слоўніку. Гэтая кніга працуе. Яна на рабочых сталах настаўнікаў, студэнтаў, выкладчыкаў ВНУ, пісьменнікаў… Яна ўзор і для тых, хто бярэцца за пяро даследчыка.

Смела ідзе Ніна Васільеўна сваёй дарогай, асвятляючы яе зорнасцю душы, цешачыся поспехамі калег, вучняў. А яе вучнямі лічаць сябе тысячы: нехта слухаў лекцыі па сучаснай беларускай літаратурнай мове, па методыцы выкладання беларускай мовы ў педагагічным універсітэце, на курсах удасканалення, нехта чытаў навуковыя і метадычныя працы, нехта і сёння з дапамогай Ніны Васільеўны далучаецца да беларускасці ў Беларускім нацыянальным тэхнічным універсітэце, нехта пад яе кіраўніцтвам напісаў кандыдацкую дысертацыю. Пра апошніх. Дзякуючы клопату, дзейнасці Ніны Васільеўны шэсць чалавек падрыхтавалі навуковыя працы, паспяхова абаранілі іх і сталі кандыдатамі філалагічных навук. Дысертацыі, напісаныя пад кіраўніцтвам прафесара Гаўрош, запатрабаваныя: у іх падымаліся і вырашаліся актуальныя і надзённыя складаныя, недаследаваныя праблемы нашай лінгвістыкі. Ніна Васільеўна і сёння супрацоўнічае са сваімі вучнямі. Кансультацыі, рэцэнзаванне, суаўтарства… Хораша. Па-беларуску.

Яна любіць і ўмее працаваць. Яе дасведчанае слова гучыць на навуковых канферэнцыях, на яе аўтарытэт спасылаюцца навукоўцы ў сваіх даследаваннях, яе падказак, парад чакаюць настаўнікі, студэнты, вучні. Ніна Васільеўна жыве, свята выконваючы мамін запавет, з надзеяй і спадзяваннем гледзячы ў заўтра, шукаючы новае і не забываючыся на тое, што было, абыходзячыся без жабрацкай скаргі на жыццё.

Аптымізму, уменню ладзіць з людзьмі, здольнасці жыць працай, ратавацца працай вучылася і вучуся ў Ніны Васільеўны, годнай, дарэчнай прадстаўніцы свайго часу. Дзякуй, дарагая Настаўніца, за ўсе працоўныя будні і святы, за сумесную творчасць, за падтрымку, за Ваша ўменне бачыць і разумець! Няхай Бог і людзі спрыяюць Вам!

**Ніна НЯМКОВІЧ.**

*Мова мастацкіх твораў*

Ніна ГАЎРОШ

# ЭСТЭТЫЧНАЯ ФУНКЦЫЯ ПРЫМЕТНІКАЎ У БЕЛАРУСКІХ МАСТАЦКІХ ТЭКСТАХ

Эстэтычная функцыя слова – адна з самых важных праблем сучаснай філалогіі. Пра ўвагу да яе сведчаць шматлікія дыскусіі, якія адбываліся ў 50 – 80-я гг. мінулага стагоддзя ў лінгвістыцы і літаратуразнаўстве. Гэтай праблеме прысвечаны працы В. Ахманавай, Р. Будагава, В. Гака, Л. Данецкіх, І. Гальперына, Н. Лобань, А. Яскевіча і інш. У лінгвістычных даследаваннях падымаюцца пытанні агульнай тэорыі семантычнага развіцця мовы: вызначаецца сутнасць паэтычнай мовы, вывучаюцца эстэтычныя трансфармацыі слова, узаемадзеянне яго прадметна-лагічнага і канатацыйнага зместу.

Вучэнне пра эстэтычныя магчымасці слова даследчыкі звязваюць найперш з імем рускага філолага Б. Ларына, які раскрыў паняцце аўтарскага, "асабістага" выкарыстання слова і даў разуменне індывідуальна-стылістычнага ўжывання слова як яго эстэтычнага значэння. Аднак і сёння ў вучоных няма адзінага крытэрыю ў тлумачэнні паняццяў *эстэтычнае значэнне, эстэтычная функцыя*. Л. Данецкіх эстэтычнае значэнне слова акрэслівае як "мнагамерную сэнсавую адзінку, якая ўяўляе сабой функцыянальны тып значэння, што рэалізуецца праз індывідуальна-аўтарскае ўжыванне слова як адзінкі

мастацкага маўлення" [1]. Галоўнай семантычнай асаблівасцю эстэтычнага значэння слова даследчыца лічыць яго сэнсавую шматпланавасць, якая асацыятыўна адлюстроўваецца ў мастацкім тэксце. Эстэтычная функцыя слова ажыццяўляецца, як правіла, у кантэксце, таму нярэдка даследчыкі разглядаюць эстэтычнае значэнне як кантэкстуальнае.

Мы лічым, што эстэтычнае значэнне слова выяўляецца ў яго здольнасці шматгранна змяняць суадносіны сваіх сем у тэксце мастацкага твора: актуалізаваць асобныя семы ў выглядзе новых значэнняў ці адценняў гэтых значэнняў, ставячы іх на першы план, і затушоўваць, пераносіць на другі план іншыя семы. Актуалізацыя моўных (стэрэатыпных) і патэнцыяльных значэнняў слова ў мастацкім тэксце залежыць ад суадносін індывідуальна-аўтарскіх асацыяцый і звыклых, тыповых уяўленняў носьбітаў той ці іншай мовы, ад відаў кантэксту, суб'ектыўнага вопыту таго, хто ўспрымае новы сэнс слова, ад інтуітыўнага ўзнаўлення даследчыкам аўтарскай задумы, аўтарскіх абертонаў сэнсу.

Найбольш выразна эстэтычная функцыя выяўляецца ва ўжыванні прыметнікаў. Прыметнік як слова-характарыстыка дае пісьменніку практычна не абмежаваныя магчымасці словатворчасці, невычэрпныя індывідуальныя прыёмы словаўжывання. У самім змесце гэтай часціны мовы патэнцыяльна закладзена ацэнка-характарыстыка прадметаў, з'яў, падзей рэчаіснасці, хоць умовы і магчымасці рэалізацыі эстэтычных значэнняў, праяўлення функцый якасных, адносных і прыналежных прыметнікаў неаднолькавыя. Самая эфектыўная сфера ўзнаўлення эстэтычных значэнняў прыметнікаў – метафара. На базе яе ствараюцца вобразы, семантыка якіх раскрываецца праз сувязі прыметнікаў з паяснёнымі словамі – канкрэтнымі і абстрактнымі назоўнікамі.

Эстэтычная функцыя якасных прыметнікаў рэалізуецца ва ўмовах кантамінацыі прамога (канкрэтна-прадметнага) і вытворнага (пераносна-вобразнага) значэнняў слова, што змяняе і ўдакладняе яго намінатыўную функцыю: дае магчымасць не толькі назваць той ці іншы прадмет (з'яву), але і выказаць суб'ектыўную аўтарскую ацэнку, якая фактычна фарміруецца на аснове параўнання (супастаўлення) аднаго прадмета (з'явы) з іншымі, падобнымі да яго прадметамі (з'явамі). Так, два паняцці, здавалася б, далёкія адно ад аднаго – *золата* і *ранне* – звязваюцца паміж сабой трэцім – *колер*, якое мае з імі агульнае, падобнае. У выніку аўтарскіх асацыяцый з'яўляецца словазлучэнне *залатое ранне*: *Прыйшоў я з казкамі ў* ***залатое ранне*** *ад Сожа ціхага, ад берагоў Дняпра* (П. Трус). Эстэтычная ўласцівасць прыметнікаў вызначаецца лексіка-семантычнай навізной сувязей, парушэннем валентнасці, якая лёгка аднаўляецца моўнымі аналогіямі і стылістычнай актыўнасцю ў мастацкім тэксце. Параўнаем: *вясёлая дзяўчына* і *вясёлая крыніца*, *салодкі сок* і *салодкі вецер*, *журботны хлопчык* і *журботны вецярок*, *сарамлівая, нясмелая дзяўчынка* і *сарамлівая, нясмелая бяроза*: *Звонкая песня* ***вясёлых крыніц****, памяці горкай не кратай* (А. Бачыла). *Прабег па сэрцы і па кожнай жылцы* ***салодкі і журботны вецярок*** (П. Панчанка). *Там бярозы шэпчуць белыя,* ***сарамлівыя****,* ***нясмелыя*** (К. Кірэенка).

Рэалізуецца эстэтычная функцыя прыметнікаў праз сувязь іх з паяснёным словам. Так, прыметнікі ў спалучэнні з адцягненымі назоўнікамі маюць сваю спецыфіку. Іх пераносна-вобразнае значэнне развіваецца ў выніку змен лексічных сувязей, якія выходзяць за межы канкрэтнасці. Як правіла, эстэтычнае значэнне такіх прыметнікаў раскрываецца праз сувязь іх з назоўнікамі, у якіх выяўляецца асабістае ўспрыманне аўтарам навакольнага жыцця, такога, на першы погляд, простага і такога загадкавага пры ўвазе да яго. Назоўнік з адцягненым значэннем і метафарычны прыметнік ствараюць складаны, эстэтычна напоўнены вобраз з багатым і значным падтэкстам. Праілюструем гэта на прыкладзе спалучальнасці адцягненых назоўнікаў *цішыня* і *радасць*: *Мы зберажом зуброў і чалавечнасць, і старыя вежы, і ўсплёскі бабра, і дзіва сонечных палян, і вуркатанне дзікага голуба, і* ***святую****,* ***гучную*** <u>*цішыню*</u> *Пушчы* (У. Караткевіч). *Здаецца, шчасцем гэтым напоўнены не толькі Васілёвы грудзі, а і ўся ноч, уся* ***цёмная****,* ***духмяная*** <u>*цішыня*</u>*, якая дрэмле над Куранямі* (І. Мележ). *Малады дзявочы голас, як сярэбраны званочак, прарэзаў* ***цёплую*** <u>*цішыню*</u> *летняй ночы* (Я. Колас). *Маўчаць усе гудкі трывогі ў* <u>*цішыні*</u>*,* ***бязлітаснай****,* ***зацятай*** (М. Танк). *Гэта ўсё прысвечана табе – песня і туга мая апошняя, і з надзеяй –* <u>*радасць*</u> ***асцярожная*** (К. Кірэенка). *Вось яна – радасць,* ***бурлівая****,* ***шалёная*** <u>*радасць адкрыцця*</u> (В. Гарбук). *І* [словы] <u>*радасцю*</u> ***шчымлівай****,* ***першароднай*** *калоцяцца нястрымна ў грудзях* (Г. Бураўкін).

Эстэтычная функцыя рэалізуецца праз нестандартнасць аўтарскага спалучэння адных і тых прыметнікаў з рознымі паводле семантыкі адцягненымі назоўнікамі, што забяспечвае стварэнне выключна вобразных, эстэтычна насычаных характарыстык. Так, Янка Брыль якасны прыметнік *белы* спалучае з адцягненымі назоўнікамі *сум* і *туга*: *Чаму і мяне заразіў* ***белым*** <u>*сумам*</u> *начной прасторы, ціхай тугой маладзенькага месяца над палямі?.. Мая магчымасць хоць як-небудзь сказаць… пра нашу* ***белую*** <u>*тугу*</u> *па*

*чыстым, велічным, чалавечным* ("Яшчэ раз пра адзіноту").

Янка Брыль ужывае якасныя прыметнікі ў спалучэнні з адцягненымі назоўнікамі *глыбіня, урачыстасць, настрой, знешнасць, прага,* якія ў звычайным кантэксце, як правіла, з імі не спалучаюцца, ствараючы глыбокі, багаты на пачуцці душэўны стан чалавека: *Добра працуецца з **ціхай** урачыстасцю ў душы* ("Тройчы пра адзіноту"). *Мы ў **ціхім, светлым** настроі… Над гэтай **ціхай, нешматслоўнай** знешнасцю ў душы ў кожнага з нас – свая **спакойная** ці растрывожаная глыбіня* ("Рэха заўсёды са мной"). *І **ціхая, патаемная** прага на тыя пачуцці робіць нас часамі… залішне чулымі* ("Тройчы пра адзіноту").

Нечаканасць аўтарскіх асацыяцый, нязвыкласць спалучэння нейтральных якасных і адносных прыметнікаў з назоўнікамі, якія ў звычайным кантэксце з імі не спалучаюцца, стварае выразныя і дакладныя характарыстыкі прадметаў, з'яў і дазваляе Янку Брылю рэалізаваць эстэтычную функцыю слова: *І ніколі ён, – думае, едучы ззаду, Алесь, – яшчэ і слова не сказаў пра тое, што жывіць яго непаказную, **працавітую** смеласць. **Нішчымнай** паўзе не даў зацягнуцца Мішка Венік. Колькі людзей ішло за **мазольную** праўду. Гэта чыстая, **голая** і **сцюдзёная** праўда.*

У мастацкім творы лагічнае азначэнне (адносны ці прыналежны прыметнік) можа ўжывацца са стандартна неспалучальным назоўнікам. Пісьменнік семантычна збліжае кампаненты такога атрыбутыўнага словазлучэння, ставіць іх у адзін лагічны рад. Прыметнік-азначэнне метафарызуецца, набывае вобразнасць, эстэтычную значнасць: *У акенца тваё я пастукаў **зязюльчыным** ранкам пасля **салаўінага** вечара і **перапёлчынай** ночы* (П. Панчанка). *У вечар **шыза-галубіны** рука не просіцца з рукі* (Н. Гілевіч). *Іван… першае, што бачыць перад сабой, – гэта яркі, глыбокі блакіт пагоднага ранку і побач – **дзівосна-белазубае** ззянне дзявочай усмешкі!* (В. Быкаў). *Далёкім **нетутэйшым** святлом займаўся шырокі ўскраек неба* (В. Быкаў).

Эстэтычная напоўненасць тэксту ўзмацняецца, калі акрамя прыналежных прыметнікаў выкарыстоўваюцца якасныя прыметнікі са значэннем ацэнкі-характарыстыкі: *І я на "клюкву" "журавіны" не прамяняю, не аддам. І светлы край наш **жураўліны** я дзецям ціха перадам* (П. Панчанка). *Журботна-ціхім **жураўліным** ранкам я ад'язджаў у горад на вучобу* (Н. Гілевіч).

Мастацкі прыём адухаўлення і персаніфікацыі як неад'емны ў слоўным жывапісе патрабуе адпаведнага выражэння, што ў значнай ступені забяспечваюць індывідуальна-стылістычныя азначэнні-прыметнікі, эстэтычная функцыя якіх высвятляецца толькі з кантэксту: *І жаўранкі маліліся, ці не – сваволілі яны, плялі, як бязмежную сетку, сваю **шчабятлівую** радасць у бязмежным блакіце* (Я. Брыль). *Злічы сваіх **ахвярных** юнакоў, мая **праставалосая** краіна* (В. Жуковіч). *Нашаптала мне словы падману дажджавая **бяздомная** восень* (А. Звонак). *А ў вышыні – зірні: **нервовых** зор табло* (Р. Барадулін). *Начныя **хлуслівыя** зоры. Вялікі ўстрывожаны свет* (П. Панчанка). *Прыветна пазіралі **мнагадумныя** светла-сінія далі* (Я. Колас). *Там **задорна-смелыя** сосны параслі* (П. Глебка).

Рэалізацыі эстэтычнай функцыі прыметнікаў у значнай ступені садзейнічаюць аўтарскія наватворы. Яны адзінкавыя і нярэдка ўяўляюць сабой сапраўдныя аўтарскія знаходкі: *Дзверы мяккія ўскінь, што завуцца **ўскалыхлівым** словам "Кілім"* (Р. Барадулін). *Над лёсам маім світалі **вятрыстыя** словы* (Р. Барадулін). *У небе зорачка нясмела над гэтым лесам **цемраністым** зірнула вокам прамяністым* (Я. Колас). *А ўсмешкі – водбліск ясны **санцавейнае** зары* (А. Звонак). *Заходзіў нечакана **з'інелабровы** бор, пілой падперазаны* (Р. Барадулін). *А з полацкіх стольных бароў да **полымнастволых** ушацкіх вятры пачынаюць спяшацца, як некалі мы з вечароў* (Р. Барадулін). *Век сталёвы, век **трывожна-кволы**, ды як прошлай радасці званец – на гарышчы зашумяць шумёлы і вуздэчка заіржэ з сянец* (У. Караткевіч). *Вадой і хлебам, словам, снежных стром парывістым **арлінавокім** ветрам Радзіма ўвайшла ў мяне* (Я. Сіпакоў). *Васільковы спакой, смутак верасу сіні, **палыновая** памяць тугі* (Р. Барадулін).

Эстэтычнае значэнне прыметнікаў можа рэалізавацца за кошт уключэння ў тэкст дзеясловаў, якія актуалізуюць прамое значэнне прыметніка, падкрэсліваючы двухпланавасць вобраза: *І вочы яго **агнёвыя** аж лёд растапілі зімовы* (П. Прыходзька). *І сумуе па кветках **маўклівы** туман* (П. Панчанка).

Актуалізатарам эстэтычнага значэння якасных прыметнікаў могуць выступаць параўнальныя звароты. Так, прыметнік *чысты* 'свежы, нядушны, няпыльны' В. Адамчык уключае ў кантэкст разам з параўнальным зваротам *як працэджаны праз лапік* на аснове асацыяцыі з ачышчанай, прафільтраванай вадкасцю, што дае магчымасць пісьменніку рэалізаваць значэнне 'празрысты, незамутнены, незабруджаны' ў словазлучэнні *чысты халадок вечара*: *Лавіла ротам сыраваты, **чысты**, як працэджаны праз лапік, халадок вечара.*

Параўнанне выступае сродкам увасаблення аўтарскіх асацыяцый, абнаўлення вобразнага патэнцыялу прыметнікаў: *Восень **стройная**, як арабіна. Загарнула мяне ў падол* (В. Іпатава).

*І жнівеньскія зоры, **пахучыя**, як дыні, **сінія**, нібыта верасы* (Г. Бураўкін). *Вусны дзяўчыны – **прыпухлыя**, як у дзіцяці, і **сакавітыя**, што маліны* (І. Шамякін). *Шапацела бездапаможна жыта **цёплае**, як малако* (В. Вярба). ***Вялікі**, як свет, смутак здушыў яго* [бацькаву] *душу* (К. Чорны).

Якасныя прыметнікі раскрываюць сваё эстэтычнае значэнне і праз зближэнне ў адным мікракантэксце слоў, агульных паводле іх асацыятыўных сувязей: *І меў некалі дзед сілу, **багатырскую**, **магутную*** (М. Лынькоў). *Ні ў спёку, ні ў мароз, ні ў навальніцу не вычарпаць **бяздоннай** глыбіні* (С. Грахоўскі).

Незвычайны эстэтычна-эмацыянальны эфект узнікае пры аб'яднанні ў адным словазлучэнні семантычна палярных, кантрасных слоў: прыметнік разам з паяснёным словам (назоўнікам) утварае спалучэнне супрацьлеглых паняццяў, якія лагічна выключаюць адно аднаго, але ўзятыя разам даюць новы паэтычны вобраз: *Жыві, бяроза, **светлым** болем, **шчымлівай** радасцю звіні. На гэтым свеце нас з табою адны трымаюць карані* (С. Законнікаў). *У тое лета Хадоська як бы нанова пачула спеў жаваранка: **цёплым**, **салодкім** болем адгукалася ў ёй даўняя, такая звычайная калісьці песня* (І. Мележ). ***Радасны** сум асенняга, небезнадзейнага завядання, пра які трэба бясконца пісаць* (Я. Брыль). *Ціша здавалася асабліва **гучнай*** (У. Караткевіч). ***Звонкая** ціша – ні спеваў птушыных, ні шэлесту* (А. Звонак).

Уключэнне якаснага прыметніка ў генітыўную канструкцыю стварае ўмовы для з'яўлення новага эстэтычнага сэнсу: *Я зноў адчуў **вясёлы** пах палёў* (П. Панчанка). ***Дрогкая** сцелецца ноч вясны* (А. Звонак). ***Далікатны мядовы** водар верасоў напаўняў паветра* (В. Вольскі). *Водар лета **самлела-гаркавы**, п'ю бярозавы ранак з карца* (Я. Янішчыц). *Што табе сніцца, сасна, сярод гэтай пустэчы? **Блакітны** шум мора і белыя параходы?* (М. Стральцоў). *У тым **нязмоўклым** шуме хваль адчую сэрцам і душою: на лёс трывог і непакою мяне хрысціў дзявяты вал* (А. Звонак).

Сэнсавая і эмацыянальная напоўненасць прыметнікаў дасягаецца ўключэннем іх у сінанімічны рад. Азначэнні-сінонімы даюць выключна поўную і дакладную характарыстыку паняццю, з'яве, раскрываюць унутраную сутнасць прадмета, забяспечваюць неабходную танальнасць твора: *Не чуваць галасоў, **свежых**, **вольных**, **жывых*** (Я. Колас). *З гэтага лета застаўся ў іх* [Ганны і Васіля] *на ўсё жыццё ўспамін **неабсяжнай**, **бязмежнай**, **бясконцай** радасці* (І. Мележ). *Восень зроду такой не была, **залатая**, **пахучая**, **цёплая*** (Н. Гілевіч).

У сінанімічны рад могуць уключацца кантэкстуальныя сінонімы з ярка выражаным ацэначным значэннем, што надае сінанімічнаму раду своеасаблівую экспрэсію: *Усё было нібы ахоплена агнём, **дзівосным**, **невыказна прыгожым**, **усеабдымным*** (І. Мележ). ***Вясковы**, **сталічны**, **трагічны**, імя сваё, век, назаві* (Я. Янішчыц). *Толькі аднаго да слёз шкада – гэты вось **заснежаны і ясны**, **мілы** свет навекі пакідаць. Хоць ён і **халодны і калючы**, без густой травы і сінявы – толькі ўвесь **рыпучы і пявучы**, **заінелы**, **звонкі і жывы*** (Г. Бураўкін).

Менавіта кантэкст акрэслівае і ўдакладняе эстэтычную функцыю прыметнікаў. Гэта выразна назіраецца пры ампліфікацыі (нагнятанні) прыметнікаў, калі цэлы шэраг азначэнняў уключаецца ў адну сістэму ацэнак-характарыстык, што ў значнай ступені выклікае змест паяснёнага назоўніка, яго сэнсавая разнастайнасць: ***Ільняная** і **жытнёвая**. **Сялянская**. **Баравая** ў казачнай красе. **Старажытная**. Ты **самая славянская**. **Светлая**, як травы ў расе. **Вобразная**, **вольная**, **пявучая**, мова беларуская мая* (П. Панчанка). *Люблю бары, бярэзнікі і пушчы яшчэ з ваеннай бежанскай пары. **Цярплівыя**, **маўклівыя**, **відушчыя**, яны мае надзейныя сябры. **Ашчадныя**, **запаслівыя**, **шчодрыя**, яны і мне прадоўжылі гады* (Г. Бураўкін).

Эстэтычная функцыя складаных прыметнікаў рэалізуецца праз іх семантыку, праз змест утваральных асноў. У такім выпадку дзве прыметы аднаго і таго прадмета (з'явы) зліваюцца ў адну – характарыстыка прадмета набывае іншую, новую якасць: *Зялёная **шумліва-трапяткая** між поля жытняга на ўзгорку за сялом мяне ты* [бяроза] *радасна страчаеш* (А. Бачыла). *Быў прыхаваны смутак… то **шумліва-порсткага**, **роспачна-вясёлага**, нават аж зіхоткага ўвачч і ўсё адно цёмнага ветру* (М. Стральцоў). *Вечар **звонка-каляровы** светлай стомаю гудзе* (С. Гаўрусёў). *Жыццё, прашу, ты сыну дай вясны **пагодліва-багатай*** (В. Жуковіч). *Чуецца чыйсьці **радасна-жартлівы** голас* (Я. Колас). *Лес пачынаўся за **калюча-мігатлівым**… высакаватым жытам* (В. Адамчык).

Вобразныя, эмацыйна напоўненыя складаныя прыметнікі, якія абазначаюць колер ці яго адценні: ***Агніста-барвовым**, нявыцвілым, яркім усходзіла сонца над ліпавым паркам* (Н. Гілевіч). ***Аксамітна-чорныя** вочы, здавалася, засланялі сабой… увесь твар* (В. Хомчанка). *У іх* [вачах Ганны] *таксама ж нешта таілася, у цудоўных **вішнёва-чорных** вачах* (І. Мележ). ***Серабрыста-шэры**, ён* [дождж] *амаль хаваў нават блізкія дрэвы* (У. Караткевіч). *Буслы выразна вылучаюцца на фоне вячэрняга **залаціста-чырвонага** неба* (В. Вольскі).

Своеасаблівыя, сэнсава і эмацыянальна напоўненыя складаныя словы – спалучэнні пры-

метніка са значэннем колеру і прыметніка са значэннем ацэнкі-характарыстыкі: *Уецца па сцяблінах бярозка, шчасліва выстаўляючы сонцу грамафонныя трубкі сваіх **лёгка-ружовых** кветак* (Я. Брыль). *Гайдаецца-плыве **пяшчотна-белая**, з сонечным “сэрцам” кветка* (Я. Брыль). *Нейкае няпэўнае **хваравбліва-шэрае** святло залівала пусткі* (У. Караткевіч). *Калі гуляюць маладыя… І луг сустрэне дыванамі, і гай пяшчотаю спаўе, і **цёмна-шумнымі** лістамі ім дрэва кожнае спяе* (П. Броўка).

Эстэтычная функцыя складаных прыметнікаў выяўляецца і праз іх семантыку, і праз спалучальнасць з паяснёным словам. Яны ў пераважнай большасці індывідуальна-аўтарскія, кантэкстуальныя. Ужываюцца, як правіла, тады, калі пісьменнік пераходзіць ад аб’ектыўнага апавядання да суб’ектыўнай ацэнкі-характарыстыкі, ствараючы непаўторныя вобразы, рэдкасныя чысцінёй і свежасцю пачуццяў. Эстэтычная значнасць і напоўненасць такіх прыметнікаў падтрымліваецца ўключанымі ў кантэкст іншымі азначэннямі-характарыстыкамі: *Ад той **роспачна-радаснай** незабыўнай да веку вясны… вось каторы ўжо год у мае неспакойныя сны прыходзіць начамі пясняр пралетарскі Чарот* (Н. Гілевіч). *Гэта бывала звычайна ў другой палавіне жніўня… Нейкая паўза, кароткі адпачынак перад імгліцай **задумліва-ласкавых** вераснёўскіх раніц, перад мудрай і сумнаватай паэзіяй свежай раллі, радасным россыпам новага насення, **журботна-сонечнай** паэзіяй залатога лісця* (Я. Брыль).

Актуалізатарамі эстэтычных значэнняў якасных прыметнікаў выступаюць прыслоўі, якія абазначаюць ступень якасці з рознымі адценнямі ацэначнага характару: [Жаваранка] *мы змалку бачылі не раз. На зямлі, калі ён **недасягальна мілы**, шэранькі шмыгаў па руні* (Я. Брыль). *Да гэтай крылатай, душэўнай мелодыі прасіліся новыя, **непаўторна свежыя** словы* (Я. Брыль). *Зеленавата-блакітнае неба сеяла над горадам **бязлітасна празрыстае** халаднаватае святло* (М. Стральцоў). Такія мастацкія азначэнні-прыметнікі характарызуюць прадмет, з’яву, а прыслоўе ўдакладняе гэтую характарыстыку, узмацняе экспрэсіўнасць выказвання. Характарыстыка прадмета дапаўняецца характарыстыкай прыметы.

Спалучэнні прыметнікаў з якаснымі прыслоўямі нярэдка носяць індывідуальна-аўтарскі, аказіянальны характар: гэта словы лагічна неспалучальныя, у якіх выказваецца нестандартнасць ацэнак мастака слова. Ацэначныя кампаненты ў значэнні прыметніка ці паяснёнага слова трансфармуюцца і садзейнічаюць эстэтычнаму аб’яднанню палярных слоў: *Якія **жудасна шчаслівыя** гады і дні нашай любові і дружбы, і як жа часта мы марнуем іх на пустое* (Я. Брыль). *Гэты **бязлітасна шчодры**, не вельмі прадуманы флоксавы пах успомніўся мне ў Пяцігорску сёлета вясной* (Я. Брыль). *Яна схапіла і сціснула правую Ганніну далонь – вузкую, моцную і **бязлітасна добрую** руку хірурга* (Я. Брыль).

У такіх спалучэннях можа быць два і тры прыслоўі. У гэтым выпадку азначэнні не толькі вобразна характарызуюць прымету прадмета, але і паглыбляюць, пашыраюць яго сэнс: *Праз голле і кветкі гэтага райскага дрэва вельмі добра было глядзець на далёкі Эльбрус, **ненатуральна і дзіўна, радасна белы*** (Я. Брыль). *І здзіўленне, і недаўменне, і пашана да таго, хто… як парастак паміж плітамі тратуара… вырас са сваім зрэбным, **глыбока**, **па-народнаму**, **па-хлебнаму свежым** беларускім словам* (Я. Брыль).

Эстэтычныя магчымасці адносных і прыналежных прыметнікаў патэнцыяльна закладзены ва ўтваральнай аснове назоўніка; іх эстэтычная актуалізацыя абумоўлена сітуацыяй і самім кантэкстам: *мядовы маладзік* – ‘жоўты, колеру мёду’, *жаўруковае неба* – ‘звонкае, песеннае, шчаслівае’, *жураўлінае неба* – ‘сумнае, асенняе’, *мужчынская сляза* – ‘цяжкая, скупая, сарамлівая’. Эстэтычная напоўненасць такіх прыметнікаў нярэдка падтрымліваецца выкарыстаннем метафарычных якасных прыметнікаў: ***Мядовы** маладзік і маладзіцы прапахлі мёдам з ног да галавы* (Н. Тулупава). *Неба **жураўлінае**, журботнае, цёмная вільготная зямля* (П. Панчанка). *Ды нам і разамінуцца зусім няма патрэбы сярод палёў жытнёвых **пад жураўліным** небам* (М. Танк). *Часамі яна, тая чуласць, вельмі рэдка і патаемна, для Толі тады яшчэ і зусім невядома, выходзіла на Максімавы вочы скупой, сарамлівай **мужчынскаю** слязою* (Я. Брыль).

Такім чынам, эстэтычная функцыя прыметнікаў рэалізуецца ў мастацкім тэксце на аснове іх метафарызацыі, а таксама за кошт сэнсавай спалучальнасці з блізкімі, агульнымі па сваіх вобразна-асацыятыўных уяўленнях паяснёнымі словамі. Ужыванне такіх прыметнікаў, як правіла, кантэкстуальна абумоўленае.

**Спіс літаратуры**

1. **Донецких, Л. И.** Эстетическая функция слова / Л. И. Донецких. – Кишинёв, 1982. – С. 64.

2. **Ковалевская, С. Г.** Слово в языке и художественной речи / С. Г. Ковалевская // Лингвистические основы аспекта школьной программы “Развитие речи”. – Л., 1982.

3. **Озеров, Л. А.** Ода эпитету / Л. А. Озеров // Мастерство и волшебство. – М., 1976. – С. 450.

4. **Яскевіч, А. С.** Ад слова да вобраза / А. С. Яскевіч. – Мінск, 1974. – С. 24.

*Актуальная тэма*

Фёдар ПІСКУНОЎ

# КЛАСІФІКАЦЫЯ НАЗОЎНІКАЎ СУБСТАНТЫЎНАГА СКЛАНЕННЯ

## КАМП'ЮТАРНА-ЛІНГВІСТЫЧНЫ ПАДЫХОД

У ранейшай публікацыі [1] на аснове аналізу парадыгмаў больш як 35 тыс. лексем мы прапанавалі класіфікацыйную сістэму словазмянення беларускага дзеяслова і прадставілі адпаведную статыстыку, вылучыўшы 143 словазмяняльныя разрады (падкласы) у межах 15 словазмяняльных класаў. Згаданая сістэма была распрацавана як пад патрэбы машыннай апрацоўкі беларускамоўных тэкстаў, так і дзеля поўнага структурнага апісання слоўнікавага складу беларускай мовы. Яна ўлічвае ў поўным аб'ёме ўсю разнастайнасць канчаткаў, акцэнтных тыпаў, кансанантных і вакалічных чаргаванняў, нарашчэнняў і ўсячэнняў у асновах і прыстаўках. У гэтай сувязі класіфікацыя і фармалізаваныя апісанні тыпаў словазмянення спрагальных і скланяльных часцін мовы выходзяць за рамкі чыста інфармацыйна-тэхнічных патрэб, набываючы адукацыйны патэнцыял.

Развіваючы падыход, ужо ўжыты ў класіфікацыі дзеясловаў, пры вызначэнні словазмяняльных класаў назоўнікаў мы зыходзім не з традыцыйнага падзелу на назоўнікі першага, другога і трэцяга скланення, а з тыпаў словазмянення, якія можна вылучыць у межах кожнай родавай катэгорыі на грунце аналізу ўсёй сукупнасці парадыгматычных крытэрыяў: сістэмы канчаткаў, пазіцыі націскнога склада і змяненняў у аснове слова. Гэты падыход прадыктаваны тым, што размеркавання па трох скланеннях з улікам толькі родавай прыналежнасці і характару канчатка назоўнага склону адзіночнага ліку недастаткова для вызначэння флексій і пераўтварэнняў асноў, уласцівых словаформам у парадыгматычных радах. Больш за тое, некаторыя словы ўвогуле не змяшчаюцца ў рамкі пералічаных трох тыпаў скланення і разглядаюцца як асаблівыя сукупнасці. Прапанаваныя іншыя класіфікацыі беларускага назоўніка [2], што ўлічваюць у якасці дадатковых прымет змены марфаналагічнага тыпу ў аснове і суфіксальныя нарашчэнні асноў, забяспечваюць дастаткова поўны ахоп назоўнікавых лексем, аднак не вырашаюць прынцыповай задачы – стварэння адназначных правілаў для пабудовы акцэнтаванай парадыгмы слова (**аналізу** ў тэрмінах машыннай апрацоўкі тэкстаў). Зазначым, што рашэнне гэтай праблемы адначасова азначае і магчымасць рэалізацыі яе адваротнага варыянта –

**Табліца 1. Вынік пошукавага запыту ў электронным слоўніку "Парадыгма": вызначэнне лексемы для словаформы *тытуню* (лематызацыя) і пабудова акцэнтаванай парадыгмы лексемы *тытунь* (аналіз).**

**Пошук слова "тытуню"**
Знойдзены адзін варыянт:
"тытуню́" – родны адз., дав. адз. ад **тыту́нь** назоўнік, мужчынскі род

**Пошук слова "тытунь"**
Знойдзены адзін варыянт:

| склон | адзіночны лік | множны лік |
|---|---|---|
| **назоўны** | тыту́нь | тытуні́ |
| **родны** | тытуню́ | тытунё́ў |
| **давальны** | тытуню́ | тытуня́м |
| **вінавальны** | тыту́нь | тытуні́ |
| **творны** | тытунё́м | тытуня́мі |
| **месны** | тытуні́ | тытуня́х |

вызначэння лексемы ці сукупнасці лексем, якія адпавядаюць канкрэтнай словаформе (**лематызацыя**). У поўнай меры такая пастаноўка задачы знайшла задавальняльную развязку для:

• рускамоўных тэкстаў (пабудова акцэнтаванай парадыгмы) – у электронных прадуктах, створаных на аснове класіфікацыйных схем А. Залізняка [3], напрыклад у вядомым перакладным слоўніку "Лінгва";

• беларускамоўных тэкстаў (пабудова акцэнтаванай парадыгмы і лематызацыя) – у электронным слоўніку "Парадыгма" (гл. табліцу 1), у якім выкарыстана алгарытмізацыя на аснове раней прапанаванай сістэмы класіфікацыі дзеясловаў [1] і назоўнікаў, што будзе прадметам разгляду дадзенага артыкула.

Аналіз і распрацоўка словазмяняльных тыпаў былі праведзены на лексічным матэрыяле, адабраным для электроннага слоўніка "Парадыгма" з аб'ёмам падмовы "назоўнік" больш за 55 тыс. лексем.

У якасці асноўнага класавызначальнага крытэрыю абрана канфігурацыя (набор) флексій назоўніка ў адзіночным ліку. Як вядома, у шэрагу выпадкаў канфігурацыя флексій у адз. л. вызначаецца лексіка-семантычным значэннем адпаведнага назоўніка мужчынскага роду: у Р. скл. у залежнасці ад суаднозсін канкрэтнасці / абстрактнасці (рэчыўнасці) і інш.; у В. скл. – адушаўлёнасці / неадушаўлёнасці; у М. скл. – асабовасці / неасабовасці.

Для вызначэння словазмяняльнага класа мужчынскага роду ўмоўна бярэцца канфігура-

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 5.*

цыя флексій неадушаўлёнага назоўніка, носьбіта функцыі канкрэтнасці, г. зн. усе назоўнікі, паказаныя ў табліцы 2, незалежна ад наяўнасці розных лексіка-семантычных варыянтаў належаць да аднаго падкласа, у дадзеным выпадку класа m3 A (гл. табліцу 3).

Множналікавыя назоўнікі (*pluralia tantum*) адносяцца да адпаведнага словазмяняльнага тыпу шляхам утварэння ўмоўнага (штучнага) назоўніка адзіночнага ліку, які мае такія самыя зыход асновы і канфігурацыю флексій у множным ліку, што і адпаведны назоўнік *pluralia tantum*. Напрыклад, назоўнік ***мемуа́ры*** праз утварэнне штучнага назоўніка [мемуа́р] трэба аднесці да класа m3 A.

Першапачаткова вылучаныя класы падзяляюцца на падставе дадатковых прыкмет, без якіх немагчыма карэктная пабудова словаформаў парадыгмы. Першая лінія драблення – улік чаргавання націскаў, якія маюць месца пры ўтварэнні розных словаформаў. Другая лінія адлюстроўвае нерэгулярныя кансанантныя і вакалічныя чаргаванні і іншыя марфалагічныя асаблівасці, напрыклад пры ўтварэнні множнага ліку. Пазіцыйна абумоўленыя (рэгулярныя) чаргаванні, як кансанантныя чаргаванні ў зыходах асноў ***т*** – ***ц***, ***д*** – ***дз*** (*канат – канаце*) ці вакалічныя чаргаванні ***я*** – ***е*** / ***е*** – ***я*** ў пераднаціскных пазіцыях (*бягу́н – бегуна́*, *таўсце́ль – таўсцяля́*), не патрабуюць дадатковых класіфікацыйных прыкмет, г. зн. ігнаруюцца. Чаргаванні ***г*** – ***з*** і ***х*** – ***с*** (*снег – на снезе, верх – на версе*) у назоўніках мужчынскага роду не з'яўляюцца рэгулярнымі і патрабуюць дадатковай прыкметы для адмежавання ад лексем, для якіх такія чаргаванні нехарактэрныя (*дася́г, ло́зунг*). Заўважым, што для назоўнікаў жаночага роду чаргаванні ***г*** – ***з*** (*біклага – біклазе*) і ***х*** – ***с*** (*саха – сасе*) рэгулярныя і не патрабуюць дадатковай класіфікацыйнай падставы. Да нерэгулярных вакалічных чаргаванняў належаць, напрыклад, альтэрнацыі ***а*** – ***э́*** / ***я*** – ***е́*** (*страла́ – стрэ́лы*), ***а*** – ***о*** / ***я*** – ***ё*** (*барада́ – бароды, сляза́ – слёзы*), пашыраныя ў беларускай мове і адзінкавыя ў рускай (*слеза́ – слёзы, заря́ – зо́ри*). Схематычная зводка дадатковых класіфікацыйных крытэрыяў прыведзена ў табліцы 4, пэўнай часткі мы дадзім спецыяльныя каментарыі.

**Табліца 2. Варыянтнасць канчаткаў назоўнікаў мужчынскага роду ў залежнасці ад лексіка-семантычнага суаднясення.**

| | **нейтралізатар** (прылада) | **нейтралізатар** (рэчыва) | **нейтралізатар** (асоба, работнік) | **сетар** (жывёліна) |
|---|---|---|---|---|
| **Н.** адз. | *нейтралізатар* | *нейтралізатар* | *нейтралізатар* | *сетар* |
| **Р.** адз. | *нейтралізатар-**а*** | *нейтралізатар-**у*** | *нейтралізатар-**а*** | *сетар-**а*** |
| **Д.** адз. | *нейтралізатар-**у*** | *нейтралізатар-**у*** | *нейтралізатар-**у*** | *сетар-**у*** |
| **В.** адз. | *нейтралізатар* | *нейтралізатар* | *нейтралізатар-**а*** | *сетар-**а*** |
| **Т.** адз. | *нейтралізатар-**ам*** | *нейтралізатар-**ам*** | *нейтралізатар-**ам*** | *сетар-**ам*** |
| **М.** адз. | *нейтралізатар-**ы*** | *нейтралізатар-**ы*** | *нейтралізатар-**у*** | *сетар-**ы*** |

**Табліца 3. Размеркаванне назоўнікаў субстантыўнага скланення па тыпах словазмяняльнай і акцэнтнай парадыгмаў.**

| | | **Набор флексій адзіночнага ліку: Н-Р-Д-В-Т-М** | **Акцэнтныя тыпы** | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | **A** | **B** | **C** | **C1** | **D** |
| m1 | *бакен* | **Ø-а-у-Ø-ам-е** | 9782 | 334 | 184 | 3 | 1 |
| m2 | *шалік* | **Ø-а-у-Ø-ам-у** | 5561 | 1210 | 24 | - | - |
| m3 | *нейтралізатар* | **Ø-а-у-Ø-ам-ы** | 3235 | 562 | 31 | - | - |
| m4 | *ветразь* | **Ø(ь)-я-ю-Ø(ь)-ем-і** | 1006 | 122 | 28 | 2 | - |
| m10 | *разява* | **а-ы-у-у-ам-е** | 174 | 1 | - | - | 3 |
| m11 | *даміска* | **а-і-у-у-ам-у** | 175 | 3 | 1 | - | 1 |
| m12 | *забойца* | **а-ы-у-у-ам-у** | 149 | 3 | 2 | - | - |
| m13 | *дзядуля* | **я-і-ю-ю-ем-ю** | 22 | - | - | - | 1 |
| | | | | | | | |
| f1 | *прызба* | **а-ы-е-у-ай/аю-е** | 3268 | 210 | - | - | 84 |
| f2 | *лазня* | **я-і-і-ю-яй/яю-і** | 3242 | 80 | - | - | 45 |
| f3 | *стэньга* | **а-і-е-у-ай/аю-е** | 518 | 2 | - | - | 27 |
| f4 | *адзнака* | **а-і-ы-у-ай/аю-ы** | 6224 | 10 | - | - | 1 |
| f5 | *адметнасць* | **Ø(ь)-і-і-Ø(ь)-ю-і** | 4908 | - | - | - | - |
| f6 | *кайстра* | **а-ы-ы-у-ай/аю-ы** | 2349 | 49 | - | - | 11 |
| f7 | *шчолач* | **Ø-ы-ы-Ø-у-ы** | 50 | - | - | - | - |
| f8 | *шыр* | **Ø-ы-ы-Ø-ю-ы** | 4 | - | - | - | - |
| | | | | | | | |
| n1 | *павека* | **а-а-у-а-ам-у** | 65 | 5 | - | - | 1 |
| n2 | *білца* | **а-а-у-а-ам-ы** | 292 | 19 | - | - | 11 |
| n3 | *судна* | **а-а-у-а-ам-е** | 1267 | 51 | - | - | 25 |
| n4 | *заклінанне* | **е-я-ю-е-ем-і** | 7425 | 99 | - | - | 9 |
| n5 | *ваверчанё / ваверчаня* | **ё(я)-і-і-ё(я)-ём-і** | 194 | 194 | - | - | - |
| Усяго 52 998 | | | 49 910 | 2594 | 270 | 5 | 219 |

Прыведзены канчаткі акцэнтнага тыпу **A**. Канчаткі адз. л. у акцэнтных тыпах **C**, **C1**, **D** адпавядаюць канчаткам акцэнтнага тыпу **A**. У акцэнтных тыпах **B**, **D** ва ўсіх словазмяняльных класах, за выключэннем **m10**, **m12**, **m13**, канчаткам ***-ам / -ям***, ***-ай (-аю) / -яй (-яю)*** адпавядаюць націскныя варыянты ***-ом / -ём***, ***-ой (-ою) / -ёй (-ёю)***. Назоўнікі м. р. класаў **m10**, **m12**, **m13** у акцэнтных тыпах **B**, **D** маюць канчаткі суадносных па характары асновы назоўнікаў ж. р. адпаведных акцэнтных тыпаў. Так, слова *старшына** словазмяняльнага класа **m10 D** у адз. л. скланяецца па ўзоры слова *прасціна* (**f1 D**), слова *хаджа* (**m12 B**) па ўзоры *паранджа* (**f6 B**), *суддзя* (**m13 D**) па ўзоры *глыбіня* (**f2 D**). Назоўнікі м. р. класа **m11** згаданых акцэнтных тыпаў (*ага, слуга*) у Т. скл. маюць канчаткі ***-ой/-ою***.

* У нашай публікацыі "След ваўчышчы ці ваўчышча?: Назоўнікі мужчынскага роду з суфіксамі *-ішч-а* (*-ышч-а*), *-іск-а* (*-ыск-а*)" (Роднае слова, 2011, № 5, с. 38, табл. 3) у класах m10 B, m10 D у Д. скл. у выніку тэхнічнай памылкі прыведзены канчатак ***-у́*** замест правільнага ***-е́***.

З адной назоўнікавай лексемай могуць быць суаднесеныя некалькі дадатковых крытэрыяў. Кожны дадатковы крытэрый ці іх сукупнасць задаюць словазмяняльны клас назоўнікавай лексемы ў межах аднаго тыпу словазмяняльнай парадыгмы (гл. табліцу 3). Так, дадатковы крытэрый 5 суадносіцца з 4313 лексемамі, утвараючы наступныя словазмяняльныя класы*: **m1$^2$ A** (*бубен, дзяцел, наём* і інш.), **m1$^2$ B** (*арол, авёс, хрыбет, кацёл* і інш.), **m1$^2$ C** (*бусел, човен* і інш.), **m1$^2$ D** (*ікол*), **m2$^2$ A** (*засценак, адроек, падмуровак, апенек* і інш.), **m2$^2$ B** (*шчаўкунок, баёк, астравок, аганёк* і інш.), **m3$^2$ A** (*нідэрландзец, адыгеец, вызнавец, аднаселец, атланцец* і інш.), **m3$^2$ B** (*абарэц, гудзец, баец, Астравец, галец, асяцёр* і інш.), **m3$^2$ C** (*заяц, вецер*), **m4$^2$ A** (*апоўзень, брэдзень, узровень, баламуцень* і інш.), **m4$^2$ B** (*агонь, патаень, гален, авадзень, галавень, берасцень, верабей, салавей* і інш.). У камбінацыі з крытэрыем 1 утвараецца словазмяняльны клас **m2$^3$ D**, які рэпрэзентаваны толькі адной лексемай *ражок*.

Некаторыя дадатковыя крытэрыі ці іх камбінацыі суадносяцца з нестандартнымі парадыгмамі. З прычыны адзінкавасці адпаведных лексем мы даём ім граматычны код найбліжэйшай па парадыгматычных характарыстыках лексемы з адмысловым знакам Δ (некалькі адпаведных прыкладаў гл. у табліцы 5).

Мы ўжываем графічную пазнаку **∅** у тых выпадках, калі маюць месца:

а) нявызначанасці акцэнтнага тыпу назоўнікаў пераважна класа *singularia tantum*, пры спробе ўтварэння патэнцыйных формаў мн. л.;

б) нявызначаная родавая суаднесенасць назоўніка класа**

---

* Для кожнага словазмяняльнага класа ў дужках пададзены ўзорныя словы, што ахопліваюць усю разнастайнасць чаргаванняў у словаформах з выпадзеннем галоснай.

** Множналікавыя назоўнікі падаюцца ў вуглавых дужках і, як правіла, з абагульненымі індэксамі.

**Табліца 4. Дадатковыя крытэрыі для ўтварэння словазмяняльных разрадаў.**

| Нумар крытэрыю | Ідэнтыфікатар крытэрыю | Крытэрый | Узор |
|---|---|---|---|
| 1 | jo1 | нерэгулярныя вакалічныя чаргаванні: ***а* – *о*, *я* – *ё*** | *драфá – дрóфы*<br>*сялó – сёлы* |
| 2 | jo2 | нерэгулярныя вакалічныя чаргаванні: ***а* – *э*, *я* – *е*** | *царквá – цэ́рквы*<br>*бядá – бéды* |
| 3 | jo3 | нерэгулярныя вакалічныя чаргаванні: ***ы* – *о*, *і* – *е*** | *блыхá – блóхі, дзіцá – дзéці* |
| 4 | jo4 | нерэгулярныя вакалічныя чаргаванні: ***о* – *ы*** | *кроў – крыві́*<br>*свякрóў – свекрыві́* |
| 5 | fo1 | беглая галосная ва ўскосных склонах | *швóран – швóрна*<br>*зáяц – зáйца*<br>*дзя́цел – дзя́тла*<br>*ірлáндзец – ірлáндца*<br>*чóвен – чóўна*<br>*верабéй – вераб'я́*<br>*салавéй – салаўя́*<br>*канёк – канькá*<br>*катóк – каткá* |
| 6 | fo2 | выпадзенне зычнай | *пóд'ездзень –пóд'езня*<br>*гáрнец – гáрца* |
| 7 | at1 | узнікненне / элімінацыя прыстаўной зычнай у словаформах у пачатку слова ці на стыку марфем | *акнó – вóкны,*<br>*асá – вóсы*<br>*абзá – вóбзы*<br>*вóстраў – астраві́*<br>*паўвóстраў – паўастраві́* |
| 8 | at2 | прыстаўная галосная | *лён – ільнý* |
| 9 | cn1 | нерэгулярныя чаргаванні: ***г* – *з*, *х* – *с*** у М. скл. адз. л.; чаргаванні ***к* – *ч*, *х* – *ш*** у зыходнай аснове адз. л. і мн. л. | *бéраг –* (*на*) *бéразе*<br>*кажýх –* (*у*) *кажусé*<br>*вóка – вóчы*<br>*вýха – вýшы* |
| 10 | cn2 | нерэгулярнае кансанантнае чаргаванне: зняцце падваення ва ўскосных склонах | *свіння́ – свінéй*<br>*пападдзя́ – пападзéй*<br>*ладдзя́ – ладзéй*<br>*вуллёк – вулькá* |
| 11 | cn3 | кансанантнае чаргаванне: узнікненне падваення ва ўскосных склонах | *вýлей – вулля́*<br>*марáль – марáллю* |
| 12 | cn4 | чаргаванні ў Т. скл., падтрыманыя апострафам ці ***ў*** (*у* нескладовым) | *верф – вéрф'ю*<br>*любóў – любóўю* |
| 13 | gr1 | суфіксальнае нарашчэнне асновы: 0 – ***ат*** / ***ят*** | *цяля́ – цяля́ці – цяля́т*<br>*дзяўчó – дзяўчáці – дзяўчáт* |
| 14 | gr2 | апцыянальнае нарашчэнне асновы: 0 – ***ен***, 0 – ***ер*** | *плéмя – плéмені*<br>*мáці – мáцеры* |
| 15 | ed5 | варыянтны матэрыяльна выражаны канчатак у Р. скл. мн. л. ***ей*** / ***эй*** | *уласці́васцей / уласці́васцяў* |
| 16 | in1 | устаўныя галосныя: 0 – ***а* (*э*, *о*)**, ***й* – *е***, ***ў* – *ва***, **(*л*, *н*)*ь* – *ле***, ***не*** у назоўніках жаночага роду | *кáчка – кáчак*<br>*чацвярня́ – чацвярэ́нь*<br>*княжнá – княжóн*<br>*жýйка – жýек*<br>*кáўка – кáвак*<br>*кáлька – кáлек* |
| 17 | in2 | устаўныя галосныя ў альтэрнатыўных формах Р. скл. мн. л. назоўнікаў ж. і н. р. з нулявой флексіяй | *лякáрня – лякáрань (-рняў)*<br>*мя́льня –мя́лень (-льняў)*<br>*вяслó – вёсел (-слоў)*<br>*пéсня – пéсень (-сняў)*<br>*бóйня – бóень (-йняў)* |
| 18 | rd1 | усячэнне сегмента зыходнай асновы ў множным ліку: ***ін*** – 0 | *мінчáнін – мінчáне*<br>*селяні́н – сяля́не* |
| 19 | ab1 | адмена пазіцыйнага вакалічнага чаргавання | *мяцéж – мяцяжý*<br>*пятáк – пятакá* |
| 20 | ht1 | замена суфіксальных фармантаў у аснове | *дзяўчы́на – дзяўчáты* |
| 21 | bc1 | змена тыпу формаўтваральнай асновы: цвёрдая ў форме адз. л. – мяккая ў форме мн. л. | *чорт – чóрта – чарцéй*<br>*сусéд – сусéда – сусéдзяў*<br>*калéна – калéна – калéняў* |
| 22 | ac1 | нерэгулярны перанос націску | *селяні́н – сяля́не*<br>*бажаствó – бóжаствы* |
| 23 | ap1 | далучэнне асобных формаў М. скл. (уключна з лакатывам 2) | *у хóдзе / на хадý* |
| 24 | ap2 | далучэнне асобных склонавых формаў: Т. скл. мн. л. | *плéчы – плячáмі /*<br>*плячы́ма / плячмі́* |

**Табліца 5.**

| Лексема-аналаг | | Адлюстраванне скарочанай нестандартнай парадыгмы | | Класіфікацыйныя прыкметы паводле табліцы 4 |
|---|---|---|---|---|
| m$1^{1\Delta}$ C | **по́езд,** -а, *М* -дзе; *мн.* паязды́, -о́ў | m$1^{1\Delta}$ C | **браняпо́езд**, -а, *М* -дзе; *мн.* бронепаязды́, -о́ў | нерэгулярныя вакалічныя чаргаванні |
| m$3^{2}$ A | **гасці́нец,** -нца | m$3^{2\Delta}$ A | **га́рнец**, га́рца, *М* -рцы; *мн.* га́рцы, -аў | выпадзенне галоснай |
| m$1^{4\Delta}$ A | **пінча́нін**, *РВ* -а; *мн. і зб.* пінча́не (*з ліч. 2, 3, 4* – пінча́ніны), *РВ* -ча́н | m$1^{4\Delta}$ A | **армяні́н**, *РВ* -а; *мн. і зб.* армя́не (*з ліч. 2, 3, 4* – армяні́ны), *РВ* -мя́н | нестандартная акцэнтуацыя |

*pluralia tantum*, у выніку чаго ўзнікае варыянтнасць канчаткаў Р. скл.:

n$3^{1\emptyset}$ A **мя́са**, *М* -е

f$3^{1\emptyset}$ B **цынга́**, -і́, *ДМ* -нзе́

f$1^{1\emptyset}$ B **жада́** -ы́, *ДМ* -дзе́ (*моцнае пачуццё, жаданне*)

<m$2^{\emptyset}$> A **жа́ртачкі**, -каў *і* -чак

<m$1^{\emptyset}$> A **но́жны**, но́жнаў *і* но́жан

Для адлюстроўвання семантычна неабумоўленых г. зв. зон марфалагічнай няўстойлівасці ў парадыгмах пэўных груп назоўнікаў, якія звязаны з выбарам нулявой ці матэрыяльна выражанай флексій* (*-аў*, *-яў*, *-эй*, *-ей*, *-оў*, *-ёў*) Р. скл. мн. л., мы ўжываем факультатыўныя мнеманічныя пазнакі:

– (знак мінус) – варыянтнасць з перавагай нулявой флексіі;

+ (знак плюс) – варыянтнасць з перавагай матэрыяльна выражанай флексіі;

” (знак двукоссе) – матэрыяльна выражаная флексія.

Прыведзенымі ў табліцы 6 прыкладамі мы падкрэсліваем, што згаданыя пазнакі ў кодах назоўнікаў неабавязкова мусяць дубляваца паказам адпаведных флексій пры рэалізацыі прапанаванай класіфікацыйнай схемы ў слоўнікавых выданнях. Прыкладам, такія інавацыйныя (*астракарэкцыяў* і пад.) ці патэнцыйныя (*элаквенцый* і пад.) словаформы мэтазгодна ўвогуле не адлюстроўваць, пакідаючы выбар у адпаведным кантэксце за носьбітам мовы.

Мы адмыслова выкарыстоўваем выраз “факультатыўныя пазнакі”, маючы на ўвазе, што варыяцыйнасць “нулявая флексія – матэрыяльная флексія” ў Р. скл. мн. л. не ўплывае на класіфікацыйны разрад адпаведнай лексемы, г. зн. не мае граматычнага значэння. Так, формы Р. скл. мн. л. *свят* і *святаў* паводле нашай класіфікацыі належаць да аднаго і таго ж дэклінацыйнага разраду **n$3^{1}$ A** з факультатыўнай пазнакай (+). Да таго ж разраду **n$3^{1}$ A** адносіцца і лексема *прадпрыемства* з факультатыўнай пазнакай (”), якая мае ў мн. л. Р. скл. толькі матэрыяльна выражаную флексію *-аў*.

* Мы свядома ўжываем менш пашыраны тэрмін “матэрыяльна выражаная флексія”, каб падкрэсліць той факт, што альтэрнатывай нулявому канчатку ў множным ліку роднага склону з’яўляецца ў залежнасці ад акцэнтнага тыпу назоўніка адзін з наступнай групы канчаткаў: ***-аў (-яў), -оў (-ёў), -эй (-ей)***. На жаль, многія крыніцы абмяжоўваюцца толькі флексіямі ***-аў (-яў)***, характэрнымі для акцэнтнага тыпу А.

**Табліца 6. Прыклады рэалізацыі факультатыўных пазнак у моўнай базе.**

| Знак | Граматычны код | Лексема з паказам скарочанай парадыгмы |
|---|---|---|
| – | f$2^{5-}$ D | **жняя́**, -н; *мн.* жне́і (*з ліч. 2, 3, 4* – жняі́), *РВ* жней *і* жне́яў |
| | f$3^{1-}$ D | **дуга́**, -н, *ДМ* дузе́; *мн.* ду́гі (*з ліч. 2, 3, 4* – дугі́), *Р* дуг |
| | f$6^{1-}$ A | **ве́жа**, -ы; *Р мн.* веж *і* вежаў |
| | f$2^{1-}$ A | **трахе́я**, -і; *Р мн.* -е́й *і* -е́яў |
| | | **рэвалю́цыя**, -і; *Р мн.* -й |
| + | f$1^{1+}$ D | **вярба́**, -і́; *мн.* ве́рбаў (*з ліч. 2, 3, 4* – вярбы́), *Р* -аў |
| | f$1^{1+}$ A | **авіябо́мба**, -ы; *Р мн.* -б *і* -баў |
| | f$1^{1+}$ A | **кантраба́нда**, -ы |
| | f$2^{3+}$ A | **чарэ́шня**, -і; *Р мн.* -шань *і* -шняў |
| | f$2^{3+}$ A | **малпо́ўня**, -і; *Р мн.* -яў |
| | m$1^{1+}$ A | **партыза́н**, *РВ* -а; *РВ мн.* -н *і* -наў |
| | m$1^{1+}$ A | |
| ” | n$1^{1”}$ | **про́рва**, -ы; *Р мн.* -аў |
| | n$4^{1”}$ | **выда́нне**, *М* -і |

Сімвал “–” азначае, што словаформы *рэвалю́цыяў*, *ду́гаў* і падобныя таксама могуць быць выкарыстаны носьбітам мовы.

Можна ў гэтай сувязі правесці аналогію з флексіямі ***-ой*** / ***-ай*** (***-ою*** / ***-аю***) у назоўніках ж. р. адз. л. у Т. скл. Як у рускай, так і ў беларускай мовах па змоўчанні прымаецца, што выбар канкрэтнай формы канчатка застаецца за носьбітам мовы ў адпаведнасці з абранымі стылем укладання і рытмамелодыкай сказа (канчатак на ***-ю*** часцей сустракаецца ў вершаваных формах), г. зн. адрозненні не маюць граматычнага значэння [4].

Так, у славутым слоўніку А. Залізняка [3] словы *ліле́я* (паэт.) і *ономатопе́я* (лінгв.) маюць аднолькавы граматычны код (**ж 6а**). Не праводзіцца адрозненняў і ў “Граматычным слоўніку назоўнікаў” (ГСН-2008) пры адлюстраванні Т. скл. у парадыгмах такіх слоў, як *надзея*, *фармакапея* ці нават *дысменарэя* або *радыёаэранавігацыя*. Апошняе слова прывядзем у форме падачы ўкладальнікаў ГСН-2008:

**радыёаэранавіга́цыя** *РДМ* радыёаэранавіга́цыі, *Т* радыёаэранавіга́цыяй (-яю)

Між тым варыянтнасць канчаткаў мн. л. Р. скл., прыкладам назоўнікаў ж. р., укладальнікамі ГСН-2008 фактычна не дапускаецца, хоць часам і не абыходзіцца без нечаканасцей.

**падзе́я**… *мн.* падзе́і, *Р* падзе́й…
*АЛЕ* **трахе́я**… *мн.* трахе́і, *Р* трахе́й (-яў)
**ку́ля**… *мн.* ку́лі, *Р* куль…
*АЛЕ* **кра́ля**… *мн.* кра́лі, *Р* краль (-яў)
**вяршы́ня**… *мн.* вяршы́ні, *Р* вяршы́нь…
*АЛЕ* **святы́ня**… *мн.* святы́ні, *Р* святы́нь (-яў)
**по́стаць**… *мн.* по́стаці, *Р* по́стацей…

*АЛЕ* **чэ́рнець**… *мн.* чэ́рнеці, *Р* чэ́рнецей (-яў)
**рукая́ць**… *мн.* рукая́ці, *Р* рукая́цей…
*АЛЕ* **мячэ́ць**… *мн.* мячэ́ці, *Р* мячэ́цей (-яў)
**схі́льнасць**… *мн.* схі́льнасці, *Р* схі́льнасцей
*АЛЕ* **ва́бнасць**… *мн.* ва́бнасці, *Р* ва́бнасцей (-яў)

Ва ўмовах агульнапрызнанага* [5, 6] згортвання сферы ўжывання беларускай мовы нармалізатарскія памкненні ў дачыненні да нулявых і матэрыяльна выражаных канчаткаў мн. л. Р. скл. падаюцца цалкам контрпрадукцыйнымі. Дарэчы нагадаць выказванне Л. Шчэрбы: “Норма можа складацца з адсутнасці нормы, г. зн. магчымасці сказаць па-рознаму” [7, с. 36]. Увядзенне факультатыўных пазнак да кодаў уяўляецца нам кампрамісным рашэннем, якое адступае ад беспадстаўнага, у большасці выпадкаў суб’ектыўна-густоўнага нармавання сферы функцыянавання доўгіх і нулявых флексій у Р. скл. мн. л. і адкрывае шлях да пашырэння зоны кампетэнцыі носьбіта мовы ў выбары адпаведных формаўтваральных сродкаў**. Задачай граматыка-арфаграфічнага слоўніка з’яўляецца “мяккая” падказка зон меншай угрунтаванасці ўжывання матэрыяльна выражаных флексій ***-аў*** (***-яў***), ***-оў*** (***-ёў***) у некаторых функцыянальных стылях, найперш навуковага характару, і фіксацыя тых адзінкавых выпадкаў, дзе ўжыванне доўгіх канчаткаў цалкам выключана па марфаналагічных прычынах (*рукі – рук, ногі – ног****).

Прапанаваныя намі класіфікацыя назоўнікаў субстантыўнага скланення**** побач з раней прадстаўленай класіфікацыйнай сістэмай беларускага дзеяслова [1] даюць поўнае марфалагічнае апісанне згаданых часцін мовы шляхам прысваення кожнай лексеме граматычнага кода з узорнай парадыгмай, якая ўключае не толькі літарны склад кожнай словаформы, але і націскі. Супастаўленне набораў словазмяняльных класаў (разрадаў) для рускай, паводле слоўніка А. Залізняка [3],

**Табліца 7.**

| | Колькасць словазмяняльных разрадаў | | Колькасць акцэнтных тыпаў | |
|---|---|---|---|---|
| | **Руская мова** | **Беларуская мова** | **Руская мова** | **Беларуская мова** |
| Дзеяслоў | 69 | 144 | 11 | 6 |
| Назоўнікі м. р. | 44 | 47 | | |
| Назоўнікі ж. р. | 57 | 44 | 6 | 5 |
| Назоўнікі н. р. | 31 | 27 | | |

**Табліца 8.**

| **Мужчынскі род** (нулявы канчатак) | **Жаночы род** | **Ніякі род** |
|---|---|---|
| m1$^{1}$ A кло́пат<br>m1$^{1}$ B бягу́н<br>m1$^{1}$ C склад<br>m1$^{2}$ A бу́бен<br>m1$^{2}$ B авёс<br>m1$^{3}$ A наро́г<br>m1$^{3}$ C луг<br>m1$^{4}$ A францішка́нін<br>m2$^{1}$ A акая́ннік<br>m2$^{1}$ B баранчу́к<br>m2$^{1}$ C абшла́г<br>m2$^{2}$ A падо́нак<br>m2$^{2}$ B шчаўкуно́к<br>m3$^{1}$ A прэм’е́р<br>m3$^{1}$ B караты́ш<br>m3$^{1}$ C шнур<br>m3$^{2}$ A францішка́нец<br>m3$^{2}$ B абарэ́ц<br>m4$^{1}$ A віджэ́й<br>m4$^{1}$ B дзяду́сь<br>m4$^{1}$ C глей<br>m4$^{2}$ A узро́вень<br>m4$^{2}$ B авадзе́нь | f1$^{1}$ A прэ́ліна<br>f1$^{1}$ B пахвала́<br>f1$^{1}$ D вараціна́<br>f1$^{2}$ D цягата́<br>f1$^{3}$ D брахва́<br>f2$^{1}$ A прэлю́дыя<br>f2$^{1}$ D бруя́<br>f2$^{2}$ A заняво́ля<br>f2$^{2}$ B абяртня́<br>f2$^{2}$ D гульня́<br>f2$^{3}$ A ляка́рня<br>f3$^{1}$ A буслі́ха<br>f3$^{1}$ D друзга́<br>f4$^{1}$ A пачы́нка<br>f4$^{2}$ A му́зыка<br>f5$^{1}$ A жыццёвасць<br>f5$^{1}$ C1 часць<br>f5$^{2}$ A прэль<br>f6$^{1}$ A прэм’е́ра<br>f6$^{1}$ B Ангара́<br>f7$^{1}$ A сціш | n1$^{1}$ A надво́р’ейка<br>n1$^{2}$ A арляня́тка<br>n2$^{1}$ A аблі́чча<br>n2$^{1}$ B нутро́<br>n3$^{1}$ A прэла́цтва<br>n3$^{1}$ B гайно́<br>n3$^{1}$ D багно́<br>n3$^{3}$ D бервяно́<br>n4$^{1}$ A падшке́льванне<br>n4$^{1}$ B ламаццё<br>n4$^{1}$ D адкрыццё<br>n5$^{1}$ B аленянё(я́) |

і беларускай моў паказвае, што ў першым набліжэнні, калі не лічыць асаблівых і нестандартных выпадкаў, парадыгмальная варыяцыйнасць беларускіх дзеясловаў і назоўнікаў прынамсі суразмерна пры параўнанні з рускімі.

Фармат часопіснага артыкула не дазваляе выйсці за межы агульнага апісання. Іншыя аспекты класіфікацыі назоўнікаў субстантыўнага скланення патрабуюць асобнага разгляду. У заключэнне дзеля дадатковай характарызацыі назоўнікавага фонду беларускай мовы прывядзем зводку (табліца 8) словазмяняльных разрадаў, што ўтрымліваюць дзесяць і больш лексем.

* Некалькі сумных канстатацый да тэмы: “…развіццё і ўдасканаленне сістэмы беларускай мовы паралельна суправаджаецца істотным змяншэннем актыўных карыстальнікаў беларускай мовы і паступовым выцясненнем яе з многіх найбольш важных і ўплывовых сфер ужытку. <…> Асаблівасці сучаснага становішча беларускай мовы ў тым, што ў многіх сферах яна прысутнічае толькі сімвалічна…” (А. Лукашанец [5, с. 108, 114]). “Беларуская літаратурная мова… [з’яўляецца] акралектам для вельмі вузкай праслойкі нацыянальна арыентаванай інтэлігенцыі” (Ю. Каракаў [6, с. 124]). (Акралект – мова камунікавання, найбольш блізкая да літаратурнай нармаванай мовы.)

** Дэталёвы аналіз будзе змешчаны ў артыкуле, які рыхтуецца да друку.

*** Менавіта гэты моўны факт з’яўляецца ўлюбёным дэмагагічным прыёмам асобных прадстаўнікоў нашай філалагічнай навукі: маўляў, ну давайце ўсюды тады пісаць доўгія канчаткі – *ру́каў, но́гаў*. Цікава, аднак, што існаванне формаў *рэк, рэ́каў* у сферы мастацкай літаратуры пры гэтым ігнаруецца. Але ж нагадайма адзін з многіх фактаў: “Там нейдзе ў хвалях рэкаў неразвонных, ў палёх, дзе зацвітаюць васількі, ачох дзяўчат і ясных лёхах лёну губляе неба свой блакіт” (Л. Геніюш).

**** Апісанне парадыгматычных тыпаў іншых змяняльных часцін мовы з прычыны аднолькавай простасці і невялікай разгалінаванасці мы не прыводзім. Узоры скланення прыметнікаў, займеннікаў і лічэбнікаў у нашай моўнай базе ў асноўным адпавядаюць парадыгмам, адлюстраваным у граматыках.

### Спіс літаратуры

1. **Піскуноў, Ф.** Класіфікацыя дзеясловаў : камп’ютарна-лінгвістычны падыход / Ф. Піскуноў // Роднае слова. – 2008. – № 10. – С. 61 – 65.
2. **Русак, В. П.** Марфаналогія сучаснай беларускай мовы / В. П. Русак. – Мінск, 2003. – 316 с.
3. **Зализняк, А. А.** Грамматический словарь русского языка / А. А. Зализняк. – 4-е изд. – М., 2003. – 800 с.
4. **Аванесов, Р. И.** Очерк грамматики русского литературного языка / Р. И. Аванесов, В. Н. Сидоров. – М. : Учпедгиз, 1945. – Ч. 1 : Фонетика и морфология.
5. **Лукашанец, А. А.** Беларуская нацыянальная мова на сучасным этапе : сістэма, статус, функцыянаванне / А. А. Лукашанец // Весці НАН. – 2009. – № 1. – С. 107 – 117.
6. **Коряков, Ю. Б.** Языковая ситуация в Белоруссии / Ю. Б. Коряков // Вопросы языкознания. – 2002. – № 2. – С. 109 – 127.
7. **Щерба, Л. В.** Языковая система и речевая деятельность / Л. В. Щерба. – Л., 1974.

Алена ГРЫНКЕВІЧ

# БЕЛАРУСКІЯ І РУСКІЯ ТЭРМІНЫ СА ЗНАЧЭННЕМ ЛАКАЛЬНАЙ АРЫЕНТАЦЫІ АНАТАМІЧНЫХ АБ'ЕКТАЎ У АСПЕКЦЕ МАТЫВАЛОГІІ

Руская медыцынская тэрміналогія як велізарны лексічны пласт мовы навукі, што налічвае дзясяткі тысяч тэрмінаў, фарміравалася на працягу стагоддзяў, аднак працэс упарадкавання тэрміналагічнай сістэмы і стварэння новых тэрмінаў не спыняецца. Пачаткам сістэматызацыі беларускай медыцынскай тэрміналогіі, па меркаванні С. Ярашэвіча, "можа лічыцца 1923 год, калі супрацоўнік прыродазнаўчай секцыі Інбелкульта І. Цвікевіч распачаў укладаць тэрміналогію па анатоміі, фізіялогіі і гігіене" [1, с. 168], а К. Любецкая адзначае, што яшчэ ў 1918 г. быў выдадзены "Сямімоўны слоўнік", у склад медыцынскай лексікі якога "ўключаны namінацыі з розных супольных галін ведаў: медыцыны (38), анатоміі (17), паталогіі (13) і фізіялогіі (2)" [2, с. 106]. У 1920-я гг. Навукова-тэрміналагічнай камісіяй Наркамасветы БССР былі распрацаваны і выдадзены тры выпускі беларускай анатамічнай тэрміналогіі, якія ўключалі 6710 тэрмінаў. У 1990-я гг. выйшлі праекты беларускіх адпаведнасцей гісталагічнай і эмбрыялагічнай тэрміналогій міжнародным наменклатурам, слоўнікі і даведнікі па розных раздзелах медыцынскай навукі, і гэтая праца па стварэнні вучэбнай і даведачнай літаратуры на беларускай мове працягваецца (Варанец В. І. Руска-беларускі, беларуска-рускі слоўнік медыцынскіх тэрмінаў. Гродна, 2001; Арцішэўскі А. А. Гісталогія з асновамі цыталогіі і эмбрыялогіі. Падручнік для мед. навуч. устаноў. Мінск, 2000 і інш.).

Тэорыя і практыка выкладання дысцыплін медыцынскай навукі прадугледжвае выкарыстанне значнай колькасці тэрміналагічных адзінак (далей ТА), якія ў працэсе гістарычнага развіцця прайшлі трансфармацыю структурнага і семантычнага напаўнення, а таксама тлумачэнне тэрміналагічнай парадыгмы, што ўтрымлівае асноўныя паняцці дадзенай галіны ведаў. Вывучэнне працэсаў, якія адбываюцца ў тэрміналагічным полі медыцыны, уяўляецца важным як для ўпарадкавання тэрміналогіі, так і для выкладання вучэбнага курса "Беларуская навуковая тэрміналогія" ў медыцынскіх вучэбных установах, паколькі кожны тэрмін захоўвае інфармацыю пра матывацыйную дзейнасць навукоўцаў. Нашы назіранні над матывацыяй рускіх анатамічных тэрмінаў знайшлі адлюстраванне ў пэўных працах [3, 4, 5].

Прадметам дадзенага даследавання з'яўляецца група анатамічных тэрмінаў рускай, беларускай і лацінскай моў, у склад якіх уваходзяць прыметнікі, што абазначаюць размяшчэнне анатамічных аб'ектаў, арыентаваных у прасторы адносна вертыкальных анатамічных плоскасцей. У якасці крыніцы беларускага матэрыялу выкарыстоўваюцца тэрміны, апублікаваныя ў працах Навукова-тэрміналагічнай камісіі (далей ПНТК), і тэрміны з беларускага анатамічнага слоўніка, створанага калектывам навукоўцаўанатамаў Мінскага медыцынскага інстытута ў 1990-я гг. (далей БАС).

У анатоміі жывёл і чалавека прынята паняцце аб асноўных праекцыйных плоскасцях. Адрозніваюць тры плоскасці: сагітальную (апазіцыя злева / справа), франтальную (апазіцыя ўперад / назад) і гарызантальную (апазіцыя верх / ніз). Сагітальныя і франтальныя плоскасці належаць да вертыкальных плоскасцей.

Разгледзім некаторыя тэрміны дадзенай групы:

рус. *вертикальный* – бел. *проставесны* (ПНТК), *вертыкальны* (БАС) – лац. *verticalis* 'стромкі, вертыкальны', напр.: *ністагм вертыкальны* 'ністагм, пры якім рухі ўтвараюцца знізу ўверх і зверху ўніз';

рус. *сагиттальный* – бел. *стрэлаваты, пярэдня-задні* (ПНТК), *сагітальны* (БАС) – лац. *sagittalis* 'стрэлаваты: размешчаны ў пярэднезаднім напрамку', напр.: *сагітальнае шво* 'шво, якое злучае паміж сабой правую і левую цемянныя косці';

рус. *фронтальный* (сін. *лобный*) – бел. *лобны* і *фронтавы* (ПНТК), *лобны, франтальны* (БАС) – лац. *frontalis* 'лобны, які адносіцца ці належыць да лба', напр.: *сардэчны вектар франтальны* 'праекцыя сардэчнага вектара на франтальную плоскасць цела';

рус. *венечный* – бел. *дзюбаваты* (ПНТК), *вянцовы* (БАС) – лац. *coronalis* 'які адносіцца да вянца, сыходзіць з вянка', напр.: *вянцовае шво* 'шво, якое злучае лобную і цемянную косці'.

Тры з чатырох рускіх тэрмінаў, пададзеных вышэй, – гэта транслітараваныя запазычан-

ні з прыцемненай унутранай формай (*вертикальный*, *сагиттальный*, *фронтальный*), адзін з тэрмінаў (*венечный*) і сінонім тэрміна *фронтальный* (*лобный*) уяўляюць сабой прамыя пераклады з жывой унутранай формай словаўтваральнага тыпу. Што да беларускіх тэрмінаў, змешчаных у выпусках першай нацыянальнай анатамічнай тэрміналогіі (1920-я гг.) на беларускай мове (*проставесны*, *стрэлаваты*, *пярэдня-задні*, *лобны*, *фронтавы*, *дзюбаваты*), усе яны маюць жывую ўнутраную форму словаўтваральнага тыпу і з'яўляюцца матываванымі па прыкмеце размяшчэння ў прасторы, па форме або месцы размяшчэння адносна якога-небудзь аб'екта. Гэтыя прыклады ілюструюць палажэнне аб тым, што "галоўнай крыніцай стварэння новых тэрмінаў і папаўнення канкрэтных галіновых тэрміналагічных сістэм з'яўляецца лексічная і словаўтваральная сістэма агульналітаратурнай беларускай мовы" [6, с. 130]. Сістэматызацыя беларускай тэрміналогіі ў 1990-я гг. прывяла да з'яўлення транслітараваных запазычанняў *вертыкальны*, *сагітальны*, *франтальны*, якія замянілі прамыя пераклады 1920-х гг., што звязана з сусветнай тэндэнцыяй інтэрнацыялізацыі мовы навукі. Па меркаванні Л. Антанюк, крытэрыі выбару лексічных адзінак былі сфармуляваны яшчэ ў 1920-я гг. і з тых часоў прынцыпова не змяніліся: "…калі пэўны іншамоўны тэрмін шырока выкарыстоўваецца ў сферы функцыянавання і ў блізкароднасных славянскіх мовах, то няма патрэбы ствараць беларускі адпаведнік" [6, с. 159].

Разгледжаныя медыцынскія тэрміны-прыметнікі з'яўляюцца кампанентамі двухслоўных тэрміналагічных абазначэнняў цэлага шэрагу органаў цела.

Прыметнік *вертыкальны* ўваходзіць у склад метафарычных ТА *вертыкальная ножка*, *вертыкальны грэбень*, матываваных па прыкмеце размяшчэння ў прасторы і па форме анатамічных утварэнняў, семантыку дадзеных ТА вызначае пераноснае значэнне назоўнікаў *ножка* і *грэбень*.

Прыметнік *сагітальны* выкарыстоўваецца ў сучаснай анатамічнай тэрміналогіі ў складзе ТА *сагітальнае шво*, *сагітальны край* і інш. Фактарам, які вызначае характар матываванасці ТА *сагітальнае шво*, з'яўляецца пераноснае значэнне абодвух кампанентаў, а семантыку ТА *сагітальны край* вызначае пераноснае значэнне тэрміна-прыметніка *сагітальны*.

Прыметнік *вянцовы*, які ўжываецца ў дачыненні да пэўных анатамічных утварэнняў, сустракаецца ў сучаснай анатамічнай тэрміналогіі ў складзе двухскладовых тэрмінаў, напрыклад:



***Алена Іванаўна Грынкевіч*** *– мовазнаўца, педагог. Закончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1986). Аспірант кафедры рускай мовы БДУ. Выкладала рускую мову ў школе, у Беларускім дзяржаўным медыцынскім універсітэце.*

рус. *венечный отросток* – бел. *дзюбаваты адростак* (ПНТК), *адростак вянцовы* (БАС) – лац. *processus coronoideus*;

рус. *венечная ямка* – бел. *яміна дзюбаватага адростку* (ПНТК), *ямка вянцовая* (БАС) – лац. *fossa coronoideus* і інш.

Значэнне тэрміна *вянцовы* мае шэраг асаблівасцей, што вызначае семантыку і ўнутраную форму двухслоўнага тэрміна. Спынімся падрабязней на характары матывацыі дадзенага тэрміна.

Тэрмін-прыметнік *вянцовы* ўваходзіць у склад двух тэрміналагічных словазлучэнняў, якія абазначаюць розныя анатамічныя аб'екты. Тэрмінам *вянцовы адростак* (з галоўным кампанентам – аддзеяслоўным дэрыватам *адростак*) у анатоміі называюць частку ніжняй сківіцы і частку локцевай косці.

У XVIII ст. для намінацыі вянцовага адростка локцевай косці выкарыстоўваўся шэраг сінанімічных абазначэнняў – *исхождение переднее и меншее, горбыль вороней, отросток венцо(е)подобный, венцу подобный локотный отросток, венечный отросток, отросток меньшей* і інш. У гэтых тэрмінах знайшлі адлюстраванне памер аб'екта, падабенства да птушкі, артэфакта.

Для намінацыі вянцовага адростка ніжняй сківіцы анатамамі прапаноўваліся канструкцыі, у якіх прадстаўлены памер, функцыя, форма і месца размяшчэння анатамічнага аб'екта – *изхождение преднее, острое исхождение, отросток ради привязания мышек, отросток венцеобразный, венцеподобный, венцу подобный, птичьему носу подобный, остроконечный отросток, (в)острый отросток, передний отросток, венечный отросток*.

У апісальнай канструкцыі *птичьему носу подобный* падабенства да птушкі зусім не выпадковае: рус. *венечный* – лац. *coronoides* (ад грэч. *corone* 'вянец' і 'варона'; *eidos* 'выява, падабенства'). І. Гіртль у "Кіраўніцтве да тапаграфічнай анатоміі" ў разважаннях з нагоды намінацыі вянцовага адростка адзначаў, што "гэты ад-

ростак падобны хутчэй на дзюбу вароны… чым на вянец" [7, с. 149, 237].

Матывацыя па функцыі адлюстравана ў іншай апісальнай канструкцыі – *отросток ради привязания мышек*.

Сучаснае метафарычнае найменне *венечная ямка* належыць Камісіі па распрацоўцы рускай анатамічнай наменклатуры.

Вянцовая ямка плечавой косці ў XVIII ст. мела шэраг сінанімічных абазначэнняў, у якіх былі адлюстраваны месца размяшчэння і памер аб'екта, – *внутрнее недро, ямочка передняя, ямка передняя, передняя большая ямочка.* У апошнім тэрміне гэтага сінанімічнага рада галоўны кампанент *ямочка* і азначэнне *большая* выяўляюць процілеглыя прыкметы: азначэнне паказвае на вялікі памер аб'екта, а дэмінутыў *ямочка* сведчыць пра малы па памеры аб'ект.

Пры выбары сучаснага тэрміна з пераносным характарам матывацыйнай прыкметы абодвух кампанентаў падабенства з аб'ектамі вонкавага свету забяспечваецца ўказаннем на форму (семы 'вянец', 'ямка') і памер (сема 'невялікі').

Азначэнне *дзюбаваты* беларускай ТА *дзюбаваты адростак*, матываванае формай аб'екта, пазней замянілі тэрмінам-прыметнікам *вянцовы*, што дазволіла (у адпаведнасці з прынцыпам скарачэння аб'ёму ТА) выкарыстаць двухкампанентны тэрмін *ямка вянцовая* замест апісальнай канструкцыі *яміна дзюбаватага адростку*.

Мноства анатамічных тэрмінаў, арыентаваных у дачыненні да іншых органаў, уключаюць азначэнні *лобны / лобная*:

рус. *лобный отросток* – бел. *прылобнічны адростак* (ПНТК), *адростак лобны* (БАС) – лац. *processus frontalis*;

рус. *лобный гребень* – бел. *лобнічны грабеньчык* (ПНТК), *грэбень лобны* (БАС) – лац. *crista frontalis*;

рус. *лобный бугор* – бел. *лабякі, лобныя гузы* (ПНТК), *груд лобны* (БАС) – лац. *tuber frontale*;

рус. *лобный угол* – бел. *прылобнічны кут* (ПНТК), *вугал лобны* (БАС) – лац. *angulus frontalis*;

рус. *лобный край* – бел. *прылобнічны край* (ПНТК), *край лобны* (БАС) – лац. *margo frontalis*;

рус. *лобная пазуха* – бел. *лобнічная пазуха* (ПНТК), *сінус лобны* (БАС) – лац. *sinus frontalis* і інш.

Прыведзеныя прыклады дэманструюць, што тэрмін-прыметнік *лобны*, у якім вербальна рэалізавана сема 'месца', ужываецца ў прамым значэнні; пераноснае значэнне словазлучэнняў вызначаюць галоўныя кампаненты ТА – назоўнікі, якія вербалізуюць семы 'форма' (*адростак*, *грэбень*, *груд*, *кут*), 'канцавая частка чаго-н.' (*край*), 'умяшчальня' (*пазуха*).

Пяройдзем да разгляду ТА, у склад якіх уваходзіць тэрмін-прыметнік *лобны*. ТА *лобны адростак* у анатоміі служыць для наймення двух аб'ектаў – часткі верхняй сківіцы і скулавой косці. У XVIII ст. лобны адростак скулавой косці меў сінанімічную пару ТА – *отросток лобный* і *отросток верьхний*, а лобны адростак верхняй сківіцы – трохчленны сінанімічны рад: *отросток носовый верьхний, носовой отросток, верьхний отросток*.

У беларускай тэрміналогіі для называння часткі верхняй сківіцы выкарыстоўвалася двухкампанентнае спалучэнне *прылобнічны адростак*, а частка скулавой косці іменавалася *прылобнічнаклінаваты адростак*. Абодва спалучэнні ўяўляюць сабой метафарычныя канструкцыі; падпарадкаваны кампанент другой тэрміналагічнай адзінкі *прылобнічнаклінаваты* паказвае не толькі на месца размяшчэння аб'екта, але і на яго форму.

У шэрагу сінанімічных абазначэнняў, якія выкарыстоўваліся ў XVIII ст. для намінацыі лобнага грэбня, побач з двухслоўнымі тэрмінамі *лобный гребешок, лобный гребень*, трохслоўнымі канструкцыямі *спинка лобная внутренняя, внутренняя спинка лба* сустракаліся і аднаслоўныя тэрміны *ость, выпуклина*. Намінацыя па форме знайшла адлюстраванне і ў рускім аддзеяслоўным дэрываце *выпуклина*, які з'яўляецца прамым перакладам лацінскага *eminentia* 'выступ, выпукласць' (ад дзеяслова *emineo* 'выступаць, выдавацца'), і ў сучасным тэрміне *лобный гребень*, які ўяўляе сабой заанімічную метафару. Адрозненні ў беларускім і рускім тэрмінах неістотныя; яны тычацца структуры галоўнага кампанента: у беларускай ТА *лобнічны грабеньчык* галоўнае слова – дэмінутыў *грабеньчык*, назоўнік у памяншальнай форме.

Пры называнні лобнага груда ў XVIII ст. выкарыстоўвалася апісальная канструкцыя, якая перадае памер і форму аб'екта, – *кругловатое неограниченное возвышение*, фітанімічная метафара *лобная шишка* і ландшафтанімічная метафара *лобный бугор*. Беларускія вучоныя для наймення лобнага груда прапанавалі сінанімічную пару – *лабякі* і *лобныя гузы* (*гуз* 'пукатасць, нараст на целе чалавека або жывёлы ад удару, запалення і пад.'). Форма аб'екта адлюстроўваецца ў ТА *лобныя гузы*.

У сучаснай рускай і лацінскай анатамічнай тэрміналогіі для намінацыі дадзенага анатамічнага аб'екта выкарыстоўваюцца сінанімічныя пары: рус. *лобный бугор, лобное возвышение* – лац. *tuber frontale, eminentia frontalis*, якім адпавядае беларускі тэрмін *груды лобныя* (*груд* 'невялікая горка, узгорак').

Першай рускай назвай лобнага вугла цемяннной косці было трохслоўнае спалучэнне *перед-*

*ний верхний угол*, у аснову якога пакладзены прыкметы размяшчэння ў прасторы і формы, а таксама тэрміналагічнае словазлучэнне *лобный угол*, у якім адлюстроўваецца месца размяшчэння аб'екта і яго форма. У сучасную анатамічную тэрміналогію ўваходзяць двухкампанентныя спалучэнні *лобный угол* і яго беларускі эквівалент *вугал лобны*, які замяніў спалучэнне *прылобнічны кут*.

Для называння лобнай косці ў XVIII ст. існаваў шэраг сінанімічных канструкцый – *кость чела, кость лобная, венечная, чел(ь)ная, передоголовная, кость лба, лбинная, лбина* і інш., адна з якіх (*венечная*) матывавана па падабенстве з аб'ектам вонкавага свету, астатнія матываваны па прыкмеце месца размяшчэння. Тая ж прыкмета была выкарыстана беларускімі вучонымі пры стварэнні тэрміна *лобная косьць*. Імкненне да стварэння кароткіх тэрмінаў спрыяла з'яўленню сіноніма *лобніца*.

Такім чынам, у артыкуле разгледжаны чатыры аднаслоўныя анатамічныя тэрміны, якія абазначаюць лакальную арыентацыю анатамічных аб'ектаў, а таксама прыводзяцца прыклады вытворных двухкампанентных і шматкампанентных тэрміналагічных спалучэнняў, утвораных на базе гэтых аднаслоўных тэрмінаў.

У анатамічных аб'ектаў, назва якіх складалася з дзвюх і больш ТА (у іх склад уваходзілі вышэйадзначаныя аднаслоўныя тэрміны са значэннем лакальнай арыентацыі), колькасць сінонімаў у рускай тэрміналогіі XVIII ст. звычайна двуматрыма не абмяжоўвалася (вянцовая ямка плечавой косці – *внутрнее недро, ямочка передняя, ямка передняя, передняя большая ямочка*).

Колькасць сінонімаў у сучаснай рускай анатамічнай тэрміналогіі значна скарацілася і, як правіла, уключае дзве адзінкі (*фронтальный, лобный*). Як адзначаюць вучоныя, сучаснай беларускай тэрміналагічнай сістэме ўласціва сінанімія, аднак разгледжаныя ТА таксама дазваляюць гаварыць пра нязначную колькасць сінанімічных пар (*лабякі, лобныя гузы*).

Матывацыйныя прыкметы, пакладзеныя ў аснову намінацыі аб'екта ў рускай тэрміналагічнай сістэме, маглі супадаць (лобная косць – *кость чела, чел(ь)ная, передоголовная, кость лба, лбинная, лбина*), але часцей адрозніваліся (вянцовы адростак ніжняй сківіцы – *изхождение преднее, острое исхождение, отросток ради привязания мышек, отросток венцеобразный, птичьему носу подобный, остроконечный отросток, (в)острый отросток, передний отросток, венечный отросток* і інш.).

Матывацыйныя прыкметы сучасных рускіх і беларускіх анатамічных тэрмінаў звычайна супадаюць (*лобный бугор – груд лобны*).

Важным класіфікацыйным параметрам, які вызначае матываванасць значэння тэрміна і забяспечвае сувязь яго зместу і яго формы, з'яўляецца прамы або пераносны характар матывацыйнай прыкметы, якая аказалася семантычным цэнтрам моўнай намінацыі аб'екта пазамоўнай рэчаіснасці.

Пры супастаўленні семантыкі і знешняй структуры рускіх і лацінскіх тэрмінаэлементаў можна адзначыць наступныя асаблівасці: большасць рускіх намінацый анатамічных адзінак у XVIII ст. – гэта прамы пераклад лацінскіх эквівалентаў, а сучасныя тэрміны-прыметнікі – часцей за ўсё транслітараваныя пераклады.

Беларускія тэрміны пачатку XX ст. уяўляюць сабой прамыя пераклады лацінскіх эквівалентаў, створаныя на аснове агульнанароднай лексікі (*лобныя гузы*) або ў выніку словатворчасці (*лабякі*). Да канца 1990-х гг. частка тэрмінаў была заменена транслітараванымі запазычаннямі.

*Пераклад з рускай мовы.*

**Спіс літаратуры**

1. **Ярошевич, С. П.** Беларуская навуковая медыцынская тэрміналогія : станаўленне і сучасны стан / С. П. Ярошевич // Медицина Беларуси XX в. : тезисы докладов VIII Респ. научн. конф. по истории медицины. – Минск, 1998. – С. 168 – 170.

2. **Любецкая, К. П.** Лексічныя змены ў беларускай медыцынскай тэрміналогіі XX ст. (на матэрыяле лексікаграфічных крыніц) / К. П. Любецкая // Працы кафедры сучаснай беларускай мовы. – Мінск : РІВШ БДУ, 2006. – Вып. 5. – С. 105 – 111.

3. **Гринкевич, Е. И.** Русские медицинские термины в мотивологическом аспекте / Е. И. Гринкевич // Теория и практика преподавания русского языка как иностранного : достижения, проблемы и перспективы развития : материалы IV Междунар. науч.-методич. конф., Минск, 20 – 21 мая 2010 г. / Белорус. гос. ун-т; редкол. С. И. Лебединский [и др.]. – Минск, 2010. – С. 132 – 135.

4. **Гринкевич, Е. И.** Языковая мотивированность и принципы номинации в русской анатомической терминологии / Е. И. Гринкевич // Весн. Белар. дзярж. ун-та. Сер. 4, Філалогія. Журналістыка. Педагогіка. – 2010. – № 3. – С. 20 – 24.

5. **Гринкевич, Е. И.** Номинация анатомических объектов по нескольким мотивационным признакам / Е. И. Гринкевич // Русская речь в современном вузе : материалы VII Междунар. науч.-практич. интернет-конф., Орёл, 1 ноября 2010 – 10 января 2011 г. / Орловский гос. ун-т; редкол. Б. Н. Бобылев. – Орёл, 2011. – С. 15 – 18.

6. **Антанюк, Л. А.** Беларуская мова. Прафесійная лексіка : курс лекцый / Л. А. Антанюк, Б. А. Плотнікаў. – 3-е выд. – Мінск : Акадэмія кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, 2005.

7. **Романов, Н. А.** Русская анатомическая терминология XVIII века / Н. А. Романов. – Смоленск : САУ, 1974. – Кн. 1.

*Артыкул рэкамендаваны да друку кафедрай рускай мовы філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.*

*Праблемы перакладу*

# ПЕРАДАЧА АНГЛІЙСКІХ РЭДУПЛІКАТЫЎНЫХ УТВАРЭННЯЎ ПА-БЕЛАРУСКУ

## ПЕРАКЛАДЧЫЦКІЯ РАШЭННІ І СПОСАБЫ ІХ РЭАЛІЗАЦЫІ

У святле тэндэнцый да глабалізацыі і імклівага развіцця міжмоўных кантактаў праблемы перакладу застаюцца актуальнымі. Безумоўна, любому аўтару (як стваральніку мастацкіх твораў, так і складальніку тэхнічных дакументаў) хочацца, каб у перакладзе яго працы мелі як мага менш скажэнняў і розначытанняў, захоўвалі адметны стыль і почырк.

Паводле В. Камісарава, “асноўныя перакладчыцкія ўменні аб’ядноўваюцца ва ўменне аналізаваць тэкст арыгінала, вызначаць стандартныя і нестандартныя перакладчыцкія праблемы і выбіраць спосабы іх вырашэння, якія найбольш адпавядаюць кожнаму канкрэтнаму акту перакладу” [1, с. 339].

Як адна з галоўных перакладчыцкіх праблем у гэтым артыкуле разглядаецца перадача рэдуплікатыўных утварэнняў (РУ). Пад рэдуплікацыяй (ад лац. *reduplicatio* ‘падваенне’) мы разумеем поўнае або частковае паўтарэнне фаналагічна падобных свабодных марфем. Услед за замежнымі лінгвістамі (Н. Танам [2], Х. Марчандам [3], К. Хансенам [4]) мы вылучаем наступныя структурныя тыпы рэдуплікатыўных утварэнняў (падрабязней гл. [5]): 1) поўныя – абмяжоўваюцца паўтарэннем гукапераймальнага кораня з узмацняльным эфектам (бел. *дум-дум*, англ. *woo-woo*); 2) аблатыўныя – складаюцца з асноўнай марфемы ці псеўдамарфемы, якая паўтараецца ў іншым кампаненце за зменай галоснай (бел. *пінг-понг*, англ. *wig-wag*); 3) рыфмаваныя – складаюцца з дзвюх (часцей за ўсё) псеўдамарфем, аб’яднаных для стварэння рыфмы, якія адрозніваюцца толькі пачатковым гукам / гукамі (бел. *хапу-лапу*, англ. *teenty-weenty*).

Аналітычны лад англійскай мовы спрыяе распаўсюджванню рэдуплікатыўных слоў, асабліва ў гутарковай мове. Гэтым і тлумачыцца вялікая колькасць прац, апублікаваных замежнымі лінгвістамі за апошнія сто гадоў, дзе разглядаюцца розныя аспекты рэдуплікацыі як словаўтваральнага працэсу (гл. фундаментальныя працы Х. Марчанда [3], Н. Тана [2], К. Хансена [4] з багатай бібліяграфіяй). У беларускім мовазнаўстве, наколькі вядома, асноўныя пытанні, звязаныя з вызначэннем статусу рэдуплікатыўных слоў, а таксама спосабы іх перакладу дагэтуль не былі прадметам спецыяльнага разгляду, што і вызначае **актуальнасць** дадзенага артыкула.

Такім чынам, **мэта** артыкула заключаецца ў разглядзе перакладчыцкіх рашэнняў, якія прымаюцца пры перадачы рэдуплікатыўных утварэнняў англійскай мовы па-беларуску.

**Аб’ектам** даследавання выступаюць мастацкія тэксты сучасных англамоўных аўтараў і іх афіцыйна выдадзеныя пераклады на беларускую мову.

**Прадмет** даследавання – рэдуплікатыўныя ўтварэнні і спосабы іх перадачы ў разгледжаных мастацкіх тэкстах.

У даследаванні выкарыстоўваліся наступныя лінгвістычныя метады: супастаўляльны аналіз разнамоўных тэкстаў (дазволіў атрымаць каштоўныя дадзеныя пра ступень блізкасці зместу і структуры арыгінала і перакладу, спосабы дасягнення эквівалентнасці і многія іншыя істотныя характарыстыкі перакладчыцкага працэсу), кампанентны аналіз (дазволіў супаставіць семны склад адзінак арыгінала і перакладу і выявіць ступень іх адпаведнасці адзін аднаму), трансфармацыйны аналіз (дазволіў выявіць і апісаць цэлы шэраг прыёмаў перакладу ў выглядзе набору перакладчыцкіх трансфармацый), элементарныя матэматычныя падлікі.

**Матэрыялам даследавання** паслужылі адзінаццаць класічных твораў брытанскіх, амерыканскіх, аўстралійскіх і ірландскіх пісьменнікаў XX ст. (абмежаванасць выбаркі тлумачыцца параўнальна малой колькасцю перакладзеных на беларускую мову твораў англамоўнай літаратуры).

**Метадалагічную аснову** гэтага даследавання складаюць наступныя палажэнні:

1) прапанаваная В. Камісаравым (у рамках лінгвістычнай тэорыі перакладу) канцэпцыя мастацкага перакладу як віду перакладчыцкай дзейнасці, асноўная задача якога заключаецца ў перадачы мастацка-эстэтычных вартасцей арыгінала, што прадвызначае адхіленні ад максімальна магчымай сэнсавай дакладнасці з мэтай забеспячэння мастацкасці перакладу. Гэтае палажэнне абумоўлівае два іншыя ўзаемазвязаныя прынцыпы, якія ляжаць у аснове даследавання: прынцып неабходнасці перакладчыцкіх трансфармацый і прынцып функцыянальных адпаведнікаў;

2) класіфікацыі перакладчыцкіх трансфармацый, прапанаваныя В. Камісаравым, В. Казаковай, А. Фёдаравым.

Пад перакладчыцкім рашэннем (услед за Л. Енбаевай) мы разумеем выбар перакладчыкам сродкаў перакладной мовы, варыянтаў перакладу і перакладчыцкіх трансфармацый, накіраваных на вырашэнне супярэчнасцей, абумоўленых міжмоўнай асіметрыяй (падрабязней гл. [6]).

У цэлым супастаўляльны аналіз перакладаў 49 выпадкаў рэдуплікатыўных утварэнняў англійскай мовы на беларускую мову дазволіў выявіць тры тыпы перакладчыцкіх рашэнняў (гл. табліцу 1).

**Табліца 1. Тыпы перакладчыцкіх рашэнняў пры перадачы рэдуплікатыўных утварэнняў з англійскай мовы на беларускую.**

| № | Тып перакладчыцкага рашэння | Колькасць | Сутнасць | Мадэль |
|---|---|---|---|---|
| 1. | Захаванне | 51% | Захоўваецца структура, семантыка, а таксама ўсе функцыі, якія выконвае РУ | РУ → РУ |
| 2. | Кампенсацыя | 49% | Форма РУ не захоўваецца, аднак раскрыты семантычны кампанент, дасягнуты падобны эматыўны і прагматычны эфект | РУ → РУ′ |
| 3. | Элімінацыя | – | РУ атрымоўвае ў перакладзе нулявы адпаведнік, гэта значыць папросту апускаецца | РУ → РУ⁰ |

Непасрэдны параўнальны аналіз тэксту арыгінала і перакладу дазволіў вылучыць сярод пералічаных стратэгій віды пераўтварэнняў, якія найбольш часта выкарыстоўваюцца перакладчыкам. Разгледзім іх больш падрабязна.

**1. Захаванне як тып перакладчыцкага рашэння** (РУ → РУ) часцей за ўсё робіцца магчымым дзякуючы транскрыпцыі (аднаўленне гукавой формы лексічнай адзінкі арыгінала) і транслітарацыі (аднаўленне графічнай формы лексічнай адзінкі арыгінала), якія ў асноўным прымяняюцца ў адносінах да:

• рэдуплікатыўных імёнаў уласных (тапонімаў, антрапонімаў, прагнонімаў і г. д.). Напрыклад: *It became once more a typical settlement on the very edge of the Back of Beyond, a last outpost in a steadily diminishing rainfall belt; not far away westward began two thousand miles of the* ***Never-Never****, the desert lands where it could not rain* [7, с. 88] – *І зноў гарадок набыў свой звычайны выгляд – тыповае паселішча ў глухім, далёкім кутку свету, апошняе прыстанішча чалавека на самым краі багата акропленых дажджамі зямель; а крышачку далей на захад на дзве тысячы міль рассцілалася бязлюдная пустыня* ***Невер-Невер****, дзе ніколі не бывае дажджу* [8, с. 79];

• рэдуплікатыўных выклічнікаў / гукаперайманых слоў: *I ate the end of my piece of cheese and took a swallow of wine. Through the other noise I heard a cough, then came the* ***chuh-chuh-chuh-chuh*** *– then there was a flash, as when a blast-furnace door is swung open, and a roar that started white and went red and on and on in a rushing wind* [9, с. 45] – *Я адкусіў ад свайго сыру і глынуў віна. Сярод шуму я пачуў кашаль, затым пачулася:* ***чух-чух-чух-чух****, пасля нешта бліснула, нібыта адчынілі насцеж ляток домны, і гул, спачатку белы, пасля ўсё больш чырвоны, яшчэ чырванейшы ў імклівай віхуры* [10, с. 46];

• рэдуплікатыўных тэрмінаў і номенаў. Напрыклад: *All we could see of the procession through the closely pressed people that crowded all the side streets and curbs were the great giants, cigar-store Indians, thirty feet high, Moors, a King and Queen, whirling and waltzing solemnly to the* ***riau-riau*** [11, с. 100] – *Адзінае, што мы маглі разгледзець як след у густым натоўпе, які патокам плыў па ўсёй вуліцы і па абочынах, – гэта фігуры гігантаў-індзейцаў, волатаў-маўраў, вялізных караля і каралевы. Яны ўрачыста калыхаліся і круціліся пад гукі* ***рыа-рыа*** [12, с. 169].

**2. Кампенсацыя як тып перакладчыцкага рашэння** (РУ → РУ') часцей за ўсё вырашаецца дзякуючы наступным лексічным трансфармацыям:

• сэнсавай канкрэтызацыі (лексічная адзінка мовы арыгінала з больш шырокім значэннем замяняецца ў перакладзе лексічнай адзінкай з больш вузкім значэннем). Напрыклад: *Oh I'm only a small smoker, a very small smoker, I'm not in the habit of smoking two pipes one on top of the other, it makes… my heart go* ***pit-a-pat*** [13, с. 39] – *Не, я не закарэлы курэц, я куру вельмі мала, рэдка здараецца, каб я курыў адну люльку за другой… гэта* ***шкодзіць*** *майму сэрцу* [14, с. 28];

• функцыянальнаму аналагу (лексічная адзінка мовы арыгінала перадаецца такой адзінкай у перакладзе, якая выклікае падобную рэакцыю ў рэцыпіента): *"Oh, goodie! Jam* ***roly-poly****!" Meggie exclaimed, slopping her spoon up and down in the custard until the jam seeped through to make pink streaks in the yellow* [7, с. 25] – *Ой, як здорава!* ***Запяканка з варэннем****! – закрычала Мэгі і пачала разграбаць лыжкай жоўты крэм, пакуль у ім не праступілі ружовыя разводы варэння* [8, с. 18];

• мадуляцыі (ці сэнсаваму развіццю). Напрыклад: *On they went, Gollum* ***flip-flapping*** *ahead, hissing and cursing; Bilbo behind going as softly as*

*a hobbit can* [15, с. 83] – *Вось так яны і рушылі. Глыкс,* ***пляскаючы пяткамі па падлозе****, мармытаў праклёны і шыпеў, а Більба краўся за ім так мякка і ціхенька, як толькі хобіт можа* [16, с. 80];

• выкарыстанню памяншальных суфіксаў і суфіксаў суб'ектыўнай ацэнкі: *I said weakly, "Oh well, I don't mind quiet. What will you eat?" / "I have such a* ***teeny-weeny*** *appetite, colonel. A langouste thermidor…"* [17, с. 287] – *О, я не маю нічога супраць спакойнага ціхага жыцця. Што вы будзеце есці? / – У мяне такі* ***малюпасенькі*** *апетыцік, палкоўнік. Хіба што langouste thermidor…* [18, с. 319].

**3. Элімінацыя як тып перакладчыцкага рашэння** (РУ → $РУ^0$) у перакладах рэдуплікатыўных утварэнняў на беларускую мову не сустракаецца, у адрозненне ад перакладаў на рускую мову, дзе, згодна з папярэднімі падлікамі, рэдуплікатыўныя ўтварэнні апускаюцца ў 60% выпадкаў [гл.: 19].

У выніку праведзенага аналізу можна зрабіць наступныя **вывады**:

1) акрамя раскрыцця семантычнага кампанента, пры перакладзе рэдуплікатыўных утварэнняў неабходна дабівацца падабенства эматыўнага і прагматычнага эфекту, а таксама па магчымасці захоўваць форму зыходнай адзінкі. Удалым перакладам, на наш погляд, з'яўляецца такі, у якім захаваны форма, семантыка зыходнага слова, а таксама ўсе функцыі, якія выконваюцца падобнымі складанымі адзінкамі ў тэксце;

2) беларускамоўныя перакладчыкі англійскай літаратуры, у адрозненне ад сваіх рускамоўных калег, якія часта праяўляюць нядбайнасць у дачыненні да рэдуплікатыўных слоў і проста іх не перакладаюць (або, як паказаў наш аналіз, няўважліва ставяцца да рэдуплікатыўных утварэнняў, што прыводзіць да перакладчыцкіх страт і незаслужана збядняе перакладны тэкст), добра спраўляюцца з перакладам рэдуплікатыўных утварэнняў, пры гэтым на іх узбраенні знаходзяцца пэўныя перакладчыцкія стратэгіі (гл. табліцу 2);

**Табліца 2. Зводная табліца перакладчыцкіх рашэнняў пры перадачы рэдуплікатыўных утварэнняў з англійскай мовы на беларускую.**

| № | Тып перакладчыцкага рашэння | Перакладчыцкія трансфармацыі |
|---|---|---|
| 1. | Захаванне | транскрыпцыя |
| | | транслітарацыя |
| 2. | Кампенсацыя | канкрэтызацыя |
| | | функцыянальны аналаг |
| | | мадуляцыя |
| | | выкарыстанне памяншальных суфіксаў і суфіксаў суб'ектыўнай ацэнкі |
| 3. | Элімінацыя | апушчэнне |

3) пры кампенсацыі ў перакладчыкаў атрымліваецца досыць удалы варыянт трактавання англійскага рэдуплікатыўнага ўтварэння, аднак яскравая вобразнасць і высокая ступень выражанасці эматыўнай танальнасці арыгінала, створаныя дзякуючы структуры рэдупліканта, пры перакладзе губляюцца. Выкарыстанне суфіксаў суб'ектыўных адносін, якія з'яўляюцца вельмі распаўсюджанымі ва ўсходнеславянскіх мовах марфалагічнымі сродкамі, лічыцца адным з найбольш эфектыўных прыёмаў пры перакладзе англійскіх рэдуплікатыўных утварэнняў.

**Спіс літаратуры**


1. **Комиссаров, В. Н.** Современное переводоведение : учеб. пособие / В. Н. Комиссаров. – М. : ЭТС, 2004.
2. **Thun, N.** Reduplicative words in English / N. Thun. – Uppsala, Sweden : Carl Bloms, 1963.
3. **Marchand, H.** The categories and types of present-day English word-formation / H. Marchand. – Wiesbaden : Otto Harrassowitz, 1960.
4. **Hansen, K.** Reim- und Ablautverdoppelungen / K. Hansen // Zeitschrift für Anglistik und Amerikanistik. – 1964. – N. 1. – P. 3 – 28.
5. **Шульга, Н. В.** Фономорфологическая структура редупликативных слов белорусского, русского и английского языков / Н. В. Шульга // Весці БДПУ. Сер. 1, Педагогіка. Псіхалогія. Філалогія. – 2010. – № 3. – С. 62 – 66.
6. **Енбаева, Л. В.** Переводческое решение речевой многозначности (на материале литературы нонсенса) : автореф. дис. … канд. филол. наук / Л. В. Енбаева; Тюмен. гос. ун-т. – Тюмень, 2009.
7. **Mccullough, C.** The Thorn Birds / C. Mccullough. – London : Macdonald and Jane's Publishers, 1977.
8. **Маккалаў, К.** Птушкі на цернях / К. Маккалаў; пер. С. Дорскага, В. Рабкевіча. – Мінск : Маст. літ., 1988.
9. **Hemingway, E.** Farewell to Arms / E. Hemingway. – London : Penguin, 1969.
10. **Хэмінгуэй, Э.** Бывай, зброя / Э. Хемінгуэй; пер. М. Валошкі. – Мінск : Беларусь, 1996.
11. **Hemingway, E.** The Sun Also Rises (Fiesta) / E. Hemingway. – London : Pan Books Ltd, 1972.
12. **Хемінгуэй, Э.** І ўзыходзіць сонца (Фэст) / Э. Хемінгуэй; пер. Ю. Гаўрука. – Мінск : Маст. літ., 1976.
13. **Beckett, S.** Waiting for Godot : tragicomedy in 2 acts / S. Beckett. – NY : Grove Press Inc., 1981.
14. **Бэкет, С.** У чаканьні Гадо / С. Бэкет; пер. В. Воранава. – Мінск : Логвінаў, 2005.
15. **Tolkien, J. R. R.** The Hobbit / J. R. R. Tolkien. – NY : Ballantine Books, 1981.
16. **Толкін, Д. Р. Р.** Хоббіт, або Вандроўка туды і назад / Д. Р. Р. Толкін; пер. К. Курчанковай, Д. Магілеўцава. – Мінск : Элессар, 2002.
17. **Greene, G.** Loser Takes All / G. Greene // The Heart of the Matter / G. Greene. – London : Heinemann, 1977.
18. **Грын, Г.** Хто прайграе, бярэ ўсё / Г. Грын // Стамбульскі экспрэс / Г. Грын; пер. В. Небышынца. – Мінск : Маст. літ., 1993.
19. **Шульга, Н. В.** Переводческие ошибки при передаче редупликативных образований (на материале английского языка) / Н. В. Шульга // Актуальные вопросы переводоведения и практики перевода : сб. науч. ст. / Бюро переводов "Альба"; под ред. А. А. Ларина. – Н. Новгород, 2010.


**Наталля ШУЛЬГА,**
аспірантка кафедры агульнага і рускага мовазнаўства
БДПУ імя Максіма Танка.

*Артыкул рэкамендаваны да друку доктарам філалагічных навук В. Старычонкам.*

*Крытыка і бібліяграфія*

# СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ АРФАГРАФІЯ Ў АПОРНЫХ СХЕМАХ, АПАВЯДАННЯХ І ГІСТОРЫЯХ

**Іўчанкаў, В. І.** Беларускі правапіс у апорных схемах : Паводле новай рэдакцыі "Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" / В. І. Іўчанкаў. – Мінск : Пачатковая школа, 2010. – 56 с.

**Іўчанкаў, В. І.** Беларуская арфаграфія : апавяданні і гісторыі / В. І. Іўчанкаў. – Мінск : Пачатковая школа, 2010. – 304 с.

Сярод кніг і рознага тыпу дапаможнікаў, прысвечаных праблемам сучаснага правапісу, асабліва вылучаюцца тыя, што не толькі вучаць і ўказваюць, а ў большай ступені расказваюць, скіроўваюць на разважанне, супастаўленне. Да такіх прац, безумоўна, належаць шматлікія артыкулы, метадычныя дапаможнікі і кнігі доктара філалагічных навук прафесара Віктара Іўчанкава, аднаго з навуковых кіраўнікоў рабочай групы, якая канчаткова дапрацавала "Правілы…" з улікам заўваг і пажаданняў, зробленых падчас іх неаднаразовага абмеркавання.

Першая кніга вызначаецца сваёй практычнай скіраванасцю, нагляднасцю, метадычнай выверанасцю – гэта «Беларускі правапіс у апорных схемах: паводле новай рэдакцыі "Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі"». Кніга разлічана на шырокае кола чытачоў. Што ж датычыць працэсу навучання роднай мове, то не будзе перабольшаннем адзначыць гэты дапаможнік па сучасным правапісе як арыгінальны, універсальны, навукова дакладны. У прадмове аўтар адзначае: *"Змены ў правапісе не вырастаюць на пустым месцы, а дыктуюцца натуральным ходам развіцця мовы. Правапіс – люстэркавы адбітак таго, што адбываецца ў мове і ўвогуле ў грамадстве. Сёння асабліва актуальнай становіцца роля настаўніка ў рэалізацыі палажэнняў закона. Нашы крокі павінны быць метадычна выверанымі, матэрыял, прапанаваны ў дапамогу педагогам, – жывым і наглядным, сучасным"*. У кнізе шэсць раздзелаў: "Правапіс галосных", "Правапіс зычных", "Правапіс абрэвіятур і графічных скарачэнняў", "Правапіс некаторых марфем", "Правапіс вялікай і малой літар", "Правілы пераносу". Кожны з раздзелаў прадстаўлены ў выглядзе апорных схем, што адлюстроўваюць асаблівасці новай рэдакцыі "Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі". Самі правілы падаюцца ў схемах пакрокава ў выглядзе фігур, злучаных паміж сабою стрэлкамі, тое, што патрабуе ўвагі, вылучаецца колерам і паметай "УВАГА!". Кожнае правіла пададзена ў лаканічнай форме і мае неабходны ілюстрацыйны матэрыял. Такім чынам дасягаецца выразнасць успрымання матэрыялу, нагляднасць успрымання змен, што адбыліся ў параўнанні з правапісам 1959 г. Парадак размяшчэння схем адпавядае структуры заканадаўча замацаванай новай рэдакцыі "Правіл…".

Кніга Віктара Іўчанкава «Беларускі правапіс у апорных схемах: паводле новай рэдакцыі "Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі"» – незаменны дапаможнік для вучняў і настаўнікаў, студэнтаў і выкладчыкаў, журналістаў і рэдактараў, усіх, хто цікавіцца родным словам.

"Беларуская арфаграфія: апавяданні і гісторыі" – гэта не толькі навукова-папулярны выклад сучаснай рэдакцыі "Правіл…", але і цудоўнае падарожжа ў краіну мовы. На жаль, у апошнія гады кніг такога кшталту няшмат. Праца ж В. Іўчанкава спалучае фундаментальнасць, энцыклапедычнасць і займальнасць. Для беглага знаёмства з асаблівасцямі зместу і выкладу матэрыялу варта прывесці некалькі назваў раздзелаў кнігі: "Ці ёсць ніобій у Эфіопіі? або Правапіс спалучэнняў галосных у запазычаных словах", "У караўуле цівуны ды есаўулы? ці Правапіс устаўных літар", "Ці паўплываюць на правапіс Ў нескладовага смайлікі?", "Як назваць жыхарку Ірака? ці Правапіс суфіксаў назоўнікаў".

На канкрэтных прыкладах дасведчана, у даступнай форме аўтар тлумачыць складаныя правапісныя выпадкі. Як адзначаецца ў заключнай главе кнігі, *"навукова-папулярны матэрыял падаецца ў выглядзе лінгвістычных гісторый і апавяданняў, якія могуць стаць падставай для далейшых разважанняў, самастойных абагульненняў, творчага пошуку"*.

Яшчэ адна важная асаблівасць працы – гістарычная заглыбленасць. Пры гэтым гістарычны аспект разглядаецца ў грамадска-палітычным і лінгвістычным плане. Пасля адпаведных раздзелаў прыводзіцца актуальны слоўнік, у якім змешчана новая лексіка, часам яшчэ не зафіксаваная сучаснымі слоўнікамі.

Здавалася б, сумнаватая тэма – арфаграфія. Аднак у кнізе "Беларуская арфаграфія: апавяданні і гісторыі" матэрыял падаецца настолькі жыва, даступна і займальна, што нават не спакушанаму ў моўных пытаннях чалавеку будзе цікава прачытаць гэтую працу вядомага вучонага, педагога, публіцыста ад пачатку да канца.

Безумоўна, па некаторых пытаннях можна дыскутаваць з прафесарам В. Іўчанкавым, нават не пагаджацца. Але несумненна адно: серыя яго прац, прысвечаных беларускай арфаграфіі, – значная падзея нацыянальнага маштабу, крок наперад у развіцці беларускай мовазнаўчай навукі.

**Таццяна БАБРОВІЧ,**
выкладчык кафедры беларускай і рускай моў
БДПУ імя М. Танка,
**Сяргей БЕРДНІК,**
кандыдат філалагічных навук, дацэнт.

*Прапануем план-канспект*

Святлана МАРОЗ
Марына РЖАВУЦКАЯ

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў СЯМ'І СЛАВЯНСКІХ МОЎ І МОЎ НАРОДАЎ СВЕТУ

## УРОК-ЛЕКЦЫЯ З ЭЛЕМЕНТАМ ГУТАРКІ (IX КЛАС)*

**Мэты:** сфарміраваць уяўленне пра месца беларускай мовы ў сям'і славянскіх моў і моў народаў свету; даць тэарэтычныя звесткі пра паходжанне беларускай мовы, прычыны роднасці славянскіх моў; паказаць асноўныя этапы станаўлення беларускай літаратурнай мовы; вызначыць ролю славутых дзеячаў нацыянальнай культуры (Ф. Скарыны, С. Буднага, В. Цяпінскага і інш.) у развіцці і пашырэнні старабеларускай мовы, акрэсліць уплыў творчасці выдатных беларускіх пісьменнікаў (В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Цёткі, Я. Купалы, Я. Коласа і інш.) на фарміраванне нормаў літаратурнай мовы, расказаць пра найбольш істотныя дасягненні ў даследаванні беларускай мовы асобнымі навукоўцамі (І. Насовіч, Б. Тарашкевіч, Я. Карскі); выявіць асаблівасці беларускай мовы.

**Абсталяванне:** раздрукоўкі з табліцамі, тэкстамі, рэпрадукцыі партрэтаў (Ф. Скарыны, В. Цяпінскага, І. Насовіча, Я. Карскага і інш.)**, энцыклапедычны даведнік "Францыск Скарына і яго час", "Беларуская граматыка для школ" Б. Тарашкевіча, зборнік "Жалейка" Я. Купалы, "Беларусы" Я. Карскага і інш.***

**Тып урока:** урок вывучэння новага матэрыялу.

### ХОД УРОКА

**І. Арганізацыйны момант.**

**ІІ. Паведамленне тэмы і мэт урока.**

**ІІІ. Актуалізацыя апорных ведаў.**

Акрэсліце значэнне тэрмінаў і тэрміналагічных спалучэнняў: *мова, камунікатыўная функцыя, беларуская мова, літаратурная мова*.

*Мова – сістэма фанетычных, лексічных і граматычных сродкаў, якая выконвае камунікатыўную функцыю і забяспечвае фарміраванне і выражэнне думак, пачуццяў і волевыяўленняў чалавека.*

*Камунікатыўная функцыя – прызначэнне быць сродкам зносін паміж людзьмі, сродкам перадачы інфармацыі.*

*Беларуская мова – мова беларускага народа, адна з усходнеславянскіх моў.*

*Літаратурная мова – узорная, унармаваная форма агульнанароднай мовы, якая выкарыстоўваецца ў разнастайных сферах зносін у вуснай і пісьмовай разнавіднасцях.*

**IV. Псіхалагічная падрыхтоўка вучняў да ўспрымання новага матэрыялу.**

**V. Вывучэнне новага матэрыялу.**

**Лекцыя настаўніка**

*План лекцыі запісваецца на дошцы.*

**1. *Месца беларускай мовы сярод іншых моў, паходжанне беларускай мовы.***

– Як вы думаеце, колькі моў на Зямлі?

Агульную колькасць моў на Зямлі можна назваць толькі прыблізна.

Паводле звестак Акадэміі навук Францыі, насельніцтва зямнога шара гаворыць не менш чым на 2796 мовах, якія аб'ядноўваюцца ў 11 вялікіх і каля 50 малых моўных груп, а ўсе, хто гаворыць на гэтых мовах, выкарыстоўваюць ад 7 да 8 тыс. дыялектаў. Нямецкія вучоныя сцвярджаюць, што сучасныя народы свету гавораць на мовах, колькасць якіх перавышае 4000, а ўсяго навуцы вядома каля 5600 жывых і мёртвых моў.

– Якія з моў з'яўляюцца найбольш пашыранымі ў свеце?

Да самых пашыраных моў свету сёння адносяцца: кітайская, англійская, хіндзі і урду, іспанская, руская, бенгальская, інданезійская, араб-

* Поўнафарматны варыянт распрацоўкі змешчаны на нашым сайце: www.rs.unibel.by.

** Можна выкарыстаць мультымедыйныя слайды.

*** Табліцы, партрэты, кнігі і іншае дэманструюцца ў час лекцыі.

*Звесткі пра аўтараў змешчаны ў № 1 за 2011 г.*

ская, партугальская, японская, нямецкая, французская. На гэтых мовах гаворыць больш за 3,3 млрд чалавек з 5 млрд жыхароў Зямлі. З пералічаных моў афіцыйнымі і рабочымі мовамі ААН з'яўляюцца англійская, іспанская, руская, кітайская, французская, арабская, нямецкая.

Параўноўваючы, даследуючы асаблівасці моў свету, навукоўцы аб'ядналі іх у асобныя сем'і, групы і падгрупы.

*Беларуская мова належыць да індаеўрапейскай сям'і моў, славянскай групы, якая дзеліцца на тры падгрупы: усходнеславянскую, заходнеславянскую, паўднёваславянскую* (дэманструецца табліца)*.

*Гэтыя падгрупы склаліся гістарычна. Назвы "ўсходне-, заходне-, паўднёваславянскія мовы" адпавядаюць геаграфічнаму размяшчэнню славян. І хоць ва ўсходнеславянскую падгрупу ўваходзяць усяго тры мовы, але па колькасці носьбітаў яна самая вялікая.*

Індаеўрапейская сям'я – самая вялікая ў свеце сям'я моў. Сёння на індаеўрапейскіх мовах гаворыць амаль палова чалавецтва. Акрамя індаеўрапейскай сям'і моў, даследчыкі вылучаюць яшчэ сіна-тыбецкую, аўстранезійскую, дравідыйскую, аўстраазіяцкую і іншыя сем'і.

Схематычна месца беларускай мовы ў індаеўрапейскай сям'і моў можна паказаць наступным чынам (дэманструецца табліца).

*Блізкасць славянскіх моў тлумачыцца ў першую чаргу тым, што ў пэўны перыяд продкі сучасных славянскіх народаў жылі разам на параўнальна невялікай тэрыторыі, так званай прарадзіме славян. Зразумела, што ў той час сувязь паміж імі была цяснейшая, а падабенства, у тым ліку і моўнае, было значна большым, чым цяпер. Сляды былой блізкасці продкаў славян захоўваюцца ў сучасных мовах і дыялектах.* Адносна вызначэння месца моўных продкаў беларусаў існуе некалькі поглядаў.

Адны даследчыкі лічаць (А. Шахматаў), што продкі беларусаў на пэўным этапе развіцця славянскай моўнай супольнасці займалі прамежкавае становішча паміж продкамі рускіх і ўкраінцаў і прадстаўнікамі заходнеславянскіх народаў, разам з якімі яны перажылі шэраг агульных моўных працэсаў, сярод іх найважнейшымі лічацца дзеканне – цеканне і страта [р'].

Іншыя сцвярджаюць (П. Бузук), што і ў старажытнасці мова продкаў беларусаў займала цэнтральнае становішча ў славянскім свеце, пра што сведчаць шматлікія ізаглосы, якія звязваюць пераважна з усходнімі і заходнімі славянамі (поўнагалоссе, аканне, яканне, дзеканне, цеканне, падаўжэнне зычных у спалучэнні з *j* і інш.).

Ёсць меркаванне (А. Трубачоў), што ў межах праславянскай моўнай прасторы продкі беларусаў разам з украінцамі і паўднёварусамі былі бліжэй да прадстаўнікоў дыялектаў, на базе якіх пазней фарміравалася ніжнялужыцкая, сербскахарвацкая і славенская мовы. Звяртаецца ўвага на спецыфічныя тыпалагічныя сувязі беларускай мовы з сербскахарвацкай у будове склада і інш.

Незалежна ад гэтых поглядаў *у сучаснай славістыцы ўсё больш пачынае пераважаць думка пра складанае паходжанне ўсіх сучасных славянскіх моў, у тым ліку і беларускай, моўныя продкі якой маглі належаць да розных дыялектных груповак праславянскага перыяду. У сувязі з гэтым падвяргаецца сумненню даволі распаўсюджаны тэзіс пра поўнае зыходнае дыялектнае адзінства ўсходніх славян і тэорыя так званай агульнай калыскі ўсіх усходнеславянскіх моў.*

Асобную праблему складае высвятленне месца беларускай літаратурнай мовы сярод літаратурных моў іншых славянскіх народаў.

Паводле М. Трубяцкога, у развіцці славянскіх літаратурных моў заўважаюцца дзве традыцыі: царкоўнаславянская і чэшска-польская. Сувязь паміж мовамі, што належаць да першай традыцыі, ёсць сувязь па пераемнасці: руская літаратурная мова, якая засвоіла на працягу ўсёй сваёй гісторыі значную колькасць рыс першай літаратурнай мовы славян – старaславянскай (царкоўнаславянскай). Сюды ж далучаецца і балгарская літаратурная мова, якая часткова непасрэдна працягвае пэўныя асаблівасці царкоўнаславянскай літаратурнай традыцыі, а часткова атрымала іх праз рускую літаратурную мову ў больш позні час. Для літаратурных моў чэшска-польскай традыцыі, куды ўключаюцца чэшская, польская, славацкая, лужыцкая і ў пэўных адносінах украінская мовы, вырашальнае значэнне мае ўплыў суседніх літаратурных моў у перадачы гэтай традыцыі. Што датычыцца сучаснай літаратурнай беларускай мовы, то заключны этап яе фарміравання ў пачатку нашага стагоддзя выяўляе выразнае тыпалагічнае падабенства з тэрытарыяльна далёкімі ад яе сербскахарвацкай і македонскай літаратурнымі мовамі. Аснову чэшска-польскай традыцыі складае апора на жывую народную мову, фанетычны правапіс ("Пішы, як гаворыш, чытай, як напісана"), шырокая лексічная база і некаторыя іншыя рысы. Яе характарызуе таксама свядома, як у сербскахарвацкай, ці гістарычна абумоўлены, як у беларускай і македонскай, разрыў з папярэдняй пісьмовай традыцыяй.

Неабходна адзначыць, што ў развіцці пісьменства ў Беларусі назіралася ўздзеянне і царкоўнаславянскай, і чэшска-польскай традыцый.

* Вылучанае курсівам вучні запісваюць.

Мова перакладаў Францыска Скарыны, адносна характару якой вядуцца да гэтага часу спрэчкі (беларуская ці царкоўнаславянская з элементамі беларускай?), фактычна была спробай стварэння беларускай літаратурнай мовы ў рэчышчы царкоўнаславянскай традыцыі, а старабеларуская літаратурная мова часоў Вялікага Княства Літоўскага несумненна развівалася пад значным уплывам чэшска-польскай літаратурнай традыцыі.

Але абедзве названыя традыцыі не атрымалі працягу на Беларусі, што было звязана з гістарычнымі ўмовамі яе развіцця, і новая беларуская літаратурная мова ўзнікла пасля пэўнага перапынку ў пісьмовай традыцыі на базе народных гаворак. Зразумела, што пры гэтым назіраўся моцны ўплыў таксама з боку суседніх літаратурных моў, у першую чаргу – рускай, польскай, а на заключным этапе фарміравання – і ўкраінскай, што пэўным чынам “згладзіла” праяўленне названай традыцыі.

**2. *Этапы станаўлення беларускай літаратурнай мовы.***

1) *Кіеўская Русь.*

*У другой палове IX ст. нашай эры ўзнікла вялікая дзяржава Кіеўская Русь з цэнтрам у Кіеве. Яна не была ні беларускаю, ні рускаю, ні ўкраінскаю дзяржаваю: тады яшчэ не было асобных усходнеславянскіх народаў; гэта была агульнаўсходнеславянская дзяржава, у якой з былых блізкіх славянскіх плямёнаў складвалася усходнеславянская народнасць і мова гэтай народнасці.*

Пашырэнне феадальнай уласнасці на зямлю, развіццё рамяства і гандлю паступова вялі да ўмацавання феадальных цэнтраў (Полацк, Ноўгарад, Валынь, Суздаль і інш.), а ўзмацненне іх эканамічнага і палітычнага значэння прывяло да драблення Кіеўскай Русі на асобныя княствы, у ліку першых, што аддзяліліся ад старажытнай дзяржавы, былі Полацкае (Полацка-Мінская зямля) і Наўгародскае. У другой палове XI – пачатку XII стст. Кіеўская Русь распалася.

2) *Вялікае Княства Літоўскае.*

У XIII – пачатку XIV ст. тэрыторыя амаль усёй сучаснай Беларусі, а таксама землі сучаснай Украіны апынуліся ў складзе Вялікага Княства Літоўскага. Паўночна-ўсходнія і паўднёвыя землі былой Кіеўскай Русі трапілі пад уладу татара-мангольскіх захопнікаў.

*У новых гістарычных умовах з XIII ст. пачалі складацца, а з XIV – XVI стст. адасобіліся тры ўсходнеславянскія народнасці – беларусы, рускія, украінцы, адпаведна – беларуская, руская і ўкраінская мовы.*

Пісьменства XV ст. на Беларусі характарызуецца насычанасцю спецыфічна беларускімі рысамі, і ёсць падставы гаварыць пра беларускую літаратурна-пісьмовую мову, якая сваімі фанетычнымі, граматычнымі, лексічнымі асаблівасцямі істотна адрозніваецца ад усходнеславянскай мовы X – XII стст.

*Мова беларускай народнасці склалася ў XIV – XVI стст., калі землі сучаснай Беларусі знаходзіліся ў складзе Вялікага Княства Літоўскага ва ўмовах пашырэння эканамічных і культурных сувязей паміж насельніцтвам беларускіх зямель, ва ўмовах барацьбы за нацыянальную незалежнасць супраць чужаземнай агрэсіі – татарскіх, нямецкіх і іншых заваёўнікаў.*

У Вялікім Княстве Літоўскім, значную частку якога складала тэрыторыя сучаснай Беларусі, мова беларусаў была моваю дзяржаўных устаноў, дзяржаўных дыпламатычных зносін, на ёй пісаліся акты і граматы, сеймавыя пастановы і інш. На беларускай мове стваралася і развівалася багатая для свайго часу літаратура: пераклады з іншых моў, летапісы, вучэбныя кнігі, арыгінальныя літаратурныя творы. Пашыралася ўжыванне беларускай мовы на этнаграфічную Літву: на беларускай мове пісалі не толькі беларусы, а і літоўцы.

У перыяд Вялікага Княства Літоўскага беларуская мова развівалася ў цесных узаемных сувязях з суседнімі мовамі (рускай, украінскай, польскай, літоўскай, латышскай). Праз польскую мову ў беларускую пранікаюць словы з чэшскай, нямецкай і іншых моў.

*У Вялікім Княстве Літоўскім аб’ектыўна склаліся ўмовы для развіцця беларускай мовы, яе літаратурна-пісьмовай формы. Развіццю беларускай мовы спрыяла і тое, што літоўскае пісьменства фактычна пачынаецца толькі з сярэдзіны XIV ст.*

3) *Рэч Паспалітая.*

У другой палове XVI ст. адбылася падзея, у выніку якой Беларусь апынулася ў іншых гістарычных абставінах. Люблінскі сейм 1569 г. прыняў так званую Люблінскую унію, паводле якой Вялікае Княства Літоўскае і Каралеўства Польскае аб’ядналіся ў адной дзяржаве – Рэчы Паспалітай. З часам галоўная палітычная роля сканцэнтравалася, асабліва з другой паловы XVII ст., у руках польскіх магнатаў (параўн.: у сейме Вялікага Княства Літоўскага, паводле статута, з літоўскіх зямель былі паслы віленскія,ількомірскія, жамойцкія, ковенскія, троцкія, упіцкія; з беларускіх – аршанскія, ашмянскія, берасцейскія, браслаўскія, ваўкавыскія, віцебскія, гарадзенскія, лідскія, мазырскія, мінскія, мсціслаўскія, навагрудскія, пінскія, полацкія, рэчыцкія, слонімскія; таму, натуральна, моваю сейма была мова беларусаў).

*Рэч Паспалітая з падтрымкаю каталіцкага Рыма паступова і настойліва пачала праводзіць*

*палітыку апалячвання і акаталічвання беларусаў; яшчэ больш узмацняецца, чым у перыяд Вялікага Княства Літоўскага, эксплуатацыя беларускага народа.*

Частка беларускіх феадалаў, беларускай знаці прыстасоўваецца да новых сацыяльна-палітычных умоў, аб'ядноўваецца з польскімі магнатамі. У Бярэсці, Гародні, Слоніме, Лідзе і іншых гарадах і мястэчках Полаччыны, Міншчыны, Магілёўшчыны, Навагрудчыны, Вілейшчыны, Гомельшчыны насаджаецца каталіцызм, ідзе прымусовае "запісванне ў палякі" беларусаў. Польскія феадалы і каталіцкія царкоўнікі захоплівалі дзяржаўныя землі на тэрыторыі Беларусі.

*На Беларусі ўводзіцца польская мова як дзяржаўная, ствараецца сетка польскіх школ. У 1696 г. прымаецца закон, паводле якога дзяржаўнаю моваю на Беларусі становіцца польская.*

*Склаліся такія ўмовы, пры якіх літаратурна-пісьмовая мова перажывае заняпад. Развіваецца толькі жывая народна-дыялектная мова.*

**3. *Славутыя дзеячы нацыянальнай культуры і іх роля ў пашырэнні старабеларускай мовы.***

У развіцці старабеларускай мовы, яе літаратурна-пісьмовай формы, вялікую ролю адыграла кнігадрукаванне, распачатае беларускім вучоным, славутым асветнікам свайго часу Францыскам Скарынам.

– Што вы ведаеце пра беларускага першадрукара?

– У чым важнасць друкарскай дзейнасці Ф. Скарыны і яго паслядоўнікаў і кнігадрукавання ўвогуле?

Кароткае паведамленне пра жыццё і дзейнасць Ф. Скарыны. Назавіце іншых дзеячаў беларускай культуры (кароткія паведамленні пра жыццё і творчасць С. Буднага, В. Цяпінскага, П. Мсціслаўца).

**4. *Значэнне творчасці вядомых беларускіх пісьменнікаў для фарміравання нормаў беларускай літаратурнай мовы.***

У канцы XVIII ст. пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай Беларусь увайшла ў склад Расійскай імперыі. У пэўнай ступені гэтая падзея ў гісторыі беларускага народа мела прагрэсіўнае значэнне.

У новых гістарычных умовах пачынаецца пэўнае ажыўленне беларускай літаратуры і літаратурна-пісьмовай мовы. *Новая беларуская літаратурная мова складаецца на аснове жывых народных гаворак.* Працяглы перыяд заняпаду (з канца XVII ст.) беларускай літаратурнай мовы прывёў да таго, што папярэднія яе здабыткі выкарыстоўваліся ў новай літаратурнай мове вельмі слаба.

Пачатак станаўлення сучаснай беларускай арфаграфічнай сістэмы прыпадае на XIX ст., перыяд, калі сталі друкавацца творы новай беларускай літаратуры. Новая беларуская літаратурная мова не магла абапірацца на традыцыі старабеларускай мовы, а складвалася на аснове жывой мовы народа. *У аснову нацыянальнай беларускай літаратурнай мовы ляглі гаворкі цэнтральнай Беларусі.* Пісьменнікі ў сваіх творах адлюстроўвалі характэрныя асаблівасці роднай гаворкі, бо правапіс старажытнай мовы, заснаваны на традыцыйна этымалагічных прыёмах пісьма, быў далёкі ад жывога вымаўлення. Выпрацоўцы аднастайных напісанняў садзейнічаў рост беларускіх выданняў.

– Назавіце, якія вы ведаеце беларускія выданні і выдавецтвы.

*У гэты час разгортваюць дзейнасць шматлікія беларускія выдавецтвы: "Загляне сонца і ў наша аконца", кнігавыдавецкае таварыства "Наша хата", кніжныя таварыствы "Мінчук", "Лучынка", "Вясёлка" і інш.; выходзяць першыя беларускія легальныя газеты "Наша доля", "Наша Ніва".*

Неабходнасць рэдагавання літаратурных твораў паскарала працэс замацавання на пісьме выразных асаблівасцей жывой мовы.

Вялікая заслуга ў станаўленні нормаў беларускай пісьмовай мовы належыць выдатным беларускім пісьменнікам.

– Узгадайце імёны вядомых беларускіх пісьменнікаў канца XIX – пачатку XX ст.

Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Францішак Багушэвіч, Янка Купала, Якуб Колас і іншыя ў сваіх творах перадавалі адметныя асаблівасці беларускага вымаўлення (аканне, дзеканне, цеканне, падаўжэнне зычных і г. д.).

*Такім чынам, літаратурная мова шліфуецца і ўдасканальваецца паступова ў працэсе развіцця найперш мастацкай літаратуры, і таму выдатная роля ў фарміраванні беларускай літаратурнай мовы належыць класікам айчыннай літаратуры.*

**5. *Вядомыя беларускія мовазнаўцы і іх навуковая спадчына.***

Вялікую ролю ў станаўленні беларускай мовы як сістэмы адыграла і навуковая распрацоўка лінгвістычных аспектаў.

Сярод вучоных-лінгвістаў, што займаліся даследаваннем беларускай моўнай сістэмы, трэба назваць найперш такія прозвішчы, як І. Насовіч, Я. Карскі, Б. Тарашкевіч (кароткія паведамленні пра жыццё і дзейнасць І. Насовіча, Я. Карскага, Б. Тарашкевіча).

**6. *Асаблівасці беларускай літаратурнай мовы.***

*Першыя спецыфічныя беларускія рысы адлюстраваліся яшчэ ў старажытных пісьмовых помніках XIII ст. А ўжо з сярэдзіны XV ст. пісьмовыя тэксты насычаны адметнымі беларускімі рысамі, якія характэрныя і для сучаснай беларускай літаратурнай мовы.*

Паведамленне пра асаблівасці беларускай мовы.

Паспрабуем вылучыць і іншыя, выконваючы наступнае заданне.

**VI. Замацаванне вывучанага.**

**Заданне.** Прачытайце тэксты. Выпішыце словы са спецыфічнымі беларускімі рысамі.

I. Знакавую ролю для развіцця славянскіх літаратурных моў адыгралі царкоўнаславянскія пераклады Бібліі. Гісторыя іх стварэння выглядае наступным чынам. У 862 г. да візантыйскага імператара Міхаіла III прыехалі паслы ад вялікамараўскага князя Расціслава. Вялікая Маравія, славянская дзяржава, адчувала моцны ўціск з боку суседняга Усходнефранкскага каралеўства. Імкнучыся замацаваць сваю ўладу, вялікамараўскі князь вырашыў правесці хрысціянізацыю сваіх падданых і папрасіў імператара Візантыі, каб той прыслаў да яго настаўніка новай веры. У 863 г. місіянеры прыбылі ў Маравію. Гэта былі браты Канстанцін (у манастве Кірыл) і Мяфодзій, ураджэнцы горада Салуні (цяпер Салонікі, горад на поўначы сучаснай Грэцыі), якія валодалі грэчаскай і славянскай мовамі (дыялект салунскіх славян, што належаў да паўднёваславянскай моўнай групы) як роднымі (згодна з паданнем, іх маці была славянкай). З дзіўнай хуткасцю браты стварылі "славеньскую мову". На гэтую мову сталі перакладаць кананічныя кнігі і пісаць на ёй арыгінальныя творы. Справа перакладу Бібліі на славянскую мову атрымала такі шырокі рэзананс, што Канстанцін і Мяфодзій павінны былі накіравацца ў Рым для ўдзелу ў дыспуце. Перамога засталася за братамі, прычым Канстанцін апраўдаў сваё імя Філосаф, папікнуўшы апанентаў у тым, што яны хочуць бачыць астатнія народы "сляпымі і глухімі".

Паводле І. Будзько.

II. Статут Вялікага Княства Літоўскага – гэта звод законаў феадальнага права, які дзейнічаў у Вялікім Княстве Літоўскім з сярэдзіны XVI да сярэдзіны XIX ст. і вытрымаў за гэты час тры рэдакцыі (1529 г., 1566 г., 1588 г.). Ён з'яўляецца дакументальным пацвярджэннем адной з самых дасканалых сістэм права ў Еўропе таго перыяду. Менавіта ў гэтым дакуменце былі сфармуляваны нормы дзяржаўнага (канстытуцыйнага) права, чаго на той час не ведала заканадаўчая практыка іншых еўрапейскіх краін. Апошняя рэдакцыя мае 14 раздзелаў і 488 артыкулаў, якія змяшчаюць нормы шлюбна-сямейнага, зямельнага, грамадзянскага, крымінальнага і крымінальна-працэсуальнага права. Статут ВКЛ – унікальны помнік прававой культуры і пісьменства. Роля ўсіх рэдакцый Статута ВКЛ у гісторыі беларускай мовы надзвычай важная. Яны замацоўвалі найлепшыя моўныя здабыткі канцылярска-юрыдычнага пісьменства свайго часу, а па багацці лексічнага матэрыялу з імі не можа параўнацца ніякі іншы помнік старабеларускага друку. Таму натуральна, што статуты ВКЛ заўсёды былі аб'ектам лінгвістычных даследаванняў, найбольш актыўна выкарыстоўваліся ў якасці крыніцы пры вывучэнні гісторыі беларускай мовы.

Паводле І. Смірновай.

III. У маі 1906 г. у Пецярбургу пачалася дзейнасць новай беларускай кнігавыдавецкай суполкі "Загляне сонца і ў наша аконца". Таварыства занялося сістэматычным планамерным выданнем беларускіх кніг.

Першая кніга, выдадзеная суполкай, – "Беларускі лемантар, або Першая навука чытання" – тоненькая брашурка з трыццаці старонак. Асноўнай жа прадукцыяй беларускага выдавецтва былі творы мастацкай літаратуры, сярод якіх драматычныя п'есы і камедыі для сцэны, з беларускімі песнямі і нотна-музычным матэрыялам, пераклады з польскай, рускай і ўкраінскай моў ("Пашыліся ў дурні" М. Крапіўніцкага, "У зімовы вечар" Э. Ажэшкі, "Сватанне" А. Чэхава, "Модны шляхцюк" К. Каганца, "Паўлінка" Я. Купалы і інш.).

Для друку беларускамоўных кніг суполка выкарыстоўвала два шрыфты – кірылічны і лацінскі. Выдаўцы ўлічвалі пэўныя культурныя традыцыі таго ці іншага аўтара, а таксама чытацкай аўдыторыі ("польская" ці "руская").

Упершыню выдавецтвам ажыццёўлены друк беларускіх паштовак ("пісулек") з выявамі беларускага пейзажу, партрэтамі беларускіх сялян і іх побыту.

За гады існавання суполкі ўбачылі свет 39 кніг літаратурнага, грамадска-палітычнага, побытавага, навукова-папулярнага зместу, агульным тыражом больш за 100 тысяч экзэмпляраў ("Жалейка" Я. Купалы, "Пан Тадэвуш" А. Міцкевіча, "Гапон" В. Дуніна-Марцінкевіча, "Дудка беларуская" і "Смык беларускі" Ф. Багушэвіча, "Батрак" Я. Коласа, "Песні" Ц. Гартнага і інш.).

Паводле Л. Доўнар.

**VII. Дамашняе заданне.**

З "Беларуска-рускага слоўніка" выпісаць 20 слоў са спецыфічнымі беларускімі рысамі.

**VIII. Падвядзенне вынікаў урока.**

*З вопыту работы*

# *"СТАРАЖЫТНЕЙШАЯ, САМАЯ СЛАВЯНСКАЯ, МОВА БЕЛАРУСКАЯ МАЯ!"*

## УРОК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ (IX КЛАС)

**Мэты:** стварыць умовы для разумення адметнасцей беларускай мовы як адной з усходнеславянскіх моў; спрыяць засваенню асноўных перыядаў у фарміраванні мовы і асэнсаванню стану мовы на сучасным этапе; развіваць крытычнае мысленне вучняў, фарміраваць актыўную грамадзянскую пазіцыю; выхоўваць павагу і адказнасць за сваю мову.

**Эпіграфы:**

1. Шмат было такіх народаў, што страцілі найперш мову сваю, так як той чалавек прад скананнем, катораму мову займе, а потым зусім замёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!

Ф. Багушэвіч.

2. Ты мой брат, каго зваць беларусам,
Роднай мовы сваёй не цурайся;
Як не зрокся яе пад прымусам,
Так і вольны цяпер не зракайся.

А. Гарун.

3. Кажуць, мова мая аджывае
Век свой ціхі: ёй знікнуць пара.
Для мяне ж яна вечна жывая,
Як раса, як сляза, як зара.

П. Панчанка.

### ХОД УРОКА

• **Актывізацыя пазнавальнай дзейнасці.**

Вучням прапануюцца ўрыўкі з беларускага, рускага, украінскага тэкстаў аповесці "Дрыгва" Я. Коласа.

*1. Дзед Талаш любіць лес, балоты і сваю родную Прыпяць, дзе ён так спрытна ездзіў на чоўне ды лавіў рыбу. І стралок з яго быў някепскі: які ж ён быў бы паляшук, каб не ўмеў добра страляць? На тое ж яно і Палессе – без стрэльбы там абысціся трудна.*

*2. Дед Талаш любит лес, болото и свою родную Припять, по которой он так ловко ездил на челне и ловил рыбу. И стрелок он был неплохой: да и каким же он был бы полешуком, если бы не умел метко стрелять? На то оно и Полесье – без ружья там обойтись трудно.*

*3. Дід Талаш любив ліс, болото і свою рідну Прип'ять, по який він так вправно їздив на човни й ловив рибу. І стрілець з нього був непоганий: який би ж був поліщук, коли б не вмів добре стріляти? На те воно й Полісся – без рушниці там обійтися важко.*

**Настаўнік.** Назавіце аднолькавыя словы ў гэтых тэкстах.

• **Работа па асэнсаванні тэмы ўрока.**

**Настаўнік.** Прачытайце §1 (с. 3 – 4) і дайце адказ на пытанне: "Чаму беларусы добра разумеюць рускіх і ўкраінцаў, а яны – нас?" (*Беларуская мова, як і руская, украінская, адносіцца да ўсходнеславянскай моўнай групы.*)

Якія славянскія мовы яшчэ існуюць? Папрацуйце з падручнікам і складзіце кластар "Сям'я славянскіх моў".

| Славянскія мовы | | |
|---|---|---|
| **усходнеславянскія** | **заходнеславянскія** | **паўднёва-славянскія** |
| • беларуская<br>• руская<br>• украінская | • польская<br>• чэшская<br>• славацкая<br>• лужыцкія<br>• палабская | • балгарская<br>• македонская<br>• сербская<br>• харвацкая<br>• славенская |

**Настаўнік.** Усходнеславянскія мовы маюць шмат агульнага, аднак кожная з іх вылучаецца сваімі фанетычнымі, марфалагічнымі, сінтаксічнымі, лексічнымі асаблівасцямі, якія сталі заўважацца яшчэ ў старажытнасці.

*Вучням раздаецца дапаможны матэрыял, на аснове якога паўтараюцца названыя асаблівасці беларускай мовы.*

**Настаўнік.** Папрацуйце з тэкстам XVI ст. у групах:

1-я група выпісвае прыклады слоў, у якіх адлюстраваны лексічныя асаблівасці беларускай мовы;

2-я група – фанетычныя;

3-я група – марфалагічныя.

*Праводзіцца прэзентацыя вынікаў працы ў групах.*

Лета 6873 а от нарож Хрыста 1365 князь велики Олькгирдъ, з Витебска борздо приспелъ, а князь велики Кестутеи угнал у городъ Вилню, и князь велики Евнутеи со страху выбежыть з города Вилни и втечеть у гуры бос и там азябеть у ноги и нявшы его там прывели до братьи и посадили его со сторожою, тогды велики князь Кестутеи рече брату своему великому князю Олькгирду: тобе годится брате князем великим на Вилни быти ты межи нами старшыи брат я с тобою за одно жыву и посадить его на Вилни на великом князстве Литовскомъ, а Евнутью далъ Жеславль, и змовить межы собою князи велики Кестутеи а князь велики Олькгирдъ што всеи братьи послушнои бытии великого князя Олькгирда, а што прыдобудемъ собе городов албо волостеи то все на полы поделити а бытии им у великом милоясти и в ласцэ аж до смерти.

Урывак з летапісу па спісе Рачынскага, XVI ст.

**Настаўнік.** Працэс фарміравання мовы працяглы ў часе. Пазнаёмцеся з асноўнымі перыядамі фарміравання беларускай мовы. *Дэманструецца табліца, якая агучваецца вучнямі, а затым занатоўваецца ў сшытку.*

| Агульнаславянская мова | | |
|---|---|---|
| **усходнеславянская** | **заходнеславянская** | **паўднёваславянская (VI – VII стст.)** |
| старажытная руская (агульнаўсходнеславянская; IX – XII стст.) | | |
| старажытная беларуская мова (XII, XIV – XVIII стст.) | | |
| сучасная беларуская літаратурная мова (XIX – XXI стст.) | | |

**Настаўнік.** Звярніцеся да падручніка і скажыце, ці ўсе перыяды ў фарміраванні беларускай мовы былі аднолькава спрыяльныя.

(*У складзе Вялікага Княства Літоўскага беларускія землі дасягнулі сапраўднага росквіту. Беларуская мова з'яўлялася дзяржаўнай мовай. У складзе Рэчы Паспалітай праводзілася палітыка апалячвання і акаталічвання беларускага насельніцтва, таму склаліся неспрыяльныя ўмовы для развіцця беларускай мовы. Мова існавала толькі ў вуснай форме.*

*У даволі складаных умовах ішло фарміраванне беларускай мовы і ў той час, калі беларускія землі падпарадкоўваліся Расіі: русіфікатарская палітыка пазбаўляла беларусаў права на сваю мову і культуру.*)

**Настаўнік.** У якіх умовах апынулася беларуская мова ў другой палове XX – пачатку XXI ст.?

*Выступленне вучня з вусным паведамленнем "Сацыяльна-палітычныя ўмовы развіцця білінгвальнай адукацыі ў Беларусі: 2-я палова XX – пачатак XXI ст.". У аснову выступлення пакладзены артыкул Таццяны Паліевай "Дзве мовы – дзве душы?" // Роднае слова. 2005. № 10.*

• **Праблемнае поле.**

1. Як вы ставіцеся да беларускай мовы? А вашы бацькі? У чым, на вашу думку, прычыны негатыўнага стаўлення да сваёй мовы некаторых людзей?

(*У сённяшніх умовах беларуская мова – мова тытульнай нацыі і адна з дзяржаўных моў Рэспублікі Беларусь – займае другараднае становішча ў моўнай сітуацыі. Яе роля зведзена да мінімуму ў такіх грамадскіх сферах, як дзяржаўнае кіраванне, справаводства, вышэйшая адукацыя, навука. А менавіта гэтыя сферы выкарыстання мовы ў сённяшнім грамадстве вызначаюць яе прэстыж, а таксама фарміруюць прагматычныя фактары яе вывучэння.*)

2. Ці можна сёння паставіць знак роўнасці паміж такімі паняццямі, як "беларуская мова" і "вёска", "руская мова" і "горад"?

[*У канцы XX ст. да беларускай мовы (яе літаратурнай разнавіднасці) звярнулася частка гарадской адукаванай моладзі, якая, уласна кажучы, у значнай ступені і ініцыіравала працэсы адраджэння беларускай мовы – павышэння яе грамадскага прэстыжу і пашырэння ў розных сферах ужытку. Усё гэта садзейнічала перамяшчэнню цэнтра "беларускасці" з сельскай мясцовасці ў горад. Добрае валоданне беларускай мовай стала прыкметай высокай культуры, інтэлігентнасці і адзнакай прыналежнасці да нацыянальнай эліты.*]

3. Выказванні беларускіх аўтараў, запісаныя на дошцы, адносяцца да розных гістарычных перыядаў. Якая агульная праблема іх збліжае? Ці ёсць нейкае выйсце з гэтай сітуацыі?

(*І Францішак Багушэвіч, і Алесь Гарун, і Пімен Панчанка заклапочаны абыякавасцю беларусаў да сваёй мовы. Яны перасцерагаюць нас, што калі памірае мова, памірае народ. Усё залежыць ад нас саміх, ад нашага стаўлення да мовы, жадання ведаць яе, рабіць свядомы выбар на карысць беларускай мовы.*)

• **Рэфлексія.**

1. Якія думкі, пачуцці, уражанні ў вас выклікаюць словы рускага філосафа Івана Ільіна:

*"Ёсць закон людскасці, прыроды і культуры, у адпаведнасці з якім усё вартае можа быць сказана чалавекам альбо народам толькі па-свойму і ўсё геніяльнае нараджаецца менавіта ў рэчышчы нацыянальнага вопыту, духу і стану рэчаў. У выпадку дэнацыяналізацыі чалавек губляе падыходы да найглыбейшых крыніц духу і да святога агменю жыцця; бо гэтыя крыніцы і гэты агмень заўжды нацыянальныя: у іх закладзены і жывуць цэлыя стагоддзі ўсенароднай працы, пакут, барацьбы, роздуму, малітваў і думкі. Чалавек, які страціў падыход да духоўнай вады і духоўнага агменю свайго народа, робіцца бязродным пахаджанінам, беспадстаўным і марным бадзягам па чужых духоўных шляхах, безаблічным інтэрнацыяналістам. Гора яму і яго дзецям: ім пагражае небяспека ператварыцца ў гістарычны пясок і смецце…"*?

2. Складзіце сінквейн па тэме нашага ўрока.

Мова.
Родная, шматпакутная.
Забаранялася, развівалася, выжывала.
Без мовы не можа існаваць народ.
Святыня.

• **Дамашняе заданне.** Напісаць невялікае сачыненне на аснове адной з прыказак: "Калі ў школе з матчынай гаворкі пасмяецца, то на старасці ад маткі адрачэцца", "Хто мову і веру мяняў, той не толькі сябе – і суседа прадаваў".

**Наталля ТРЫГУБОВІЧ,**
настаўнік беларускай мовы і літаратуры
вышэйшай кваліфікацыйнай катэгорыі
Уздзенскай дзяржаўнай школы-інтэрната.

*У дапамогу настаўніку*

# СКЛАНЕННЕ НАЗОЎНІКАЎ

## УРОК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ (XI КЛАС)

**Мэты:** стварыць умовы для ўзнаўлення і паглыблення ведаў пра змяненне назоўнікаў другога, трэцяга скланенняў, рознаскланяльных назоўнікаў; для ўдасканалення навыкаў напісання канчаткаў назоўнікаў паводле марфалагічных нормаў; садзейнічаць развіццю камунікатыўных здольнасцей, умення супастаўляць, аналізаваць, складаць алгарытм; спрыяць выхаванню павагі да родных мясцін.

**Эпіграф:** Веды толькі тады веды, калі яны набыты намаганнямі сваёй думкі, а не памяццю.

Л. Талстой.

### ХОД УРОКА

**І. Арганізацыйны момант.**

Уступнае слова.

• **Рэфлексія "Стан маёй душы".**

**Настаўнік.** Паслухайце прытчу "Іголка ў стозе сена".

Аднойчы мудрага і разумнага чалавека спыталі, у чым сакрэт яго мудрасці, у чым ён бачыць асноўнае адрозненне паміж уласным розумам і розумам іншых людзей. Ён задумаўся, а затым адказаў:

– Калі людзі шукаюць іголку ў стозе сена, то большасць спыняецца, як толькі знойдзе яе. А я працягваю пошукі, знаходзячы другую, трэцюю і, магчыма, калі мне вельмі пашанцуе, нават чацвёртую і пятую іголку.

*Адказы вучняў.*

– Як вы думаеце, чаму менавіта гэтая прытча прагучала на ўроку? Ці звярнулі вы ўвагу на запісаны на дошцы эпіграф? Як ён звязаны з тэмай урока? Для таго каб набытыя вамі веды былі трывалымі і глыбокімі, вы зрабілі дома практыкаванне і падрыхтавалі слайды для прэзентацыі. Разгледзім іх.

**ІІ. Праверка дамашняга задання.**

Задача: кантроль ведаў па тэме "Скланенне назоўнікаў. Назоўнікі 1 і 2-га скланення".

**Настаўнік.** Тэорыю вы засвоілі цудоўна. Зараз праверым, як вы ўмееце прымяняць тэарэтычныя звесткі на практыцы. Пасля выканання тэста вучні абменьваюцца сшыткамі, правяраюць заданне і выстаўляюць адзнакі. Ключ да тэста запісаны на дошцы.

**А1.** Адзначце назоўнікі 1-га скланення:
1) столь; 4) суддзя;
2) рыба; 5) доля.
3) Ілья;

**А2.** Адзначце назоўнікі 2-га скланення:
1) імя; 4) крэсла;
2) кіно; 5) вецце.
3) цемя;

**А3.** Адзначце назоўнікі, якія ў форме Д. скл. адз. л. маюць канчатак -э:
1) шчака; 4) звычка;
2) дачка; 5) дошка.
3) мяжа;

**А4.** Адзначце назоўнікі, якія ў форме М. скл. адз. л. маюць канчатак *-і*:
1) таполя; 4) хвоя;
2) туфель; 5) нуда.
3) маёмасць;

**А5.** Адзначце назоўнікі, якія ў форме Р. скл. адз. л. маюць канчатак *-а* (*-я*):
1) ласунак; 4) паркаль;
2) скрыгат; 5) выказнік.
3) бэз;

Ключ да тэста: **А1.** 2, 5; **А2.** 4, 5; **А3.** 1, 2; **А4.** 1, 3, 4; **А5.** 2, 4.

• **Рэфлексія "Чамадан – мясарубка – кошык".**

• **Моўная хвілінка.**

Задача: засяродзіць увагу на зменах, што адбыліся ў правапісе беларускай мовы з 1 студзеня 2010 г. па тэме "Нескладовае *ў* і *у* складовае", праверыць уменне адрозніваць назоўнікі 1, 2-га скланенняў.

*Вучні пад дыктоўку запісваюць словы, размяркоўваючы іх па слупках у табліцы.*

| Назоўнікі 1-га скланення | Назоўнікі 2-га скланення |
|---|---|
| глаўкома, саўна, фаўна, клаўстрафобія | ля ўніверсітэта, джоўль, клоўн, раўт, накаўт |

• **Рэфлексія "Ацэначнае акно".**

• **Фізкультхвілінка для вачэй.**

**ІІІ. Пастаноўка задач і актуалізацыя ведаў.**

На дошцы запісваецца слова *назоўнік*, на кожную літару якога трэба сфармуляваць задачу па тэме ўрока.

**Н** – навык напісання канчаткаў назоўнікаў 2, 3-га скланення і рознаскланяльных назоўнікаў развіваць;

**А** – адрозніваць назоўнікі 2, 3-га скланення і рознаскланяльныя назоўнікі;

**З** – змяняць назоўнікі па склонах;

**О (А)** – алгарытм скланення назоўнікаў складаць;

**Ў (У)** – удасканаліць уменне рэдагаваць тэксты;

**Н** – набываць новыя веды пра скланенне назоўнікаў;

**І** – і складаць тэксты, выкарыстоўваючы назоўнікі 2, 3-га скланення і рознаскланяльныя назоўнікі;

**К** – канчаткі назоўнікаў дапісваць і тлумачыць іх ужыванне.

*Пасля таго як вучні сфармулююць задачы ўрока, настаўнік карэкціруе іх адказы.*

**IV. Знаёмства з новым матэрыялам.**

*Кожная група (3) прэзентуе свой алгарытм складаных пытанняў па тэме (слайды).*

**• Рэфлексія "Усё ў маіх руках".**

У кожнага вучня ёсць на стале малюнак далоні. Кожны палец далоні – пазіцыя, якую трэба дапоўніць.

Мезенец: *Мае здагадкі…*

Безыменны: *Мой настрой…*

Сярэдні: *Для мяне было недастаткова…*

Указальны: *Мне было цяжка…*

Вялікі: *Для мяне было важна, цікава…*

**• Фізкультхвілінка "Прывітанне".**

Прывітайцеся адно з адным так, як віталіся раней маладыя са сталымі людзьмі: пакланіцеся. А цяпер, хлопчыкі, уявіце сябе гусарамі і павітайцеся са сваімі дамамі сэрца: станьце на адно калена і пакланіцеся. Прывітайцеся так, як вітаюцца блізкія сябры: пацісніце руку адзін аднаму.

**V. Карэкцыя ведаў.**

**Заданне 1.** З назоўнікамі ўтварыце і запішыце словазлучэнні. Вызначце склон, растлумачце ўжыванне канчаткаў.

Задача: спрыяць замацаванню ўмення ўтвараць словазлучэнні, вызначаць склон назоўнікаў і тлумачыць ужыванне канчаткаў.

**Група 1.**

Выйшлі з (*лес, дом, сад, музей*); схаваліся ад (*холад, сябар, снег, вораг*); не купілі (*цукар, хлеб, шакалад, авёс*); шум (*вецер, акіян, дождж, матор*); не адчувалі (*боль, страх, сорам*).

**Група 2.**

Пацягнула (*вільгаць*), з вялікай (*радасць*), звісалі над (*столь*), пабег за (*мыш*), слухаць з (*цікавасць*), загінуць (*смерць*) героя, ганарыцца таленавітай (*моладзь*), захапляцца неабдымнай (*шыр*), бегчы (*рысь*), прыкрыць сваёй (*далонь*), заліты (*кроў*), схавацца за вялікай (*печ*), запэцканы (*гразь*), акружаны (*загарадзь*), пад (*засень*) ліп, над усёй (*сенажаць*), цудоўнай (*трэль*) салаўя, паглынуты (*цемень*).

**Група 3.**

Гаварыць з (*дзядуля*), быць пры (*бацька*), сустрэцца з (*дзядзька*), працаваць (*старшыня*), высокаму (*мужчына*), гутарыць са (*стараста*), павітацца з (*суддзя*), гуляць з (*Вася*), жыць пры (*Мікола*), вясёламу (*Віця*), быў (*сведка*), заставаўся (*гарэза*), з'яўляўся (*запявала*), маленькаму (*плакса*), з гэтай (*капрызуля*), з (*Ганна Дарожка*), з (*Максім Дарожка*).

*Праверка задання ў 1-й групы.*

**• Рэфлексія "Чамадан – мясарубка – кошык".**

**Заданне 2.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары і расстаўляючы знакі прыпынку. Узятыя ў дужкі назоўнікі пастаўце ў адпаведным склоне, абазначце ў іх канчаткі.

Задача: садзейнічаць выпрацоўцы ўмення ставіць назоўнікі ў адпаведным склоне ў сказе; спрыяць замацаванню ўмення ўстаўляць прапушчаныя літары і расстаўляць знакі прыпынку.

**Група 1.**

1. Шэпча маці (*уцеха*) адзінай Мір табе дарагое дзіця. 2. Спусціўшыся з (*узгорак*) парос…ага ні…кімі хвоямі і каржакаватымі б…розамі падарожнікі ўбачылі невялікую вёску. 3. Туравец быў добрым (*прамоўца*). 4. Як добра а…чуваць што ты з'яўля…шся пэўнай вартасцю для людзей якія цябе акружаюць а значыць урэ…це і для ўсяго (*народ*). 5. Восен…ю кветкі завянуць у полі (*кветка*) завяўшай ізноў н… цвісці. 6. А (*бацька*) ды (*мачыха*) гэта н… ў нос. 7. Глядзіць Мар…яна як мітусяцца хвоі прыслухо…ваецца да (*шум*) што ідзе з (*лес*).

**Група 2.**

1. Н… на людзях жа пускаць слёзы (*Міколка*). 2. На (*узгорак*) між ліпавага (*парк*) б…леў двухпав…рховы будынак. 3. Стаяць дрэвы ў жнівен…скай (*краса*) дарогі ў ячменнай (*пацяруха*). 4. С…мейка праўда н…малая чатыры хлопц… тры дзяўчаці ды бацька з (*дзядзька*) трэцця маці. 5. Саромелася спачатку не хацелася такой (*бальшуха*) садзіцца за буквар з малымі. 6. Штаб (*батальён*) ра…мяшчаўся ў н…вялічкай напалову ўцалелай вёсцы паблізу ад вузенькай амаль перасох…ай рэчкі з б…розавым гайком за ёй. 7. Бачу што ўсе яны с…дзяць як зайцы ў (*гарох*).

**Група 3.**

1. Цяпер, калі шуміць жытамі стэп пшаніца спее на (*аблога*) плоднай мы знаем незвычайны гэта хлеб паток вялікай памяці народнай. 2. Васіль даехаў да свайго (*надзел*) …пыніў каня саскочыў з (*воз*). 3. Больш за ўсё (*Максімка*) хацелася будаваць. 4. На (*узгорак*) сярод жаўцеючага (*бярэзнік*) узвышалася асіна а…ранутая ў яркае восен…скае ўбранне. 5. Мы з в…слом расплешч…м рэчкі а…бяром загар у сосен про…дзем пушчай про…дзем бродам па (*сцяжынка*) про…дзем ву…кай. 6. Жоўтая акуратна пасыпаная п…ском даро…ка вяла да невялікага (*дом*) што стаяў у глыбіні (*сад*) за квітне…чымі дрэвамі.

*Праверка задання ў 2-й групы.*

**• Рэфлексія "Усё ў маіх руках".**

**• Паўза рэлаксацыі "Жыццё прыносіць…" (прэзентацыя).**

**Заданне 3.** Знайдзіце і выпраўце граматычныя памылкі.

Задача: стварыць умовы для развіцця арфаграфічнай пільнасці.

**Група 1.**

Месны склон: (аб) птушане, ільду, трактары, доктары, скрухе, даху, смесе, Мішы, цудзе, сланяняці, ляўшу, немаўлю, Грышу, урачы, калачы, дзіці, сарвігалаве, краі, беразе, вязню, раялі, мышы, скрыпачы, ломе, зайцэ, аўсе, агурцэ, руке, крэсіві, курыцэ, Цімосе, характару, шалашэ, па дарогам.

**Група 2.**

Укладка асфальта, не чуў стука, ні пробліска ў чорным небе, папіць кісяля, студэнты інстытуту, удзельнікі канфлікта, з пагонамі лейтэнанта, з боку леса, не хапіла соуса, на беразе канала, палеткі аўсу, каля гэтага ляску, дабрацца да кантынента, лыжкі з алюмінія, выкрыкваць з натоўпу.

**Група 3.**

Беларусью, велічу, прыгажосццю, Нараччу, гладздзю, Свіцяззю, сінью, шырру, глыб'ю, ноччу, завяззю, горыччу, воблачнасцю, запаведдзю, ростанню, роспаччу, электрычнасцю.

*Праверка задання ў 3-й групы.*

• **Рэфлексія "Ацэначнае акно".**

**Заданне 4.**

Задача: садзейнічаць развіццю ўвагі і выпрацоўцы ўмення працаваць з тэстам.

**Група 1.** Адзначце словы, у якіх у творным склоне апошні зычны асновы падаўжаецца:

1) Пціч;
2) весялосць;
3) восень;
4) гразь;
5) веліч;
6) кроў;
7) любоў;
8) бандэроль;
9) вільгаць;
10) глыб;
11) гусь;
12) весялосць;
13) косць;
14) памяць;
15) бездараж;
16) ветлівасць;
17) горыч;
18) далонь;
19) запаведзь;
20) медзь;
21) прыгажосць.

**Група 2.** Адзначце словазлучэнні, у якіх назоўнікі маюць канчатак *-а / -я*:

1) капялюшык мухамор…;
2) помнік з мармур…;
3) на сярэдзіне лужк…;
4) папіць кефір…;
5) копія дакумент…;
6) не ведаў адрас…;
7) у час антракт…;
8) языкі полым…;
9) не хапала аднаго рубл…;
10) з другога боку мост…;
11) на краі луг…;
12) сарваць з кветнік…;
13) вышыня кедр…;
14) ад нечуванага здзек…;
15) члены ансамбл…;
16) няма аптымізм…;
17) луста хлеб…;
18) прыхільнікі лібералізм… .

**Група 3.** Адзначце словы, якія ў месным склоне маюць канчатак *-э*:

1) плыць на (лодка);
2) на прыгажуні-(елка);
3) стаяла пры (ліхтар);
4) у адрыўным (каляндар);
5) радавацца (знаходка);
6) на старым (замчышча);
7) па даўняй (звычка);
8) на (двор) холадна;
9) аб вядомым (дырыжор);
10) у добрай (казка);
11) іграць на (дудачка);
12) пры гэтым (дырэктар);
13) аб маёй (дачка);
14) пры старой (груша);
15) у (гушчар) пушчы;
16) пры сваім (кавалер).

*Узаемаправерка з выстаўленнем адзнак.*

• **Рэфлексія "Чамадан – мясарубка – кошык".**

**Ключ 1:** 1, 3 – 5, 8, 9, 11, 14, 15, 17 – 20.

**Ключ 2:** 1, 3, 5 – 10, 13, 15, 17.

**Ключ 3:** 8, 13.

**Заданне 5.** Задача: садзейнічаць замацаванню ўмення ствараць тэксты, развіццю творчых здольнасцей вучняў. Напішыце невялікі (8 – 10 сказаў) тэкст "Мой родны горад", выкарыстоўваючы назоўнікі 2, 3-га скланення і рознаскланяльныя назоўнікі.

• **Рэфлексія "Ацэначнае акно".**

**VI. Абагульненне і сістэматызацыя вывучанага на ўроку.**

**Настаўнік.** З усімі заданнямі вы (як вучні) справіліся паспяхова. А цяпер уявіце сябе настаўнікамі і адрэдагуйце адказ вучня на тэму "Скланенне назоўнікаў".

1. У Р. скл. адз. л. назоўнікі 2-га скланення маюць канчаткі *-а / -я* або *-у / -ю*. Канчатак *-у / -ю* уласцівы назоўнікам м. р., якія абазначаюць асоб, жывых істот: *чалавеку*, *аленю*.

2. Іншамоўныя прозвішчы на *-ін / -ын, -ан* у Т. скл. ужываюцца з канчаткам *-ым*: *Чапліным*, *Труманым*.

3. У Т. скл. адз. л. у назоўнікаў 3-га скланення пасля *б, р, ф* перад канчаткам *-ю* пішацца мяккі знак: *верфью*.

4. У Т. скл. назоўнікі м. р. на *-а / -я* з асновай на цвёрды зычны маюць канчатак *-ай*: *бацькай*.

**VII. Выстаўленне і каменціраванне адзнак.**

**VIII. Дамашняе заданне (з тлумачэннем).**

**Іна СЕРАДЗІНСКАЯ,**
настаўнік беларускай мовы і літаратуры
вышэйшай кваліфікацыйнай катэгорыі
ДУА САШ № 13 г. Слуцка.

Сяргей НЕСЦЯРОВІЧ

# ІВАН ШАМЯКІН: БІЯГРАФІЯ І ТВОРЧАСЦЬ (XI КЛАС)

*Заканчэнне. Пачатак у №№ 9 – 12 за 2010 г., 1 – 2 за 2011 г.*

**ЖЫЦЦЯПІС І АГЛЯД ТВОРЧАСЦІ**

1. Дзяцінства Івана Шамякіна ў нечым падобнае да дзяцінства славутага класіка… (*Якуба Коласа*). Іван Шамякін і Якуб Колас нарадзіліся ў сем'ях… (*леснікоў*).

2. Малая радзіма будучага славутага празаіка – гэта… (*Гомельскае Пасожжа і Прыдняпроўе, вёскі Карма, Краўцоўка, Церахоўка, Сцюдзёная Гута і інш.*).

3. Аднойчы падлеткам Іван знайшоў кніжку без вокладкі і чытаў вершы леснікам. Гэта была… (*славутая паэма "Новая зямля" Якуба Коласа*).

4. Пасля заканчэння сямігодкі ў… (*1937 г.*) пастурае ў… (*Гомельскі тэхнікум будаўнічых матэрыялаў*).

5. Гэтая ўстанова знаходзілася ў Гомелі на вуліцы… (*Ветранай, зараз Гагарына*). У гады вайны будынак… (*не ўцалеў, быў знішчаны*).

6. Да вайны, будучы студэнтам тэхнікума, Шамякін здымаў пакой на вуліцы… (*Сталярнай у яўрэйскай сям'і*), а яго будучая жонка, Марыя Кротава, кватаравала на вуліцы… (*Астроўскага*).

7. Спадарожніцы жыцця аўтар прысвяціў аповесць… (*"Слаўся, Марыя!"*), у якой згадвае… (*юнацкія гады, першыя пацалункі ў ліпавых прысадах, мары і захапленні*).

8. Пасля заканчэння тэхнікума быў размеркаваны ў… (*Беластоцкую вобласць, цяпер гэта ваяводства Польшчы*).

9. Іван Шамякін з кагорты тых пісьменнікаў, юнацтва якіх было абпалена вайной. Гэта… (*Васіль Быкаў, Іван Мележ, Аркадзь Куляшоў, Андрэй Макаёнак і інш.*).

10. Незабыўнае даваеннае каханне, час ваеннага ліхалецця і пасляваеннае жыццё паказаны… (*у пенталогіі "Трывожнае шчасце"*).

11. Юнацкае захапленне мастацкім словам звязана з газетай… (*"Гомельская праўда"*), пры якой да вайны… (*быў літаратурны гурток*).

12. У гады Вялікай Айчыннай вайны служыў спачатку ў… (*Мурманску*), быў камандзірам… (*гарматы, камандаваў дывізіёнам супрацьпаветранай абароны*).

13. Іван Пятровіч быў заўважаны грамадскасцю як пісьменнік пасля выхаду ў свет… (*рамана "Глыбокая плынь"*), у якім паказаў… (*шырокую панараму партызанскай барацьбы з акупантамі на Беларусі*).

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 1 за 2011 г.*

14. У 1948 г. паступае вучыцца ў… (*Рэспубліканскую партыйную школу*) і робіць кар'еру… (*партыйнага дзеяча і кіраўніка*).

15. Творчае крэда, дэвіз пісьменніка – … (*калі не жыць сучаснасцю, нельга пісаць*).

16. Этапнымі, значнымі для савецкага грамадства з'явіліся творы: … (*"Глыбокая плынь", "У добры час", "Крыніцы", "Сэрца на далоні", "Снежныя зімы", "Вазьму твой боль", "Атланты і карыятыды", "Гандлярка і паэт", "Шлюбная ноч" і інш.*).

17. Яго пяру належыць першы ў СНД твор, прысвечаны чарнобыльскай трагедыі. Гэта… (*раман "Злая зорка"*).

18. Распад Савецкага Саюза Іван Шамякін сустрэў… (*з трывогай, песімістычна*).

19. Творы часоў перабудовы, 1980 – 1990 гг., апісваюць… (*негатыўныя праявы жыцця грамадства ў постсавецкі час*). Гэта, напрыклад, … (*"Зямны рай", "Бумеранг", "Сатанінскі тур", "Адна на падмостках", "Падзенне"*).

20. Назва кожнага твора Івана Шамякіна, як правіла, адпавядае ідэйна-тэматычнаму зместу, "працуе" на задуму, напрыклад… [(*1-2 тлумачэнні любой назвы твора*) *аповесць "Непаўторная вясна" прысвечана першаму трапяткому каханню, з перажываннямі, хваляваннямі, юнацкім максімалізмам, непаўторнаму часу жыцця; "Атланты і карыятыды" – гэта не толькі элемент дэкору старажытнага дойлідства, мужчынскія і жаночыя скульптуры, напаўбагі, што трымаюць небасхіл, але і, па аўтарскай задуме, найбольш уплывовыя для грамадства, высокамаральныя асобы, гуманісты; у аповесці "Падзенне" і сапраўды ёсць уяўнае падзенне са шматпавярхоўкі жанчыны, якой паставілі дыягназ СНІД. Назва суадносіцца і з маральным падзеннем*].

21. Шамякінскім творам уласцівы наступныя рысы: … (*прастата мовы і моўных сродкаў, сюжэтная завостранасць, авантурна-прыгодніцкія калізіі, рэзкае размежаванне герояў на станоўчых і адмоўных, сучасны, уласцівы канкрэтнай эпосе канфлікт*).

22. Памёр Іван Шамякін у… (*2004 г.*) і пахаваны на… (*Усходніх могілках у Мінску*).

*У №№ 1 – 12 за 2010 г. змешчаны літаратурныя дыктанты па біяграфіях і творчасці В. Быкава, Э. Хэмінгуэя, М. Стральцова, Н. Гілевіча, І. Чыгрынава, І. Навуменкі, Р. Барадуліна; у №№ 1 – 2 за 2011 г. – матэрыялы, прысвечаныя біяграфіі і творчасці Г. Бёля, Я. Янішчыц, А. Дударава, Г. Марчука.*

**РАМАН "СЭРЦА НА ДАЛОНІ"**

1. Назву рамана можна растлумачыць наступным чынам: у прамым значэнні… (*сэрца Зосі Савіч на далоні, у руках Антона Яраша*); у пераносным – … (*сэрца – лёс чалавека на "далонях часу", аперацыя на сэрцы асацыіруецца з працэсам перабудовы грамадства*).

2. У творы дзейнічаюць наступныя персанажы: … (*сям'я журналіста Кірылы Шыковіча – жонка Валянціна Андрэеўна, дачка Ірына, сын Славік; сям'я доктара Антона Яраша – жонка Галіна Адамаўна, сын Віктар, дачка Наташа, прыёмны сын Тарас і інш.*).

3. Завязка ў рамане – … (*шчырае жаданне журналіста Кірылы Шыковіча перагледзець напісаную пасля вайны сумесна са старшынёй гарсавета Гуканам кнігу пра дзейнасць гарадскога падполля, узнавіць праўдзівыя факты, разабрацца з дзейнасцю падчас акупацыі доктара Савіча і Антона Яраша*).

4. Другі часавы план рамана – … (*успаміны доктара Яраша, Зосі Савіч пра падзеі перыяду акупацыі Гомеля фашыстамі*).

5. Апантанасць працай у Антона Яраша перадаюць наступныя эпізоды рамана: … [*доктар "адпачывае" на лецішчы – чытае замежны навуковы часопіс па медыцыне; едучы ў таксі, "пракручвае" ў памяці ўсе стадыі будучай аперацыі на сэрцы; яго пазнаюць на вуліцы; ён вельмі моцна перажывае няўдачы (смерць двух хлопчыкаў)*].

6. Шыковіч дазнаўся праўду пра дзейнасць доктара Савіча… (*дзякуючы карпатлівай працы ў архівах, распытванню сведак тых падзей*).

7. Маша – гэта медсястра, якая… (*працуе разам з доктарам Ярашам, сімпатызуе яму, мае да яго пачуццё прыязнасці, у яе залаты колер валасоў, і сястра яна "залатая", у фінале рамана Маша вымушана зрабіць выбар паміж Толікам і Славікам*).

8. Адмоўныя персанажы ў рамане: … (*старшыня гарвыканкама Гукан, загадчыца бальніцы Тамара Гаецкая*). Яны робяць свае чорныя справы: … (*раззлаваная халоднасцю да яе Антона, Тамара прыходзіць да Галіны Яраш і пляткарыць адносна кватэры для Зосі і інш. Гукан жа "капае" пад Шыковіча, уздымае пытанне адносна лецішча, выносіць на пасяджэнне пытанне выхавання ў сям'і Шыковічаў, пасля таго як Славік трапляе ў выцвярэзнік*).

9. Славік Шыковіч можа выклікаць у чытача сімпатыю, таму што… (*за знешняй дзёрзкасцю і неўраўнаважанасцю хаваецца добразычлівасць, гуманнасць, шырыня характару*).

10. Развіццё любоўнай інтрыгі рамана (схематычна): … (*прызнанне Славіка ў каханні да Машы – яе адказ: "Я выходжу замуж" – машына – аварыя – бальніца*).

**АПОВЕСЦЬ "ГАНДЛЯРКА І ПАЭТ"**

1. Аповесць "Гандлярка і паэт" мае наватарскі, неардынарны характар, бо… (*аўтар упершыню ў сваёй творчасці галоўнай гераіняй абраў гандлярку з Камароўскага рынку – зусім не тыповую для літаратуры таго часу, у якасці галоўных герояў вывеў асоб без гучных званняў і пасад*).

2. Да герояў твора мае дачыненне фізічны закон – "разнаполюсныя зарады прыцягваюцца": … (*гэта адлюстравана і ў самой назве "Гандлярка і паэт". У Вольгі Лянові́ч быў выбар: магла вызваліць дужага, здольнага шмат зрабіць па гаспадарцы, але выбрала нямоглага, выратавала ад немінучай гібелі*).

3. Твор уражвае праўдзівым для савецкага перыяду пачаткам: … (*паказаны час безуладдзя перад акупацыяй Мінска, калі дзейнічалі марадзёры*).

4. Вольга Ляновіч на першых старонках аповесці не можа выклікаць сімпатыі, пачуцця прыязнасці, салідарнасці, таму што… (*паказана грубай, чэрствай, у яе дамінуе пачуццё сквапнасці, яна заклапочана толькі памнажэннем багацця, усталяваннем свайго бязмежнага гандлярскага аўтарытэту*).

5. Месца дзеяння аповесці… (*раён Камароўкі, раней забудаваны прыватнымі дамамі, а цяпер там вялікі крыты Камароўскі рынак, паблізу знакамітая плошча імя Якуба Коласа*).

6. Гандлярка Вольга Ляновіч выконвае просьбу сваёй сяброўкі, звязанай з гарадскім падполлем, не ведаючы, што… (*гэтае даручэнне зменіць яе лёс*).

7. Вольга Ляновіч павінна была зрабіць і звыклае для яе, і адначасова новае, нават інтрыгуючае: … (*па заданні гарадскога падполля выкупіць з фашысцкага палону аднаго з кіраўнікоў падполля*).

8. Чаму Вольга не пайшла адразу ад канцлагера, а выкупіла хворага, нямоглага юнака? [*Пасля таго як ва ўмоўленым месцы яна нікога не знайшла, ішла ўздоўж агароджы, узіралася ў палонных мужчын. Мабыць, для яе гэта таксама быў своеасаблівы кірмаш і не ў яе правілах пакідаць яго (хоць і жахлівае гэтае месца) без куплі-продажу. Падштурхнула, пэўна, і мацярынскае пачуццё, імкненне паклапаціцца, дапамагчы*].

9. Сапраўднае імя і прозвішча паэта Алеся Шпака – … (*Аляксандр Гапанюк*).

10. Эвалюцыя галоўнай гераіні аповесці: … (*далучэнне да новага, раней невядомага свету праз каханне да Алеся. Вольга, у мінулым абмежаваная кірмашова-грашовымі інтарэсамі жанчына, прыходзіць ад ідэі нажывы, прыбытку, які можна атрымаць нават у вайну, да высакароднага памкнення змагацца з ворагамі за свабоду і незалежнасць краіны*).

11. Алесю было вельмі цяжка выканаць прысуд падполля – … (*забіць паліцая Друцьку*), бо… (*той не немец, а беларус, які забіваў і рабаваў яўрэйскія сем'і*).

Вольга ПРАСКАЛОВІЧ

# НАВУЧАННЕ ВІДАМ ЛІТАРАТУРНА-ТВОРЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ Ў АСПЕКЦЕ ЖАНРАВАГА ПАДЫХОДУ

## КАЗКАВАЯ ПРОЗА

У артыкуле разглядаюцца шляхі, спосабы выкарыстання народнай казкі ў развіцці вербальнай крэатыўнасці школьнікаў.

Казачны жанр у сілу сваёй метафарычнасці, адмысловага маральна-эстэтычнага, філасофскага і эмацыянальнага падтэкстаў пры ўспрыманні разлічаны на наяўнасць у рэцыпіента пэўных чытацкіх якасцей: развітага рэпрадуктыўнага ўяўлення, назіральнасці, здольнасці да эмпатыі (суперажывання), адчування паэтычнага слова, вобразнай памяці, адпрацоўка якіх стымулюе літаратурна-творчую дзейнасць вучняў.

Зварот да народных казак мае відавочную актуальнасць у святле культуратворчага падыходу. Васіль Сухамлінскі пісаў: "Казка – гэта актыўная эстэтычная творчасць, якая ахоплівае ўсе сферы духоўнага жыцця дзіцяці – яго розум, пачуцці, уяўленне, волю. Яна (творчасць. – ***В. П.***) пачынаецца ўжо ў расказванні, найвышэйшы яе этап – інсцэнізацыя" [1, с. 189].

У метадычнай літаратуры ставілася пытанне аб навучанні школьнікаў выразнаму чытанню казак, мастацкаму расказванню, ілюстраванню, інсцэніраванню ва ўрочнай дзейнасці [2 – 5] і факультатыўных занятках па беларускай літаратуры [6, 7].

Разгледзім методыку развіцця вербальнай крэатыўнасці на матэрыяле фальклорнай казкі. Вывучэнне тэмы "Народныя казкі" арганізуем у адпаведнасці з комплекснай методыкай на аснове ўзаемасувязі розных відаў прадметна-творчай дзейнасці.

Увесці вучняў у свет казкі магчыма праз наступныя віды вучэбнай дзейнасці:

***рэцэптыўная*** – праслухоўванне казак у выкананні настаўніка (загадзя падрыхтаванага вучня), па фонахрэстаматыі; праслухоўванне інсцэніраванага фрагмента (з радыёспектакля, кінаказкі, мультыплікацыйнага фільма); чытанне (беглае чытанне ўголас усяго тэксту, выбарачнае); чытанне артыкула вучэбнага дапаможніка аб народных казках*;

***рэпрадуктыўная*** – гутаркі па засваенні ідэйна-мастацкага зместу; адказы на пытанні, тэставыя заданні; складанне плана казкі (або эпізоду) у форме пытальных і апавядальных сказаў; розныя віды пераказу [блізкі да тэксту (з захаваннем адметнасцей казачнай лексікі), выбарачны, сціслы]; складанне слоўніка казкі;

***прадуктыўная, творчая*** – падрыхтоўка вуснага водгуку на праслуханы фоназапіс (з матывіроўкай свайго стаўлення да акцёрскага выканання); выразнае (мастацкае) чытанне, чытанне па асобах; складанне партытуры чытання (эмацыянальнай і маўленчай); мастацкае расказванне; вуснае слоўнае маляванне; падрыхтоўка творчага пераказу; інсцэніраванне** (інсцэніраванне прадугледжвае перапрацоўку любога твора для сцэны або кіно), мізансцэніраванне (стварэнне мізансцэны для ўяўнага спектакля, кадра для магчымага фільма), стварэнне кадрапланаў (тэкстуальна-графічных, тэкстуальна-выяўленчых, тэкстуальна-апісальных), драматызацыя (пад драматызацыяй разумеюць перадачу падзей твора ў драматычнай форме, г. зн. у асобах); стварэнне "жывых карцін"***; стылістычны эксперымент; складанне характарыстыкі (цытатнай, параўнальнай) казачных персанажаў; узнаўленне працэсу нараджэння казкі, лапідарныя паведамленні пра казачнікаў, збіральнікаў казак; невялікія вусныя замалёўкі, выказванні; сачыненне па жанравай карціне, ілюстрацыях; калектыўнае складанне казкі (з выкарыстаннем знаёмых сюжэтаў і вобразаў, захаваннем асноўных прынцыпаў будовы народных казак, выкарыстаннем адпаведнай лексікі); сачыненне казкі паводле прыказкі; адказы на пытанні віктарыны, крыжаванкі; завочная экскурсія па Казкаградзе;

* Гл.: **Цітова, Л.** Беларуская літаратура : вучэб. дапам. для 5-га кл. агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання : у 2 ч. / Л. Цітова. – Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2009. – Ч. I. – С. 18.

** Навучанне інсцэніраванню лепш за ўсё пачынаць з V класа, у час знаёмства з казкамі [гл.: **Смыкоўская, В.** Развіццё мовы вучняў на ўроках літаратуры / В. Смыкоўская. – Мінск : Нар. асвета, 1988. – С. 71].

*** Гл.: **Ключи к детской душе** : Как рассказывать и сочинять истории и сказки : сборник / сост. А. Русаков. – СПб. : Речь; Образовательные проекты, 2010. – С. 45.

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 1 за 2011 г.*

***эўрыстычная (пошукавая)*** – каменціраванае чытанне; самастойны пошук адказаў на праблемныя пытанні; самастойны пошук тэматычна блізкіх казак; супастаўленне тэкстаў з ілюстрацыямі; устанаўленне асацыятыўных сувязей з творамі жывапісу і музыкі; супастаўленне казачнага героя з яго ілюстрацыяй (на форзацах вучэбнага дапаможніка або ў альбомах);

***даследчая*** – аналітычныя назіранні (аналіз эпізодаў; аналіз выяўленчых сродкаў мовы і вызначэнне іх ролі ў стварэнні казачнага персанажа, раскрыцці тэмы (ідэі) фальклорнай казкі); супастаўленне бытавых казак і казак пра жывёл з чарадзейнымі казкамі; розныя віды супастаўленняў з казкамі іншых народаў свету; параўнанне казкі фальклорнай і літаратурнай, выяўленне агульных і адметных рыс; супастаўленне байкі і казкі, міфа і казкі, легенды і казкі, павер'яў і казкі, быліны і казкі; суаднясенне ідэі казкі з прыказкамі; супастаўленне казкі і твора выяўленчага (музычнага) мастацтва на сюжэты народнай казкі, супастаўленне казкі з яе экранізацыяй або пастаноўкай; параўнанне ілюстрацый розных мастакоў, музычных твораў розных кампазітараў па матывах адной казкі; супастаўленне казкі з іншымі відамі народнага мастацтва (драўляная або гліняная цацка, вырабы з саломкі і г. д.);

***графічная*** – складанне і каменціраванне табліц, схем, кластараў, геаметрычных фігур, эскізаў, фотакалажаў ці калажаў з малюнкаў і рэпрадукцый; складанне піктаграфічнага плана твора ці ўрыўка з яго*;

***дэкаратыўна-прыкладная*** – стварэнне розных вырабаў з дрэва, пластыліну, кардону, гліны, саломкі**; вышыўка, аплікацыя, манатыпія і інш.;

***крэатыўна-дызайнерская*** – калектыўны прагляд і абмеркаванне падрыхтаваных вучнямі ілюстрацый да асобных эпізодаў казкі, падбор да іх радкоў з тэксту; абарона ілюстрацый; прайграванне роляў ілюстратара кнігі*** (афармленне вокладкі), мастака самадзейнага тэатра (стварэнне касцюмаў, дэкарацый і г. д.); распрацоўка макета помніка казачнаму герою і супастаўленне з культурна-гістарычнымі аналагамі****;

***мультымедыйная*** – стварэнне відэаroліка, відэакліпа, прэзентацыі, камп'ютарнай анімацыі, гіперспасылкі, слайд-шоу і да т. п.;

***бібліяграфічная*** – работа з даведачным апаратам вучэбнага дапаможніка, даведачна-інфармацыйнай літаратурай (артыкулы, слоўнікі, даведнікі, энцыклапедыі і інш.), інтэрнэт-рэсурсамі;

***сінтэтычная*** (музычна-слоўная, маляўніча-слоўная, тэатралізацыя і г. д.);

***рэфлексійная*** – на ўсіх этапах праводзіцца праца па развіцці рэфлексійнага вопыту вучняў.

Разгледзім некаторыя з названых відаў вучэбнай літаратурна-творчай дзейнасці.

Зыходзячы з таго, што народная казка спрадвеку бытавала ў вусным выкананні, перш за ўсё неабходна арганізаваць яе *расказванне* на ўроку, а не чытанне.

Мастацкае расказванне казкі – дзейнасць, якая дазваляе развіваць фантазію, вобразную памяць, маўленне школьнікаў, здольнасць да эмпатыі.

Пры расказванні народных казак трэба ўлічваць іх відавую класіфікацыю. У час "жывога выканання" варта выкарыстоўваць розныя інтанацыйныя канструкцыі, прыцягваць увагу слухачоў пры дапамозе замаруджвання ці паскарэння тэмпу маўлення, павышэння ці паніжэння тону і сілы голасу. Больш поўна і свабодна выкарыстоўваюцца і такія сродкі выразнасці маўлення, як міміка, жэсты, позірк, пастава. Пры расказванні вучнямі той ці іншай казкі нельга выключыць момант імправізацыі. Добра расказаная казка знойдзе эмацыянальны водгук у вучняў.

*Мастацкае чытанне* казак адрозніваецца ад чытання звычайнай прозы. Па-мастацку прачытаць казку – значыць уздзейнічаць на вучняў мовай казкі, на іх свядомасць і пачуцці, выклікаць рэакцыю саўдзелу і суперажывання за лёс казачных герояў. Апавядальная плынь казачнага тэксту ўражвае слухачоў дынамізмам развіцця падзей, напружанасцю дзеянняў і нечаканасцю ўчынкаў герояў. Стварыць атмасферу цікаўнасці ў вучняў, выклікаць непасрэдную рэакцыю на змест вывучаемай казкі можна пры правільнай арганізацыі рытму чытання. Эфектыўным прыёмам навучання выразнаму (мастацкаму) чытанню казак можа стаць распрацоўка пры дапамозе ўмоўных знакаў партытуры яго чытання [8, 9].

* "Сучасныя падлеткі, як адзначаюць псіхолагі, вызначаюцца тэхнанізаваным мысленнем, паколькі інфармацыю атрымліваюць пераважна візуальна з электронных крыніц. Улічваючы гэта, варта шырока выкарыстоўваць графічную арганізацыю вывучаемага матэрыялу: табліцы, схемы, апоры, кластары" [**Руцкая, А. В.** Методыка выкладання беларускай літаратуры : вучэб. дапам. / А. В. Руцкая, М. У. Грынько. – Мінск : Изд-во Гревцова, 2010. – С. 100].

** Пры неабходнасці можна выкарыстаць кнігі "Беларуская цацка і гульня" (1996) А. Лозкі, А. Лявонавай; "Беларуская гліняная цацка" (1991) М. Ржавуцкага, "Беларуская народная цацка" (1991) Я. Сахуты.

*** Узоры кніжнай графікі і манатыпіі гл.: **Шаранговіч, В.** Фотаальбом. Кніжная графіка. Станковая графіка. Акварэль. Малюнак / В. Шаранговіч. – Мінск : Беларусь, 2008.

**** Ілюстрацыйны матэрыял змешчаны на сайце часопіса.

Асаблівую ролю ў арганізацыі вучнёўскай самадзейнасці набывае пераказ (блізкі да тэксту, сціслы, выбарачны, падрабязны). Пры падрыхтоўцы вусных пераказаў неабходна вучыць школьнікаў выкарыстанню ў сваім маўленні мастацкіх прыёмаў і сродкаў, пры дапамозе якіх ствараецца своеасаблівая "казачная абраднасць", слоўная арнаментыка і дасягаецца тая празаічная якасць, выразнасць і вобразнасць, якая не перастае здзіўляць пры кожным звароце да тэксту народных казак. Пералічаныя вышэй тыпы пераказу адносяцца да рэпрадуктыўных формаў дзейнасці. Як паказваюць назіранні, рэпрадуктыўны пераказ з'яўляецца малаэфектыўным. У якасці прычын малаэфектыўнасці трэба вылучыць: нізкі ўзровень інтарэсу вучняў як да тэксту, так і да пераказу як віду вучэбнай дзейнасці, невысокую ступень самастойнасці. Пры рэпрадуктыўным пераказе лексічны, сінтаксічны, тэкставы матэрыял прачытанага або ўзнаўляецца з вялікай нагрузкай на памяць, або забываецца. Іншая справа, калі дадзеныя элементы будуць не толькі свабодна ўзнаўляцца, але і выкарыстоўвацца вучнямі ў сваім маўленні. Варта выкарыстоўваць пераказ, які патрабуе творчых адносін да яго выканання, напрыклад: пераказ са зменай асобы апавядальніка, пераказ з творчымі дапаўненнямі (па самастойна прыдуманых пачатку і канцоўцы), з працягам сюжэта (з захаваннем папярэдняга стылю казачнага тэксту) і развіццём лёсу казачных герояў і г. д. На нашу думку, шырока павінен выкарыстоўвацца на ўроках літаратуры камбінаваны тып пераказу, заснаваны на паралельным складанні піктаграфічнага і вербальнага планаў твора ці ўрыўка з яго. Гэты від вучнёўскай культуратворчасці прадугледжвае ўлік індывідуальна-псіхалагічных асаблівасцей рэцыпіентаў. Як адзначае Ю. Катарыгіна, "разнастайнасць формаў успрымання інфармацыі садзейнічае не толькі лепшаму запамінанню і прадуцыраванню тэксту, але і актывізацыі таго тыпу мыслення, які ў школьніка развіты ў найменшай ступені" [10, с. 12]. Прапанаваная форма арганізацыі пераказу як віду вучэбна-творчай дзейнасці дазволіць не толькі індывідуалізаваць працэс навучання, г. зн. стымулюе творчае самараскрыццё асобы вучня як з дывергентным (творчым), так і канвергентным (нятворчым) тыпам мыслення.

У нашым прыкладзе тэкст [творчы пераказ са зменай асобы расказчыка – аповед Івана-дурня (паводле казкі "Залаты птах")], створаны вучнямі, набудзе наступны выгляд:

«*Я – герой многіх чарадзейных казак. Звычайна ў казках з'яўляюся трэцім сынам, называюць мяне дурнем або прасцяком. Старэйшыя браты здзекуюцца з мяне, зайздросцяць: "Пaглядзелі браты і пачырванелі ад сораму, што не яны, а я – дурань – праславіўся. Узяла іх зайздрасць". Часта ў казках іншыя героі не вераць у мае сілы. Падумаў бацька: "Што ж, прапалі разумныя сыны, няхай і гэты, дурань, прападае". Але ж мне, "дурню" Івану, пашчасціла выканаць волю бацькі і знайсці чароўную птушку. У гэтым мне дапамагае старая ваўчыха, за што я ёй вельмі ўдзячны. Хоць мае браты зайздросныя і хацелі мяне згубіць, але зноў на дапамогу прыходзіць старая ваўчыха: "Пабегла ваўчыха на высокую гару, дастала пляшачку жывой вады. Вярнулася і ажывіла мяне". Ад жывой вады змянілася маё аблічча, бацька і браты не пазналі мяне. Мне ўдалося вярнуцца дадому і выкрыць сваіх злых і зайздросных братоў: "Я птаха дастаў і слова стрымаў, а яны – браты мае разумныя – ліхадзеі!" Але ж я не такі ўжо помслівы ў дачыненні да іх. У адплату за іх злачынства выгнаў бацька маіх братоў з дому, а са мной і цяпер жыве. А я так думаю, што "бяда ўсяму навучыць*».

Адметнай формай пераказу і адным з самых цікавых відаў вучнёўскай творчай дзейнасці з'яўляецца *слоўнае маляванне*. Для больш глыбокага разумення тэксту, яго ідэі, персанажаў трэба ўмець "бачыць", "маляваць" апісаныя падзеі ва ўяўленні.

Падагульняючы работу над вусным маляваннем, можна прапанаваць вучням стварыць слоўны / графічны партрэт казачніка, параўнаць тое, што яны ўявілі, намалявалі, з наступным апісаннем аблічча казачніка (пачатак народнай казкі "Пану навука").

Запіс будзе выглядаць так:

| | |
|---|---|
| *Слухайце, бо скажу вам не казку, а шчырую праўду. Дзе тое было, цяпер я забыўся, бо ўжо, бачыце, старасць. А старасць – не радасць. А ведама, калі з чупрыны гінуць валасы, то і памяць з галавы. От забыўся нават, што сягоння абедаў. Не памятаю. А мо і нічога. Трапляецца і так. Кажуць жа: часам з квасам, а парою з бядою, ці то з вадою.* | Слухайце, бо скажу вам не казку, а шчырую праўду. Дзе тое было, цяпер я забыўся, бо ўжо, бачыце, старасць. От забыўся нават, што сягоння абедаў. Не памятаю. А мо і нічога. Трапляецца і так. |

Творчае (крэатыўнае) заданне фармулюецца наступным чынам: "Прачытайце тэкст, запісаны злева, і паспрабуйце ўявіць чалавека, якому ён належыць. Што вы можаце сказаць пра яго мову? За кошт чаго гэта дасягаецца?"

Аналагічная работа вядзецца і з дэфармаваным тэкстам. Прапануецца параўнаць абодва тэксты і вызначыць, чым яны адрозніваюцца.

Пры абагульненні адказаў вучняў настаўнік зверне ўвагу на індывідуальную манеру выканання казак, на моўнае афармленне ініцыяльных формул. Казачнікі не проста расказвалі казкі, а часта самі тварылі іх. У беларусаў "тытул" казачніка мелі сапраўдныя майстры слова, ад якіх

чакалі добрай павучальнай казкі. Казка зараджалася на аснове непасрэднай імправізацыі, ствральнікаў і захавальнікаў казак можна назваць самабытнымі народнымі “златавустамі”. “Расказванне, – пісаў фалькларыст А. Сержпутоўскі, – як яно праходзіла ў народзе, – не механічны пераказ, а творчасць. Добрыя расказчыкі – гэта ў сваім родзе мастакі-раманісты плюс акторы-расказчыкі”. Мастацтва народных расказчыкаў заключаецца ў тым, што ў апавяданні яны ўносяць асабістыя рысы, тым самым захапляючы слухачоў не толькі чарадзейнай фабулай казкі, але і манерай выканання: “У часе апавядання адны з казачнікаў у перапынках пакашліваюць, паплёўваюць, цмокаюць языком, мармочуць, другія <…> коратка ўздыхаюць. Апрача гэтага, карыстаюцца рознымі прыказкамі або проста ўстаўкамі: ой, так, так мае ж вы дзеткі, дальбо праўда, каб не змахляваць, скажу, як той казаў і інш. Па заканчэнні казкі ўжываюць шматлікія формулы: я на тым вяселлі быў, мёд, віно піў; хоць па вусох цякло, але ў губе не было; яшчэ на больш прасілі, але пазней забылі, так я з тае бяды напіўся вады” [11, с. 106]. Майстэрства творцаў-выканаўцаў вельмі паўплывала на пашырэнне і захаванне найлепшых узораў беларускага казачнага эпасу.

У сувязі з тым, што ў вучэбных дапаможніках па беларускай літаратуры адсутнічаюць звесткі пра казачнікаў, збіральнікаў казак, мэтазгодна ўключыць вучняў у творчую дзейнасць праз падрыхтоўку лапідарных паведамленняў (у якасці папераджальнага задання вучні знаёмяцца з аповедам пра казачніка Рэдкага) [12, с. 198 – 252].

**Спіс літаратуры**

1. **Сухомлинский, В. А.** Сердце отдаю детям / В. А. Сухомлинский. – Минск : Нар. асвета, 1982. – 288 с.
2. **Воінаў, М. М.** Вучыць і выхоўваць словам : метад. рэк. да падруч. “Родная літаратура”, 5 клас / М. М. Воінаў, В. І. Смыкоўская. – Гомель : Агенцтва навук.-тэхн. і дзелавой інфарм., 1996. – 172 с.
3. **Ляшук, В. Я.** Вывучэнне эпічных твораў, 5 – 8 кл. : дапам. для настаўніка / В. Я. Ляшук. – Мінск : Нар. асвета, 1987. – 150 с.
4. **Планы-канспекты ўрокаў па беларускай літаратуры.** 5 клас. І паўгоддзе : дапам. для наст. агульнаадукац. устаноў / Т. І. Бадычык [і інш.]. – Мазыр : Белы Вецер, 2010. – 103 с.
5. **Рагуля, А. У.** Беларуская літаратура ў 4 класе : метад. парады да падруч. / А. У. Рагуля. – Мінск : Нар. асвета, 1980. – 126 с.
6. **Цітова, Л. К.** “Браму скарбаў сваіх адчыняю…” : 5 клас : дапаможнік для наст. агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання / Л. К. Цітова. – Мінск : Літаратура і Мастацтва, 2010. – 64 с. – (Беларуская літаратура. Факультатыўныя заняткі).
7. **Цітова, Л. К.** “Слова – радасць, слова – чары…” : 6 клас : дапаможнік для наст. агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання / Л. К. Цітова. – Мінск : Літаратура і Мастацтва, 2010. – 64 с. – (Беларуская літаратура. Факультатыўныя заняткі).
8. **Каляда, А. А.** Мастацкае чытанне ў школе : 5 – 11 кл. : кн. для наст. / А. А. Каляда. – Мінск : Нар. асвета, 1992. – 200 с.
9. **Смыкоўская, В. І.** Развіццё мовы вучняў на ўроках літаратуры / В. І. Смыкоўская. – Мінск : Нар. асвета, 1988. – 149 с.
10. **Котарыгина, Ю. А.** Создание пиктографического плана текста как приём подготовки к изложению / Ю. А. Котарыгина // Русский язык в школе. – 2008. – № 9. – С. 10 – 13.
11. **Сержпутовский, А. К.** Сказки и рассказы белорусов-полешуков : Материалы к изучению творчества бел. и их говора / А. К. Сержпутовский. – СПб. : Типо-лит. К. Л. Петковского, 1911. – 185 с.
12. **Калеснік, У. А.** Тварэнне легенды : літ. партрэты і нарысы / У. А. Калеснік. – Мінск : Маст. літ., 1987. – 431 с.

*Аўтар ахвяруе ганарар на развіццё часопіса.*

## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТАЎ І ЮБІЛЕЙНЫХ ДЗЁН

### КАСТРЫЧНІК

**1 кастрычніка –** 130 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Станюты (1881 – 1974), жывапісца, педагога

100 гадоў з дня нараджэння Сяргея Каткова (1911 – 1976), жывапісца і педагога, заслужанага настаўніка Беларусі

90 гадоў з дня нараджэння Аляксандры Клімавай (1921 – 2005), актрысы, педагога, народнай артысткі Беларусі, народнай артысткі СССР

90 гадоў з дня адкрыцця Беларускай драматычнай студыі ў Маскве. Існавала да 1926 г.

75 гадоў з дня нараджэння Яўгена Іванешкі, жывапісца і мастака-акварэліста

**2 кастрычніка –** 115 гадоў з дня нараджэння Мікалая Дучыца (1896 – 1980), жывапісца і графіка

**3 кастрычніка –** 130 гадоў з дня нараджэння Людаміра Рагоўскага (1881 – 1954), польскага кампазітара і дырыжора, творчасць якога звязана з беларускай музычнай культурай

80 гадоў з дня нараджэння Ірыны Савельевай, артысткі балета, педагога, заслужанай артысткі Таджыкістана, народнай артысткі Беларусі

**4 кастрычніка –** 270 гадоў з дня нараджэння Францішка Карпінскага (1741 – 1825), паэта-сентыменталіста, асветніка

75 гадоў з дня нараджэння Аляксея Майсейчыка (1936 – 2002), літаратуразнаўцы

**6 кастрычніка –** 135 гадоў з дня нараджэння Яна Булгака (1876 – 1950), беларускага і польскага этнографа, майстра мастацкай краязнаўчай фатаграфіі, фалькларыста

50 гадоў з дня нараджэння Алены Рудэнкі, мовазнаўцы

**8 кастрычніка –** 180 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Ельскага (1831 – 1904), скрыпача, кампазітара, музычнага пісьменніка

90 гадоў з дня нараджэння Івана Утарушына (1921 – 1978), мастака дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва, жывапісца, педагога

85 гадоў з дня нараджэння Дзмітрыя Шатыловіча, беларуска- і польскамоўнага паэта. Жыве ў Варшаве

*Заканчэнне на с. 84.*

*Актуальная тэма*

# ЧАРГАВАННЕ ГАЛОСНАГА ГУКА З НУЛЁМ ГУКА Ў АСНОВЕ НАЗОЎНІКА

*Заканчэнне. Пачатак у № 7.*

***Інфармацыя пра чаргаванне галоснага гука з нулём гука ў аснове назоўніка, якую варта ведаць настаўніку і вучням.***

Пры змяненні назоўнікаў *жаночага роду I тыпу скланення* дзейнічаюць наступныя правілы:

1) калі аснова назоўніка жаночага роду I тыпу скланення ў пачатковай форме заканчваецца на спалучэнне *зычны + к*, то перад нулявым канчаткам Р. мн. у такой аснове з'яўляецца ўстаўны галосны гук перад гукам *к*, напрыклад: *бяро́**зк**-а – бяро́**зак**-ø, вё**ск**-а – вё**сак**-ø*;

2) калі аснова назоўніка жаночага роду I тыпу скланення ў пачатковай форме перад канчаткам -[а] (арфагр. *-я*) заканчваецца на спалучэнні *зычны + й*, або *зычны + н'*, або *губны зычны + л'*, то перад нулявым канчаткам Р. мн. у такой аснове з'яўляецца ўстаўны галосны гук перад гукамі *й*, або *н'*, або *л'*, напрыклад: *ся*[***мй****-а́*] (арфагр. *сям'я*) *– ся**ме́й**-ø, пе́*[***с'н'****-а*] (арфагр. *пе́**сня***) *– пе́**сень**-ø, ка́*[***пл'****-а*] (арфагр. *ка́**пля***) *– ка́**пель**-ø*;

3) калі аснова назоўніка жаночага роду I тыпу скланення ў пачатковай форме перад канчаткам *-а* заканчваецца на спалучэнне *-сн*, то перад нулявым канчаткам Р. мн. у такой аснове з'яўляецца ўстаўны галосны гук перад гукам *н*, напрыклад: *бля**сн**-а́ – блё**сен**-ø, са**сн**-а́ – со́**сен**-ø*;

4) калі аснова асабовага назоўніка жаночага роду I тыпу скланення ў пачатковай форме перад канчаткам *-а* заканчваецца на спалучэнне *-ўн*, то перад нулявым канчаткам Р. мн. у такой аснове з'яўляецца ўстаўны галосны гук перад гукам *н*, пры гэтым перад устаўным гукам адбываецца чаргаванне ***ў ~ в'***, напрыклад: *князё**ўн**-а – князё**вен**-ø, каралé**ўн**-а – каралé**вен**-ø.*

Пры змяненні назоўнікаў *ніякага роду II тыпу скланення* дзейнічаюць наступныя правілы:

1) калі аснова назоўніка ніякага роду II тыпу скланення ў пачатковай форме перад канчаткамі *-а* або *-о* заканчваецца на спалучэнні *зычны + к* або *зычны + н*, то перад нулявым канчаткам Р. мн. у такой аснове з'яўляецца ўстаўны галосны гук перад гукамі *к* або *н*, напрыклад: *дрэ́**ўк**-а – дрэ́**вак**-ø, а**кн**-о́ – а**ко́н**-ø*. Выключэнне: *во́**йск**-а – во**йск**-ø*;

2) калі аснова назоўніка ніякага роду II тыпу скланення ў пачатковай форме перад канчаткамі *-а* або *-о* заканчваецца на спалучэнні зычных гукаў *-др* або *-сл*, то перад нулявым канчаткам Р. мн. у такой аснове з'яўляецца ўстаўны галосны гук перад гукамі [р] або [л], напрыклад: *вя**др**-о́ – вё**дзер**-ø* і *вя**дзёр**-ø, крэ́**сл**-а – крэ́**сел**-ø.*

Пры змяненні назоўнікаў *агульнага роду* дзейнічае наступнае правіла:

1) калі аснова назоўніка агульнага роду ў пачатковай форме перад канчаткам *-а* заканчваецца на спалучэнне *зычны + к*, то перад нулявым канчаткам Р. мн. у такой аснове з'яўляецца ўстаўны галосны гук перад гукам *к,* напрыклад: *све́**дк**-а – све́**дак**-ø, сіро́**тк**-а – сіро́**так**-ø.*

Пры змяненні назоўнікаў, *якія ўжываюцца толькі ў форме множнага ліку*, дзейнічаюць наступныя правілы:

1) калі аснова назоўніка ў пачатковай форме перад канчаткам *-і* заканчваецца на спалучэнне *зычны + к*, то перад нулявым канчаткам Р. мн. у такой аснове з'яўляецца ўстаўны галосны гук перад гукам *к*, напрыклад: *каля́**дк**-і – каля́**дак**-ø, су́**тк**-і – су́**так**-ø*;

2) калі аснова назоўніка ў пачатковай форме перад канчаткам *-і* заканчваецца на спалучэнне *губны зычны + л'*, то перад нулявым канчаткам Р. мн. у такой аснове з'яўляецца ўстаўны галосны гук перад гукам [л'], напрыклад: *гра́**бл**-і – гра**бе́ль**-ø, кано́**пл**-і – кана**пе́ль**-ø.*

Як бачым, гэтымі правіламі рэгулюецца *ўстаўны галосны гук* у аснове назоўнікаў жаночага, ніякага, агульнага роду і назоўнікаў, што ўжываюцца толькі ў форме множнага ліку. Нагадаем: правілы дзейнічаюць толькі ў тым выпадку, калі для ўтварэння формы роднага склону множнага ліку дадзеных назоўнікаў выбіраецца нулявы канчатак. Пры скланенні такіх назоўнікаў ніякіх устаўных галосных у іх асновах не ўзнікае, калі форма роднага склону множнага ліку ўтвараецца з дапамогай матэрыяльна выражанага канчатка, напрыклад: *са**сн**-а́ – со́**сен**-ø*, але *со**сн**-аў; вя**др**-о́ – вё**дзер**-ø*, але *вё**др**-аў.*

Правілы рэалізацыі *беглага галоснага* ў асновах назоўнікаў мужчынскага роду сфармуляваць значна цяжэй, таму што ў сучаснай беларускай мове гэтая з'ява, як ужо адзначалася, пазіцыйна не абумоўленая і амаль не падпадае пад дзеянне фанетычнага фактару, якім забяспечваецца рэгулярнасць чаргаванняў гукаў. У многіх выпадках беглыя галосныя ў асновах назоўнікаў мужчынскага роду захоўваюцца па традыцыі або, наадварот, узнікаюць па аналогіі. Тым не менш пры скланенні назоўнікаў *мужчынскага роду II тыпу скланення* з некаторымі фанетычнымі прыметамі асновы назіраецца рэгулярнасць чаргавання галоснага гука з

нулём гука, і гэтую рэгулярнасць адлюстроўваюць наступныя правілы:

1) калі неаднаскладовая аснова назоўніка мужчынскага роду II тыпу скланення ў пачатковай форме перад нулявым канчаткам заканчваецца на спалучэнне *зычны + ец / эц / ац*, то ў формах ускосных склонаў у такой аснове знікае галосны гук перад гукам [ц], напрыклад: *ка**не́ц**-ø – **канц**-а́, ба**рэ́ц**-ø – ба**рц**-а́, го́**рац**-ø – го́**рц**-а, за́*[***йац***]*-ø* (арфагр. *за́яц*) – *за́**йц**-а*. Выключэнні: *па*[***йа́ц***]*-ø* (арфагр. *пая́ц*) – *па*[***йа́ц***]*-а* (арфагр. *пая́ца*), *па**ла́ц**-ø – па**ла́ц**-а, ме́**сяц**-ø* – Р. адз. *ме́**сяц**-а*; галосны гук перад гукам [ц] у асновах форм ускосных склонаў захоўваецца, калі ў аснове пачатковай формы назоўніка спалучэнню *-ец / -эц / -ац* папярэднічаюць некалькі зычных гукаў, напрыклад: *круг**ле́ц**-ø – круг**ляц**-а́, хра**брэ́ц**-ø – хра**брац**-а́, фо́**рзац**-ø – фо́**рзац**-а*;

2) калі неаднаскладовая аснова назоўніка мужчынскага роду II тыпу скланення ў пачатковай форме перад нулявым канчаткам заканчваецца на спалучэнне *зычны + галосны + ц’*, то ў формах ускосных склонаў у такой аснове знікае галосны гук перад гукам [*ц’*], напрыклад: *ло́**каць**-ø – ло́*[***кц’***-*а*] (арфагр. *ло́кця*).

Зразумела, што сфармуляваныя намі правілы ахопліваюць не ўсе выпадкі рэалізацыі ўстаўных і беглых галосных у асновах назоўнікаў, а толькі рэгулярныя. Некаторыя з гэтых правілаў ужо знайшлі практычнае прымяненне ў адным з дапаможнікаў па беларускай арфаграфіі [1, с. 100 – 122]. Назоўнікі з асновамі, у якіх чаргаванне галоснага гука з нулём гука не падпадае пад дзеянне якіх-небудзь правілаў, *трэба падаваць спісам для запамінання* асаблівасцей іх скланення. Такі невялікі спіс мы прыводзім у канцы артыкула.

Для фарміравання ў школьнікаў уменняў вызначаць назоўнікі з беглымі і ўстаўнымі галоснымі ў аснове і змяняць іх па склонах прапануем некалькі практыкаванняў.

**Заданне 1.** Пастаўце назоўнікі ў форму роднага склону множнага ліку, ужываючы, калі магчыма, варыянтныя канчаткі. Пастаўце націскі. Падкрэсліце назоўнікі, у асновах якіх з’яўляюцца ўстаўныя галосныя.

Значэнне незразумелых слоў вызначце па слоўніку.

Узор: *сястра́ – <u>сясцёр</u>, сёстраў.*

**Варыянт I.** Бярозка, думка, ладдзя, песня, такса, капля, сасна, вішня, князёўна, акно, войска, вядро, вахцёрша, сведка, зямля, суткі, баржа, граблі, лінза, сястра, ферма, цешча, верф, малпа, весць, флейта, кувалда, зачараванасць, розга, івалга, качарга, дачка, вольха, масла, пісьмо, гняздо, агнішча, распуста, сенцы.

**Варыянт II.** Дарожка, вёска, сям’я, свіння, жароўня, кобра, мятла, кропля, мысль, цыстэрна, урна, вясна, кухня, траўма, помпа, фарба, цяжба, кофта, гейша, чвэрць, кабарга, скарга, чарга, банка, ядро, вясло, гумно, яйцо, сховішча, вушка, знайда, служка, туфлі, апілкі, румза, славечка, банька, чытальня, дзясна.

**Заданне 2.** Утварыце форму роднага склону адзіночнага ліку і, калі магчыма, форму назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў. Пастаўце націскі. Падкрэсліце назоўнікі, у асновах якіх літары *а*, *е*, *ё* абазначаюць беглыя галосныя гукі. Запішыце беглыя галосныя гукі ў квадратных дужках.

Значэнне незразумелых слоў вызначце па слоўніку.

Узор: *<u>кане́ц</u> – Р. адз. канца́, Н. мн. канцы́; беглы гук [э].*

**Варыянт I.** Канец, заяц, месяц, круглец, дзёгаць, сон, тыдзень, верабей, сябар, куфар, жураvель, дзядок, хадок, ікол, укол, стрыжань, крыжань, дзень, пень, арол, асёл, анёл, дзівак, барак, грыбок, вулей, човен.

**Варыянт II.** Барэц, горац, паяц, храбрэц, лакаць, лён, будзень, студзень, салавей, свёкар, лекар, дзёран, замак, вымак, кухаль, хахаль, леў, мох, гандаль, каваль, медаль, ляжак, гусак, вяночак, майстар.

**Заданне 3.** Запішыце словы, устаўце, дзе трэба, прапушчаныя літары. Прачытайце словы, правільна вымаўляючы іх. Значэнне незразумелых слоў вызначце па слоўніку.

**Варыянт I.** Каліб…р, сяб…р, цылінд…р, арбіт…р, журав…ль, мініст…р, цук…р, світ…р, цык…л, руб…ль, дуб…ль, тыг…р, цэнт…р.

**Варыянт II.** Сінг…л, свёк…р, мет…р, матацык…л, магіст…р, майст…р, віх…р, караб…ль, бінок…ль, літ…р, педыят…р.

**Заданне 4.** Праскланяйце словы *лоб*, *нос*, *рот* па-беларуску і па-руску. Ці ёсць адрозненні ў змяненні гэтых слоў па склонах у беларускай і рускай мовах? У чым праяўляецца гэтая розніца? Успомніце фразеалагізмы з кампанентамі *лоб*, *нос*, *рот*. Якое значэнне маюць гэтыя фразеалагізмы?

**Заданне 5.** Вызначце тып скланення назоўнікаў *любоў*, *кроў* і праскланяйце іх. Якія чаргаванні гукаў назіраюцца ў асновах гэтых назоўнікаў пры іх скланенні?

### КАРОТКІ СПІС НАЗОЎНІКАЎ, АСНОВА ЯКІХ ВАКАЛІЗУЕЦЦА ПЕРАД НУЛЯВЫМ КАНЧАТКАМ

**Назоўнікі мужчынскага роду:** верабе́й, салаве́й, ву́лей (*Р. адз.* ву́лея *і* вулля́, *Н. мн.* вуллі́), ся́бар, шва́гер, свёкар, цу́кар, ма́йстар, ку́фар, ві́хар (*і* віхо́р), цэ́бар, зя́бер, бабёр, баго́р, бугор, вуго́р, сві́тар, адзёр, капёр, касцёр, шацёр, махо́р, ве́цер, д’я́бал, ку́бел, вы́жал, све́рдзел, ву́зел, во́кісел, вы́мысел, каро́мысел, дзя́цел, ву́гал, шчыго́л, казёл, аро́л, асёл, чахо́л, кацёл, бу́сел, га́ндаль, зэ́даль,

бр́энзаль, ку́халь (*і* ку́фель), гі́цаль, ды́шаль, ка́шаль, гэ́бель, штры́фель, шу́фель, рубе́ль, каме́ль, карабе́ль, жураве́ль, ву́галь (*Н. мн.* вуглі́ *і* вугалі́), бла́зан, го́ран, дзё́ран, шво́ран, бу́бен, ражо́н, лён (*Р. адз.* ільну́ *і* лёну), сон, чо́вен, сві́ран, жаро́н (*Р. адз.* жарна́ *і* жаро́на), лоб (*Р. адз.* ілба́ *і пасля галосных* лба), хрыбе́т, Егі́пет, авёс, алёс (*Р. адз.* альсу́ *і* алёсу), ле́жань, сне́жань, ду́рань, ву́чань, клу́бень, бі́вень, жні́вень, лі́вень, пе́вень, бу́дзень, про́мень (*Р. адз.* про́меня, *Н. мн.* про́мені *і* про́мні) (*і* праме́нь), ве́расень, збі́цень, аго́нь, дзень (*Р. адз.* дня, *Н. мн.* дні, *Р. мн.* дзён), ты́дзень, пень, дзёгаць, но́гаць, ло́каць, ла́паць, тэ́паць, шчо́паць, ве́хаць, ало́вак, аўто́рак, ба́рак, баці́нак, валёнак, вяно́к, га́нак, глыто́к, дару́нак, жа́ўранак, загало́вак, звано́к, кашалёк, ларо́к, малю́нак, ра́нак, страло́к, та́пак, фальва́рак, чарано́к, шнуро́к, юро́к, мох (*Р. адз.* імху́ *і* мо́ху).

**Назоўнікі жаночага роду:** ладдзя́ – ладзе́й, сям'я́ – сяме́й (*і* се́м'яў), свіння́ – свіне́й, сястра́ – сясцёр (*і* сёстраў), мятла́ – мёцел (*і* мётлаў), цыстэ́рна – цыстэ́ран (*і* цыстэ́рнаў), вясна́ – вёсен (*і* вёснаў), княжна́ – княжо́н, ця́жба – ця́жаб (*і* ця́жбаў), ро́зга – ро́заг (*і* ро́згаў), кабарга́ – кабаро́г, любо́ў (*III скл.*) – *Р. адз.* любві́ (*і* любо́ві).

**Назоўнікі ніякага роду:** бядро́ – бёдзер (*і* бёдраў), вядро́ – вёдзер *і* вядзёр (*і* вёдраў), ядро́ – я́дзер (*і* я́драў), крэ́сла – крэ́сел (*і* крэ́слаў), ма́сла – ма́сел (*і* ма́слаў), вясло́ – вёсел (*і* вёслаў), чысло́ – чы́сел (*і* чы́слаў), акно́ – ако́н (*і* во́кнаў), палатно́ – палацён *і* пало́цен (*і* пало́тнаў), гумно́ – гу́мен (*і* гу́мнаў), пісьмо́ – пі́сем (*і* пі́сьмаў), яйцо́ – яе́ц.

**Назоўнікі, якія ўжываюцца толькі ў форме множнага ліку:** гра́блі – грабе́ль (*і* гра́бляў), кано́плі – канапе́ль (*і* кано́пляў), се́нцы – сяне́ц.

**Спіс літаратуры**

1. **Куліковіч, У. І.** Вучымся пісаць па-новаму : вучэбны дапаможнік па беларускай арфаграфіі / У. І. Куліковіч. – Мінск : Беларуская асацыяцыя "Конкурс", 2009. – 144 с.
2. **Беларускі арфаграфічны слоўнік** / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы; уклад. Л. П. Кунцэвіч, І. У. Кандраценя; пад рэд. А. А. Лукашанца. – Мінск : Беларус. навука, 2009. – 695 с.

**Святлана ХВЯСЬКО,**
аспірантка кафедры
беларускага тэарэтычнага мовазнаўства
Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы.

*Артыкул рэкамендаваны да друку кандыдатам філалагічных навук Н. Гардзей.*

## Папярэдзіць пажар у лесе – задача кожнага!

У мінулым годзе ў рэспубліцы здарылася 1770 пажараў, якія знішчылі 882 гектары лесу.

Сумная статыстыка сведчыць пра тое, што ў дзевяці з дзесяці выпадкаў прычынамі лясных пажараў з'яўляюцца пакінутыя непатушанымі вогнішчы, акуркі і запалкі, спальванне сухой травы. У гарачае і сухое надвор'е дастаткова іскры, каб успыхнула полымя.

Задача кожнага з нас – не дапусціць узнікнення пажараў у экасістэме праз няўважлівасць.

**У пажаранебяспечны перыяд у лесе забараняецца:**

– кідаць запалкі, непатушаныя акуркі;

– пакідаць бутэлькі ці асколкі шкла. Факусуючы прамяні, яны могуць спрацаваць як запальныя лінзы, таму шклянкі і бутэлькі неабходна закопваць у зямлю, а лепш забіраць смецце з сабой;

– заязджаць у лес на машынах, матацыклах. Іскры з глушыцеля могуць стаць прычынай пажару, асабліва ў сухім лесе з лішайнікавым покрывам;

– пакідаць у лесе прамаслены ці прамочаны бензінам, іншымі гаручымі рэчывамі матэрыял.

**Дзеянні пры пажары ў лесе.**

Лясны пажар, які толькі пачынаецца, можна патушыць сваімі сіламі. Для гэтага дастаткова пучка галін ліставых дрэў даўжынёй 1,5 – 2 *м*. Наносьце ўдары па беражку агню збоку ў кірунку ачага пажару і збівайце асноўнае полымя; пры кожным наступным удары пучок галін затрымлівайце, прыціскаючы да краю агню і выварочваючы яго.

Калі ёсць рыдлёўка, то ўздоўж беражка агню выкапайце ямку або невялікія равы, грунт з якіх закіньце ў ніжнюю частку полымя. Спачатку збіце агонь, затым, спыніўшы пажар, на беражок зноў насыпце грунт суцэльнай палоскай вышынёй 6 – 8 *см* і шырынёй 0,5 *м*.

Распаўсюджванне ляснога пажару можна спыніць, зграбаючы на шляху руху агню гаручыя матэрыялы. Калі побач з месцам узгарання ёсць вадаём, то вада – найбольш эфектыўны сродак тушэння агню.

Калі не атрымліваецца самому патушыць узгаранне, то, не губляючы часу, тэлефануйце ў службу выратавання па тэлефоне "101".

*Цэнтральны раённы аддзел па надзвычайных сітуацыях г. Мінска.*

*Рыхтуемся да алімпіяды*

# КОМПЛЕКСНАЯ РАБОТА ПА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ І ЛІТАРАТУРЫ

## ЧАЦВЁРТЫ ЭТАП XXVII РЭСПУБЛІКАНСКАЙ АЛІМПІЯДЫ ШКОЛЬНІКАЎ

*Заканчэнне. Пачатак у №№ 6, 7.*

### XI КЛАС

**Заданне 1.** Вызначце лексічнае значэнне беларускіх і рускіх слоў у прыведзеных парах і ўкажыце тую з іх, лексічнае значэнне слоў у якой супадае ў абедзвюх мовах.

Максімальная колькасць балаў – 3.

| | |
|---|---|
| балець – болеть | |
| абзадачыць – обздачить | |
| абразок – образок | |

Лексічнае значэнне слоў супадае ў пары ______.

**Заданне 2.** Вызначце і запішыце, з якой мовы запазычаны словы.

Максімальная колькасць балаў – 5.

| | |
|---|---|
| айкідо | |
| адсотак | |
| анлайн | |
| рэзюмэ | |
| аўра | |
| гастарбайтар | |
| графіці | |
| барбекю | |
| кунг-фу | |
| капучына | |

**Заданне 3.** Вызначце спосаб словаўтварэння і дайце лінгвістычную інтэрпрэтацыю з'явы.

Узор: *Шопінгавы* – суфіксальны спосаб; засваенне слова адбылося пры дапамозе далучэння спрадвечнабеларускага суфікса *-ав-* да англійскага кораня *шопінг-*.

Максімальная колькасць балаў – 5.

| | |
|---|---|
| смайлік | |
| суперхіт | |
| КВЗ-шнік | |
| крэдытка | |
| FM-станцыя | |

**Заданне 4.** Суаднясіце вобразныя складовыя прыказак у лацінскай і беларускай мовах і дайце адпаведны каментарый.

Узор: лац. *Nemo solus satis sapit* (Адзін чалавек не можа быць дастаткова разумным) – бел. *Адна галава добра, а дзве яшчэ лепш.*

Каментарый: У лацінскай прыказцы адлюстраваны культ дэмакратычнага, агульнага вырашэння пытанняў, распаўсюджаны ў антычных гарадах-полісах. Беларуская прыказка дэманструе падобны прынцып абшчыннасці.

Максімальная колькасць балаў – 4.

| Лацінская прыказка | Беларуская прыказка | Каментарый |
|---|---|---|
| Aurora musis amica est (Аўрора – сяброўка музам). | Думай звечара, а рабі зрання. | |
| Malo cum Platone errare, quam cum alis recte sentire (Лічу за лепшае памыляцца з Платонам, чым правільна думаць з іншымі людзьмі). | Лепей з разумным згубіць, чымся з дурнем знайсці. | |
| Demittere aliquem ad imos manes (Адправіць кагосьці ў царства ценяў). | Адправіць на той свет. | |
| Aethiopem lavare (Мыць эфіопа). | Чорнага сабаля не вымые ні мыла, ні вада. | |

**Заданне 5.** Якія з названых факультэтаў даюць магчымасць рэалізаваць сябе ў некалькіх напрамках прафесійнай дзейнасці? Адказ абгрунтуйце.

Максімальная колькасць балаў – 5.

**А.** Гісторыка-культурны;
**Б.** гісторыка-літаратурны;
**В.** гістарычна-культуралагічны;
**Г.** гісторыка-філалагічны;
**Д.** гістарычна-філалагічны.

Правільны адказ: ______________________.
Абгрунтаванне: ______________________.

**Заданне 6.** Растлумачце, на чым заснаваны эфект камізму ў імправізацыі на вядомую казку.

Пусціў Іван-царэвіч залатую стралу, і звалілася страла ў балота, і пайшоў Іван-царэвіч яе шукаць… Але не дайшоў, бо яго жаба задушыла…

Максімальная колькасць балаў – 5.

Тлумачэнне: ______________________.

**Заданне 7.** Запоўніце табліцу, вызначыўшы стыль, тып тэксту, сродкі і тып сувязі ў ім. Дапоўніце тэкст уласнымі арыгінальнымі азначэннямі.

Максімальная колькасць балаў – 8.

<table>
<tr><th>Стыль (1 бал)</th><th>Тып (1 бал)</th><th rowspan="2">Сродкі і тып сувязі (4 балы)</th></tr>
<tr><td></td><td></td></tr>
<tr><td colspan="2">…Вясна, лета, восень, зіма… За імі – зноў: вясна, лета, восень, зіма… Падае ў зямлю зерне – новае насенне… Зелянеюць дрэвы, кусты і жаўцеюць, скідваюць з сябе лісце… Прылятаюць з выраю птушкі і адлятаюць у вырай… Святло – цемра, дзень – ноч… І зноў: святло – цемра, дзень – ноч… Узыходзіць сонца і заходзіць… І ўсё гэта, увесь гэты кругазварот, дзеля чаго? Няўжо толькі дзеля таго, каб жыў я? А я… Дзеля чаго жыву я?.. Каб расказаць, што да мяне жылі ўжо людзі? А можа… Зусім дзеля іншага? Чаго? (Паводле Б. Сачанкі).</td><td></td></tr>
<tr><td colspan="3">Дзеля чаго жыву я?..<br>Каб______________________.<br>Каб______________________.<br>Каб______________________.<br>(2 дадатковыя балы: ацэньваецца арыгінальнасць і глыбіня)</td></tr>
</table>

**Заданне 8.** Як вам вядома, "кніга лёсу" Максіма Багдановіча – "Вянок" – мае стройную ўнутраную кампазіцыю. Вершы сабраныя ў раздзелы і цыклы

**Табліца 1.**

| Род літаратуры | Аўтар | Сапраўднае імя | Твор | Цэнтральны вобраз | Жанр | Ідэя і яе ўвасабленне |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | "Слуцкія ткачыхі" | | грамадзянская лірыка | любоў да Радзімы і волі праз супрацьпастаўленне роднага і чужога |
| эпас | | | "Губаты" | | | дабрыня і міласэрнасць да прыроды, шматфарбнасць навакольнага свету праз апісанне пушчы і яе жыхароў, лірычнасць аповеду |
| | Янка Купала | | | | камедыя з элементамі драмы | канфлікт пакаленняў, высмейванне пыхлівасці і духоўнай абмежаванасці, індывідуалізацыя мовы персанажаў, сюжэтна-кампазіцыйныя прыёмы вадэвіля |

(нізкі) паводле тэматыкі і асаблівасцей вобразнавыяўленчай сістэмы. Да раздзелаў і цыклаў аўтар падабраў эпіграфы.

Суаднясіце прыведзеныя ў адвольным парадку эпіграфы з адпаведнымі цыкламі, запішыце адказ у выглядзе "лічба – літара" (напрыклад, 6 – Е). Абгрунтуйце свой адказ.

Максімальная колькасць балаў – 10

(1 бал – за кожную правільна ўстаноўленую адпаведнасць, да 5 балаў – за лагічнае і доказнае абгрунтаванне).

Раздзелы:
1. Малюнкі і спевы.
2. Старая Беларусь.
3. Места.
4. Думы.
5. Старая спадчына.

Эпіграфы:

А. Усё прайшло, мінула,
Як і не было,
У капцах паснула,
Зеллем зарасло.

Янка Купала.

Б. Ты – чарователь неустанный,
Ты – неслабеющий магнит.

Валерий Брюсов.

В. Этот листок, что иссох и свалился,
Золотом вечным горит в песнопеньи.

Афанасий Фет.

Г. Кожны чалавек з'яўляецца вучнем якоганебудзь глыбокага слова.

Д. Мы зерна древние лелеем,
Мы урожай столетий жнём.

Валерий Брюсов.

Правільны адказ: ______________________________.
Абгрунтаванне: ______________________________.

**Заданне 9.** Запоўніце табліцу.

Максімальная колькасць балаў – 6 (0,5 бала за кожны правільны адказ).

**Заданне 10.** Узнавіце фрагмент з паэмы "Новая зямля" Якуба Коласа. З кожнага радка адно слова (не пачатковае) адвольна перамешчана ў іншы радок. Пропуск пазначаны падкрэсліваннем (____), "чужое" слова ў радку выдзелена *курсівам*. Агульны сэнс урыўка пераказаны прозай. Прыміце пад увагу змест, рытміка-інтанацыйную будову твора, прыроду вобраза, асаблівасці творчай манеры аўтара. Дзе лічыце неабходным, пастаўце прапушчаныя знакі прыпынку.

Максімальная колькасць балаў – 4.

Прайшла ____, *новая* і другая –
Час ____ і не чакае. *комінак гэта*
Ўжо хата ____ гатова, *проста цешыць*
Прыбраны *маці* трэскі ўжо і ______;
Над белым дахам, як _____, *перабралась*
Красуе ______ *дровы* чырвоны;
Прыветна _______ *нядзеля* пазіраюць, –
Ну, *цеснае* добры ______ хата мае,
Яна *выгляд* і _______, здавальняе.
Сюды *не стаіць* сямейка _______
І _____ хата *карона* паказалась *вокны*
Пасля *гэта* зямлянкі _____ раем.
– Хоць хату добрую, а, __________ –
Не тое _______ скляпенне! –
Казала _______ ў *маем* здавальненні.

Агульны сэнс урыўка: Адзін за другім мінулі тыдзень па тыдні з іх буднямі і выходнымі днямі. Што ж, час ідзе сваім парадкам, і вось ужо гатова новая хата. На двары прыбраны трэскі, упарадкаваны дровы. Дах у хаты белы, комін з чырвонай цэглы. Вокны дастаткова вялікія, прыемна глянуць. Хата мае вельмі добры выгляд, а як для сям'і, якая бедавала перад гэтым у зямлянцы, здаецца проста раем. Гаспадыня вельмі задаволеная, што маюць новую добрую хату, у якую могуць перабрацца з зямлянкі.

## ВОДГУК НА МАСТАЦКІ ТВОР

### Вечар

Зусім ціха канчаўся дзень – так, як і ўсё робіцца ўвосень: менш звінючай вясёласці і больш ціхай радасці. З акна відны былі жоўтыя ад лістоў, напалову голыя галіны вішань, а за імі густа-зялёнае неба, з белым колерам угары і ружовае нізка, дзе за нейкімі чорнымі абрысамі падыходзіла да яго роўнасць зямлі – была яна відна далёка за пустым пляцам напроці скрозь рэдкія дрэвы. А па баках то панура, то весела думалі нешта домікі і хаты.

Плыў з шырыні вецер, радасны і лёгкі, і нёс вольнасць поля ў горад, а камяніцы, што недзе там, трохі далей, на гары, заціхалі на ноч, спынялі свае грымучыя гімны. А ў людзях рабілася

звычайнае, вялікае і неабдымнае – людзі жылі, імкнуліся да радасці, баронячыся ад смутку…

На дварэ плылі, спляталіся зыкі, а ў пакоі было цішэй, яны глуха сюды даляталі, і лёгка было тут думаць у змроку…

Ціха было на зямлі. І, можа, ад таго і радасна, што было ціха, бо трэба было адпачываць усёй істотаю. Густы змрок ляжаў у пакоі, і ўжо неба праз акно здавалася зялёна-цёмным бяздоннем, а зямля не так звала ўжо ў свае нязмерныя абшары. Далёка на ёй ужо зліліся цёмныя абрысы з небам. Зышоў дзень, і рос вечар.

У напружанай цішы раптам пачала расці вастрата пачуццяў і думак. Але думкі былі вельмі ўтомлены цяжкай работай за дзень, і не мяшалі яны яшчэ больш вырастаць пачуццям. Пачалі праходзіць ва ўсёй істоце пражытыя дні. З'яўляўся ўвушшу гром горада і гаворкі людзей, то раптам тонкасцю выбухалі недзе з сэрца адносіны з людзьмі, а то ўсё калі-небудзь чуванае, бачанае, пражытае на момант знікала і пасля зноў раптам з'яўлялася як усё разам адно цэлае, скамбінаванае ў нешта гарманічнае і як бы вельмі патрэбнае для чалавека. І ўяўлялася, што гэта ўвесь свет відзён перад чалавекам…

От так, сядзець і адчуваць.

Кузьма Чорны. З апавядання "Вечар", 1925.

### ДАВЕДКІ

**Заданне 1.**

*Балець – болеть*: лексічнае значэнне супадае ['1. адчуваць боль, турбавацца (душа баліць за…); 2. хваляваўца за поспехі каманды, спартсмена'].

*Абзадачыць – обзадачить*: лексічнае значэнне не супадае (бел. '1. даць задатак за што-н., 2. абмеркаваць, вырашыць значную справу'; руск. – '1. збянтэжыць, 2. даць задачу, заданне').

*Абразок – образок*: лексічнае значэнне не супадае (бел. '1. малюнак Бога або святога, 2. жанр лірычных мініяцюр'; руск. – памянш. 'абраз, ікона').

**Заданне 2.**

Айкідо *японск.*; адсотак *польск.*; анлайн *англ.*; рэзюмэ *франц.*; аўра *грэч.*; гастарбайтар *нямецк.*; графіці *італ.*; барбекю *франц.*; кунг-фу *кітайск.*; капучына *італ.*

**Заданне 3.**

К а м е н т а р ы й: Лінгвістычны каментарый абавязковы і можа вар'іравацца.

Смайлік – *суфіксальны спосаб: англ. "смайл" + суф. -ік-*;

суперхіт – *прыставачны: лац. "супер" + англ. "хіт"*;

КВЗ-шнік – *суфіксальны // суфіксацыя + абрэвіяцыя: літарная абрэвіятура + суфіксы -шн-, -к-*;

крэдытка – *суфіксацыя: "крэдытная картка"*;

FM-станцыя – *складанне: запазычаная літарная абрэвіятура + спрадвечнабеларускае слова.*

**Заданне 4.**

К а м е н т а р ы й: Інтэрпрэтацыя можа быць рознай, але абавязкова павінна адлюстроўваць нацыянальна-культурны або гістарычны аспект.

| Лацінская прыказка | Беларуская прыказка | Каментарый |
|---|---|---|
| *Nemo solus satis sapit (Адзін чалавек не можа быць дастаткова разумным)* | *Адна галава добра, а дзве яшчэ лепш* | *У лацінскай прыказцы адлюстраваны культ дэмакратычнага, агульнага вырашэння пытанняў, распаўсюджаны ў антычных гарадах-полісах. Беларуская прыказка дэманструе падобны прынцып абшчыннасці.* |
| Aurora musis amica est (Аўрора – сяброўка музам) | Думай звечара, а рабі зрання. | *У лацінскай прыказцы пададзена імя рымскай багіні ранішняй зары і муз, што адлюстроўвае антычны політэізм, а таксама культ мастацтва.* |
| Malo cum Platone errare, quam cum alis recte sentire (Лічу за лепшае памыляцца з Платонам, чым правільна думаць з іншымі людзьмі) | Лепей з разумным згубіць, чымся з дурнем знайсці. | *У лацінскай прыказцы ёсць уласнае імя рымскага мудраца Платона. Беларуская ж прыказка адлюстроўвае народнае, сялянскае ўяўленне пра розум, таму яна мае выразную размоўную стылёвую афарбоўку.* |
| Demittere aliquem ad imos manes (Адправіць кагосьці ў царства ценяў) | Адправіць на той свет. | *І ў лацінскай, і ў беларускай прыказках – міфалагічныя ўяўленні старажытных людзей пра іншы свет.* |
| Aethiopem lavare (Мыць эфіопа) | Чорнага сабаля не вымые ні мыла, ні вада. | *Эфіоп у лацінскай прыказцы – гэта адлюстраванне заваёўных паходаў рымлян у Афрыку і іх знаёмства з людзьмі іншай расы. Беларуская прыказка "скарыстала" вобраз звыклай жывёлы адпаведнай афарбоўкі.* |

**Заданне 5.**

П р а в і л ь н ы   а д к а з: Гістарычна-культуралагічны, гістарычна-філалагічны.

К а м е н т а р ы й: Як адзначаюць даследчыкі, назіраецца тэндэнцыя размежавання раўнапраўных і нераўнапраўных сэнсавых адносін паміж часткамі падобных складаных спалучэнняў. Калі ёсць *гісторыя культуры*, *гісторыя літаратуры*, *эканамічная геаграфія*, *эканамічная статыстыка* і інш., то мова прапануе адпаведныя мадэлі, у якіх і фіксуецца нераўнапраўны характар адносін: *гісторыка-культурны*, *гісторыка-літаратурны*, *эканоміка-геаграфічны*, *эканоміка-статыстычны* і г. д. Калі ж спалучаюцца раўнапраўныя паняцці, гэта адпаведным чынам адлюстроўваецца пры дапамозе пэўных формаў: *гістарычна-культуралагічны* (гісторыя і культуралогія), *гістарычна-філалагічны* (гісторыя і філалогія).

Таму менавіта на гэтых факультэтах, калі за аснову ўзяць названую моўную тэндэнцыю, ёсць магчымасць рэалізаваць сябе ў некалькіх напрамках прафесійнай дзейнасці.

**Табліца 2.**

| Род літаратуры | Аўтар | Сапраўднае імя | Твор | Цэнтральны вобраз | Жанр | Ідэя і яе ўвасабленне |
|---|---|---|---|---|---|---|
| *лірыка* | *Максім Багдановіч* | *Максім Багдановіч* | "Слуцкія ткачыхі" | *кветка васілька / васілёк* | грамадзянская лірыка | любоў да Радзімы і волі праз супрацьпастаўленне роднага і чужога |
| эпас | *Генрых Далідовіч* | *Генрых Далідовіч* | "Губаты" | *лось / ласяня (Губаты)* | *апавяданне* | дабрыня і міласэрнасць да прыроды, шматфарбнасць навакольнага свету праз апісанне пушчы і яе жыхароў, лірычнасць аповеду |
| *драма* | Янка Купала | *Іван Луцэвіч* | *"Паўлінка"* | *Паўлінка* | камедыя з элементамі драмы | канфлікт пакаленняў, высмейванне пыхлівасці і духоўнай абмежаванасці, індывідуалізацыя мовы персанажаў, сюжэтна-кампазіцыйныя прыёмы вадэвіля |

**Заданне 6.**

Каментарый: Эфект камізму ў імправізацыі на вядомую казку ствараецца праз ужыванне аманімічнай пары *жаба*[1] – *жаба*[2].

*Жаба*[1] – бясхвостая чатырохногая земнаводная жывёліна з бародаўчатай слізкай скурай бурага колеру (гераіня казкі, якую і павінен быў адшукаць Іван-царэвіч).

*Жаба*[2] – (*мед. устар.*) ангіна; грудная жаба – сардэчная хвароба, якая суправаджаецца моцным болем у грудзях; стэнакардыя.

Другое значэнне паспрыяла таму, што спалучэнне *жаба задавіла* (некарэктны варыянт ад *жабо душыць*) выкарыстоўваецца як устойлівая размоўная формула з адмоўнай канатацыяй: фразеалагічны сінонім скупасці, прагнасці; метафарычнае абазначэнне стану чалавека, які сумняваецца ў абгрунтаванасці выдаткаў або плануемага ўчынку.

**Заданне 7.**

| Стыль (1 бал) | Тып (1 бал) | Сродкі і тып сувязі (4 балы) |
|---|---|---|
| **публіцыстычны** | **апавяданне + разважанне** | |
| …Вясна, лета, восень, зіма… За імі – зноў: вясна, лета, восень, зіма… Падае ў зямлю зерне – новае насенне… Зелянеюць дрэвы, кусты і жаўцеюць, скідваюць з сябе лісце… Прылятаюць з выраю птушкі і адлятаюць у вырай… Святло – цемра, дзень – ноч… І зноў: святло – цемра, дзень – ноч… Узыходзіць сонца і заходзіць… І ўсё гэта, увесь гэты кругазварот, дзеля чаго? Няўжо толькі дзеля таго, каб жыў я? А я… Дзеля чаго жыву я?.. Каб расказаць, што да мяне жылі ўжо людзі? А можа… Зусім дзеля іншага? Чаго? (Паводле Б. Сачанкі). | | Тып – *змешаная сувязь: ланцужковая + паралельная + далучальная.*<br><br>Сродкі сувязі: *словы адной лексіка-семантычнай і тэматычнай групы, сінонімы, антонімы, паўторы, займеннікі, злучнікі, мадальныя словы, непаўната сказаў, сінтаксічны паралелізм.* |
| Дзеля чаго жыву я?..<br>Каб__________________.<br>Каб__________________.<br>Каб__________________.<br>(2 дадатковыя балы: ацэньваецца арыгінальнасць і глыбіня) | | |

**Заданне 8.**

Правільны адказ: 1 – В, 2 – А, 3 – Б, 4 – Г, 5 – Д.

Абгрунтаванне: Назвы двух цыклаў арыентуюць на мінуўшчыну – "Старая Беларусь" і "Старая спадчына". Аднак слова *спадчына* ў другой назве паказвае на "актуальнасць" былога, на выкарыстанне гэтай спадчыны. Такім чынам, найбольш адпаведны эпіграф – *Д*.

Акрамя таго, сярод прыведзеных эпіграфаў толькі адзін належыць беларускаму аўтару – Янку Купалу, а змест купалаўскіх радкоў найлепш адпавядае паняццю "Старая Беларусь". "Глыбокае слова" і "Думы" – паняцці аднаго семантычнага поля.

Назва раздзела "Малюнкі і спевы" арыентуе на вобразна-выяўленчы паказ рэалій жыцця, чаму адпавядае эпіграф з верша А. Фета.

Вучні могуць прыводзіць і іншую аргументацыю, грунтуючыся на сваім чытацкім досведзе і творчай інтуіцыі.

**Заданне 9.**

Глядзі табліцу 2.

**Заданне 10.**

Правільны адказ:

Прайшла *нядзеля*, і другая –
Час *не стаіць* і не чакае.
Ўжо хата *новая* гатова,
Прыбраны трэскі ўжо і *дровы*;
Над белым дахам, як *карона*,
Красуе *комінак* чырвоны;
Прыветна *вокны* пазіраюць, –
Ну, добры *выгляд* хата мае,
Яна і *цешыць*, здавальняе.
Сюды сямейка *перабралась*,
І *гэта* хата паказалась
Пасля зямлянкі *проста* раем.
– Хоць хату добрую, а *маем*, –
Не тое *цеснае* скляпенне! –
Казала *маці* ў здавальненні.

Каментарый: Прапануецца наступная шкала ацэнкі: правільна ўзноўлена 15 радкоў – 4 балы, 12 – 14 радкоў – 3 балы, 8 – 11 радкоў – 2 балы, 4 – 7 радкоў – 1 бал, менш за 4 радкі – 0 балаў.

Відавочныя грубыя памылкі, якія паказваюць на неразуменне тэксту і яго вобразнай прыроды, даюць падставы для зніжэння выніковага бала.

Падрыхтавалі
**Вячаслаў РАГОЙША,**
**Аляксандр РАДЗЕВІЧ,**
**Ірына САВІЦКАЯ.**

# КАЛІ ЗАКОНЧЫЎСЯ ЎРОК

*Беларусь – мая Радзіма*

Міхаіл МІХНО
Софія ЦВІРКО

## *“ПРАЗ СМУГУ СТАГОДДЗЯЎ ДАЙШЛО ДА НАС СЛОВА…”*

### ЗАВОЧНАЕ ПАДАРОЖЖА ПА ГАРАДАХ, ДЗЕ ПРАХОДЗІЛІ ДНІ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА

**Мэта і задачы:** выхоўваць любоў да Радзімы, да культурнай спадчыны, роднай мовы; абагульніць і пашырыць веды вучняў пра развіццё беларускага пісьменства і культуры; выклікаць цікавасць да культурна-гістарычнай спадчыны беларусаў; садзейнічаць фарміраванню эстэтычнага густу, выхаванню патрыятычных пачуццяў.

**Абсталяванне:** мультымедыйная прэзентацыя, выстава кніг “Сэрцам роднага слова краніся”.

*Аповед суправаджаецца паказам адпаведных фрагментаў відэазапісаў, слайдаў прэзентацыі.*

*Ціха гучыць музыка.*

**Бібліятэкар.**

Слова роднае –
Крыж над парогам,
Слова роднае –
Вечнасці след.
Слова роднае
Змалку –
Ад Бога,
Ад Зямлі,
Што радзіла на свет.

М. Чарняўскі.

**Настаўнік.** Для кожнага жыхара Беларусі першая нядзеля верасня – асаблівая, святочная. Гэтым днём мы адзначаем вельмі значнае ў нашым духоўным жыцці свята – Свята Слова – Дзень беларускага пісьменства.

Традыцыйна месцамі яго правядзення з’яўляюцца гарады – цэнтры культуры і асветы нашай краіны – Полацк, Тураў, Навагрудак, Нясвіж, Орша, Пінск, Заслаўе, Мсціслаў, Мір, Камянец, Паставы, Шклоў, Барысаў, Хойнікі. Сёлета, 4 верасня, святочную эстафету прымуць Ганцавічы. Менавіта тут адбудзецца XVIII Дзень беларускага пісьменства .

Сёння мы прапануем здзейсніць невялікае падарожжа па гэтых гарадах.

#### ПОЛАЦК (1994, 2003)

**1-ы чытальнік.** Першае і юбілейнае дзясятае свята беларускага пісьменства праходзіла ў старажытным Полацку. Выбар гэты не быў выпадковым.

Тут кіраваў першы вядомы на нашых землях князь Рагвалод з дачкой Рагнедай, займалася асветніцкай дзейнасцю апякунка Беларусі ігумення Ефрасіння Полацкая, тут нарадзіўся першы беларускі кнігадрукар Фрацішак Скарына, тут адкрыў сваю друкарню Васіль Цяпінскі. Адсюль родам беларускі асветнік, педагог, паэт Сімяон Полацкі.

Полоцк, Полотеск, Pallteskiuborg… Як толькі не называўся гэты старажытны горад, заснаваны ў месцы ўпадзення ракі Палаты ў Заходнюю Дзвіну. Згадкі пра яго можна знайсці і ў скандынаўскіх сагах. У “Аповесці мінулых гадоў” ён упершыню згадваецца пад 862 годам. Горад быў заснаваны крывічамі на важным гандлёвым “шляху з варагаў у грэкі”, што падкрэслівае герб: у блакітным полі трохмачтавы карабель з паднятымі ветразямі на срэбных хвалях.

Гонар і краса Полацка – Сафійскі сабор, Спаса-Праабражэнская царква, манастыры, мноства іншых помнікаў гісторыі, архітэктуры, культуры і духоўнасці.

Асаблівае месца займае Музей беларускага кнігадрукавання. Такую колькасць старажытных кніг вы наўрад ці дзе ўбачыце. Многія з іх, на жаль, копіі, бо шматлікія войны, а часам чалавечая недасведчанасць не дазволілі захаваць унікальныя экзэмпляры.

Не так даўно ў Полацку адкрылі помнікі: беларускаму асветніку Сімяону Полацкаму, напаўлегендарнаму князю Усяславу Чарадзею, помнік літары “Ў”, якая ёсць толькі ў нашай мове. Палачане з веданнем справы запэўніваюць, што калі сфатаграфавацца каля сімвалічнай стэлы, то будзеш пісаць без памылак. Так што, калі будзеце ў Полацку, абавязкова выкарыстайце гэтую магчымасць.

**2-і чытальнік.**

**Ў**

Непаўторная, вякоўная…
Я – узорная, сумоўная.



*Софія Генадзьеўна Цвірко – бібліятэкар Залужскай дзяржаўнай агульнаадукацыйнай сярэдняй школы Стаўбцоўскага раёна. Закончыла Беларускі камерцыйны ўніверсітэт кіравання (2000).*

Хто з галоснаю струной, –
Стань упобачкі са мной!
У алфавіце я за лідара:
Гордая, з каронай, літара.
Хочаш дзіўны гук пазнаць?
Беларусы з ім як знаць!
Я ўзлятаю ў неба птушкаю,
Мову родненькую гушкаю:
Ўсіх яднае лёгкі ўздых
З поўні вуснаў маладых.

С. Панізнік.

**1-ы чытальнік.** Беларускія геадэзісты з дапамогай сучасных камп’ютарных праграм прыйшлі да высновы, што цэнтр Еўропы знаходзіцца менавіта ў Полацку. Расійскія навукоўцы Цэнтральнага навукова-даследчага інстытута геадэзіі, аэрафотаздымкі і картаграфіі пацвердзілі іх разлікі. І цяпер кожны, хто пабывае ў горадзе, зможа атрымаць памятны сертыфікат, які пацвярджае тое, што ён быў у самым сэрцы Еўропы.

### ТУРАЎ (1995, 2004)

**3-і чытальнік.** Другі па старшынстве беларускі горад – гэта Тураў. Ён і прыняў эстафету ў Полацка і стаў сталіцай другога і адзінаццатага свята беларускага пісьменства. Горад быў заснаваны на правым беразе ракі Прыпяць. Першая згадка пра яго адносіцца да 980 г.: “Рогволод перешёл из заморья и имяше волость свою Полотыск, а Тур Турове, от него же и Туровци прозвашася”.

Самая старажытная рукапісная кніга на тэрыторыі Беларусі – гэта Тураўскае Евангелле, якое датуецца XI ст. У гэтым горадзе быў размешчаны невялікі манастыр, які на працягу некалькіх стагоддзяў быў цэнтрам перапіскі кніг.

Адным з паслушнікаў Тураўскага Нікольскага манастыра быў Кірыла Тураўскі. Ён вядомы як пісьменнік і прапаведнік. Яго пяру належаць каля 70 павучанняў, малітваў, слоў. Існуе гіпотэза, згодна з якой аўтар старажытнага твора “Слова аб палку Ігаравым” таксама Кірыла Тураўскі.

Цяпер Тураў адраджаецца як турыстычны цэнтр. Архітэктурная славутасць – помнік драўлянага дойлідства 1810 г. – храм Усіх Святых, які знаходзіцца ў цэнтры мястэчка. Каля царквы стаяць два каменныя крыжы.

На Барыса-Глебскім пагосце, што знаходзіцца непадалёку ад Замкавай гары, месцам паломніцтва з’яўляецца трэці каменны крыж, які нечакана выйшаў з зямлі і дагэтуль кожны год прыбаўляе ў вышыні больш як на сантыметр. Існуе некалькі версій адносна іх з’яўлення. Па адной з версій – крыжы прыплылі па Дняпры і Прыпяці з Кіева адразу пасля хрышчэння Русі.

На Замкавай гары на месцы каменнага храма, разбуранага землятрусам у 1230 г., знаходзіцца скрыпта “Старажытны Тураў”. На археалагічнай пляцоўцы пад шкляным шатром можна ўбачыць рэшткі гарадзішча, старажытную зброю, прадметы побыту.

### НАВАГРАДАК І ЛЮБЧА (1996)

**4-ы чытальнік.** Трэцяе па ліку свята прайшло адразу ў двух месцах – Навагрудку і Любчы.

Наваградак, Новагарад, Новы Гарадок…

Як сведчаць дадзеныя археалагічных раскопак, Навагрудак узнік прыблізна 1000 гадоў таму. У летапісах горад упершыню згадваецца пад 1044 годам. За сваю шматвекавую гісторыю ён спазнаў як перыяды палітычнага і культурнага ўздыму, так і часы суровых выпрабаванняў.

У часы феадальнай раздробленасці менавіта Наваградак стаў тым цэнтрам, вакол якога аб’ядналіся ўсе беларускія, а таксама літоўскія і ўкраінскія землі ў адну дзяржаву – Вялікае Княства Літоўскае. У 1252 г. першы вялікі князь Міндоўг зрабіў Наваградак сваёй рэзідэнцыяй, а ў 1253 г. каранаваўся тут. Існуе легенда, што Міндоўг быў пахаваны ў самім Наваградку, седзячы на залатым троне. Гэтае месца так і называецца – гара Міндоўга.

Наваградак – самы высока размешчаны горад з усіх гарадоў Беларусі, а над ім узвышаецца Замкавая гара.

Гербам горада стала выява архангела Міхаіла ў чырвоным полі, які трымае ў правай руцэ меч, а ў левай – вагі.

**5-ы чытальнік.** У мястэчку Любча ў XVII ст. дзейнічала Любчанская друкарня. У гэтай друкарні для ілюстравання выданняў упершыню выкарыстоўвалася тэхніка гравюры на медзі.

З Наваградчынай звязана жыццё і дзейнасць выдатных асоб: канцлера ВКЛ Іахіма Літавора Храптовіча, паэтаў Адама Міцкевіча, Яна Чачота, Вінцэнта Каратынскага, мастака Язэпа Драздовіча, сусветна вядомага навукоўца ў галіне астранаўтыкі Барыса Кіта і многіх іншых дзяржаўных, навуковых і культурных дзеячаў.



***Міхаіл Васільевіч Міхно** – настаўнік гісторыі Залужскай дзяржаўнай агульнаадукацыйнай сярэдняй школы Стаўбцоўскага раёна. Закончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1999).*

У Наваградку захаваліся помнікі гісторыі і архітэктуры – Барысаглебская і Мікалаеўская цэрквы, касцёл Святога Міхала.

Немагчыма ўявіць Наваградак без Фарнага касцёла, святочнае ўбранне якога з белымі сценамі і чырвоным дахам застаецца ў памяці. У гэтай святыні кароль польскі і вялікі князь літоўскі Ягайла браў шлюб з Соф'яй Гальшанскай, маці будучых каралёў польскіх і вялікіх князёў літоўскіх.

У Фарным касцёле хрысцілі Адама Міцкевіча, аднаго з найвялікшых паэтаў. Побач з Замкавай гарой, недалёка ад Фарнага касцёла, узвышаецца курган Адама Міцкевіча, ёсць помнік паэту, дом-музей.

Сімвал горада – замак, цэнтр старажытнага Наваградка і рэзідэнцыя вялікіх князёў літоўскіх. Будаўніцтва яго ішло некалькі стагоддзяў і скончылася ў пачатку XVI ст. Магутнае абарончае збудаванне, замак вытрымаў асады крыжакоў і татара-манголаў, але падчас Паўночнай вайны (1700 – 1721 гг.) быў цалкам разбураны. Цяпер пра былую веліч сведчаць вялізныя руіны-волаты дзвюх вежаў.

**6-ы чытальнік.**

**Наваградскі замак**

На горах наваградскіх вежы –
Каменная веліч стагоддзяў.
Стаяць над зялёным бязмежжам
З прасторай і небам у згодзе.
Тут вечнасць ў руінах застыла.
Тут продкаў забытая слава.
Тут духу стваральная сіла
Былой Наваградскай дзяржавы.

В. Сташчанюк.

**7-ы чытальнік.** Раз на два гады руіны Наваградскага замка становяцца месцам правядзення сярэдневяковага фэсту "Наваградскі замак", падчас якога адбываюцца рыцарскія конныя і пешыя турніры, спаборніцтвы лучнікаў; прыгожыя дамы і галантныя кавалеры ходзяць па вуліцах і вяртаюць горад у Сярэднявечча.

**НЯСВІЖ (1997)**

*Аповед на фоне кадраў відэафільма "Города Беларуси" Беларускага відэацэнтра.*

**8-ы чытальнік.** Першыя згадкі пра Нясвіж адносяцца да 1223 г., але да XVI ст. пра яго вядома мала. Сапраўдную славу гораду прынеслі князі – самыя знакамітыя і самыя таямнічыя беларускія арыстакраты – Радзівілы. У 1583 г. яны выбралі ціхі і невялікі гарадок у якасці сваёй рэзідэнцыі.

Князі Радзівілы практычна нанава адбудавалі Нясвіж. У хуткім часе пры ўдзеле італьянскіх майстроў быў пабудаваны горад і замак уладальніка, а само паселішча, размешчанае недалёка ад яго, было акружана ровам і валам.

Герб Нясвіжа – шчыт, на адной частцы якога палова чорнага арла (элемент герба Радзівілаў), на другой – дзесяць палос блакітнага, чырвонага і залатога колераў.

У канцы XVI – XVII ст. былі пабудаваны гарадскія брамы (самая славутая Слуцкая брама і сёння ўпрыгожвае гарадскія вуліцы), касцёлы, манастыры. У гэты час у горадзе адкрыліся шпіталь, друкарня. Заснавальнікамі друкарні былі Мацей Кавячынскі і Лаўрэнцій Крышкоўскі. У 1562 г. Сымон Будны выдаў тут "Катэхізіс" – першую кнігу ў Беларусі на беларускай мове. Сымон Будны – вучоны з еўрапейскім імем, прадаўжальнік традыцый Францішка Скарыны. Філосаф, гуманіст, асветнік, філолаг, гісторык, ён адным з першых выступіў за роўнасць усіх саслоўяў перад законам, за ўсеагульную адукацыю, свабоду слова.

У Нясвіжскім замку было 12 залаў (Каралеўскі, Гетманскі, Мармуровы і інш.) і мноства іншых памяшканняў, багата ўпрыгожаных разьбой па дрэве, лепкай, роспісам, камінамі. У палацы была багатая бібліятэка (каля 20 тыс. тамоў). Захоўваліся рэдкія рукапісы і старадрукі, "Літоўская метрыка" – дзяржаўны архіў ВКЛ. Там было мноства гістарычных актаў, грамат, лістоў, у тым ліку лісты Пятра I, Людовіка XV, Людовіка XVI, Карла XII, Багдана Хмяльніцкага. Працаваў у Нясвіжы гравёр і картограф Тамаш Макоўскі, які першы склаў дакладную карту Вялікага Княства Літоўскага.

Старому парку больш за сто гадоў. На памятным камені каля аднаго з дрэў можна прачытаць: "На ўсёй тэрыторыі парка ў момант яго закладкі знаходзілася толькі гэтая таполя".

**9-ы чытальнік.**

**З паэмы "Сымон-музыка"**

Парк жыве, гарыць і дыша.
Як каралі на шнурках,
Скрозь дарожак ззяе-пыша
І калышыцца ў агнях

Срэбра лісцяў на галінках
Старасвецкіх ліп, дубоў.
То – маёўка-вечаранка,
То – банкет-гульня паноў.
І спакойна, ціха, роўна
Блеск ільюць свой ліхтары
І сплятаюць так чароўна
Святло-цені на кары
Комляў тоўстых, нерухомых,
На галінках, на суках,
Бы застыў тут веснік громаў,
Блеск маланак на камлях…

Я. Колас.

**ОРША (1998)**

**10-ы чытальнік.** У 1630 – 1654 гг. пры Богаяўленскім Куцеінскім манастыры ў Оршы дзейнічала друкарня. Яе заснаваў легендарны друкар Спірыдон Собаль.

Спірыдон Собаль нарадзіўся ў Магілёве. У 1628 – 1630 гг. заснаваў друкарню ў Кіева-Пячэрскай лаўры, выдаў там пяць кніг, а потым вярнуўся ў Куцеінскі манастыр. Першы беларускі буквар ён стварыў у 1631 г. Куцейна стала цэнтрам беларускай асветы, тут было надрукавана каля 20 выданняў. Кожная кніга, выдадзеная ў лаўры, была багата ўпрыгожана, мела дэкарыраваныя аркушы. Акрамя кніг выдаваліся і ноты.

Амаль праз 300 гадоў у Оршы нарадзіўся выдатны пясняр, аўтар цудоўных дэтэктыўных аповесцей, гістарычных раманаў, філасофскіх п’ес – Уладзімір Караткевіч.

900-годдзю роднага горада У. Караткевіч прысвяціў эсэ “Рша камен…”, “Горад-працаўнік, горад-паэт, горад-воін – жыць табе яшчэ тысячы і тысячы год”.

У Оршы шмат робіцца дзеля ўшанавання памяці выдатнага песняра. Да Дня беларускага пісьменства было прымеркавана адкрыццё музея Уладзіміра Караткевіча.

Далёка за межамі Беларусі вядомы яго творы “Дзікае паляванне караля Стаха”, “Чорны замак Альшанскі”, “Каласы пад сярпом тваім”, “Хрыстос прызямліўся ў Гародні” і інш.

**ПІНСК (1999)**

**11-ы чытальнік.** Пінск – адзін з найпрыгажэйшых гарадоў Беларускага Палесся. Ён зачароўвае гасцей сваёй камернасцю, спакоем і цішынёй. Шпацыруючы па старых вуліцах гэтага горада, адчуваеш, што час нібыта спыніўся, а аўтамабілі, што праязджаюць міма, рухаюцца быццам у запаволенай кінастужцы, і ад гэтага робіцца ціха і хораша на душы.

Першая згадка пра Пінск у старажытных рускіх летапісах адносіцца да 1097 г., а сам горад ад самага пачатку выступаў як духоўны цэнтр на неабсяжных палескіх прасторах.

Найбольш значным з ацалелых помнікаў Пінска з’яўляецца ансамбль францысканскага кляштара. Інтэр’ер касцёла Успення Панны Марыі ўражвае сваёй веліччу, багаццем алтароў і вытанчанасцю роспісаў.

Біёграфы шведскага караля Карла XII сцвярджаюць, што пад уражаннем ад панарамы пінскіх балот, убачанай з вежы касцёла ў 1706 г., ён прамовіў: “Тут мая смерць!”

У 1729 – 1746 гг. дзейнічала друкарня, якая належала іезуітам і выдавала кнігі на лацінскай і польскай мовах.

У Пінску быў праездам імператар Германіі Вільгельм, тут пачынаў сваю настаўніцкую кар’еру Якуб Колас. Ды і сама пінская зямля ўрадлівая на літаратурныя таленты. Сярод іх Валянціна Коўтун, Яўгенія Янішчыц і іншыя палескія песняры.

**Бібліятэкар.**

**Ты пакліч мяне. Пазаві.**

Ты пакліч мяне. Пазаві.
Там заблудзімся ў хмельных травах.
Пачынаецца ўсё з любві,
Нават самая простая ява.
І тады душой не крыві
На дарозе жыцця шырокай.
Пачынаецца ўсё з любві –
Першы поспех і першыя крокі.
Прыручаюцца салаўі,
І змяняюцца краявіды.
Пачынаецца ўсё з любві –
Нават ненавісць і агіда…
Ты пакліч мяне. Пазаві.
Сто дарог за маімі плячыма.
Пачынаецца ўсё з любві.
А інакш і жыць немагчыма.

Я. Янішчыц.

**ЗАСЛАЎЕ (2000)**

**12-ы чытальнік.** У Заслаўе з усіх куткоў Беларусі і з-за яе межаў прыязджаюць у першую чаргу на спатканне з прыгожай легендай пра Рагнеду. Ёсць тут помнік княгіні і яе маленькаму сыну – адначасова велічны і вытанчаны. Ёсць і крыніца “Слёзы Рагнеды”, каля якой міжволі агортвае філасофскі, рамантычны настрой. Але трагічная постаць маці не засланяе ад нас таго, хто даў гораду сваё імя, – сына Ізяслава, унука полацкага князя Рагвалода.

Дарэчы, у сваіх сучаснікаў Ізяслаў яшчэ ў юнацтве заслужыў імя Кніжнік. Ён пражыў нядоўгае жыццё, летапісы сведчаць, што ён памёр у 26 гадоў. Але ў гістарычнай памяці і ў летапісах ён, зусім яшчэ юнак, застаўся як вельмі мудры і надзвычай адукаваны чалавек. Адукацыяй

сына займалася сама княгіня Рагнеда. І дасягнула ў гэтым значных поспехаў.

Менавіта Ізяслаў аднавіў незалежнасць Полацкага княства. Археолагі знайшлі пячатку Ізяслава. Яна лічыцца самым старажытным помнікам беларускага пісьменства.

У 1570-я гг. у Заслаўі жыў і прапаведаваў філосаф і кнігадрукар Сымон Будны.

Сёння Заслаўе – гэта горад-музей. Іх, музеяў, на душу насельніцтва, тут, напэўна, прыходзіцца болей, чым у многіх вялікіх гарадах свету. Гэта адзіны ў краіне Дзіцячы музей міфалогіі лесу, музей-ДОТ – памяць часоў Вялікай Айчыннай вайны, этнаграфічны комплекс "Млын" і інш.

### МСЦІСЛАЎ (2001)

**13-ы чытальнік.** Мсціслаў з'яўляецца радзімай аднаго з першых беларускіх друкароў Пятра Мсціслаўца. Разам з Іванам Фёдаравым ён заснаваў друкарню ў Маскве, дзе былі выдадзены кнігі "Апостал" (1564) і "Часоўнік" (1565). На Беларусі з удзелам Мсціслаўца былі заснаваныя Заблудаўская і Віленская друкарні.

Сярод славутых імён сыноў мсціслаўскай зямлі варта згадаць і пісьменніка, выдаўца, асветніка, энцыклапедыста Ілью Фёдаравіча Капіевіча, які выдаваў падручнікі па граматыцы, рыторыцы, гуманітарных, прыродазнаўчых, тэхнічных і ваенных галінах ведаў.

**14-ы чытальнік.**

**Старыя друкарні**

У розных кутках беларускай зямлі
(Там помнікі б з мармуру высечы!)
Славутыя калісь друкарні былі –
Гадоў таму ледзь не паўтысячы.
Даўно супачылі ў зямлі друкары,
А плён іх сыноўняга подзвігу
Сцірала гісторыя з гэнай пары –
Дзе кроўю, дзе гучна, дзе поціху.
І месцы ўжо тыя нялёгка знайсці,
Парослыя крыўдамі-бедамі,
Дзе ўсходзілі першыя кветкі цвісці
Красы, між народаў няведамай.
О, як бы разросся той кветнік, той сад,
Хоць вёсны былі неспагаднымі,
Калі б не стаптаў заваёўнік-магнат,
Калі б чужакі не спаганілі!
Але, як зярняты з угрэтай раллі,
Слязамі і кроўю палітыя,
Ізноў прарасталі, буялі, цвілі
Бяссмертныя родныя літары!
І чулася, чулася ў стуку станкоў,
Што ім не замоўкнуць заклятымі,
Што будуць яны за храбтамі вякоў
Грымець паліграфкамбінатамі.

Н. Гілевіч.

### МІР (2002)

**15-ы чытальнік.** Мір вядомы сваім замкава-паркавым комплексам – унікальным помнікам архітэктуры XVI – пачатку XX ст. У 1994 г. комплекс аднесены ЮНЕСКА да найвышэйшай катэгорыі помнікаў сусветнай культуры. Гэты помнік аб'ядноўвае рысы абарончага і палацавага дойлідства.

**Мірскі замак**

Як крэпасць і помнік стаіш непаўторны,
Высокія вежы ўзняў да нябёс.
Князі Радзівілы ў пакоях утульных
Прыгонных сялян вырашалі тут лёс.

Міналі стагоддзі, і дойлідства помнік
Ужо пражыў шмат варожых аблог.
Магутныя сцены гісторыю помняць
Цаглінкаю кожнай, каменнем дарог.

І вокны, і дзверы прыгожых палацаў,
І мэбля, і кафля, і пліткі падлог
Нам сведчаць аб тым, што спакойную працу
Любіў і цаніў тут, у Міры, народ.

Паўстаў ты навечна пасля рэстаўрацый,
Як помнік культуры і праца майстроў.
Ты – наша гісторыя, наша багацце,
Сваёй прыгажосцю нас радуеш зноў.

Я. Карпуць.

### КАМЯНЕЦ (2005)

**16-ы чытальнік.** Адным з сімвалаў Беларусі, сімвалам Белавежскай пушчы, берасцейскай зямлі з'яўляецца Белая Вежа, якая стаіць на рацэ Лясной у Камянцы. Цікава, што сама вежа – чырвоная, была пафарбавана белай вапнай. Нядаўна ёй зноў вярнулі спрадвечны выгляд. Перад вежай стаяць драўляныя скульптуры беларускіх асветнікаў – памяць пра верасень 2005 г., калі тут праводзіўся Дзень беларускага пісьменства.

Заснавальнікам горада лічыцца дойлід Алекса, які па загадзе валынскага князя Уладзіміра Васількавіча пачаў будаўніцтва. Гэтага князя летапісцы называлі вялікім кніжнікам і філосафам. Князь, адзін з самых адукаваных людзей свайго часу, пабудаваў у Камянцы царкву, упрыгожыў яе залатымі іконамі і падараваў ёй срэбны посуд, Евангелле і іншыя царкоўныя кнігі.

Цяпер на месцы той першай царквы ўзвышаецца Свята-Сімяонаўскі сабор.

У Камянцы нарадзіўся і працаваў філосаф і асветнік, ігумен Уваскрэсенскага манастыра Макарый, ён адкрыў першую ў Камянцы школу. У XIX ст. яшчэ адзін камянецкі святар Леў Паеўскі дабіўся рэстаўрацыі вежы і правёў каля яе першыя раскопкі. Адсюль родам прафесар Кра-

каўскай і Віленскай акадэмій Міхаіл Карповіч, першы прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі Усевалад Ігнатоўскі.

Бываў тут і чэрпаў натхненне Мікола Гусоўскі, які праславіў Белавежскую пушчу ў сваёй непаўторнай "Песні пра зубра".

**17-ы чытальнік.**

**Песня пра зубра**

Свет даўніны вывучаў я па кнігах славянскіх,
Граматах рускіх, кірыліцай пісаных вязкай.
Лад алфавіта наш прашчур
для ўласнай карысці
Ў грэкаў пазычыў і, гукі мясцовых гаворак
Зладзіўшы з ім, іншаземцам, застаўся сабою.
Звычкі і побыт жывёл разнастайнай пароды,
Як і падзеі, апісаны ў граматах гэтых.
Што ж да зуброў, то такога магутнага звера
Шчасная доля, як дзіва часоў першабытных,
Толькі шчэ ў нас захавала, пад зоркай Палярнай.
Пліній, напрыклад, пісаў пра зубра і пра тура:
"Тур і бізон (па-мясцоваму – зубр) засталіся
Толькі ў лясах першабытных. Вучоныя кажуць, –
Сведчыць гісторык, –
што лютасцю, злосцю і сілай
Роўнага звера не знойдзеш лясному асілку,
Што і ў лясах, і на выпасах ляхаў і росаў
Быў і застаўся царом над усімі звярамі".
Значыць, ён ведаў пра тых і другіх, а вось людзі
Ў нас на радзіме шчэ лічаць,
што свет іх не знае.
"Дзікі і люты, іх зубр – падабенства бізона,
Толькі даўжэйшая грыва", – заканчвае Пліній,
Хоць і не многа, ды праўда.
Хто ж болей захоча,
Хай пацікавіцца – кнігі і болей раскажуць.

М. Гусоўскі.

**ПАСТАВЫ (2006)**

**18-ы чытальнік.** Паставы – адзін з самых старажытных гарадоў на Беларусі, першая згадка пра яго адносіцца да 1552 г.

Росквіту Паставы дасягнулі ў XVIII ст. пры Антонію Тызенгаўзу, падскарбію Вялікага Княства Літоўскага, рэфарматару і асветніку. Па яго рашэнні ў Паставах пачалі будаваць першыя каменныя дамы. Ён заснаваў 35 прадпрыемстваў. У горадзе выраблялі паперу, дываны, капелюшы, паясы. Для будаўніцтва гандлёвай плошчы А. Тызенгаўз запрасіў вядомага італьянскага архітэктара Джузепе Сака.

Найвыдатнейшая мясціна горада – архітэктурны ансамбль у цэнтры горада, куды ўваходзяць палац Тызенгаўзаў, Свята-Мікалаеўская царква, касцёл Антонія Падуанскага.

Палац дабудоўваў Канстанцін Тызенгаўз, які зрабіў яго адным з навуковых і культурных цэнтраў беларускіх зямель. Ён захапляўся жывапісам, быў вучнем славутага віленскага мастака Яна Рустэма. У сваім маёнтку ён стварыў арніталагічны музей, сабраў вялікую бібліятэку, карцінную галерэю, у якой былі карціны Леанарда да Вінчы, Пітэра Рубенса, Альбрэхта Дзюрэра.

Тут нарадзіўся і класік беларускай паэзіі Уладзімір Дубоўка.

**19-ы чытальнік.**

**Родная мова**

Родная мова, цудоўная мова!
Ты нашых думак уток і аснова!
Матчын дарунак ад самай калыскі, –
Ты самацветаў яскравая нізка.
Кожны з іх барвы дзівосныя мае,
Вечным агнём зіхаціць – не згарае.
Ты мне заўсёды была дапамогай,
Дзе б і якой ні хадзіў я дарогай.
Чую ў табе перазвоны крыніцы,
Чую ў табе я раскат навальніцы,
Чую павевы зялёнага бору,
Водгулле працы ў родным прасторы.
Кожнай драбіначкай ты варта пашаны,
Кожнае слова вякамі створана.
І на вякі яно жыць застанецца,
Вечнае так, як народнае сэрца.

У. Дубоўка.

**ШКЛОЎ (2007)**

**20-ы чытальнік.** Мы ўжо ведаем, што ў 1631 г. у Куцеінскай друкарні Спірыдон Собаль выдаў свой "Буквар". Прычым жа тут Шклоў? Аказваецца, "Буквар" быў выдадзены на сродкі шклоўскіх гандляроў.

Тады ў Шклове вельмі быў распаўсюджаны гандаль. Не дзіва, што на гербе гэтага горада намалявана рука, якая трымае бязмен. Ужо ў 1783 г. у Шклове была адчынена свая друкарня, а ў пачатку XIX ст. – яшчэ дзве. Самая знакамітая – друкарня Марголіна, будынак якой і цяпер знаходзіцца на вуліцы Дняпроўскай. А ўсяго да 1835 г. з друкарняў Шклова выйшла больш за 200 найменняў кніг!

Да нашых дзён у Шклове захаваліся такія помнікі гісторыі і архітэктуры, як ратуша, сінагога, касцёл Святых Пятра і Паўла, Спаса-Праабражэнская царква, а таксама жылыя дамы і будынак папяровай фабрыкі. Ратуша, пабудаваная ў канцы XVIII ст., – унікальны аб'ект для гісторыі беларускай архітэктуры, бо да сённяшняга часу ў Беларусі захаваліся толькі адзінкі такіх помнікаў.

У 1778 г. расійская імператрыца Кацярына II падаравала Шклоў генерал-лейтэнанту Сямёну Зорычу. Ён удыхнуў у горад новае жыццё.

Дзякуючы яму ў пачатку XIX ст. тут сталі хутка развівацца мануфактуры: шаўковая, су-

конная, парусінавая, канатная і інш. Зорыч заснаваў вучылішча для 60 дваранскіх дзяцей, якое потым стала кадэцкім корпусам. У сваім маёнтку ён пабудаваў тэатр, у якім гралі балетная і тэатральная трупы. Адной з "зорак" гэтага тэатра была прыгажуня Кацярына Азарэвіч. Пасля, ужо ў Санкт-Пецярбургу, яна стала знакамітай прымай-балерынай.

І таму вельмі сімвалічна, што падчас святкавання Дня беларускага пісьменства адкрылі помнік Сямёну Зорычу.

Тады ж адкрылі помнік і… агурку. Слава "агурковай сталіцы" прыйшла да Шклова яшчэ ў XVI ст. Сам помнік агурку – у выглядзе пупырчатага пузатага чалавечка вышынёй прыкладна ў чалавечы рост. Згодна з народнымі прыкметамі, той, хто жадае поспеху ў бізнесе, павінен пагладзіць ручку кошыка, маладыя – кветку на шчасце і агуркі, "каб дзеткі былі".

**БАРЫСАЎ (2008)**

**21-ы чытальнік.** У летапісах Барысаў згадваецца пад 1102 г., калі полацкі князь Барыс Усяслававіч перамог яцвягаў і, вяртаючыся, заснаваў горад, які атрымаў яго імя.

У 1796 г. быў зацверджаны герб горада: у чыстым полі – брама з дзвюма вартавымі вежамі, а над брамай – апостал Пётр з ключамі ад горада ў правай руцэ.

Вайна 1812 г. паміж Францыяй і Расіяй пакінула глыбокі след у гісторыі горада. Бярэзінская пераправа каля вёскі Студзёнка пад Барысавам стала, па сведчанні гісторыкаў, самай змрочнай старонкай для Напалеона і яго войска. Помнікі каля вёскі Студзёнка і на Брылеўскім полі апавядаюць пра падзеі амаль 200-гадовай даўніны. У самім Барысаве захаваліся рэшткі артылерыйскай батарэі расійскіх войскаў, пабудаваныя на правым беразе Бярэзіны напярэдадні нападзення Напалеона.

На вулачках старога Барысава і сёння можна ўбачыць Свята-Уваскрэсенскі сабор, касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі, будынак былога павятовага казначэйства, гандлёвыя рады.

Падчас свята адбылося адкрыццё мемарыяльнай дошкі стваральніку першай бібліятэкі ў Барысаве І. Каладзееву. Яна ўстаноўлена на будынку раённай бібліятэкі, якой было прысвоена яго імя. Іван Каладзееў за добрую службу атрымаў землі вакол Барысава. Ён быў сузаснавальнікам і акцыянерам прамысловых прадпрыемстваў у новай частцы Барысава, з яго лёгкай рукі пачалася тэлефанізацыя. Акрамя таго, ён быў выдатным знаўцам вайны 1812 г. Ім створаны "Нова-Барысаўскі збор кніг, рукапісаў, гравюраў, планаў і картаў памешчыка Мінскай губерні І. Х. Каладзеева".

*Гучыць песня "Родны Барысаў" (сл. І. Цітаўца, муз. Я. Карпуця).*

**СМАРГОНЬ (2009)**

**22-і чытальнік.** Смаргонь вядома з XV ст. як прыватнае мястэчка. Каля 1590 г. тут былі заснаваны папяровая мануфактура, школа, шпіталь. Тут упершыню пачалі выраб абаранкаў (спачатку называліся "абваранкі", "смаргонкі"), найбольшае развіццё гэты промысел атрымаў у XVII – XIX стст.

Герб горада Смаргоні – на срэбным полі іспанскага шчыта выява чорнага мядзведзя, які стаіць на чырвоных кратах на задніх лапах, у пярэдніх лапах трымае герб Радзівілаў "Трубы" – на блакітным полі размешчаны тры чорныя паляўнічыя ражкі, якія злучаны ў цэнтры мундштукамі.

Гісторыя герба звязана з тым, што ў XVII ст. Радзівілы заснавалі школу дрэсіроўкі мядзведзяў – так званую "Смаргонскую акадэмію". "Выпускнікі" гэтай акадэміі карысталіся попытам нават за мяжой. Увесну павадыры ("мядзведнікі") з вучонымі звярамі ішлі на заробкі па кірмашах Расіі, Венгрыі, Германіі і інш., вялі прыбытковы гандаль дрэсіраванымі мядзведзямі. Восенню вярталіся ў Смаргонь. Захаваліся крыніцы, у якіх падрабязна апісваюцца метады выхавання вучняў-медзведзянят, дысцыпліны адукацыйнага курса касалапых. Спачатку іх вучылі танцаваць, потым – барукацца і кланяцца. Усё гэта рабілася пад удары бубна ў спецыяльнай клетцы, дно якой падагравалася.

Падчас Першай сусветнай вайны горад быў поўнасцю разбураны пасля 810-дзённай абароны.

Абарончы касцёл Святога Міхаіла ў Смаргоні пабудаваны ў рэнесансным стылі. Некалькі разоў перарабляўся ў царкву. Можна наведаць таксама кальвінскі збор XVI ст., пад храмам знаходзіцца падзямелле – магільны склеп сям'і Зяновічаў. Таксама ў Смаргоні захаваліся рэшткі абарончых умацаванняў часоў Першай сусветнай вайны і помнік капітуляцыі Германіі ў гэтай жа вайне. У ваколіцах горада захаваліся руіны легендарнага Крэўскага замка, сядзіба Агінскіх у Залессі і Дом-музей паэта Францішка Багушэвіча ў Кушлянах. Усім вядомы яго словы: "Не забывайце ж мовы сваёй беларускай, каб не ўмёрлі!"

**23-і чытальнік.**

**Са Смаргоні ў Хойнікі**

Са Смаргоні ў Хойнікі
Дзень пісьменства падасца,
У зялёныя хвойнікі
Залатога юнацтва.
Галасіста і велічна
Узнясецца ў аблокі
З тых абсягаў, дзе Мележа
Незабыўныя крокі.
Будзе гулкасцю пругкаю

Калыхаць далячыні,
Звонкай радасцю шугкаю
Браму лёсу расчыніць.
Паляшучкі дародныя
У павышытых строях
Заспяваюць пра роднае –
Свята ўдачу патрояць.

М. Мятліцкі.

### ХОЙНІКІ (2010)

**24-ы чытальнік.** Хойнікі ўпершыню згадваюцца ў 1512 г. як мястэчка Брагінскага графства Вялікага Княства Літоўскага. Першапачатковую назву "Хвойнікі" забяспечылі гораду неабсяжныя хвойныя лясы, што раскінуліся на сотні кіламетраў.

Цікавымі для наведвальнікаў горада з'яўляюцца Пакроўская царква і праваслаўны манастыр, касцёл Узнясення Панны Марыі, сядзіба Прозараў.

Адзін з прадстаўнікоў гэтага старадаўняга шляхецкага роду – Кароль Прозар – быў адным з кіраўнікоў паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, з якім ён доўгі час сябраваў. Дарэчы, Прозар называў сябе графам на Хойніках і Астраглядавічах.

Нягоды і радасці жыхароў Палесся падрабязна і дакладна апісаў Іван Мележ. Яго трылогія "Палеская хроніка" – энцыклапедыя жыцця беларускага сялянства з яго цяжкасцямі і шчаслівымі імгненнямі штодзённага жыцця.

Пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС Хойнікі знаходзяцца ў зоне радыеактыўнага забруджвання. Тут размяшчаецца цэнтр адзінага ў свеце Палескага дзяржаўнага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Горад жыве, працуюць бібліятэкі і музеі, цэнтр мастацкіх рамёстваў, адкрываюцца помнікі, друкуюцца кнігі…

**Бібліятэкар.** Свята беларускай кнігі і беларускага слова звязана з імёнамі беларускіх асветнікаў і першадрукароў.

Слова *асвета* азначае 'свет, святло'. Ужо не адно стагоддзе летапісы, кнігі, падручнікі, буквары, энцыклапедыі нясуць людзям святло, новыя веды і магчымасці, запальваюць перад імі паходні, што паказваюць ім дарогу "з цемры да святла".

Пройдзе час, скончыцца свята і ў Ганцавічах… Але ніколі не знікне Яго Вялікасць – Беларускае Друкаванае Слова!

**Настаўнік.**
Магчыма, гэта і не нова,
Што слова – зерне на сяўбе,
А хто не любіць роднай мовы,
Той любіць толькі сам сябе…

С. Грахоўскі.

**Бібліятэкар.**
Хай гучыць наша песня,
Наша роднае слова,
Дорыць людзям спагаду
І любві пачуццё.

Хай гучыць наша мова,
Беларуская мова,
Гонар нашай дзяржавы,
Беларусі жыццё.

А. Ставер.

### Спіс літаратуры


1. **Александровіч, Р.** Зямля з блакітнымі вачыма : дапам. для педагогаў дашк. устаноў / Р. Александровіч, Т. Нескаромная. – Мінск : Беларусь, 2001. – 83 с.
2. **Алексеева, С.** Праздник слова и книги / С. Алексеева // Знамя юности. – 2008. – 29 авг. – С. 25.
3. **Алексеева, С.** Праздник слова и книги / С. Алексеева // Знамя юности. – 2008. – 5 сен. – С. 24 – 25.
4. **Борисов** // Бібліятэка прапануе. – 2008. – № 9. – С. 3 вокл.
5. **Бутэвіч, А.** Званы Нямігі : для мал. і сярэд. шк. узросту / А. Бутэвіч. – Мінск : ВТАА "Кавалер Паблішэрс", 2002. – 32 с.
6. **Бябеніна, В.** Шклоў – беларускі Версаль / В. Бябеніна // Народная газета. – 2008. – 4 вер. – С. 16.
7. **Вайткун, А.** Беларускі кіцеж / А. Вайткун // Народная газета. – 2008. – 19 жн. – С. 4.
8. **Дзядзінкіна, С.** "На Беларусі Бог жыве" / С. Дзядзінкіна // Народная газета. – 2008. – 16 жн. – С. 13.
9. **Карпуць, Я.** Феерверк : Імгненні жыцця / Я. Карпуць. – Стоўбцы, 2005. – 148 с.
10. **Карпуць, Я.** Феерверк : Спявайце, мае землякі / Я. Карпуць. – Стоўбцы, 2005. – 140 с.
11. **Кубека, В.** Такое блізкае далёкае / В. Кубека // Народная газета. – 2008. – 23 жн. – С. 15.
12. **Лайкова, В.** Легенды і міфы старажытнага Турава / В. Лайкова // Народная газета. – 2008. – 9 жн. – С. 10.
13. **Лобода, А.** Медведи-"академики" / А. Лобода // Весёлый зоопарк. – 2010. – № 1. – С. 8 – 9.
14. **Нясвіж** : альбом / уклад. М. Дзелянкоўскі. – Мінск : Беларусь, 1998. – 127 с.
15. **Нячай, К.** Вандраванне ў Сярэднявечча / К. Нячай // Беларускі гістарычны часопіс. – 2002. – № 5. – С. 2 (уклейкі).
16. **Панізнік, С.** "Ў" / С. Панізнік // Зорька. – 2003. – 12 вер. – С. 1.
17. **Са Смаргоні ў Хойнікі** // Бібліятэка прапануе. – 2010. – № 8. – С. 2 вокл.
18. **Свята Скарыны, Буднага і ўсіх пісьменных беларусаў** // Юный спасатель. – 2005. – 14 вер. – С. 6.
19. **Сэрцам роднага слова краніся** / уклад. М. Воінаў, К. Усовіч. – Мінск : Нар. асвета, 1998. – 295 с.
21. **Фядотаў, А.** Свята беларускага пісьменства ў школе : дапам. для настаўнікаў, выхавацеляў, арганізатараў пазакл. выхав. работы / А. Фядотаў. – Мінск : Беларусь, 2000. – 55 с.
22.**Чарняўскі, М.** Слова роднае / М. Чарняўскі // Бібліятэка прапануе. – 2008. – № 1. – С. 1 вокл.
23. **Янішчыц, Я.** Выбранае : вершы, паэмы : для сярэд. і ст. шк. узросту / Я. Янішчыц; прадм. А. Бельскага. – Мінск : Маст. літ., 2009. – 247 с.

*З вопыту работы*

# НАПІСАНАЕ ЗАСТАЕЦЦА

## СЦЭНАРЫЙ ПАЗАКЛАСНАГА МЕРАПРЫЕМСТВА (VII – IX КЛАСЫ)

**1-ы вядучы.** Добры дзень, дарагія сябры! Віншуем вас са святам – Днём беларускага пісьменства і друку!

**2-і вядучы.** Вы, пэўна, падумаеце: "А як жа будзем святкаваць? Не віншаваць жа са святам кожную літару алфавіта, як чалавека з днём нараджэння?"

**1-ы вядучы.** А можа, і так! Наша азбука і жывое беларускае слова, як і кожны чалавек, мае свой лёс, у якім бывалі і светлыя дні, і змрочныя часы. Кожная літара і да сёння захоўвае не адну таямніцу. Яна з'яўляецца своеасаблівым графічным адбіткам лёсу кожнага з беларускіх першаасветнікаў, якія сваё жыццё прысвяцілі служэнню Слову.

**2-і вядучы.** Вось, напрыклад, літара "Б".

**1-ы вядучы.** Будны Сымон – асоба шматгранная. Мысліцель і пісьменнік, перакладчык і выдавец, адзін з самых адукаваных людзей свайго часу.

**2-і вядучы.** А літара "Е"?

**1-ы вядучы.** З гэтай літары пачынаецца славутае імя асобы, якая за свае вялікія справы завецца святой Ефрасінняй.

**2-і вядучы.** Літара "С"…

**1-ы вядучы.** Скарына – слаўны сын полацкай зямлі. Яшчэ адно імя вядомае ўсяму свету. Менавіта ён – Францыск Скарына – "прынёс свае кнігі дадому" і сцвярджаў упэўнена, што "напісанае застаецца".

*Інсцэніроўка ўрыўка з п'есы "Напісанае застаецца" А. Петрашкевіча, гучыць музыка, на сцэне Нунцый і Скарына.*

**Скарына.** Спадзяюся, што мой народ не стане абвінавачваць мяне ў нясціпласці. Я аддаў яму ўсё, што мог, і здраднікам яго не буду. …Рукапісы не гараць. Напісанае заўсёды застаецца. Я ўпэўнены, што маю працу лепш ацэняць нашчадкі, і толькі іх прысуд лічу сапраўдным.

**2-і вядучы.** Сапраўды, напісанае застаецца. Засталася памяць пра людзей, якія стваралі кнігі на пергаменце і паперы, багата аздобленыя і сціплыя, рукапісныя і друкаваныя – яны захоўваюць традыцыі і звычаі, нашу мову, культуру, гісторыю.

*Гучыць песня "Спадчына" (муз. І. Лучанка, сл. Я. Купалы) у выкананні ансамбля "Песняры".*

**1-ы вядучы.** Бацькаўшчына… Радзіма… Айчына… Родны край… Старонка родная… Нам трэба ведаць гісторыю нашай зямлі, ведаць імёны і шанаваць подзвігі продкаў, несці подых стагоддзяў у будучыню.

**2-і вядучы.** Не пагарджаць сваім мінулым, а быць вартым яго.

Звесткі пра сівую даўніну, пра падзеі даўно мінулых гадоў мы, безумоўна, можам знайсці ў летапісах.

**Чытальнік.**

Душой стаміўшыся ў жыццёвых
цяжкіх бурах,
Свой век канчае ён у манастырскіх мурах…
Ён пільна летапіс чацвёрты піша год.
І бачанаму ім – ён годны веры сведак.
Што тут чынілася у даўнія гады,
Што думалі, аб чым спрачаліся тады,
За што змагаліся, як баранілі веру, –
Узнаюць усё гэта патомкі праз паперу!

М. Багдановіч.

**1-ы вядучы.** Першыя звесткі пра падзеі на тэрыторыі сучаснай Беларусі можна знайсці ў "Аповесці мінулых гадоў". Яе склаў у пачатку XII ст. манах Кіева-Пячэрскага манастыра Нестар.

**Чытальнік.**

Пад нашэпты пушчаў-бораў,
Пад напевы завірухаў
Летапісец творыць творы,
А ты слухай, шчыра слухай.
Як жылі, як вечавалі,
Як пасля былі ў прыгоне,
Адаб'е, як у крышталі,
Летапісец наш сягоння.

Я. Купала.

**2-і вядучы.** Шлях да пісьменнасці быў доўгім і складаным. Прынята лічыць, што пачатак яму быў пакладзены каля шасці тысяч гадоў таму, прыкладна ў чацвёртым тысячагоддзі да нашай эры.

Кніга ж на Беларусі з'явілася ў X ст., разам з хрысціянствам. Яна прыйшла ўрачыста, на самае пачэснае месца. Якія б высокія, мураваныя ці драўляныя ні былі дамы ў горадзе і вёсцы, над кожным паселішчам велічна ўзвышаўся храм. А ў цэнтры храма, на спецыяльным прастоле, было месца кнігі – Евангелля – яго ўрачыста выносілі, яго цалавалі, як ікону, яму кадзілі, на Евангеллі прысягалі сведкі на судах.

Ефрасіння Полацкая… Без гэтага імя не магчыма ўявіць не толькі духоўнае жыццё на Беларусі XII ст., але і гісторыю нашай Радзімы.

**Чытальнік.**

Вякі,
Нібы туман наддзвінскі сіні,

Сплылі за перакаты на спакой…
Ўскрыліла над зямлёю Еўфрасіння
Асветніцай,
Пакутніцай,
Святой.
Адкрывала школы і вучыла,
Кнігі перапісвала штодня!
Славу здабыло па ўсёй Айчыне
Еўфрасінні Полацкай імя.

В. Іпатава.

**1-ы вядучы.** Ахвярная праца святой Ефрасінні, як і яе славутых сучаснікаў Клімента Смаляціча, Кірылы Тураўскага, дазволіла ўзняць культуру на вельмі высокі ўзровень. Праслаўлялася беларуская зямля сваімі сынамі і дочкамі на ўвесь свет.

**Чытальнік.**

Шмат я на свеце прайшоў, шукаючы ўдачу,
Многа пабачыў.
…Радзімы ж сваёй не мяняў,
як нацельны крыжык,
Ад мовы сваёй не адрокся
ні ў шчасці, ні ў горы.
Мэту маю і надзею, пакуту маю і трывогу –
З літар, як з кропелек поту,
збіраў я свае першадрукі
Не для цароў венцаносных, абраннікаў Бога,
А для цябе, светласэрцы мой люд чарнарукі.
Як я хацеў,
Каб ты вольнасці здолеў напіцца,
Каб пасяліў заўсёды ў хацінах асвету,
Вокладкі кніг расхінуў –
як адчыніў аканіцы –
І падзівіўся бязмежжу і мудрасці свету.

Г. Бураўкін.

**1-ы вядучы.** А першы крок да святла, да спазнання свету – гэта кніга.

**Чытальнік.**

Я множыў Слова, адліваў у шрыфце,
Па полі белым сыпаў, як з сяўні.
Патрэбна ж людзям столькі дабрыні,
Святла, прачыстай праўды з глыбіні –
Без гэтага ўсяго, хто мы, скажыце?

М. Арочка.

**2-і вядучы.** Беларускія пісьменнікі прысвячалі Ф. Скарыну ўзнёслыя словы.

**Чытальнік.**

Асветнік, вучоны
І першадрукар,
Наш гонар –
Францішак Скарына.
Запомні ўсім сэрцам,
Як велічны дар,
Радзімы
Славутага сына.
Праклаў ён дарогу
Да Слова, святла,
Паклікаў змагацца,
Каб вольнай заўсёды
Між вольных магла
Дзяржаваю
Белая Русь
Называцца.

М. Пазнякоў.

**Віктарына.**

1. Назавіце стваральнікаў славянскай азбукі. (*Кірыла і Мяфодзій.*)
2. Якая шрыфтаваная графіка ўжывалася ў беларускім пісьменстве? (*Кірыліца.*)
3. Назавіце імя першай беларускай асветніцы. (*Ефрасіння Полацкая.*)
4. Які помнік старажытнай беларускай літаратуры стаў асноўнай крыніцай біяграфічных звестак пра Ефрасінню Полацкую? (*"Жыціе Ефрасінні Полацкай".*)
5. Назавіце свецкае імя асветніцы. (*Прадслава.*)
6. Назавіце кірункі асветніцкай дзейнасці Ефрасінні. (*Перапісванне і пераклад кнігі, стварэнне школ і інш.*)
7. Назавіце імя майстра, які па заказе Ефрасінні зрабіў славуты крыж. (*Лазар Богша.*)
8. Калі святкуецца дзень памяці святой Ефрасінні? (*5 чэрвеня.*)
9. Хто выдаў у Празе першыя кнігі Бібліі? (*Францыск Скарына.*)
10. Назавіце прозвішча вядомага беларускага гуманіста эпохі Адраджэння, аўтара "Песні пра зубра". (*Мікола Гусоўскі.*)
11. Хто выдаў у Нясвіжы першую беларускую кнігу "Катэхізіс"? (*Сымон Будны.*)
12. Хто з дзеячаў беларускай культуры XVII ст. быў выхавальнікам Пятра I? (*Сімяон Полацкі.*)

*Вядучыя падводзяць вынікі віктарыны.*

**Чытальнік.**

Суджана, стаўлена пад перакладзіны.
Сечана, палена, а не аддадзена,
Не парастрачвана і не раскрадзена,
Рупна ў падмуркі на золку пакладзена
Роднае слова.
Хоць яго з поля, як зелле, высеквалі,
Не забывалася ў песні музыкавай,
Не знебывалася ў долі нясытае, –
Намі навечна ў пасевах усыпана
Роднае слова.

М. Лужанін.

**Любоў СОБАЛЬ,**
настаўнік беларускай мовы і літаратуры
вышэйшай кваліфікацыйнай катэгорыі
Нёманскай дзяржаўнай
агульнаадукацыйнай сярэдняй
школы імя І. Гурскага.

*Да Дня беларускага пісьменства*

# СВЯТА КРОЧЫЦЬ ПА ПАЛЕССІ

Дзень беларускага пісьменства працягвае вандраваць па Палессі. Эстафету ад гомельскіх палешукоў перанялі іх брэсцкія суседзі. Сёлетняе – васямнаццатае па ліку – свята крочыла на 300 кіламетраў на захад, з Хойнікаў у Ганцавічы. Ганцавічы стануць 16-м горадам (двойчы мерапрыемства ладзілі ў Полацку і Тураве) у айчыннай гісторыі, які сустрэне галоўнае свята беларускага слова.

Эстафетны сімвал сталіцы Дня беларускага пісьменства – вымпел залатога вышывання – загадчык Ганцавіцкага райвыканкама Уладзімір Столяр атрымаў у Хойніках амаль год таму. Па сутнасці, з моманту закрыцця папярэдняга свята на хойніцкай сцэне пачалася падрыхтоўка да новага мерапрыемства, якое павінна ўразіць прысутных арыгінальнасцю, непаўторнасцю. Так, каб была адлюстравана культура краіны ў цэлым і Ганцавіч непасрэдна. Кампраміс быў знойдзены: цэнтральнай фігурай абраны славянскі класік – Якуб Колас. Менавіта тут, на Ганцаўшчыне, малады Канстанцін Міцкевіч рабіў першыя крокі ў дарослае жыццё. На адным з пасяджэнняў, прымеркаваных да падрыхтоўкі Дня беларускага пісьменства, міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка прапанаваў правесці выставу арыгінальных экспанатаў, звязаных з жыццём Якуба Коласа, а таксама арганізаваць гастролі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы з містэрыяй у 2 дзеях "Сымон-музыка". Будуць адзначаны і іншыя пісьменнікі – выхадцы з Ганцаўшчыны. У іх гонар у горадзе закладваецца памятная алея.

Яшчэ 9 сакавіка пастановай урада Беларусі быў створаны Нацыянальны аргкамітэт па падрыхтоўцы і правядзенні Дня беларускага пісьменства, які ўзначаліў намеснік прэм'ерміністра Анатоль Тозік. Група пад яго кіраўніцтвам неаднойчы выязджала ў Ганцавічы, каб чарговы раз упэўніцца: падрыхтоўка ў горадзе ідзе роўна, без хібаў. Да свята мяркуецца абнавіць шэраг сацыяльна значных аб'ектаў, сярод якіх раённая дзіцячая бібліятэка, гасцініца, Дом рамёстваў, універсам.

Невыпадкова Дзень беларускага пісьменства праводзіцца ў першыя дні верасня – на пачатку навучальнага года. Бо свята аб'ядноўвае і адукацыю, і інфармацыю, і культуру – сферы, якія фарміруюць інтэлектуальнасць нацыі. Першыя выхадныя верасня – час, калі нашчадкі аддаюць даніну павагі продкам.

**"КРАЙ ЖУРАВІН, БУСЛОЎ І НАРОДНЫХ МАЙСТРОЎ"**

Ганцавічы – горад малады. У летапісах назва дзіўнага кутка Палесся ўпершыню з'явілася ў 1773 г. Яшчэ ў другой палове XIX ст. гэта была невялікая вёска Слуцкага ўезда Мінскай губерні, уладальнікам якой быў граф Чапскі. Сучасныя Ганцавічы бяруць пачатак з 1887 г., калі на рацэ Цна была адкрыта чыгуначная станцыя ў кірунку Вільнюс – Ліда – Баранавічы – Лунінец. А план будаўніцтва мястэчка быў зацверджаны ў 1902 г. У розныя часы землі сучаснай тэрыторыі Ганцавіцкага раёна ўваходзілі ў склад Тураўскага і Пінскага княстваў, Вялікага Княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі. З тых часоў захавалася больш за 100 курганоў, якія знаходзяцца пад аховай дзяржавы.

У лістападзе 1917 г. у мястэчку была ўстаноўлена савецкая ўлада, якая, аднак, пратрымалася нядоўга. У 1918 г. Ганцавічы былі акупіраваны кайзераўскім войскам, а ў 1919 – 1920 гг. – польскім. З 1921-га да 1939 г. мястэчка ўваходзіла ў склад Польшчы. Нямецка-фашысцкімі акупантамі Ганцавічы былі заняты з 30 чэрвеня 1941 г. да 7 ліпеня 1944 г. За гэты час на тэрыторыі раёна загінула 8,7 тыс. чалавек. У 1954 г. Ганцавічы набылі статус раённага цэнтра, а 6 снежня 1973 г. – горада.

Незадоўга да свята Уладзімір Столяр так характарызаваў край "журавін, буслоў і народных майстроў", як называюць Ганцаўшчыну ў народзе: "Тут асаблівая культура і мова, чыстая,




**Сімвал Дня беларускага пісьменства.**

мілагучная, матчына. Ніхто ў нас не саромеецца размаўляць па-беларуску. На нашай зямлі жыве шмат самабытных паэтаў. А дзе вы яшчэ бачылі, каб сёння людзі і сталага, і малодшага ўзросту неслі льняную торбачку з беларускім арнаментам ці апраналі на святы нацыянальныя строі? Толькі ў нас, дзе і пачынаецца сапраўднае Палессе. Візітная картка Ганцаўшчыны – журавіны і, канечне, буслы. Нездарма гэтая птушка знаходзіцца на гербе нашага горада…"

#### ЯНЫ СЛОВАМ ПРАСЛАЎЛЯЛІ КРАЙ

Калі Ганцавічы прымаюць свята пісьменства, то і засяродзіць увагу варта на тых асобах, для якіх праца са словам не толькі несла задавальненне, але і была лёсавызначальнай. Ганцаўшчына літаратурная – край адметны. Творчы дыяпазон тут самы шырокі: ад дзясяткаў пісьменнікаў-аматараў, на рахунку якіх па адным-два зборнічкі, да літаратурных зорак славянскага маштабу.

Літаратараў Ганцаўшчыны, на наш погляд, варта раздзяляць на дзве катэгорыі: да першай аднясём карэнных жыхароў раёна, да другой – тых, хто воляй лёсу апынуўся ў гэтых краях, жыў, працаваў, ствараў. Аднак кожны з узгаданых ніжэй зрабіў свой унёсак у духоўнае развіццё як Ганцаўшчыны, так і краіны. І шмат хто з мясцовых літаратараў будзе ўзгаданы на Дні беларускага пісьменства.

Пачаць знаёмства з пісьменнікамі Ганцавіцкага раёна лічым мэтазгодным з тых, хто прыехаў у гэтыя мясціны. Чаму так? Таму што дадзеную групу творцаў апрыёры ўзначальвае знакавая фігура – Якуб Колас.

Настаўнікам **Якуб Колас** аб'ездзіў паў-Беларусі – гэта хрэстаматыйны факт. Але першым настаўніцкім прыпынкам класіка была вёска Люсіна Ганцавіцкага раёна, дзе ён працаваў з кастрычніка 1902 г. да жніўня 1904 г.

У даследаваннях і ўспамінах занатавана, як мясцовыя жыхары ўзгадвалі невялікі будынак школы, што мела два класы на 37 вучняў. Тут жа, пры школцы, жыў і Колас, зарабляў 240 рублёў у год. Выкладаў Канстанцін Міцкевіч арыфметыку, пісьмо, чыстапісанне і спевы. У Люсіне дваццацігадовы юнак напісаў празаічныя творы "Яшукова гара" (тэкст не захаваўся) і "Адзін з сотні". Знайшлося месца Люсіну і ў першай частцы трылогіі "На ростанях" – у творы мястэчка называецца Цельшына. А паводле даследавання Валерыя Атрашкевіча, прататыпамі пана падлоўчага Баранкевіча, Ядвісі, Габрынькі, Чэся былі члены сям'і аб'ездчыка Баранцэвіча – тагачасныя суседзі Коласа. Пра тое, што Люсіна на доўгія гады пакінула адбітак у душы пісьменніка, сведчыць яго ліст жыхарам вёскі ад 24 чэрвеня 1948 г.: *"Я вас любіў чыстым юнацкім сэрцам, хацеў дапамагчы вам знайсці лепшую дарогу ў жыцці, лепшую за тую дарогу, па якой ішлі вашы дзяды і бацькі"*.

У Люсіне ў гонар пісьменніка названы вуліца і чыгуначны прыпыначны пункт. На будынку школы размешчана мемарыяльная дошка, якая нагадвае пра часы працы Якуба Коласа. Хоць будынак старой, коласаўскай, школы не захаваўся, на тым месцы ўстаноўлены памятны знак, які сведчыць, што *"з 1902 па 1904 год тут настаўнічаў народны паэт Беларусі"*. А да 100-годдзя песняра намаганнямі настаўніцы Галіны Мурсалім у вёсцы быў створаны Літаратурна-этнаграфічны музей Якуба Коласа, у адкрыцці якога браў удзел Уладзімір Калеснік. Па словах заснавальніцы, за першыя паўтара года існавання музея яго наведала больш за паўдзясятка тысяч экскурсантаў з розных краін свету.

Ды што там! Нават крамы носяць коласаўскія назвы – "На ростанях", "Ядвіся". Мясцовы СВК, які спецыялізуецца на малочна-мясной вытворчасці, называецца "Цельшына".

Зразумела, які твор з'яўляецца любімым у люсінскіх школьнікаў: пазнаваць у класічным творы родныя пейзажы і матывы – што можа быць цікавей. *"Цельшынская школа стаяла на рагу дзвюх вуліц. Адна вуліца, прасторная, роўная, шырокая, ішла на чыгунку, другая, невялічкая, бегла ў поле і зараз жа канчалася, перайшоўшы ў дарогу. На перасеку гэтых вуліц, каля саменькай школы, стаяў высачэзны крыж. Ён заўсёды прыцягаў да сябе ўвагу настаўніка і рабіў на яго моцнае ўражанне. Гэты высокі пануры крыж і гэта закінутая сярод палескіх трушчобін школа стаялі, як сіроты, і, здавалася, цесна туліліся адно да другога, як бы ў іх была адна доля. Лабановіч выйшаў на прасторную вуліцу. Па правую руку да вуліцы падыходзіў частакол двара пана падлоўчага. У куточку дворыка, каля самае вуліцы, стаяла студня. Ступіўшы колькі крокаў па вуліцы, Лабановіч згледзеў так добра знаёмую постаць Ядвісі"*.

Сведкамі Коласавага настаўніцтва ў Люсіне засталіся двухсотгадовы дуб (нібыта ён да гэтага часу расце ў лесе за тры кіламетры ад Люсіна), пад якім настаўнік сустракаўся з дзяўчынай, і пагорак, на якім любіў адпачываць. Не дзіва, што менавіта вакол асобы Якуба Коласа разгорнуцца асноўныя святочныя мерапрыемствы.

Не менш значнай для беларускай культуры асобай з'яўляецца фалькларыст, этнограф, публіцыст **Аляксандр Сержпутоўскі**. Разам з бацькамі будучы даследчык пераехаў на тэрыторыю сучаснай Ганцаўшчыны ў фальварак Шарпутоўшчына, які знаходзіўся паміж вёскамі Чудзін і Пярэвалакі. Менавіта тут прайшло яго

дзяцінства і юнацтва. Тут запісаны народныя казкі, якія з цягам часу набылі хрэстаматыйнасць: "Пану навука" (запісана ад селяніна Дудара), "Праўда і крыўда", "Палешукі і палевікі", "Бязногі багатыр" (запісаны ад Данілы Куляша), "Першае яечка", "Агонь у сэрцы, а розум у галаве" (запісаны ад Матруны Бохмачыхі) і г. д. Даследаванні побыту, звычаяў, гаворак, фальклору навакольных вёсак знайшлі сваё месца ў працах "Граматычны нарыс беларускай гаворкі вёскі Чудзіна Слуцкага павета Мінскай губерні" (1911), "Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў" (1930). Апошняе даследаванне стала вынікам шматгадовай збіральніцкай дзейнасці і змясціла 2275 тэкстаў, запісаных пераважна ў Чудзіне. Першую этнаграфічную экспедыцыю Аляксандр Сержпутоўскі ў 1906 г. арганізаваў у родныя мясціны. Нам вядома 45 фундаментальных прац Аляксандра Казіміравіча, калі не лічыць шматлікіх артыкулаў. А колькі рукапісаў не захавалася! Многія з іх былі вывезены фашысцкімі акупантамі ў Германію разам з архівамі Акадэміі навук.

Шмат звязвае з Ганцавічамі ўраджэнца вёскі Негаціна Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці заслужанага дзеяча культуры Беларусі (1968), лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1986), празаіка, паэта, публіцыста **Васіля Праскурава**. Знаёмства з Ганцавічамі ў Васіля Фёдаравіча адбылося на пасадзе старшыні Ганцавіцкага райспажыўсаюза (1950 – 1958). З 1962-га да 1966 г. ён працаваў у раённай газеце "Сялянская праўда", а з 1966-га і да апошніх дзён жыцця быў рэдактарам раённай газеты "Савецкае Палессе".

Пісьменнікам створаны партрэты працавітых палешукоў (цыкл нарысаў "Людзі-суседзі"; 1974). А за кнігі "Пакланіся зямлі-карміцельцы" (1982) і "Чорны хлеб" (1986) была прысуджана Дзяржаўная прэмія Беларусі. Пахаваны пісьменнік у Ганцавічах. Яго імя носяць вуліца і Цэнтральная раённая бібліятэка.

Вёска Чудзін узгадавала яшчэ аднаго творцу – паэта, лаўрэата Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова **Алеся Каско**. Упершыню выступіў у друку яшчэ вучнем выпускнога класа ў газеце "Савецкае Палессе" з вершам "Пралескі". Яго кнігі паэзіі – "Скразная лінія" (1982), "Набліжэнне" (1989), "Час прысутнасці" (1994) – прысвечаны роднаму Палессю, прасякнуты любоўю да гэтага краю, яго людзей. Зборнік "Час прысутнасці" адзначаны Літаратурнай прэміяй імя А. Куляшова. Складальнік кнігі народных казак "Чыстага ўсё нячыстае баіцца".

З тых пісьменнікаў, хто нарадзіўся на ганцавіцкай зямлі, адзначым паэта і перакладчыка **Міхася Рудкоўскага**. На радзіме – у вёсцы Востраў – яго імем названа школа. Тут жа ў 1993 г. створаны літаратурны музей, у фондах якога захоўваецца больш за 200 экспанатаў, 185 з якіх – аўтэнтычныя. У друку Міхась Рудкоўскі дэбютаваў у 1958 г. у газеце "Сялянская праўда" з вершамі "Успаміны", "Восень", "Шчасце маці" і інш. З-пад пяра Рудкоўскага выйшлі зборнікі паэзіі "Першыя вёрсты" (1963), "Сінія брады" (1967), "Позвы" (1971), "У тым краі…" (1975), "Залатазвон" (1986), "Гарынь" (1992) і інш. Акрамя таго, спрабаваў сябе ў жанрах балады, элегіі, санета, трыялета, пісаў рэцэнзіі на творы беларускіх пісьменнікаў, перакладаў з украінскай мовы. Роднаму краю Міхась Рудкоўскі прысвяціў не адзін дзясятак радкоў, аднак асобна стаяць вершы з блізкімі паэту тапанімічнымі назвамі "Востраў" і "Ганцавічы".

### ГАНЦАВІЧЫ

*В. Праскураву.*

Ёсць ціхі гарадок над рэчкай Цною,
сярод лясоў палескіх і балот…
Не знаю, што ў жыцці было б са мною,
калі б яго на свеце не было.

Відаць, я б жыў, відаць бы, не загінуў,
пісаў бы вершы, сена ў копы клаў, –
ды толькі не такой была б Айчына
і песня б незакончанай была.

Там у мяне сяброў харошых многа,
з якімі па вясне блудзіў, як Лель;
дзесь там, ля партызанскае дарогі,
буяе той, пасеяны мной хмель.

Хай я пайшоў і хай змяніў прызванне,
хай я не быў у краі тым даўно, –
мая любоў высокая, бы ранне,
к вам прыляціць – пастукае ў акно.

Калі пачуеце, не адпужніце:
яна усё такая ж, як калісь, –
як ластаўка, як той на дубе ў жыцце
зялёны і незапылёны ліст.

З забытасці засмужана гуллівай
яна ляціць туды – у маладосць…
Ёсць Ганцавічы – ёсць! – і я шчаслівы,
шчаслівы, што яны на свеце ёсць.

Горад Ганцавічы – радзіма празаіка **Алеся Кажадуба**. Першае яго апавяданне "У канцы лета" было надрукавана ў 1976 г. у часопісе "Маладосць". У 1980 г. выйшла кніга прозы "Гарадок". Далей былі "Размова" (1985), "Лесавік" (1987), "Дарога на замчышча" (1990) і інш. У цэнтры ўвагі пісьменніка – побыт вясковага чалавека. Творам Алеся Кажадуба ўласцівы элементы травесційнасці, іншасказальнасці.

Сярод карэнных ураджэнцаў Ганцавіч варта ўзгадаць **Кастуся Мохара** – празаіка, публіцыста, галоўнага рэдактара газеты "Савецкае Палес-

се", складальніка і рэдактара кнігі "Памяць" па Ганцавіцкім раёне. Акрамя таго, К. Мохар – аўтар шэрагу апавяданняў і нарысаў, якія друкаваліся ў розных перыядычных выданнях краіны. Лаўрэат творчага конкурсу "Залатое пяро" Беларускага саюза журналістаў.

Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа **Віктар Гардзей** родам з вёскі Малыя Круговічы Ганцавіцкага раёна. Яго дарадцамі ў літаратуры былі Уладзімір Калеснік і Васіль Праскураў. Упершыню ў друку выступіў у 1963 г. з апавяданнем "Памылка". Аўтар кніг прозы "Дом з блакітнымі аканіцамі", "Карані вечнага дрэва", "Уратуй ад нячыстага", трылогіі "Аселіца ў басейне Чорнага мора", рамана "Бедна басота", зборнікаў вершаў "Касавіца", "Верасное палясоўе", "Засевак Радзімы", "Незабудкі азёр", "Узрушэнне", "Дзікая пчала", "Зялёныя дажджы", "Межань", шматлікіх паэтычных кніжак для дзяцей. Пераклаў на беларускую мову раманы "Саламбо" Г. Флабэра і "Чорная страла" Р. Стывенсана, аповесць-казку "Шчаўкунчык і мышыны кароль" Э. Гофмана, кнігу казак народаў Еўропы "Хрустальны калодзеж" і інш. Асноўнае месца ў творчасці Віктара Гардзея займаюць праблемы вёскі, узаемастасункаў людзей і прыроды. У 1996 г. да 50-годдзя пісьменніка у роднай вёсцы яго імем была названа вуліца, на якой ён нарадзіўся і жыў.

Вёска Гута падарыла краіне пісьменнікаў Уладзіміра Марука і Івана Кірэйчыка. **Уладзімір Марук** свае першыя вершы надрукаваў у 1972 г. у "Магілёўскай праўдзе", а дэбютны зборнік "Зоркі ў кронах" выйшаў у 1982 г. Затым былі кнігі "Ліст рабіне", "Інкрустацыя голасам", "Ехаў чыж у Парыж", "Чыж вярнуўся з-за мяжы". Таксама У. Марук вядомы як публіцыст і перакладчык з узбекскай, армянскай, туркменскай моў.

**Іван Кірэйчык** выдаў кнігі паэзіі "Аснова" (1977) і "З маіх крыніц" (1994). Аднак найбольш ярка яго талент праявіўся ў публіцыстыцы – збіраў успаміны партызан, выдаў кнігі нарысаў і апавяданняў "Багацце душы – людзям", "Пялёсткавы бераг", "Каласам хіліцца долу", "Калінавая квецень". Імем Івана Кірэйчыка названа вуліца ў роднай вёсцы.

### А ПАГЛЯДЗЕЦЬ ЁСЦЬ НА ШТО…

На Ганцаўшчыне 36 помнікаў гісторыі, 10 – археалогіі і 4 – архітэктуры. Архітэктурнымі славутасцямі края з'яўляюцца Юр'еўскія цэрквы ў вёсках Будча і Чудзін, Георгіеўская царква ў Вялікіх Круговічах. У спісе гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі знаходзіцца "Панская сядзіба" ў вёсцы Агарэвічы – помнік драўлянай архітэктуры XIX ст. У саміх Ганцавічах за апошнія дваццаць гадоў пабудаваныя Дабравешчанскі касцёл і Свята-Ціханаўская царква. Больш падрабязна пра гісторыю горада і раёна можа расказаць Ганцавіцкі краязнаўчы музей, які змяшчае больш за чатыры тысячы экспанатаў.

Ёсць і помнік прыроды – дуб, якому больш за 400 гадоў. Вякуе ён у вёсцы Вялікія Круговічы ў парку сядзібы, якая раней належала панам Абуховічам.

### ЧАМУ ВАРТА ЕХАЦЬ У ГАНЦАВІЧЫ?

Пабываць у Хойніках, але не з'ездзіць у Ганцавічы – маветон. Гэта зноў судакрананне з пісьменствам краіны, знаёмства з навінкамі кнігадрукавання. Магчымасць яшчэ раз павандраваць па Палессі, дакрануцца да яго таямніц, уявіць, як сярод балот пачынаў свой жыццёвы і творчы шлях дваццацігадовы юнак Кастусь Міцкевіч. А пабачыць, як з яго бронзавай постаці будуць урачыста здымаць палатно! Няўжо ж не цікава, як сямейная пара скульптараў з Брэста Павел Герасіменка і Алеся Грушчанкова ўвасобіла Коласа люсінскіх часоў? А падарожжа ў самое Люсіна, якое ў сувязі з выбарам галоўнага героя свята можна назваць другой сталіцай Дня беларускага пісьменства… Колас там, у Люсіне. Там і памяць пра яго. Таму і ў Люсіна ў першую вераснёўскую нядзелю варта наведацца.

Успомніліся прысмакі хойніцкіх гаспадынь. Рэцэпты выключна мясцовыя, напоўненыя палескай непаўторнасцю. Упэўнены, падобнае будзе і ў Ганцавічах. Майстры на ўсе рукі і накормяць, і прапануюць вырабы "hand-made". Адным словам, ехаць неабходна. Калі яшчэ свята слова прыме гэты край – Беларускае Палессе?

### Спіс літаратуры

**Беларускія пісьменнікі** : біябібліягр. слоўн. : у 6 т. / Ін-т літ. імя Я. Купалы АН Рэспублікі Беларусь, Беларус. Энцыкл.; рэдкал. : І. Э. Багдановіч [і інш.]. – Мінск : БелЭн, 1992 – 1995.

**Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі.** Брэсцкая вобласць / АН БССР, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору; рэд. кал. : С. В. Марцэлеў [і інш.]. – Мінск : БелСЭ, 1984.

**Колас, Я.** На ростанях / Я. Колас. – Мінск : Юнацтва, 1981. – С. 125.

**Кулажанка, Л.** Літаратурныя мясціны Беларусі : краязн. даведнік : у 3 кн. / Л. Кулажанка, А. Мальдзіс, С. Сачанка. – Мінск : БелЭн, 2000. – Кн. 1 : Брэсц., Віцеб. і Гомел. вобл.

**Свод памятников истории и культуры Белоруссии.** Брестская область / АН БССР, Ин-т искусствоведения, этнографии и фольклора, Белорус. Сов. Энцикл.; редкол. : С. В. Марцелев [и др.]. – Минск : БелСЭ, 1990.

**Ганцавіцкі краязнаўча-інфармацыйны партал** [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу : http://www.gants-region.info. – Дата доступу : 21.07.2011.

**Савецкае Палессе** : Ганцевичи онлайн! [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу : http://www.gants.by. – Дата доступу : 21.07.2011.

Падрыхтаваў
**Аляксандр КАНАНОВІЧ.**

*З архіваў часу*

Юры ЛАЎРЫК

# "НА ДРУКАВАННЕ КНІГ, ЦАРКВЕ БОЖАЙ ПАТРЭБНЫХ…"

## ПРА ШТО РАСПАВЯДАЕ ТАСТАМЕНТ КАНСТАНЦІНА ДАЛМАТА

Актавыя дакументы ў гісторыі кніжнай культуры Беларусі падобныя да вяршыні айсберга, што ўзвышаецца па-над паверхняй, у той час як асноўная яго частка схаваная пад вадой. Аднак калі ўглядацца ўважліва, у цёмнай вадзе можна ўбачыць абрысы крыгі… У гэтым артыкуле мы, углядаючыся ў архіўныя дакументы, паспрабуем на прыкладзе Канстанціна Далмата ўбачыць, якую ролю ў кніжнай прасторы Беларусі XVII ст. адыгрывалі прадстаўнікі шляхты.

Няшмат згадак пра Далматаў дайшло да нашага часу, але мы можам у агульных рысах прасачыць паходжанне роду. Іх гісторыя на ўсходнеславянскіх землях пачынаецца ў XV ст., калі нехта Далмат атрымаў за заслугі маёнтак Ісайкі ў Аўруцкім павеце Кіеўскага ваяводства. Такім чынам, да прозвішча яго нашчадкаў, аселых на Валыні, дадаўся прыдомак *Ісайкоўскія*.

Адзін з нашчадкаў Далмата – прадстаўнік беларускай лініі Багдан Мацеевіч – атрымаў у сярэдзіне XVI ст. ад каралевы Боны за службу маёнтак Цапра ў Клецкім княстве. Яно тады яшчэ знаходзілася ў валоданні вялікіх князёў літоўскіх; толькі пазней, у 1558 г., Жыгімонт Аўгуст падараваў яго Радзівілам, якія заснавалі Клецкую ардынацыю. Менавіта ў тым маёнтку Багдан Мацеевіч заклаў царкву, а яго сын Канстанцін Далмат заснаваў манастыр і ў 1618 г. надаў яму фундуш. Пра самога Канстанціна звестак дайшло няшмат, нават такія грунтоўныя даведнікі па генеалогіі і геральдыцы, як працы Банецкага [1, с. 353] і Урускага [2, с. 212], згадваюць яго менавіта ў сувязі з гэтым наданнем, а Нясецкі [3] і Лешчыц [4] яго ўвогуле не ведаюць.

У 1622 г. актыкаваны тастамент Канстанціна Далмата. Ён пакідае грошы на збудаванне мураванай царквы ў Цаперскім манастыры і драўлянай у Дзятлавічах, а таксама на выданне праваслаўных кніг у Вільні ды Кіеве. Арыгінал акта гісторыкам, здаецца, невядомы, але аўтар артыкула адшукаў яго пазнейшую копію (відымус, або выпіс, 1653 г. з кніг трыбунальскіх), якая захоўваецца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі [5, т. 1, арк. 106 – 112]. Працытуем важны для нашага даследавання фрагмент (у цытаце заменены адсутныя ў сучасным алфавіце літары, упісаны ў радок вынасныя і ўпарадкавана пунктуацыя):

*"На змурованье церкви в монастыре цеперском семънатцать тисеч золотыхъ польскихъ, на серебро церковное, на рызы двое и на третих стихарь дияконовский богатого злотоглаву и на весь удел священнический и дияконовский две тисячи, на звонъ до тогож монастыря Цеперского тисячу золотыхъ польскихъ… по смерти моей малжонка моя маетъ отдать до рук архимандрита монастыря брацкого виленского его М[ило]сти отца Мелетия Смотрицкого альбо по нем наступуючого, абы за его росказаньем, дозором и пильностью за всю тую [суму] семънатцать тисечь церковь зо всею окрасою церковною змурована, aператы вси за две тисячи золотыхъ и звон за тисячу золотыхъ правдиве купленъ былъ необорочаючы з тое справы ничого на жадную іншую потребу под его уважаніем. На збудованье церковное древняное охендожное выменью моем Дятеловичах, на серебро церковно, на книги, на звоны, на aператы священнический и дияконовский и на всю оздобу церковную, также и на побудованье монастыра законниковъ три тисячы золотыхъ польскихъ… зараз по смерти моей малжонка моя маетъ отдать до рук Архимандрыта Киевского Печерского Его милости Елисея Плетенецого… в которой церькви духовные мають за душу мою и малжонки моее Пана Бога просить и въ суботникъ нас уписать под своим збаваньем. На друкованые книгъ церкви Божой потребныхъ и выданье з друкарни брацкой виленской под моим именьем*

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 2.*

*и гербами две тисячи золотыхъ польскихъ малжонка моя маетъ дать до рук Его милости отцу Смотрицкому архимандриту брацкому виленскому альбо по нем наступуючому, жебы за его дозорем друкованы, и продаваны были. За которые книги штокольвек попродавывали их на на тую и на этую суму од мене в семъ тестаменте на друкованье книг отписаную зыщутъ, все на… мурованыя церкви брацкое заложенье Светого и Животворящего Духа обернути маютъ, а духовные монастыря брацкого виленского за душу мою и малжонки моее маютъ Пана Бога просить водлуг парадку набоженства Греческого, въ суботникъ церкви брацкое уписавши… На монастырь Киевского Печерский полторы тисячи золотыхъ польскихъ таковым же способом, абы найпервей затую суму Книги Церкви Божое належачие выдрукованы и на свет под моим же именем и гербами выданы были, А по роспроданью гроши вси заведомостию и волею Его милости отца Архимандрыта Киевского Печерского маютъ быть обернены на потребу того монастыря Печерского. На монастырь Печерский Микольский пустынный полторы тисячи золотыхъ польскихъ, А духовные тых монастырей маютъ, мене и малжонку мою в суботник уписавши, Пана Бога просить о отпусте грехов наших… на побудованье келей в монастыре цеперском, на школу и иншое будованье того монастыря пятьсот золотыхъ польских…*" [5, т. 1, арк. 111 адв. – 112].

На падставе гэтага тэксту можна вылучыць некалькі аспектаў бытавання кнігі, на якія тым ці іншым чынам, свядома ці не, К. Далмат ажыццяўляў уплыў.

I. Першы з такіх момантаў – ***фінансаванне інстытуцый***, што выкарыстоўваюць кнігу ў дзейнасці і камплектуюць кніжныя фонды. З аднаго боку, К. Далмат фундаваў цэрквы, манастыры ды школы, гэта значыць спрыяў павелічэнню колькасці ўстаноў, якія працуюць з кнігай; з другога – даваў сродкі для непасрэднага камплектавання іх бібліятэк. Так, з дакументаў мы бачым, што Канстанцін Далмат меў намер фінансаваць заснаванне Дзятлавіцкага манастыра ўключна з пабудовай пры ім царквы, збудаванне новай царквы і школы пры Цаперскім манастыры, а таксама мураванне Свята-Духаўскай царквы ў Вільні. Што датычыць камплектавання фондаў, то ў тастаменце недвухсэнсоўна сказана пра закупку кніг для Дзятлавіцкай царквы. На папаўненне бібліятэчных фондаў маглі таксама пайсці сродкі, што "*обернены на потребу… монастыря Печерского*", і прыбытак з мясцін, нададзеных Цаперскаму манастыру яшчэ ў 1618 г.

Драўляная царква ў Дзятлавічах была збудавана [6, с. 338]. Там праходзіла служба і рэгулярнае памінанне дабрадзеяў святыні (на што ўказвае акуратнае вядзенне на працягу стагоддзяў "Сінодзіка"*) – а значыць, сфарміраваўся і неабходны для адпраўлення літургіі кнігазбор. З запісаў у дзятлавіцкім "Сінодзіку" вынікае, што манастыр там таксама быў заснаваны**. На жаль, пра яго кнігазбор сёння нічога не вядома.

Затое мы ведаем пра забеспячэнне богаслужбовай літаратурай Цаперскай бажніцы. Так, на асобніку Евангелля, выдадзенага Пятром Мсціслаўцам у 1575 г., прысутнічае ўкладны запіс Далмата, спалучаны з пацвярджэннем фундушу на Цаперскую царкву: "*…Константин Долмат сюю книгу… оправленую позлотистую… надалем и положилем на престоле в церкви Воздвижения… в ыменью моем отчызном на цепре…*" [цыт. паводле: 7, с. 170 – 179]. Таксама ёсць апісанні (праўда, значна пазнейшыя) бібліятэкі Цаперскага манастыра і царквы, на той час ужо ўніяцкіх. Поўную карціну цаперскіх кнігазбораў дае інвентар 1760 г., складзены пры пастаўленні на пасаду настаяцеля Гераніма Манкевіча ЧСБВ***. Там змешчаныя два рэестры: "Księgi Cerkiewne" і "Biblioteka Klasztoru Ceperskiego" [5, т. 2, арк. 462 адв. – 463 адв.], дзе апісваецца як царкоўная, так і манастырская кніжніцы.

Першы спіс – кнігі, патрэбныя на літургіі: налтарныя Евангеллі, рознага роду службоўнікі, псалтыры, трыёдзі каляровыя і посныя, трэбнікі, ірмалоі, мінеі, акафісты і іншае (у тым ліку два рымскія мшалы) агульнай колькасцю 31 том.

У другім спісе 119 пазіцый у 132 тамах, але рэальны аб'ём фонду большы, паколькі часам адна пазіцыя змяшчае некалькі выданняў. Вялікая колькасць лацінамоўных і "рускіх" тэкстаў сведчыць, што асноўнае ядро бібліятэкі было закладзена яшчэ ў сярэдзіне XVII ст., бо пазней польская кніга пачала дамінаваць над кірылічнай і лацінскай – як у айчынным кнігавыданні, так і ў напаўненні бібліятэчных фондаў.

Пераважае ў бібліятэцы літаратура для пабожнага чытання ("Cuda N. Panny po Rusku", "Xiążka o postępowaniu w Doskonałosci"), прапаведніцкія творы ("Kazania N. Pannie sub Tit. Gospodyni", "Kazania o Męce Pańskiey"), тэалагічныя трактаты ("Teologia Moralna

* "Сінодзік", перапісаны ў 1753 г. у Дзятлавічах з больш ранняга арыгінала, захоўваецца ў зборах Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі пад нумарам КП 494.

** Дзятлавіцкі "Сінодзік" мае наступны загаловак: "*Синодик Или Собраніе душъ, То есть именъ хр[и]стіанъ Православныхъ, Усопшихъ. Для всегдашняго при безкровной жертве помяновения… Въ ц[е]ркве преображения Г[о]с[по]дня, въ Монастире Дятеловицкомъ…*". На арк. 5 адв. прысутнічае запіс: "*[Помяни, Господи] Родъ Его М[ило]сти Пана Константіна ДОЛМАТА, Фундатора С[вя]тыя обители сея…*"

*** ЧСБВ – чын святога Базыля (Васілія) Вялікага (з лац. Ordo Sancti Basilii Magni). Такія абрэвіятуры назваў каталіцкіх ордэнаў манахі ставілі пасля імя, абазначаючы сваю прыналежнасць да гэтых супольнасцей.

pisana", "Tractatus Theologici 4to Libri"), рознага роду падручнікі і дапаможнікі ("Alwar", "Tabula Rhetoricae"), апісанні жыццяў святых ("Zywoty Swiętych", "Zywot S. Onufryusza"); ёсць таксама літургічныя кнігі, у тым ліку лацінскія ("Ewangelia Ruska pisana", "Officium Defunctorum"). Прысутнічае некалькі выданняў на італьянскай мове, гэта можна патлумачыць тым, што хтосьці з тутэйшых манахаў вучыўся ў Рыме (у той час не рэдкасць). Многія тытулы твораў і імёны аўтараў мы часта сустракаем у інвентарах іншых манастырскіх бібліятэк: "Cedr Mistyczny", "Lutnia Apolinowa", некалькі выданняў вядомага твора Тамаша Кемпійскага і г. д.

ІІ. Другі аспект, які хацелася б адзначыць, – ***фінансавая падтрымка кнігадрукавання***; яе варта разглядаць у звязцы з іншымі задумамі Канстанціна Далмата. Тое, што ён планаваў збудаваць цэрквы на грошы ад продажу кніг, дае нам матэрыял і для больш абагульненых разваг ды высноў. Па-першае, можна бачыць, што друкаванне кніг на пачатку XVII ст. было даволі выгоднай справай і мусіла не толькі акупляць сябе, але і прыносіць прыбытак, калі сродкаў ад продажу павінна было хапаць на такія сур'ёзныя задачы, як будаванне цэркваў. Па-другое, сярэднезаможная шляхта, да якой належаў род Далматаў, не магла, як, скажам, Радзівілы, выдаткоўваць грошы на выданне кніг толькі дзеля задавальнення сваіх ідэалагічна-рэлігійных патрэб, а таму старалася спалучыць гэтую справу з атрыманнем прыбытку, накіраванага, тым не менш, на пабожныя мэты.

Не ўсё з планаў К. Далмата збылося. Напрыклад, царква ў Цаперскім манастыры вымуравана так і не была, бо і ў пазнейшых інвентарах (напрыклад, "Inwentarz Klasztoru Ceperskiego przy podaniu w rządy Jx[u] Alexandrowi Kozmińskiemu sporządzony w Roku 1797") яна выступае як драўляная [5, т. 1, арк. 151]. Таксама бібліёграфам нічога не вядома пра віленскія выданні, надрукаваныя накладам К. Далмата. Гэта гаворыць пра тое, што грошы, якія мусілі быць перададзены дзеля ажыццяўлення волі памерлага Мялецію Сматрыцкаму, да адрасата не дайшлі. Каб тое высветліць, нам вельмі прыдаліся б звесткі пра час смерці Канстанціна, аднак патрэбнай інфармацыі знайсці не атрымалася. Таму падыдзем да праблемы з іншага боку.

Пэўная сума перадавалася і кіеўскаму архімандрыту Елісею Пляцінецкаму на друкаванне кніг у Кіеве. І сапраўды, у каталогах украінскіх стáрадрукаў прысутнічаюць звесткі пра два выданні, выпушчаныя там пад гербам Далматаў [8]; першае з іх мае прысвячэнне Канстанціну, другое – яго сыну Рыгору: "Беседы на Деяния св. Апостолов" Іаана Златавуста 1624 г. выдання і "Толкование на Апокалипсис" Андрэя архібіскупа Кесарыйскага 1625 г.

Гаворачы пра дзейнасць кіеўскай друкарні, Я. Ісаевіч апісвае, так бы мовіць, адмысловы выдавецкі праект Пляцінецкага, які ўключаў "Беседы на 14 Послании св. Апостола Павла" Іаана Златавуста, а таксама дзве вышэйназваныя кнігі. Яны істотна адрозніваліся ад раней публікаваных у Кіеве "по исправности текста, полиграфическому исполнению и художественному оформлению" [параўн. 9, с. 56 – 57]. Несумненна, што іх падрыхтоўка і друк вымагалі значных фінансавых выдаткаў. Тым не менш герб і імёны Далматаў у першым выданні серыі, "Беседах на 14 Послании…", не сустракаюцца, значыць на час выпуску (02.04.1623) Канстанцін быў яшчэ жывы або толькі што памёр і яго тастамент яшчэ не быў рэалізаваны. А ў выданні "Беседы на Деяния св. Апостолов" (24.08.1624) герб і прысвячэнне Далмату прысутнічаюць, што сведчыць пра яго смерць і перадачу грошай на кнігадрук. Мялецій Сматрыцкі акурат у гэты час знаходзіўся ў двухгадовым падарожжы па хрысціянскім Усходзе і не мог атрымаць давераных яму грошай. Падобнай сітуацыі Канстанцін не прадбачыў: М. Сматрыцкі адсутнічаў, а наступнік не выбіраўся, бо арцыбіскуп не памёр. Неўзабаве па вяртанні Мялецій прыняў – спярша тайна, а потым і яўна – унію, што аўтаматычна анулявала яго ўдзел у тастаменце як даверанай асобы. Зрэшты, магчыма, што сын Канстанціна Рыгор накіраваў у Кіеў грошы, прызначаныя Вільні, чым і спрычыніўся да выдання заключнай кнігі серыі, а таму і выступіў адрасатам змешчанага ў ёй прысвячэння.

ІІІ. І, урэшце, трэці аспект – гэта ***апасродкаваны ўдзел у стварэнні друкаваных і рукапісных кніг***, а менавіта інспіраванне часткі тэкстаў і выяў: а) прысвячэнняў і гербаў у фінансаваных Далматам выданнях Кіева-Пячэрскай лаўры, б) запісаў імя ў памянніках фундаваных цэркваў.

У першым выпадку мы маем на ўвазе ўласна тыя напісаныя выдаўцамі прысвячэнні-падзякі, што знайшлі месца на старонках кніг Кіева-Пячэрскай друкарні. У XVI – XVIII стст. склалася ўжо характэрная для гэтага перыяду форма тэкстуальна-графічнай арганізацыі выдання, якая зазвычай уключала тытульны аркуш, гравіраваную выяву герба мецэната, панегірык на яго, прысвячэнне фундатару і да т. п.; далей ішлі прадмова, уласна тэкст кнігі і інш. Такім чынам, пры даволі моцна развітым у той час мецэнацтве публікаванне герба фундатара і адпаведных тэкстаў сталася неад'емнай часткай выдання, прычым, як бачым, спрычыняліся да гэтага не толькі магнаты, але і заможная шляхта.

Што датычыць другога пункта, дык тут мы гаворым пра памяннікі, або сінодзікі ці суботнікі, – кнігі, куды святарамі ўпісваліся імёны дабрадзеяў святыні. Іх належала згадваць у час адпаведных набажэнстваў – суботніх у час Вялікага посту, а таксама некаторых іншых, вызначаных для гэтага царквой. Імёны Канстанціна Далмата, яго жонкі і нашчадкаў мусілі стаць свайго роду цаглінкамі, з якіх разам з іншымі ахвярадаўцамі "мураваўся" тэкст суботнікаў фундаваных цэркваў.

Такім чынам, мы разгледзелі формы прысутнасці беларускай шляхты ў кніжнай прасторы XVII ст., якія можна вылучыць на падставе аналізу тэксту тастамента Канстанціна Далмата. Безумоўна, адзін асобна ўзяты дакумент не дае поўнай карціны той ці іншай з'явы, таму неабходная далейшая праца па выяўленні і аналізаванні актаў азначанага перыяду, што, несумненна, прынясе новыя знаходкі і адкрыцці.

**Спіс літаратуры**


1. **Boniecki, A.** Herbarz polski / A. Boniecki. – Warszawa, 1899. – T. IV.
2. **Uruski, S.** Rodzina : Herbarz szlachty polskiej / S. Uruski. – Warszawa, 1906. – T. III.
3. **Niesiecki, K.** Herbarz polski / K. Niesiecki; wyd. przez J. Bobrowicza. – D. Lipsk [Liepzig], 1839. – T. III.
4. **Leszczyc, Z.** Herby szlachty polskiej / Z. Leszczyc. – Poznań, 1908.
5. **Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі.** – Ф. 694. – Воп. 14. – Спр. 34. – Т. 1.
6. **Kołbuk, W.** Kościoły Wschodnie w Rzeczypospolitej około 1772 roku / W. Kołbuk. – Lublin, 1998.
7. **Лабынцев, Ю. А.** Виленские издания Петра Мстиславца в собрании Государственной библиотеки имени В. И. Ленина / Ю. А. Лабынцев // Иван Федоров и восточно-славянское книгопечатание. – Минск : Наука и техника, 1984.
8. **Украинские книги кирилловской печати XVI – XVIII вв.** – Вып. I. – М., 1981. – N 37, 44.
9. **Исаевич, Я. Д.** Преемники первопечатника / Я. Д. Исаевич. – М., 1981.


## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТАЎ І ЮБІЛЕЙНЫХ ДЗЁН

### КАСТРЫЧНІК

*Заканчэнне. Пачатак на с. 59.*

**10 кастрычніка –** 215 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Без-Карніловіча (1796 – 1862), гісторыка, краязнаўцы, этнографа

**13 кастрычніка –** 115 гадоў з дня нараджэння Мікалая Шчакаціхіна (1896 – 1940), мастацтвазнаўцы, гісторыка, тэарэтыка мастацтва, педагога

**14 кастрычніка –** 75 гадоў з дня нараджэння Ганны Мятлюк, мовазнаўцы

**15 кастрычніка –** 100 гадоў з дня нараджэння Яфіма Гаварушкі (1911 – 1992), празаіка, публіцыста

90 гадоў з дня нараджэння Веніяміна Айзенштата (псеўд. Блажэнны; 1921 – 1999), рускага паэта. Жыў у Беларусі

85 гадоў з дня нараджэння Леаніда Мінько, этнографа

75 гадоў з дня нараджэння Міколы Гіля (сапр. Гілевіч), празаіка

75 гадоў з дня нараджэння Алеся Шлега (1936 – 1998), празаіка, паэта, публіцыста, кінадраматурга, перакладчыка

**16 кастрычніка –** 75 гадоў з дня нараджэння Уладзіслава Лашкевіча (1936 – 2001), жывапісца, графіка, плакатыста, мастацкага праекціроўшчыка музеяў

**17 кастрычніка –** 75 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Станюты, крытыка, літаратуразнаўцы, празаіка

**18 кастрычніка –** 105 гадоў з дня нараджэння Алеся Салагуба (1906 – 1934), паэта, літаратуразнаўцы, публіцыста

**19 кастрычніка –** 195 гадоў з дня нараджэння Максіміляна Маркса (1816 – 1893), мемуарыста, аўтара ўспамінаў "Записки старика: Витебск с 1821 по 1840 гг."

105 гадоў з дня нараджэння Марыі Жыдовіч (1906 – 1977), мовазнаўцы, заслужанага дзеяча навук Беларусі

75 гадоў з дня нараджэння Эдуарда Гарачага, акцёра, заслужанага артыста Беларусі

**20 кастрычніка –** 70 гадоў з дня нараджэння Ганны Юзеевай-Шаблоўскай (1941 – 1993), мастака дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва

**21 кастрычніка –** 90 гадоў з дня нараджэння Івана Мурaвейкі, паэта, заслужанага работніка культуры Беларусі

**22 кастрычніка –** 90 гадоў з дня нараджэння Лiліі Стасевіч (1921 – 1999), актрысы, дыктара радыё, педагога, заслужанай артысткі Беларусі

**24 кастрычніка –** 110 гадоў з дня нараджэння Яніны Глебаўскай (1901 – 1978), актрысы, народнай артысткі Беларусі

100 гадоў з дня нараджэння Івана Сайкова (1911 – 1989), беларускага і расійскага спевака, народнага артыста Беларусі

**25 кастрычніка –** 100 гадоў з дня нараджэння Марыі Кавязінай (дзявочае Заборская; 1911 – 1975), актрысы, заслужанай артысткі Беларусі

75 гадоў з дня нараджэння Віктара Турава (1936 – 1996), кінарэжысёра, народнага артыста Беларусі, народнага артыста СССР

70 гадоў з дня нараджэння Любові Каспорскай, спявачкі, педагога, народнай артысткі Беларусі

**26 кастрычніка –** 90 гадоў з дня нараджэння Яўгенія Ганкіна (1921 – 1996), мастака кіно, графіка, жывапісца, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

**27 кастрычніка –** 100 гадоў з дня нараджэння Міколы Лобана (1911 – 1984), празаіка і мовазнаўцы, заслужанага работніка культуры Беларусі

**28 кастрычніка –** 70 гадоў з дня нараджэння Мікалая Майсеенкі, спевака, заслужанага артыста Расіі

**30 кастрычніка –** 75 гадоў з дня нараджэння Генадзя Цыхуна, мовазнаўцы

**31 кастрычніка –** 140 гадоў з дня нараджэння Мікалая Папова (1871 – 1949), рускага рэжысёра, драматурга, заслужанага артыста Беларусі

80 гадоў з дня нараджэння Тамары Шашкінай, актрысы, заслужанай артысткі Беларусі

75 гадоў з дня нараджэння Івана Хоміча (1936 – 1992), скульптара

* * *

85 гадоў таму заснаваны Дзяржаўны яўрэйскі тэатр БССР. Існаваў у Мінску да красавіка 1949 г.

20 гадоў з часу выхаду штотыднёвай грамадска-асветнай газеты "Культура"

Анатоль СТАТКЕВІЧ-ЧАБАГАНАЎ

# ГЛІНСКІЯ І ГЛІНСКІЯ-ЛІХАДЗІЕЎСКІЯ ГЕРБАЎ “ГЛІНСКІЯ” І “ЯСТРАБЕЦ”




**Герб “Ястрабец” роду Глінскіх-Ліхадзіеўскіх.**

З завяшчання ад 29 жніўня 1693 г. маёй пра…прабулі Евы Адамаўны з Глебкаў Забэлы вядома, што яе маці Марыяна паходзіла з княжацкага роду Глінскіх-Ліхадзіеўскіх: *“…у Імя Айца і Сына і Духа Святага ды збудзецца воля Яго Святая. Амінь. Я, Ева Адамаўна Глебавічаўна Пятрова Забэлава, зямянка Яго Каралеўскай Вялікасці Навагрудскага ваяводства ў стане цяжкай хваробы, але застаючыся пры цвярозым розуме і памяці, пакідаю апошняй воляй маёй распараджэнне ўласнасць маю, якая ад бацькоў засталася пасля Адама Сяргеевіча Глебкі, а таксама маці маёй спадарыні Марыяны Ліхадзіеўскай, названае Душава Крывое Сяло, што ў Навагрудскім ваяводстве, размеркаваць: якую суму нябожчык бацька адпісаў па духоўным завяшчанні і ўсе мае рухомыя рэчы нікому іншаму, як толькі мужу майму спадару Пятру Забэлу, пажыццёва адпісую, а пасля яго сынам маім спадарам Івану і Казіміру Забэлам на вечныя часы адпісую…”*

Душапрыказчыкамі Ева Адамаўна прызначыла сваіх блізкіх родзічаў: дваюраднага брата князя Багуслава Станіслававіча Глінскага-Ліхадзіеўскага і швагра Івана Іржыковіча, якія жылі ў той час у родавых маёнтках Цэпра Лазовічы і Ліходзіевічы (Ліходзічы), усяго за некалькі кіламетраў ад маёнтка Душава Крывое Сяло, куды Ева Адамаўна пераехала ў хуткім часе пасля вяселля ў 1658 г. Усе названыя маёнткі знаходзіліся недалёка ад Клецка і Нясвіжа ў Навагрудскім павеце.

Даследаваннем радаводу князёў Глінскіх займаліся акадэмік М. Ціхаміраў, А. Шэннікаў, А. Нарбут, Б. Папроцкі і інш. Пра іх пісаў таксама і Леў Мікалаевіч Гумілёў у вядомай кнізе “Старажытная Русь і Вялікі стэп”. Радавод князёў Глінскіх у некалькіх варыянтах і фрагментах змешчаны ў маскоўскіх радаводных кнігах XVI – XVII стст.

Як лічыў вядомы польскі геральдыст Б. Папроцкі, які жыў у XVI ст., прадстаўнікі адной з галін князёў Глінскіх узялі прыдомак Ліхадзіеўскія ад назвы свайго маёнтка Ліходзічы ў Вялікім Княстве Літоўскім.

Глінскія – вядомы княжацкі род, які бярэ пачатак ад Мамая. Па бацькоўскай лініі ён быў нашчадкам кіпчакаўскага хана Акопы з роду Кіятаў, па лініі маці паходзіў ад залатаардынскага цемніка. Узвысіўся пры хане Бердыбеку, нашчадку Чынгісхана, пасля шлюбу з яго дачкой Ханум. З 1357 г. Мамай займаў пасаду беклярбека, адну з дзвюх галоўных у Залатой Ардзе, камандаваў войскам, кіраваў знешнімі сувязямі і вярхоўным судом. Пасля забойства Бердыбека ханам Кульпой у 1359 г. Мамай аб’явіў апошняму вайну. Аднак прэтэндаваць на ханскі трон Мамай не мог, бо не належаў да “залатога роду чынгізідаў” па мужчынскай лініі. Шлюб з дачкой хана зрабіў Мамая членам царскага роду і даваў вялікія магчымасці за выключэннем права на трон.

З 1359 г. да 1370 г. Мамаю прыйшлося ваяваць з дзевяццю ханамі Залатой Арды. Там пачалася так званая Вялікая замятня – вялікая смута. Выкарыстаўшы міжусобную барацьбу за ханства, Мамай фактычна кіраваў Залатой Ардой праз падстаўных ханаў (рускія летапісы называлі іх “мамаевымі царамі”).

Мамай выпусціў манету з надпісам: “Мамай – цар правасудны”. У знешняй палітыцы ён арыентаваўся на збліжэнне з Вялікім Княствам Літоўскім і варожа ставіўся да падуладнай яму Маскоўскай Русі. Пачынаючы з 1377 г. становішча Мамая значна пагоршылася: малады хан Тахтамыш пры падтрымцы войскаў Тамерлана пайшоў на заваяванне Залатой Арды. У той жа час і Маскоўская дзяржава актыўна рыхтавалася скінуць больш чым двухсотгадовае ярмо. І вось 8 верасня 1380 г. на Куліковым полі адбылася вырашальная бітва. Войска Мамая было разбіта маскоўскім князем Дзмітрыем Данскім.

Крыху пазней, у верасні 1380 г., на рацэ Калцы прайшла бітва паміж войскам Мамая, аслабленым пасля Кулікоўскай бітвы, і войскам Тахтамыша. Мамай зноў пацярпеў паражэнне і

*Часопісны варыянт выбраных раздзелаў з кнігі “Я – сын Ваш” **Анатоля Статкевіча-Чабаганава** друкуецца з № 4 за 2010 г.*



Stanislaus Augustus Dei Gratia Rex Poloniae Magnus Dux Lithvaniae Russiae Prussiae Samogitiae Masoviae Kiioviae Volhyniae Podoliae Podlachiae Livoniae Smolensciae Severiae Czerniechoviaeque.

Universis et Singulis quorum interest, aut quomodolibet interesse poterit Notum facimus. Postquam ad Regni Gubernacula, ita disponente Numine Concordibus Polonae Lithvanaeq Gentis Suffragiis feliciter evecti sumus, confestim studio benemeritos de Nobis et Republica decorandi, benemeritosq excitandi, Ordinem S. Stanislai Episcopi et Martyris totius Regni et Nostri Patroni, scorsivo Nostro Diplomate Die VII. Mensis Maij Anno Domini MDCCLXV. Constituimus. Cum itaq Generosus Christophorus Lichodziecewski Dapifer Palatinatus Minscensis Meritis et Virtutibus quae ipsum commendant pollere dignoscatur. Nosq Eum Gratia Nostra dignum esse judicaverimus, Eundem Ordine praefato S. Stanislai condecorandum et Numero ipsius adnumerandum, adscribendumq esse Censuimus, uti de facto cum Omnibus Juribus Praerogativis ad mentem praefati Diplomatis Institutionis ad extrema Vitae sua tempora condecoramus, adnumeramus et adscribimus praesentibus Literis Nostris. Quod Omnibus quorum interest ad Notitiam deducendo Extraneos Amice requirimus Subditis vero Nostris Mandamus, quatenus praefatum Generosum Christophorum Lichodziecewski pro Equite Ordinis Sancti Stanislai habeant, nominent et agnoscant. In Cujus rei fidem maiorem Gratiae Nostrae Documentum, Manu Nostra Subscriptum Sigillo M. D. Litt.ae communiri jussimus. Datum Grodnae Die XI. Mensis Julij — Anno Domini MDCCXCIII. Regni vero Nostri XXVIIII Anno.

Stanislaus Augustus Rex

Diploma pro Equite Ordinis Sancti Stanislai Episcopi et Martyris Generoso Christophoro Lichodziecewski Dapifero Palatinatus Minscensis datum.

Stanislaus Pęgowski S.ae R.ae M.tis
A Sigilli Minoris M. D. L.t Secretarius

16

**Прывілей караля Станіслава Аўгуста ад 11.07.1793 г.**
**аб узнагароджанні стольніка Мінскага ваяводства Крыштафа Ліхадзіеўскага ордэнам Святога Станіслава.**

разам з сям'ёй і невялікім атрадам збег у Крым. Там у 1381 г. ён быў забіты нібыта па загадзе хана Тахтамыша.

У Мамая былі два сыны. Адзін з іх – Мансур Кіят, прамы нашчадак Чынгісхана ў адзінаццатым калене па маці Ханум, пасля смерці бацькі працягваў камандаваць змешанымі атрадамі чаркесаў, татараў, славян, нашчадкаў полаўцаў і хазар, якія жылі на Чарнігаўшчыне. Мансур Кіят заснаваў крэпасці Глінск, Глінніца і Палтава. Створанае ім у гэтых краях княства заставалася фармальна незалежным з 1380 г. да 1392 г., хоць у пэўнай ступені залежала ад Вялікага Княства Літоўскага.

Сын Мансура Кіята Алекса прыняў хрысціянскую веру ў 1390 г., яшчэ пры жыцці бацькі. Абрад правёў знакаміты святціцель Кіпрыян, мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Русі. Алекса ў хрышчэнні быў названы Аляксандрам. Тады ж быў ахрышчаны пад імем Іван і яго сын.

Унук Мансура Кіята, Іван Аляксандравіч, атрымаў у 1399 г. ад князя Вітаўта тытул князя Глінскага. Яго ўласнасцю ўжо афіцыйна сталі гарады-крэпасці, заснаваныя некалі яго дзедам. Вось што гаворыцца пра гэта ў поўным спісе радаводу Глінскіх пачатку XVI ст.: *"И в те времена случил(о)ся приехати к Киеву Великому Князю Витовту Литовскому и после ко Князю Александру. И просил он Князя Александра и сына его, что похоте служити. И они Князь Иван с отцем своим Александром сотворили хотение Великого Князя Витовта, и приехали в службу к нему, и пошли и били челом ему в службу со своими предреченными тремя городы. И Князь Великий Витовт прия их зело честно не яко слуг, но яко единых сродников своих, и дал им на приказ вотчины волости: Стайку, Хозоров, Сереков, Гладковичи. И Князя Ивана Александровича Великий Князь Витовт женил и дал за него Данилову дщерь Острожского Княжну Настасью"*.

Як бачым, князь Вітаўт ажаніў Івана Аляксандравіча Глінскага з княжной Анастасіяй, дачкой Данілы Астрожскага. Род Астрожскіх у гісторыі паўднёва-рускіх зямель (Кіеўшчына і Валыншчына) з XIV ст. і да пачатку XVII ст. займаў адметнае месца. Ён быў першым і па сваім багацці, і па духоўным і палітычным уплыве як у Вялікім Княстве Літоўскім, так і ў Рэчы Паспалітай.

На працягу амаль стагоддзя, да пачатку XVI ст., вотчына Глінскіх у складзе польска-літоўскай дзяржавы захоўвала многія рысы самастойнага княства. Нашчадкі Алексы хутка амаль цалкам завалодалі землямі ў басейнах рэк Ворскла і Сула і яшчэ шэрагам тэрыторый, сталі найбуйнейшымі магнатамі. Гэтаму спрыяла ўскраіннае становішча рэгіёна ў дзяржаве і слабасць цэнтральнай улады пераемнікаў Вітаўта і Ягайлы.

Калі адзін з сыноў князя Льва Глінскага, Міхаіл, у пачатку XVI ст. стаў фаварытам вялікага князя літоўскага і караля польскага Аляксандра, для роду Глінскіх адкрыўся доступ да высо-

кіх дзяржаўных пасад. Так, у 1505 г. брат Міхаіла, Іван Глінскі, быў прызначаны ваяводам кіеўскім.

Пра ўплывовасць Глінскіх у польска-літоўскай дзяржаве таго часу сведчыць і зварот па дапамогу апошняга хана Залатой Арды Шах-Ахмата. Не дачакаўшыся падтрымкі ад караля Аляксандра, ён накіраваў у 1501 г. ліст князям Глінскім з просьбай паўплываць на караля: *"Кияты князья, Мамая истинные дети, там рядом с братом моим королем, а здесь рядом со мной в моем царстве, справа и слева уланы, князья, четыре корачи большие, у меня нет друзей больших и лучших, чем Кияты князья…"*

Хан апеляваў да гістарычнай памяці Глінскіх, прызнаваў сваяцтва і разглядаў іх як сваіх пры каралі. Глінскія ж, відаць, яшчэ раней далі падставу для такога звароту, інакш аўтар ліста, апынуўшыся ў ролі прасіцеля, наўрад ці звярнуўся б да іх у падобным тоне. З ліста вынікае, што Шах-Ахмат ведаў Глінскіх як нашчадкаў Мамая, чаго не хавалі і самі князі.

Аднак узвышэнне Глінскіх было нядоўгае. Пасля смерці караля Аляксандра, у 1507 г., вялікі князь Жыгімонт адабраў у Івана Глінскага Кіеўскае ваяводства і замест яго даў Навагрудскае. У грамаце, напісанай з гэтай нагоды, Жыгімонт стараецца паказаць, што такія змены не прыніжаюць гонар князя Івана, які захаваў тытул маршалка і атрымаў месца ў Сейме каля старосты жмудскага. На самай справе, зразумела, што Жыгімонт не хацеў пакідаць Кіеў у валоданні князя Івана, роднага брата князя Міхаіла Глінскага, які, як і яго прапрадзед, планаваў аднавіць уласнае княства.

Міхаіл Глінскі ў 1507 г. адкрыта ўзняў мяцеж супраць караля Жыгімонта. У пачатку 1508 г. ён з братам Васілём аблажыў Менск, але, не меўшы сіл узяць яго, пайшоў да Клецка. Тут браты падзяліліся: Васіль пайшоў на Кіеў, а Міхаіл спустошыў слуцкія і капыльскія валасці і ўзяў Мазыр. Аднак кароль Жыгімонт з'явіўся з войскам у час і вымусіў Глінскіх адступіць.

Міхаіл Глінскі, які ўзначаліў паўстанне, паспрабаваў вызваліць былога хана Шах-Ахмата, разбітага крымчакамі і збеглага да караля, але безвынікова.

Праўнукі князя Івана Аляксандравіча Глінскага, дзеці Льва Барысавіча, Міхайла, Іван, Васіль і Фёдар, пераехалі ў 1508 г. з Літвы ў Маскву і сталі служыць вялікаму князю Васілію Іаанавічу. Цікава, што адзін з братоў, князь Іван Глінскі, не саромеўся насіць родавае імя свайго прашчура і ў летапісах згадваецца як Іван Мамай.

Пасля таго як вялікі князь маскоўскі Васілій Трэці ў 1525 г. скасаваў свой першы шлюб, у студзені 1526 г. ён узяў сабе за жонку дачку Васіля Львовіча Глінскага, асірацелую да той пары княжну Алену. Першым дзіцем у гэтым шлюбе ў жніўні 1530 г. стаў будучы цар Іван Грозны. Пасля смерці мужа Алена Васілеўна стала кіраваць Маскоўскай дзяржавай на правах рэгенткі пры сыне Іване.

Вось такія здараюцца ў гісторыі парадоксы: продак Івана Грознага па лініі бацькі – Дзмітрый Данскі, па лініі маці – Мамай. Гэта пад іх кіраўніцтвам рускія войскі і войскі Залатой Арды сышліся ў бітве на Куліковым полі.

Ну, а дзе ж наша літоўская галіна Глінскіх? Найперш нас цікавяць князі Ліхадзіеўскія, якія лічылі сябе нашчадкамі князёў Глінскіх і называліся Глінскімі-Ліхадзіеўскімі. Праўда, некаторыя гісторыкі адзначаюць недахоп дакументаў той пары, што прама ўказвалі б на роднасную сувязь паміж Глінскімі і Ліхадзіеўскімі. Тым не менш існуюць шматлікія ўскосныя доказы такой сувязі.

Як ужо згадвалася, польскі даследчык Б. Папроцкі сцвярджаў, што тыя Глінскія, якія не пераехалі ў Маскву, узялі прыдомак Ліхадзейскія або Ліхадзіеўскія ад назвы маёнтка Ліходзічы ў Навагрудскім ваяводстве (пад Клецкам).

Думаецца, што няма падстаў не давяраць вядомаму геральдысту ў тым, што князі Глінскія і князі Ліхадзіеўскія – адзін і той жа род, тым больш што Глінскія ў XV – XVI стст. адыгрывалі настолькі значную ролю ў Вялікім Княстве Літоўскім і Маскоўскай дзяржаве, што нешта тут зблытаць было б цяжка. Папроцкі толькі канстатаваў вядомы для сучаснікаў факт. Няма таксама прычыны сумнявацца ў родавай памяці князёў Ліхадзіеўскіх, якія называлі сябе яшчэ і Глінскімі.

Падобна, што князь Міхаіл Глінскі ў час мяцяжу невыпадкова рушыў да Клецка, дзе мог спадзявацца на падтрымку родзічаў, якія мелі там маёнткі, а значыць, і ўплыў.

І не дзіўна, што ў 1508 г., пасля паражэння Глінскіх, кароль адабраў у іх маёмасць, землі і маёнткі, у тым ліку ў князя Івана (Барысавіча) і яго пляменнікаў Дзмітрыя Васілевіча і Івана-Юрыя Храмога, тры "палацы" пад Клецкам на карысць князя Фёдара Яраслававіча, назваўшы Глінскіх "здрадцамі".

З-за таго, што многія прадстаўнікі роду Глінскіх з'ехалі ў Маскву, іх родзічам, якія засталіся ў ВКЛ, прыйшлося даказваць адданасць каралю і дзяржаве. Акрамя клятвы вернасці адным з такіх доказаў магло быць змяненне прозвішча або далучэнне да яго геаграфічнага прыдомка. Таму невыпадкова, што менавіта ў той час, у гады каралеўскай няміласці, князь Сямён Іванавіч Глінскі, які валодаў маёнткам Пабоева ў Гродзенскім павеце, узяў прыдомак Пабоеўскі. Ну, а ў тых Глінскіх, якія жылі пад Клецкам, быў "палац" Ліходзічы, ад якога яны і прынялі прыдомак Ліхадзіеўскія.

Вывучаючы метрыкі Вялікага Княства Літоўскага і іншыя дакументы, мне ўдалося выявіць, што

ў 1522 г. пані Федзькава, дачка князя Івана Васілевіча Храмога (Глінскага), пачала маёмасную спрэчку з Сенькам Палазовічам, наместнікам рэчыцкім: *"Господаръ король его милость казалъ про память записати. Жаловала его милости Ѳедьковаѣ, дочъка князя Ивана Хромого, на наместника речицкого пана Сенька Полозовича ѡ томъ: ижъ бы ѡнъ держалъ именьѣ, близкость ее…"*

Праз пэўны час знайшоўся прывілей караля Жыгімонта ад 6 мая 1514 г. і яшчэ некалькі дакументаў, з якіх стала вядома, што пані Федзькаву звалі Ганнай і яна была жонкай Федзькі Валынца. Акрамя яе ў князя Івана-Юрыя Храмога была яшчэ дачка Аўдоцця і сын, князь Іван Юр'евіч.

У 1517 г. Ганна разам з мужам Федзькам Валынцом скардзілася на баярына Наўгародскага павета Зубковіча, пасынка яе сястры Аўдоцці:

*"Господаръ король казалъ про память записати дело Ивашка Зүбъковича.*

*Жаловалъ намъ служебникъ пана Троцкого, старосты Жомоитского, пана Станиславовъ Иановича – ѳедько Волынецъ и жона єго Анна на боіарина нашого Новгородского повету Ивашка Зүбъковича: ижъ бы ѡнъ держалъ именьє, ѡтчизнү тоє-то Анъны, на Цепре. <…> И таіа Анъна, приєхавшы до насъ, до Вильни, зъ сестрою своєю, мачохою єго ѡвъдотьєю, того именьіа на немъ не искали. <…>*

*И тотъ Ивашко поведилъ передъ нами: штожъ тоє именьє єго на Цепре – здрадецкоє, спало на насъ по брате ихъ, кніази Иване, которы же втекъ былъ съ Глиньскимъ и панъство нашо казилъ; и мы тоє именьє дали ѡтцү єго, не по близъкости жоны ѡтца єго, а єго мачохи ѡвъдотьи, але зъ ѡсобливоє ласки нашоє".*

З дакумента вынікае, што сястра Ганны, Аўдоцця, удава Андрэя Зубковіча, мела пасынка Івашку. Брат Ганны і Аўдоцці, князь Іван Юр'евіч, валодаў вотчынным маёнткам Цэпра пад Клецкам.

Праз 12 гадоў змаганне Ганны Глінскай за гэты маёнтак прадоўжылася. У той час яна была замужам у другі раз за баярынам Касцюшкам Федаровічам.

Звернемся да прывілея караля Жыгімонта ад 30 кастрычніка 1529 г.: *"…тое именье на реце, на Цепре, под Клецкомъ ему дали со въсим с тым, какъ отецъ его и онъ перъво тог(о) держалъ. А тот лист нашъ вырочный [в] нивечъ есмо оберънули. Маеть Ивашъка Зубъковичъ и его жона, и их дети, и на потомъ будучие их щадки тое именье держати и въжывати со всимъ с тым, што к тому имен(ь)ю здавна и нине прислухает(ь), вечъно и навеки, непорушно, а Костюшко Федорович и его жона Ганна, и их дети, и потомки их не мают(ь) в тое именье ничимъ ся уступати…"*

А вось прывілей ад 30 лістапада 1529 г.: *"…Ивашъко положыл перед нами привилей нашъ, што данъ на тое имен(ь)е отцу его, въ котором привили стоит(ь) выписано, иж первей тое именье держалъ брат жоны Костюшъковы, княз Иван Юревичъ, которого ж князя Ивана сестра рожоная была за отцом его, и коли он зрадил нас, г(оспо)д(а)ря, и пошол зъ зрадцою нашимъ, князем Михайлом Глинским, в тот часъ отецъ его Андрей просилъ в насъ того именья по близкости жоны своее".*

Дык хто ж з князёў Глінскіх з'яўляецца родапачынальнікам Ліхадзіеўскіх або Глінскіх-Ліхадзіеўскіх? Лічу, што гэта быў князь Іван Васілевіч Глінскі-старэйшы (беспатомны), які першым у родзе пачаў звацца Ліхадзіеўскім. Гэтае меркаванне пацвярджаецца і тастаментам ад 18 красавіка 1551 г. князя Івана Васілевіча Ліхадзіеўскага (зноў жа князя, зноў жа беспатомнага Івана Васілевіча, які таксама меў брата Івана Васілевіча!), уладальніка маёнтка Алекавічы пад Клецкам, куды ўваходзілі "сеножати на Цеперском болоте…". А як вядома, пляменнік Івана Васілевіча Глінскага, Іван, сын Івана-Юрыя Храмога Глінскага, валодаў маёнткам Цэпра пад Клецкам.

Такім чынам, відавочна, што браты князі Іваны Глінскія Васілевічы, якія валодалі маёнткамі пад Клецкам, у тым ліку Цэпрай, і браты князі Іваны Васілевічы Ліхадзіеўскія, якія там жа мелі маёнткі і валодалі названай Цэпрай, – адны і тыя ж асобы.

Згадкі пра княжацкі род Ліхадзіеўскіх упершыню сустракаюцца ў перапісе войска літоўскага 1528 г., дзе ёсць імя князя Івана Ліхадзіеўскага, які "ставил коня от замка господарского Новогородского".

Як сёння вядома, у князя Івана-Юрыя Храмога Глінскага былі дочкі Ганна і Аўдоцця, а таксама сын, уладальнік маёнтка Цэпра пад Клецкам, князь Іван, які ў дакументах называецца "здрадцаю" за тое, што падтрымаў мяцеж Міхаіла Глінскага супраць польскага караля Жыгімонта I.

Верагодна, што сынамі Івана-Юрыя Храмога Глінскага былі таксама Ждан і Аляксандр Іванавічы, князі Ліхадзіеўскія, якія, паводле дакументаў 1559 – 1578 гг., адсудзілі маёнтак Алекавічы свайго дзядзькі князя Івана Васілевіча Ліхадзіеўскага (як мы лічым, князя Івана Васілевіча Глінскага-старэйшага) у Івана Аляксандравіча Салтана.

Нельга адмаўляць магчымасць і таго, што бацькам князёў Ждана і Аляксандра Іванавічаў Ліхадзіеўскіх мог быць князь Іван Юр'евіч, сын Івана-Юрыя Храмога Глінскага, бо браты маглі называць князя Івана Васілевіча Ліхадзіеўскага дзядзькам як яго ўнучатыя пляменнікі.

Існуе шмат дакументаў XVII – XVIII стст., з якіх відаць, што маёнтак Цэпра знаходзіўся ва ўласнасці князёў Глінскіх-Ліхадзіеўскіх. З пратэстацыі ад 8 жніўня 1735 г. князя Стэфана-Казіміра Ліхадзіеўскага на навагрудскага рот-

містра Міхаіла Крышылоўскага вынікае, што спадчынны маёнтак Цэпра Глазовічы ў Навагрудскім ваяводстве раней належаў продку Стэфана-Казіміра, князю Ждану Іванавічу Ліхадзіеўскаму: *"…земель в имении Цепра Глазовичи Новогрудского воеводства, наследование которым истец проводит от своего предка и первого владельца Ждана князя Лиходеевского, по котором оставшиеся восемь сыновей это имение Глазовичи для своего дедичного владения на равные восемь частей между собой разделив…"*

Як пацвярджае выпіс з актавай кнігі навагрудскага земскага суда, у 1659 г. князь Вацлаў-Кліменцій (Іванавіч) з Глінскіх-Ліхадзіеўскіх, каралеўскі зямянін Навагрудскага ваяводства, прадаў родзічу, князю Станіславу Глінскаму-Ліхадзіеўскаму, паўвалокі зямлі Сямёнаўшчызна ў маёнтку Глазовічы (Цэпра): *"…который тот лист за сознаньем особы верху мененое до книг земских новогородских уписан, с которых и сес выпис под нашей врадовой печатью его милости Станиславу князю Глинскому Лиходзеевскому есть выдан. Писан у Новогородку".*

Вяртацца да прозвішча Глінскія князі Ліхадзіеўскія пачалі ў першай палове XVII ст. Як здаецца, тут магла адыграць пэўную ролю гістарычная сітуацыя: у пачатку XVII ст. маскоўская галіна Глінскіх па мужчынскай лініі згасла, па жаночых лініях растварылася праз нашчадкаў сярод іншых княжацкіх родаў. Такім чынам, прозвішча Глінскіх, галоўных ворагаў польскай кароны на працягу ўсяго XVI ст., ужо ў пачатку XVII ст. перастала раздражняць польска-літоўскую эліту.

Першае ж згадванне ў дакументах князёў Глінскіх-Ліхадзіеўскіх сустракаецца ў купчай ад 10 лютага 1659 г., па якой Вацлаў Ліхадзіеўскі прадаў зямлю ў Лазовічах пад Клецкам свайму родзічу "Станиславу князю Глинскому Лиходеевскому". Зразумела, што не ў дзень напісання дакумента яны ўзгадалі, што паходзяць з Глінскіх. Ды і для суддзі, старосты дзевяніскага Яна Керсноўскага, падсудка Яна Корсака і пісара Юрыя Пратасовіча – ураднікаў судовых земскіх, думаецца, вяртанне прозвішча Глінскіх не было навіною, інача й подпісы свае пад дакументам яны наўрад ці паставілі б.

Відаць, сто гадоў – не такі ўжо працяглы гістарычны тэрмін, каб княжацкі род мог забыцца на свае карані і першапачатковае прозвішча.

Чытаем пастанову Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 14 жніўня 1800 г. пра княжацкае паходжанне роду Глінскіх-Ліхадзіеўскіх герба "Ястрабец", дзе гаворыцца: *«…представлен вывод фамилии урожденных Глинских-Лиходзеевских Крыштофом Глинским-Лиходзеевским стольником Минским, кавалером Ордена Святого Станислава подписанный, из которого вывода следует, что фамилия Лиходзеевских, употребляющая герб "Ястребец": золотая подкова, обращенная шипами вверх, в середине ее крест, в шлеме над короной ястреб, с поднятыми крыльями, с бубенчиками, держит такую же подкову, берет свое начало от князей тверских Глинских. <…> Крыштоф, князь Лиходзеевский, ныне выводящийся, кровный потомок князей Лиходзеевских, получил во владение имение за занимаемую должность. По привилею найяснейшего короля Августа года 1773 стражник минский, далее по привилеям того же короля городничий минский, чашник, позднее стольник Минского воеводства. Награжден Орденом Святого Станислава, от короля его милости украшенный находился в 1792 году на сеймике от жителей Минского воеводства, председателем гражданской комиссии избран был и занимал другие должности.*

*Фамилию урожденных князей Лиходзиевских на линии урожденным Крыштофом князем Лиходзиевским стольником Минским подписанную, как то брата родного выводящегося Тадеуша князя Лиходзиевского ротмистра, как и потомство его Яна князя Лиходзиевского на линии изложенной за родовитую древнюю шляхту, единокровную от князей тверских [Глинских] русских идущую, провозглашаемых оных и оных в родословную книгу дворян Минской губернии в первый класс князей вносим».*

Князь Крыштаф Ліхадзіеўскі, стольнік мінскі, сын мечнікаў навагрудскіх князя Антонія Габрыэлавіча Ліхадзіеўскага і Вікторыі Шаблавінскай, не меў нашчадкаў і ўсю сваю маёмасць у тры мільёны польскіх злотых завяшчаў як блізкім, так і дальнім родзічам. Сярод іх былі чатыры родныя пляменнікі, дзеці брата, мінскага ротмістра Тадэвуша Ліхадзіеўскага. Замужнім пляменніцам Кацярыне Свентарэцкай і Францішцы Хельхоўскай, а таксама на той час незамужняй Ганне Ліхадзіеўскай пакінуў па 30 тысяч серабром: *"…каб пасля смерці маёй пакінуць дапамогу, памяць і сродкі да існавання суіменнікам маім Ліхадзіеўскім. Не распускаючы таго адарэння, з'яўляюцца яны для мяне ці блізкімі, ці дальнімі сваім паходжаннем, дастаткова маю ад таго заспакаення ў душы маёй, што людзям бедным пакідаю і раздзяляю капітал пажыццёва для прадстаўніцтва майго імені, што быў адзін Ліхадзіеўскі… усё… ахвярую нашчадкам…"* А вось пляменніка Яна Крыштоф Ліхадзіеўскі пазбавіў спадчыны. Чаму? Здавалася б, зусім нядаўна падпісаў дакументы і атрымаў пастанову Мінскага дэпутацкага дваранскага сходу на зацвярджэнне ў Сенаце таго ж пляменніка ў княжацкай годнасці Расійскай імперыі. Што здарылася праз пяць гадоў, застаецца толькі здагадвацца…

*Пераклад з рускай мовы.*

*Працяг будзе.*

*Аўтар ахвяруе ганарар на развіццё часопіса.*

Алена САЛАМЕВІЧ

# АДУКАЦЫЯ НА ВАЛОЖЫНШЧЫНЕ

## ПАЧАТАК СТВАРЭННЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ШКОЛЫ

*Працяг. Пачатак у №№ 3, 5, 6.*

### НАСТАЎНІКІ З ВЁСКІ ДУБІНА́

Летапіс школы вёскі Дубіна Валожынскага раёна можна пачынаць з 1863 г. ці раней: тут 1 красавіка гэтага года ўжо дзейнічала прыходскае вучылішча, адкрытае святаром Іосіфам Ражановічам; з 1864 г. – штатнае народнае вучылішча. Паводле статыстычнага даведніка І. Гашкевіча "Віленская губерня", царкоўнапрыходская школа ў вёсцы дзейнічала з 1889 г. У 1920 г. тут працавалі дзве беларускія школы, дзе выкладалі Сымон Сухадолец і Васіль Рагель.

Разам з настаўніцай Дубінской школы-сада Тамарай Уладзіміраўнай Саломкай мы наведалі былога дырэктара гэтай школы Васіля Антонавіча Рамановіча, які дапамог знайсці сваякоў С. Сухадольца і В. Рагеля. Сустрэча з Георгіем Сухадольцам і Аленай Зайкоўскай многае праясніла ў дзейнасці іх дзядоў – настаўнікаў-адраджэнцаў.

**Сымон Львовіч Сухадолец** (12.03.1871 – 05.12.1937) нарадзіўся ў вёсцы Жураўцы Ашмянскага павета Віленскай губерні. Скончыў Віленскую царкоўна-настаўніцкую школу ў 1890 г. і, відаць, адразу (ці праз год) стаў працаваць у царкоўнапрыходскай школе вёскі Дубіна: яго імя як настаўніка гэтай школы сустракаецца ў Памятных кніжках Віленскай губерні на 1892, 1895 і 1897 гады, а ў анкеце за 1923 г. ён сам адзначыў, што 31 год выкладаў у Дубіне, мае 32 гады працоўнага стажу, скончыў "вучыцельскую семінарыю" [1, арк. 106].

У час першай рускай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі Сымон Львовіч уваходзіў у Валожынскую арганізацыю РСДРП, якая налічвала 30 чалавек і дзейнічала ў Валожыне, Мінцях-Беляках, Дубіне і Пяршаях, там распаўсюджваліся выданні Віленскага камітэта РСДРП "Дума и царь", "К крестьянам" [2, с. 160], іншая рэвалюцыйная літаратура. Як пісаў у нарысах пра Валожыншчыну Д. Арцюкевіч-Раманоўскі, Сымон Львовіч арганізоўваў стачкі сплаўшчыкаў лесу па Заходняй Бярэзіне. У школе, дзе працаваў, тайна праводзіў сходы сялян. Паліцыя і казацкі атрад, які размяшчаўся ў Дубіне, асабліва сачылі за домам С. Сухадольца. Аднойчы, учыніўшы вобыск на кватэры настаўніка і ў школе, яго арыштавалі, хоць нічога падазронага не знайшлі [3, с. 3]. *"На самай справе забароненая літаратура была схавана ў школе ў печцы, пра што ведала дачка псаломшчыка Ефрасіння Касцецкая і вырашыла данесці пра гэта казакам, якія стаялі ў маёнтку Дэмбіцкага. Школьны стораж Маскалюк перахаваў літаратуру ў недалёкім алешніку. Калі казакі зрабілі вобыск і нічога не знайшлі, есаул з рукава свайго шыняля вытрас і падкінуў лістоўку. Гэта заўважыла малодшая дачка Сымона Нютка"*, – расказаў падрабязнасці ўнук Сымона Сухадольца Георгій Аляксеевіч (1927 г. н.). Абаронцам яго дзеда на судзе выступіў настаўнік Васіль Рагель, таксама член РСДРП. Пасля чатырох месяцаў зняволення Сымона Львовіча выпусцілі, але на нейкі час забаранілі працаваць у школе.

У 1919 і 1921 гг. С. Сухадолец вучыўся на настаўніцкіх курсах у Вільні. Для таго каб яго залічылі на курсы, трэба было прадставіць паперы, якія б пацвярджалі адукацыю. Але ў той час не кожны мог зрабіць гэта, бо ў ваенным ліхалецці шмат у каго дакументы прапалі ці засталіся ва ўсходняй частцы Беларусі або знаходзіліся ў павятовага школьнага інспектара. Сымон Львовіч напісаў кіраўніку курсаў заяву і, патлумачыўшы, што яго дакументы забраў інспектар Валожынскага павета [4, арк. 269], прыклаў пісьмовае сведчанне наступнага зместу: *"Мы, ніжэйпадпісаныя вучыцелі Забрэзскае валасьці, гэтым сьвядчым, што грамадзянін Сымон Сухадоляц вёскі Дубіны І Забрэзскае валасьці ёсьць вучыцель вёскі Дубіны, гдзе ўжо працаваў 31 год, што і падпісваім: А. Шаўлюк, Т. Белановіч, І. Лоўчы, П. Рэут, М. А. Станкевіч* (почырк Міхася Адамавіча. – ***А. С.***), *В. Язерскі. 29.6.21 г."* [4, арк. 270]. Такую ж заяву прадставіў і В. Рагель, другі дубінскі настаўнік. Калегі шмат зрабілі для арганізацыі беларускіх пачатковых школ у вёсцы Дубіна. Землякі называлі С. Сухадольца і В. Рагеля ідэйнымі кіраўнікамі, свядомымі беларусамі.

Газета "Krynica" за 19 снежня 1920 г., якая выходзіла ў Вільні, пісала: *"Летась* (г. зн. у 1919 г. – ***А. С.***) *з самае восені стараліся закласьці тут беларускую школу. <…> Сёлета ж, дзякуй Богу, стараньнем нашых людзей з дазваленьня школьнае ўлады адчынены тут дзве пачатковые школы (бо няма такога дому, у які можна было-б зьмясьціць усіх вучанікоў). Вучаць у школах дазнаныя добрыя вучыцялі, у 1-ай вуч. Сухадолец Сымон, а ў другой Рагель Васіль. Трэба спадзявацца, што з гэтай весі знойдзецца шмат ахвотнікаў у Бела-*

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 2.*




**Сымон Сухадолец на настаўніцкіх курсах у Вільні.** 1919 г. Здымак захоўваецца ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь [НД 19174. – Частка 2].

*рускую Вучыцельскую Семінарыю"* [5, с. 3]. Архіўныя матэрыялы віленскіх курсаў за 1921 г. даюць падставы сцвярджаць, што ў гэтых педагогаў быў яшчэ адзін калега – Янка Казакевіч з Вішнева, бо ён таксама як настаўнік Дубінской беларускай пачатковай школы падаў заяву на курсы і вучыўся там. Родам з Дубіны быў і Алесь Вяршыцкі (слухач курсаў у 1919 г.), які працаваў у Нарэйшаўскай беларускай пачатковай школе Валожынскай воласці, што пісьмова засведчылі для прыняцця яго на курсы 1921 г. В. Рагель і С. Сухадолец. Так калегі і аднадумцы падтрымлівалі адзін аднаго.

Матэрыяльнае становішча сям'і С. Сухадольца было цяжкае, асабліва гэта адчувалася, калі польскія ўлады затрымлівалі выплату заробку. Аднак у такой сітуацыі знаходзіліся амаль усе настаўнікі, таму падчас вучобы на курсах 1921 г. слухачам выпісвалася матэрыяльная дапамога, пра што сведчаць шматлікія ведамасці. Асобна вяліся спісы і тых, каму дапамога за пэўны перыяд не выплачвалася, з указаннем прычыны: "тутэйшы", "залічаны ў вольныя слухачы", "прапусціў 12 дзён" і інш. У такім спісе за перыяд з 11 да 31 ліпеня 1921 г. ёсць Алесь Вяршыцкі, Сымон Сухадолец і Васіль Рагель, відаць, у іх былі прычыны прапусціць частку заняткаў [6, арк. 91]. Многія ў заявах выказвалі жаданне праслухаць лекцыі толькі па адным прадмеце, напрыклад, па польскай мове, тым больш што нашы землякі ўжо не першы раз займаліся на курсах.

24 верасня 1922 г. у Забрэзскай воласці быў арганізаваны беларускі настаўніцкі гурток, які на адным са сходаў пастанавіў прыкласці ўсе намаганні, каб адчыніць беларускія школы ў вёсках, дзе яны закрыты польскімі ўладамі. Гэтыя вёскі былі размеркаваны паміж настаўнікамі, і С. Сухадолец павінен быў дамагацца адкрыцця школы ў І Дубіне [7].

Восенню 1922 г. адбыліся выбары ў Польскі Сейм. Кандыдаты, якія збіраліся бараніць правы беларускага народа, ішлі спісам пад нумарам 16. За гэты спіс агітаваў і настаўнік Сухадолец. Польскія ўлады за такую актыўнасць пакаралі яго, не дазволіўшы працаваць у школе. Сымон Львовіч вымушаны быў займацца гаспадаркай, каб пракарміць сям'ю, пра што сам пісаў у анкеце, дасланай у 1923 г. у Беларускую цэнтральную школьную раду ў Вільні [1, арк. 106].

У 1924 г. ксёндз А. Станкевіч, выступаючы ў сеймавай асветнай камісіі, адзначыў: *"Школьныя інспектары не дазваляюць весці беларускую школу вучыцелям за тое, што яны падчас выбараў стаялі за спісак № 16. На гэтай падставе звольнены з вучыцельства беларускія вучыцялі: Сухадолец у беларускай школе ў сяле Дубіна, Ашмянскага павета* (згодна з ранейшым тэрытарыяльным падзелам. – ***А. С.***)…" [8, с. 3]. У спісе асоб, пацярпелых палітычна і пакараных за палітычныя злачынствы, складзеным польскай паліцыяй у 1924 г., значыцца С. Сухадолец з пазнакай "за антыпанствовую (г. зн. антыдзяржаўную. – ***А. С.***) дзейнасць" [9].

Тым не менш праз нейкі час Сымон Львовіч зноў прыкладае намаганні, каб адчыніць беларускую школу ў Дубіне. У спісе прыватных беларускіх школ, адкрытых праз вясковую грамаду ў 1924 – 1925 гг. і зарэгістраваных у Цэнтральнай беларускай школьнай радзе, але закрытых польскай уладай з прычыны неатрымання дазволу ад школьных інспектараў, пад нумарам 18 значыцца школа ў Дубіне-Юрздыцкай, у графе "Настаўнік" напісана *Symon Suchodolec*, у графе "Тэрмін закрыцця" – *1.12.1924.* Усяго ў спісе пералічана 35 прыватных беларускіх школ [10].

Знаходзіцца ў Заходняй Беларусі і адначасова праяўляць палітычную і грамадскую актыўнасць, без чаго Сымон Львовіч не мог уявіць свайго жыцця, было небяспечна… У 1930 г. ён рызыкнуў перайсці ўсходнюю мяжу і трапіў у Савецкую Беларусь. Тут уладкаваўся настаўнікам, працаваў у




**Васіль Рагель на настаўніцкіх курсах у Вільні.** 1919 г. Здымак захоўваецца ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь [НД 19174. – Частка 2].



**Янка Казакевіч на настаўніцкіх курсах у Вільні.** 1921 г. Здымак захоўваецца ў сямейным архіве Ніны Радайтэне.

вёсцы Вялікія Лукі Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці [11, с. 163]. Але сям'я заставалася жыць у Заходняй Беларусі. У Сымона Львовіча было чацвёра дарослых дзяцей – Георгій, Вера, Анюта і Аляксей… Бацька некалькі разоў перасякаў мяжу, каб праведаць сям'ю, пакінуць грошы. Яго ўнук Георгій Аляксеевіч, таксама былы настаўнік, расказаў: *"Калі дзед прыходзіў, ад мяне гэта ўтойвалі, бо баяліся, што малое дзіця можа прагаварыцца. Калі гэта было ноччу, дзед Сымон падыходзіў да мяне, гладзіў па галаве і са слязамі на вачах адыходзіў. Потым мне бацькі ці бабуля Зося давалі чырвонец і тлумачылі, што дзед прыслаў для ўнука. З намі тады яшчэ жыла Анюта, а Георгій і Вера мелі свае сем'і"*.

10 верасня 1937 г. Сымона Львовіча арыштавалі. Яго выслалі на Урал, у горад Азбест (цяпер Свярдлоўская вобласць). Там, лічыць сям'я, ён і памёр, бо менавіта так было напісана ў лістах, прысланых у 1960-я гг. дзецям, дзе паведамлялася, што іх бацька рэабілітаваны, а яго магіла знаходзіцца ў Азбесце. Паводле звестак Л. Маракова, 28.11.1937 г. тройкай НКУС Сымон Сухадолец быў асуджаны за "шпіянаж на карысць Польшчы" да вышэйшай меры пакарання і расстраляны ў Мінску, у турме НКУС: "5.12.1937. Мінск (?), турма НКВД" [11, с. 163]. Рэабілітаваны 8 сакавіка 1963 г. Асабовыя справы знаходзяцца ў архіве КДБ. На сайце "Жертвы политического террора в СССР" інфармацыя амаль супадае са звесткамі з кнігі Л. Маракова. Адзінае адрозненне толькі ў тым, што месцам пахавання названы Слуцк.

Як бы там ні было, але жыццёвы шлях Сымона Львовіча Сухадольца, настаўніка-рэвалюцыянера, змагара за правы беларускага народа, закончыўся трагічна.

Настаўніцай стала дачка Сымона Львовіча – Вера Рашчэня. Да рэвалюцыі яна выкладала ў гімназіі ў Слуцку, нейкі час пасля 1917 г. працавала ў шпіталі Чырвонай Арміі, настаўнічала ў вёсцы Гаршчэўшчына Талачынскага раёна, у чыгуначнай школе на станцыі Прыяміна, пасля вярнулася ў родную вёску. 50-годдзе педагагічнай дзейнасці Веры Сымонаўны ўрачыста адзначалася ў 1960 г. у Дубінской школе [12, с. 4].

Сын Сымона Львовіча Георгій таксама стаў настаўнікам: да рэвалюцыі закончыў духоўную школу, потым гістфак БДУ. Праўда, савецкая ўлада не даравала яму вучобы ў царкоўнай школе, за што ён быў асуджаны і дзевяць месяцаў капаў Беламор-канал.

Сёння мы дапоўнілі аповед пра аднаго са старэйшых настаўнікаў Валожыншчыны звесткамі пра яго змаганне за беларускую школу. Імя гэтага чалавека ў кнізе Л. Маракова "Рэпрэсаваныя настаўнікі" – побач з імем таксама расстралянага настаўніка з вёскі Жураўцы – Сухадольца Рыгора Міхайлавіча, 1895 г. н. Можа, яны былі сваякамі з аднолькавай доляй? "У Жураўцах шмат Сухадольцаў", – адказаў на гэтае пытанне Георгій Аляксеевіч Сухадолец.

А ў Беларусі шмат людзей з падобнымі лёсамі.

**Васіль Васільевіч Рагель** нарадзіўся 31 студзеня 1885 г. у вёсцы Дубіна Ашмянскага павета Віленскай губерні. Паводле анкеты, складзенай самім настаўнікам, бацькі яго былі сялянамі-землеўласнікамі. Закончыў Валожынскую двухкласную школу – відаць, мелася на ўвазе Валожынскае пачатковае двухкласнае вучылішча, у якім з 1871 г. працаваў Леў Данілавіч Зяновіч, настаўнік з вялікім педагагічным вопытам. У 1900 г. В. Рагель вучыўся на настаўніцкіх педагагічных курсах, у гэтым жа годзе вытрымаў экзамен на званне настаўніка пры Смаргонскай гарадской 4-класнай школе [4, арк. 271]. Настаўнічаў у пачатковых школах у вёсках Яшкавічы (1901), Дубіна (1902 – 1903), Нарэйшы (1904), Рачаняты (1905 – 1910), Турэц (1911, напэўна, Турэц-Баяры, цяпер Маладзечанскі раён), Ардзяя (1912 – 1913, цяпер Смаргонскі раён), Дубіна (1914 – 1921 гг. і пасля Другой сусветнай вайны), Чабаі (з 1939 г.). Васіль Васільевіч аднолькава добра валодаў і беларускай, і рускай мовамі.

Дзейнасць В. Рагеля заўсёды вылучалася вялікай палітычнай актыўнасцю: ён належаў да партыі бальшавікоў. Калі пачалася рэвалюцыя 1905 – 1907 гг., настаўнік разам з калегам С. Сухадольцам сталі прапагандаваць рэвалюцыйныя ідэі сярод сялян [3, с. 3].

Першая сусветная вайна перарвала педагагічную працу Васіля Васільевіча. Ён быў прызваны ў войска і, як чалавек пісьменны, служыў табельшчыкам. Пра гэта сведчыць дакумент (пропуск), выдадзены 19 ліпеня 1917 г. *"производителем военно-дорожныхъ работъ 72 отряда в раіоне X арміи инж. Р. А. Боком"* (Варшаўская акруга пагранічных службаў).

Настаўнікі-рэвалюцыянеры С. Сухадолец і В. Рагель цудоўна разумелі, што кожная нацыя мае права на сваю школу. Яны адны з першых з Забрэзскай воласці падаліся на віленскія настаўніцкія курсы ў 1919 г., прыклалі шмат намаганняў, каб школу з беларускай мовай навучання адкрыць у Дубіне, дзе яны працавалі даўно і ведалі настроі сялян, іх жаданне вучыць дзяцей на сваёй мове, якую ў газеце "Kryniсa" невядомы аўтар, схаваны пад псеўданімам *Krywič*, назваў "даволі чыстай, плаўнай, надта гучнай і харошай", праўда, крыху "прыпсаванай" у вайну (мелася на ўвазе, што ў наваколлі доўга стаялі расійскія войскі, чые салдаты і прынеслі ў мясцовую гаворку свае словы). На жаль, імкненні адкрыць беларускую школу ў 1919 г. аказаліся марнымі, хоць усё было дакументальна падрыхтавана, але, відаць, не дазволілі ўлады, затое ў 1920 г. настаўнікі дабіліся адкрыцця ажно дзвюх школ, дзе яны і працавалі [13]. 18 лютага 1921 г. газета "Наша думка" паведаміла, хто ўваходзіў ва ўрад Беларускага настаўніцкага саюза Забрэзскай воласці: М. Станкевіч (Міхась Восіпавіч. – ***А. С.***), А. Шаўлюк (Антон. – ***А. С.***) і В. Рэгель (Васіль Рагель. – ***А. С.***), што сведчыць пра грамадскую актыўнасць названых настаўнікаў [14]. Летам 1921 г. В. Рагель, як і яго калегі С. Сухадолец і Я. Казакевіч, падаў заяву на навучанне на настаўніцкіх курсах у Вільні. Ім выпісвалася матэрыяльная дапамога, але ёсць запісы, што В. Рагель на курсах адсутнічаў [6, арк. 91, 95] – напэўна, ён стаў вольным слухачом з прычыны нейкіх акалічнасцей, можа, таго ж матэрыяльнага становішча.

Пасля вяртання з курсаў Васіль Васільевіч стаў адным з тых, хто быў звольнены з настаўніцкай пасады. Яго прозвішча стаіць першым у вялікім спісе настаўнікаў, пазбаўленых працы восенню 1921 г. польскімі ўладамі (спіс надрукаваны ў газеце "Беларускія ведамасьці" за 26 верасня 1921 г., перадрук з газеты "Крыніца", дзе гаворыцца, што В. Рагель працаваў у Дубіне-Баярскай, у графе "Якую школу скончыў" пазначана "Выдзержаў экзамен на вучыцеля") [15]. У гэтым жа спісе звольненых і дубінскі настаўнік Янка Казакевіч, які закончыў чатырохкласную вышэйшую пачатковую школу ў Лепелі.

Настаўнікі не пакідалі надзеі на тое, што ўсё ж такі пры польскай уладзе можна будзе мець школу з роднай мовай навучання ў кожнай беларускай вёсцы. 24 верасня 1922 г. сход настаўнікаў у Гародзьках замацаваў за В. Рагелем змаганне за адкрыццё беларускай школы ў II Дубіне [7]. Аднак анкета для Беларускай цэнтральнай школьнай рады, пададзеная ў 1923 г., сведчыла, што настаўнік В. Рагель, 39 гадоў, меў 15 гадоў педагагічнага стажу і займаўся гаспадаркай; стаўшы беспрацоўным, Алесь Вяршыцкі, 28 гадоў, які скончыў настаўніцкую семінарыю, меў педстаж 6 гадоў, вярнуўся жыць на радзіму, у Дубіну [1, арк. 89 зв., 99]. Значыць, многія педагогі так і не змаглі вярнуцца да працы па спецыяльнасці.

З пачатку 1920-х В. Рагель разам з жонкай Сцефанідай Восіпаўнай з Яшкавіч гадавалі дзетак Ганну (нар. у 1922 г.), Ніну (1924), Серафіму (1927), Валодзю (1929), Любу (1937). Цяжкая праца на зямлі карміла вялікую сям'ю – іншага выбару проста не было.

Толькі пасля прыходу савецкай улады В. Рагель змог заняцца педагагічнай дзейнасцю. 17 лістапада 1939 г. настаўнік Чабайскай школы А. Сабалеўскі склаў пратакол здачы школьнай маёмасці, прынятай настаўнікам В. Рагелем. У сямейным архіве яго ўнучкі Алены Зайкоўскай захоўваецца спіс вучняў 1-га класа Дубінской пачатковай школы за 1945/46 навучальны год, складзены выхавальнікам Васілём Васільевічам. Сярод першакласнікаў і яго малодшая дачка – Любоў Рагель, якая сёння жыве ў Дубіне.

Як бачым, толькі праз дваццаць чатыры гады беларускі настаўнік Васіль Рагель стаў зноў працаваць у роднай Дубінской школе. Але падводзіла здароўе, і ў 1946 г. ён пакінуў гэты свет, пражыўшы толькі 61 год.

Дзеці і ўнукі захавалі каштоўныя дакументы, звязаныя з дзейнасцю дзеда, фотаздымкі і светлую памяць пра настаўніка-патрыёта, які ніколі не быў абыякавым і меў актыўную грамадзянскую пазіцыю, таму на доўгі час і страціў працу. Затое мог смела глядзець у вочы землякам і калегам, якіх напаткаў такі ж лёс.

*Працяг будзе.*

**Спіс літаратуры**

1. **Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ).** – Ф. 883. – Воп. 1. – Спр. 25.
2. **Хроника важнейших событий истории Коммунистической партии Белоруссии.** – Минск : Госиздат БССР, 1962. – Ч. 1 (1883 – 1918).
3. **Арцюкевіч-Раманоўскі, Д.** У змаганні мужнасць гартавалася / Д. Арцюкевіч-Раманоўскі // Працоўная слава. – 1973. – № 4. – 9 студз.
4. **НАРБ.** – Ф. 883.– Воп. 1. – Спр. 118.
5. **Kryniсa.** – 1920. – № 15. – 19 снеж.
6. **НАРБ.** – Ф. 883. – Воп. 1. – Спр. 121.
7. **НАРБ.** – Ф. 883. – Воп. 1. – Спр. 18. – Арк. 129, 129 зв.
8. **Крыніца.** – 1924. – № 5. – 1 сак.
9. **Занальны архіў у г. Маладзечна.** – А-93. – Воп. 1. – Зв. 1. – Спр. 5. – Арк. 156.
10. **НАРБ.** – Ф. 883. – Воп. 1. – Спр. 77.
11. **Маракоў, Л.** Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі : энц. дав-к у 10 т. / Л. Маракоў. – Мінск, 2007. – Т. 4.
12. **Романович, Ф.** 50 лет в школе / Ф. Романович // Искра. – 1960. – 17 дек.
13. **Krywič.** Wioska Dubina… / Krywič // Kryniсa. – 1920. – 19 Śnieź.
14. **Наша думка.** – 1921. – № 7. – 18 лют.
15. **Беларускае мучаніцтва** // Беларускія ведамасьці. – 1921. – № 3. – 26 вер. – С. 3.

*Новыя выданні*

# *“ОЙ, АРАЛІ ХЛОПЦЫ НІВУ…”*

## СПРОБА РЭЦЭНЗІІ НА КНІГУ НІНЫ РУСАКОВІЧ «ПРА ПЕСНЮ НАРОДНУЮ, “НЕРУШ” І ВАЛЯНЦІНУ»

Заслужаны аматарскі фальклорна-этнаграфічны ансамбль “Неруш” адсвяткаваў у сталічным Палацы культуры чыгуначнікаў сваё 30-годдзе. Новая праграма была прадстаўлена гледачам у форме народнага мюзікла “Вяселле ў Стараселлі”, у аснове якога – замалёўкі з жыцця беларускай вёскі 1970-х гг. Сцэна палаца была цеснаватай для вялікага калектыву, можна сказаць, сямейнага, бо выступалі не толькі дарослыя, але і дзеці. Гэта сапраўды было народна-музычнае вясковае свята: сцэнкі кахання і расстання, провадаў у войска і шчаслівага вясельнага фіналу. Усё дзейства знітавана лірычнымі песнямі і беларускімі народнымі танцамі…

Адзін з першых у нашай краіне фальклорна-этнаграфічны калектыў быў створаны ў 1980 г. пры БДУ з удзелам студэнтаў механіка-матэматычнага факультэта. Валянціну Гладкую, на той час студэнтку Інстытута культуры, запрасілі дапамагчы падрыхтаваць праграму да ўніверсітэцкага агляду мастацкай самадзейнасці. Так пачаўся творчы шлях гурта і яго кіраўніка.

Трыццаць гадоў таму мастацкія калектывы спявалі апрацаваныя народныя песні. Удзельнікі “Нерушы”, якія чулі песні ў іх “несапсаваным” выглядзе, разумелі, як можа страчвацца непаўторнасць, глыбіня і, калі хочаце, філасофія аўтэнтычнага выканання.

Валянціна Гладкая вырашыла вынесці на сцэну не кранутыя апрацоўкай вясковыя песні і танцы. Хацелася, каб гэтыя творы захавалі каларыт пэўнай мясцовасці. Такім чынам і акрэслілася назва гурта – *неруш* – некранутасць, недатыкальнасць, чысціня і першароднасць.

З рук Генадзя Цітовіча ансамбль “Неруш” атрымаў званне народнага (1985). Тады ж пачалося шэсце калектыву па Еўропе і далёкім замежжы.

Фальклорна-этнаграфічны ансамбль неаднаразова быў адзначаны на міжнародных і рэспубліканскіх фестывалях і конкурсах, у 1999 г. атрымаў Прэмію года за развіццё міжнародных культурных сувязей Беларусі.

За трыццацігадовую гісторыю “Нерушы” актыўнымі ўдзельнікамі сталі больш за дзвесце чалавек. Кожны выканаўца меў каля пяці камплектаў сцэнічных касцюмаў, якія прадстаўлялі пэўны гістарычны перыяд і этнічны рэгіён Беларусі. Строі былі зроблены найлепшымі майстрамі нашай краіны.

“Неруш” – гэта ансамбль таленавітых спевакоў, танцораў і музыкаў. Музычныя інструменты аркестравай групы – скрыпка, басэтля, цымбалы, баян, гармонік, жалейка, дуда, ліра і інш.

Сёння ў асноўны склад калектыву ўваходзяць прыкладна 25 удзельнікаў. Не так даўно ансамбль салістаў “Нерушы” стварыў новую праграму. Яе склалі беларускія народныя песні розных рэгіёнаў у сучаснай аранжыроўцы. Прызнаная гледачамі група салістаў стала называцца фольк-медыя групай “Неруш”. Пры калектыве дзейнічае таксама дзіцячы ансамбль аўтэнтычнай песні “Нерушок”.

Першыя ўдзельнікі ансамбля “Неруш” пад кіраўніцтвам Валянціны Гладкай у час фальклорных экспедыцый запісвалі нацыянальную музыку, песні, абрады і звычаі, якія потым сталі асновай для шматлікіх праграм. Так, напрыклад, “Калядныя гульні” – гэта своеасаблівая інсцэніроўка старадаўняга свята, а “Беларускае вяселле” – праграма, што адлюстроўвае асаблівасці вясельнага абраду на Беларусі.

Валянціне Гладкай хацелася прыцягнуць да традыцыйнага беларускага фальклору ўвагу моладзі. Было вырашана выкарыстоўваць тэхнічныя дасягненні для надання песні новага гучання, а таксама стылістычную інтэрпрэтацыю.

Народная песня, фальклор – катэгорыі вечныя. Нягледзячы на самыя песімістычныя прагнозы, у вёсках дасюль спяваюць песні, словы і мелодыі якіх трымаюцца каранямі ў глыбіні стагоддзяў. Некалькі гадоў таму ў вёсцы Семежава Капыльскага раёна толькі ўзгадвалі пра некалі папулярны ў мясцовасці абрад “Цары Каляды”. А потым прыехалі фалькларысты – і сёння ён сусветна вядомы дзякуючы Спісу сусветнай нематэрыяльнай спадчыны ЮНЕСКА. Валянціна Гладкая гаворыць: “Трыццаць гадоў таму нас таксама многія папярэджвалі: паміраюць бабулі, хутка не будзе чаго слухаць, запісваць. Але мы і сёння ездзім у экспедыцыі, знаходзім унікумаў”.

Усе запісы, якімі валодае “Неруш”, існуюць у адным экзэмпляры. Валянціна Гладкая на ўласныя сродкі пераносіць калекцыю з касет на лічбавыя носьбіты. Адзінага фальклорнага цэнтра ў нас, на жаль, няма. Калі б ён існаваў, то спецыялістам, якія працуюць з аўтэнтычнай народнай музыкай, не трэба было б шукаць рэдкія песні па ўсёй краіне. Вядома, куды важней пачуць гучанне арыгінала як аўдыё- ці відэазапіс. Але і сёння сустрэць мелодыю без скажэнняў, якая дайшла з XIX ст., усё яшчэ магчыма. А праз не-

калькі дзясяткаў гадоў запісы экспедыцый пачатку XXI ст., не кажучы ўжо пра зборы, сфарміраваныя ў савецкі час, будуць каніцца на вагу золата. Горад "з'ядае" вёску, захавальніцу традыцый. Усё менш застаецца носьбітаў сапраўднай жывой беларускай мовы, здольных перадаваць паэтычную спадчыну продкаў і складаць штосьці сваё.

Таямніцы душы нацыі зашыфраваны ў народных песнях. Навукоўцы дагэтуль знаходзяць у іх сляды забытых міфаў і паданняў – па адным слове, па адной ноце. Аднак бабулі і дзядулі, здольныя прайграць гэты эпас, ужо сыходзяць. Трэба не толькі збіраць і захоўваць у запісах іх галасы, але і зрабіць усё, каб яны працягвалі гучаць.


Міністр культуры Павел Латушка ўручае падзяку кіраўніку ансамбля "Неруш" Валянціне Гладкай.

Напярэдадні 30-годдзя, гэтай знакавай для ансамбля "Неруш" падзеі, выдавецтва БДУ выпусціла ў свет кнігу «Пра песню народную, "Неруш" і Валянціну». Яе аўтар Ніна Русаковіч пяць гадоў працавала над кнігай-эсэ ці, дакладней, сапраўдным летапісам ансамбля. Апантаная пушкіністка, даследчыца творчасці С. Ясеніна, у мінулым настаўнік-філолаг вышэйшай катэгорыі, Ніна Васільеўна захапілася творчасцю сваёй зямлячкі Валянціны Фёдараўны Гладкай, заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь.

Гэтая кніга – адна са спроб даследавання творчасці асобнага калектыву і яго кіраўніка. Для таго каб пачаць працу, Ніне Русаковіч давялося перачытаць у бібліятэках усё, што было напісана пра аўтэнтычную музыку, потым сустрэцца з даследчыкамі, спецыялістамі, навуковымі супрацоўнікамі і практыкамі, якія распавялі не толькі пра беларускі фальклор, але і пра сваё стаўленне да творчасці "Нерушы". Напрыклад, вядомы этнамузыколаг Т. Варфаламеева, якая аддала кіраўніку калектыву шмат сваіх фальклорных запісаў, адзначыла: «На канцэртах фальклорна-этнаграфічнага гурту "Неруш" заўсёды ўражвае арганічнае спалучэнне прыроднай беларускай стрыманасці і адначасова разнастайнасці мастацкіх праяў традыцыйнай культуры беларусаў».

Валянціна Гладкая, лічыць Т. Варфаламеева, першай зрабіла спробу паказаць адметнасць мясцовай фальклорнай традыцыі і паспрабавала прадэманстраваць на сцэне мастацтва вёсак, што прадстаўляюць пэўную традыцыю. Валянціна Фёдараўна "здолела ў народнай песні, якая гучыць са сцэны, захаваць высакароднасць, бо паказвае яе вельмі стрымана і гожа, у адпаведнасці з менталітэтам вясковых беларусаў – носьбітаў гэтай традыцыі. Асоба В. Гладкай прыцягальная сваёй інтэлігентнасцю і вялікай душэўнай цеплынёй. У яе творчым аблічччы шчасліва спалучаюцца склад характару з характарам яе заняткаў. Як кіраўнік фальклорна-этнаграфічнага калектыву яна поўнасцю адпавядае характару носьбітаў гэтай традыцыі".

У частцы кнігі, прысвечанай кіраўніку заслужанага аматарскага фальклорна-этнаграфічнага ансамбля "Неруш", вельмі скрупулёзна прасочваецца жыццёвы і творчы шлях Валянціны Фёдараўны Гладкай, які непарыўна звязаны з калектывам.

Неабходна адзначыць высокапрафесійную работу супрацоўнікаў выдавецтва БДУ: 200 старонак тэксту на мелаванай паперы, якаснае афармленне і камп'ютарны дызайн, прыгожыя каляровыя фотаздымкі. А яшчэ кніга мае электронны дадатак: два кампакт-дыскі з беларускімі народнымі песнямі і танцамі, запісанымі кіраўніком і ўдзельнікамі калектыву "Неруш" падчас фальклорных экспедыцый.

Такім чынам, кніга, прысвечаная пераемнасці традыцый, высокамастацкай інтэрпрэтацыі фальклору ў маладзёжным асяроддзі, чарадзейнай магіі нацыянальнай песні, дае магчымасць бліжэй пазнаёміцца з творчасцю самабытнага калектыву – заслужанага аматарскага фальклорна-этнаграфічнага ансамбля "Неруш".

**Галіна СУША,**
член Беларускага саюза майстроў
народнай творчасці.

